НАЦЫЯНАЛЬНАЯ АКАДЭМІЯ НАВУК БЕЛАРУСІ
ІНСТЫТУТ МАСТАЦТВАЗНАЎСТВА,
ЭТНАГРАФІІ І ФАЛЬКЛОРУ

# БЕЛАРУСКАЯ НАРОДНАЯ ТВОРЧАСЦЬ

МІНСК
"БЕЛАРУСКАЯ НАВУКА"
1997

# ЯН ЧАЧОТ
# І БРАТЫ ТЫШКЕВІЧЫ

“Ян Чачот — першы выдатны беларускі паэт, пачынальнік новай беларускай літаратуры, яркая зорка нашага нацыянальнага адраджэння. У цёмную ноч прыгонніцтва, калі фанабэрыстае панства, нічым не жадаючы быць падобным да “мужыка”-беларуса, амаль цалкам выраклася мовы роднай зямлі і перайшло — у побыце і ў друку — на “панскую” польскую мову, Ян Чачот, рашуча стаўшы на бок свайго народа, пачаў ствараць літаратуру якраз на гэтай пагарджанай, зганьбаванай апалячанымі прыгоннікамі роднай беларускай мове. Гэта была падзея невымернай важнасці — упершыню пасля двухсотгадовага маўчання са старонак добра аформленых друкаваных кніг на ўвесь голас загучала жывое беларускае слова. Два фальклорныя зборнікі Яна Чачота з яго ўласнымі беларускімі вершамі яскрава засведчылі факт нараджэння новай беларускай літаратуры і адначасова выхад на гістарычную сцэну аднаго з самабытных і вялікіх славянскіх народаў”[1],— з такімі словамі звярнуўся да грамадскасці Аргкамітэт па святкаванню 200-гадовага юбілею Яна Чачота.

24 чэрвеня (7 ліпеня) 1796 года, якраз у дзень святога Яна, у вёсцы Малюшычы сучаснага Карэліцкага раёна нарадзіўся хлопчык Ян, якому суджана было стаць адным з першых беларускіх фалькларыстаў.

Род Чачотаў належаў да дробнай збяднелай мясцовай шляхты, што была апалячана стагоддзямі нацыянальнага прымусу. З маленства, дзень пры дні, знаходзіўся хлопчык сярод простага сялянства, і самое вясковае жыццё пакідала адбітак на яго выхаванні. Пабываўшы з бацькам-арандатарам,

---

[1] Наша слова. 1996. № 1.

а потым аканомам, у розных мясцінах Гродзеншчыны, будучы фалькларыст меў магчымасць непасрэдна назіраць розныя бакі жыцця простага люду, чуць яго песні, казкі, легенды, убіраць у сябе жывое, дасціпнае, вострае народнае слова. Ад прыроды чулая да хараства душа Чачота знаходзіла ў гэтай бяздоннай крыніцы падтрымку і падпітку, калі пачутае вылівалася ва ўласныя паэтычныя радкі, а запаветныя мроі таленту мелі адбіткам песенную традыцыю народа.

Навучанне ў Навагрудскай павятовай дамініканскай школе толькі ўзмацняе цікавасць Чачота да беларускай народнай творчасці. Адыгрывае ролю і шчырая падтрымка Адама Міцкевіча, школьнага сябра і нязменнага спадарожніка на вясковых урачыстасцях.

У 1815 годзе Ян Чачот разам з А. Міцкевічам пераязджае ў Вільню. Спроба паступіць ва універсітэт скончылася няўдачай. Юнак уладкоўваецца на працу ў "пракураторыю" радзівілаўскіх маёнткаў. І зноў паездкі па вёсках, сустрэчы з таленавітымі спевакамі, і зноў захапленне багаццем і хараством народнай творчасці. Адначасова Чачот наведвае лекцыі ва універсітэце, займаецца нямецкай мовай. Да юнацкага захаплення дадаецца паступовае разуменне таго, што творчасць народа ёсць адбітак і самавыражэнне яго душы, яго радасцей і спадзяванняў, яго нялёгкага жыцця і вясковага быту.

12 студзеня 1819 года Ян Чачот уступае ў таварыства філаматаў, сяброў навук, і праз кароткі час становіцца яго сакратаром і любімым песняром. Многія з членаў таварыства затым з задавальненнем успаміналі песні Чачота, складзеныя ім на аснове беларускага фальклору. Найбольш раннія з яго твораў не толькі знаходзяцца ў рэчышчы народнай традыцыі, але і ўключаюць у сябе цэлыя куплеты і фрагменты вясковых песень. Такі спосаб выкарыстання фальклорных твораў у літаратурнай практыцы быў характэрны для прадстаўнікоў ранняга рамантызму. Шчырасць, непасрэднасць і разам з тым паэтычная дасканаласць народнай песні станавіліся ўзорам для пераймання. Чачот не раз дэманстраваў гэта паэтам-філаматам сваімі свежымі арыгінальнымі песнямі. Ім быў падрыхтаваны цэлы зборнік такіх песень, прызначаных для шырокага кола выканаўцаў. На жаль, ён не быў выдадзены, а, пераходзячы з рук у рукі, згубіўся і толькі праз 100 гадоў быў знойдзены. Частка песень у ім складзена на мелодыю ("ноту"), а часта і

на ўзор беларускіх народных песень. У іх пазнаюцца і сёння вядомыя "Ой, валы ж мае палавыя", "Сем дзён малаціла — чах, чах зарабіла", "Як не бачу Пятруся, то я з ветру валюся", "Да цераз мой двор цяцера ляцела" і інш.

Песні Чачот суправаджае шматлікімі заўвагамі, якія раскрываюць яго творчыя прынцыпы. Ён браў першыя куплеты любімай ім песні і на іх "ноту", згодна з "уласнай фантазіяй", дапісваў працяг, захоўваючы, аднак, "тон і народны каларыт". У "Дадатку" да зборніка паэт выказвае адносіны да народнай творчасці, не тоячы захаплення, не раз заклікае збіраць і запісваць сялянскія песні і абрады, і "тады атрымаўся б цудоўны помнік уласнага ўяўлення і фантазіі мясцовых людзей"[2].

Сапраўднай фальклорна-этнаграфічнай крыніцай сталі балады Яна Чачота. Гэта першыя і найбольш дакладныя запісы паданняў, абрадаў, павер'яў.

Захавалася восем балад, напісаных Чачотам: "Бекеш", "Навагрудскі замак", "Калдычэўскі шчупак", "Званячая гара ў Пазяневічах", "Радзівіл, ці Заснаванне Вільні", "Узногі", "Мышанка", "Свіцязь". Іх тэксты былі знойдзены і надрукаваны С. Свіркам толькі ў 1972 годзе[3] і перакладзены на беларускую мову К. А. Цвіркам[4].

Адна з найбольш паэтычных і, што для нас больш важна, вытрыманая ў духу народных паданняў балада мае назву "Мышанка". Гаворка ў ёй ідзе аб красуні-дачцы ліцвінабаярына Мышкі, якая лепш выбірае смерць, чымсьці брудныя залёты заможнага рыцара. Дзяўчына кідаецца ў раку, якую "ў гонар душы яе чыстай Мышанкай назвалі". Ужо ў гэтай узнёслай рамантычнай баладзе ў поўнай меры праяўляецца Чачот-этнограф. У паэтычнай форме ён выкладае вясковыя абрады і павер'і, згодна з якімі душа дзяўчынытапельніцы перад Юр'ем выходзіць на бераг, а жанчыны збіраюць тады кветкі, прыпісаўшы ім магічную сілу. Згадвае паэт і юраўскія звычаі абыходу палёў, і качанне-варожбы моладзі па зямлі. Своеасаблівым эпіграфам да далейшай

---

[2] Цыт. па Малаш Л. А.: Ян Чачот // Беларуская фальклярыстыка эпохі феадалізму. Мн., 1989. С. 114.

[3] Świrko St. Z kręgu filomackiego preromantyzmu. Warszawa, 1977.

[4] Цвірка К. Там возера Свіцязь, як шыбіна лёду... // Полымя. 1984. № 4; Яго ж. Ян Чачот: Балады // Полымя. 1985. № 7.

дзейнасці самога Чачота і многіх яго паслядоўнікаў-фалькларыстаў (да нашых дзён) таксама становяцца радкі:

Хай прымхі гэта, ды іншае вока
У іх знойдзе жыцця таямніцы...[5]

Заканчвае баладу Чачот кранаючымі ўспамінамі аб ваколіцах Мышы, дзе прайшлі яго маленства і юнацтва. Калегі-філаматы нават далі яму прозвішча Ян з Мышы.

На аснове мясцовых паданняў Ян Чачот піша і сваю славутую баладу "Свіцязь", якая "мела самае непасрэднае дачыненне да нараджэння на беларускай зямлі цэлага напрамку, а лепш сказаць эпохі ў гісторыі літаратуры — рамантызму"[6]. Сюжэт балады наступны: на месцы Свіцязі некалі стаяў горад з той жа назвай. І жыў там багаты чалавек, які меў прыгажуню-дачку. Дзяўчыну пакахаў хлопец-бядняк, хацеў ажаніцца з ёй, але бацька быў няўмольны. У адчаі хлопец звяртаецца да нячысціка, і той, за кроўю "накрымзюленыя абавязацельствы, дапамагае яму забіць купца. Мэта дасягнута. З каханай жонкай, у дастатку і раскошы жыве забойца, згодна з д'яблавай умовай, сорак гадоў. І вось у самы разгар вясельнай гамонкі на стале з'яўляецца галава забітага купца, каб паўтарыць свой даўні праклён. Бура і "д'ябальская зграя" хапаюць забойцу, і разам з ім правальваецца праз зямлю горад Свіцязь. А на яго месцы ўтвараецца возера Свіцязь..."

Збіральніцкая і паэтычная дзейнасць Чачота была раптоўна спынена ў 1824 годзе. Яго арыштавалі за прыналежнасць да таварыства філаматаў і асудзілі на 6 месяцаў зняволення з далейшай бестэрміновай высылкай у глыб Расіі, якую ён адбываў спачатку ў Хізільскай крэпасці, а затым, з 1826 года, пад наглядам паліцыі ў г. Уфе. Выпакутаваўшы доўгія 10 гадоў, у 1833 годзе ён вяртаецца на Беларусь і працуе ў Лепелі сакратаром канцылярыі інжынернага ўпраўлення пры Бярэзінскім канале.

У Лепелі параненая душа паэта знаходзіць суцішэнне ў зборы народных песень, казак, прыказак і загадак. Яму не трэба было выпытваць у вяскоўцаў апісанні абрадаў і звычаяў —

---

[5] Цвірка К. Ян Чачот: Балады. Мышанка // Полымя. 1985. № 7. С. 107.
[6] Яго ж. Той курган векавечны. Мн., 1985. С. 15.

ён быў іх непасрэдным назіральнікам і нават удзельнікам. Характэрна, што да збіральніцкай дзейнасці Чачот прыцягвае і мясцовых жыхароў, клапоцячыся пры гэтым аб дакладнасці запісаў і захаванні моўных асаблівасцей беларускіх гаворак. Сам і пры дапамозе карэспандэнтаў Чачот сабраў два вялікія зборнікі песень — наднёманскіх і наддзвінскіх. Але аб іх пасля смерці Чачота згадак нідзе не было. Толькі ў 1964 годзе супрацоўнікамі Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору НАН Беларусі былі знойдзены другая частка зборніка наддзвінскіх песень Чачота і аўтограф трох варыянтаў уступнага артыкула да яго шостай кніжкі ў Інстытуце літоўскай мовы і літаратуры АН Літвы сярод рукапісаў, прызначаных да знішчэння.

Першы рукапіс Яна Чачота мае назву "Вясковыя песні з-над Дзвіны з ваколіц Лепеля і з самога Лепеля, размешчанага над вялікім возерам і выходзячай з яго ракі Улы (часам называемай Ульянкай), якая ўпадае ў Дзвіну пад мястэчкам Улай". Пад загалоўкам зборніка ім адзначана, што "другая яго частка сабрана паміж 1836—1839" з пералічэннем назваў мясцовасцей і ўказаннем колькасці запісаных там песень. З агульнай колькасці наддзвінскіх песень (557) у выдадзеныя Чачотам кніжкі ўвайшлі толькі 194 песні, 363 засталіся неапублікаванымі. Гэты рукапіс Чачота неацэнны для беларускай фалькларыстыкі і мовазнаўства, паколькі ўяўляе сабой найбольш ранні збор народнай паэзіі і ўзор дыялектнай мовы аднаго рэгіёна. Важна і тое, што многія песні суправаджаюцца заўвагамі збіральніка, маюць даволі падрабязную пашпартызацыю.

У гэтым жа рукапісе знаходзяцца чатыры арыгінальныя беларускія казкі — самыя раннія запісы гэтага жанру — і 93 загадкі.

Выключна багатая на народную творчасць Лепельшчына нагадвала Чачоту яго малую радзіму — Навагрудчыну. Запісваючы песні, ён яшчэ і яшчэ раз супастаўляў іх з да болю знаёмымі, чутымі яшчэ ў дзяцінстве радкамі. Так узнікае задума запісаць і наднёманскія песні. Ён піша да родных і знаёмых, каб дапамаглі яму ў гэтай справе, у лістах дае ўказанні, як і што запісваць.

Як пазней адзначаў Чачот у прадмове да сваёй шостай кніжкі, яму ўдалося сабраць каля 400 наднёманскіх песень.

Частка гэтах запісаў была знойдзена ў Гістарычным архіве Літоўскай ССР.

Першая кніга Яна Чачота "Вясковыя песні з-над Нёмана" выйшла ў свет у 1837 годзе ў Вільні ў друкарні Завадскага. Усе 100 песень (99 беларускіх і 1 украінская) перакладзены на польскую мову. У прадмове звяртаюць на сябе ўвагу словы пра вясковы люд: "Сяляне нашы — люд добры, лагодны, працавіты, павінен узбуджаць у нас найпрыхільнейшыя да сябе пачуцці. З імі можна быць шчаслівым", а таксама наступная заўвага: "У другі час, як песень памножу, зраблю выданне тэкстаў арыгінальных"[7].

У Лепелі ў 1839 годзе выходзіць другая кніжка Чачота "Вясковыя песні з-над Нёмана і Дзвіны". У ёй змешчана 94 наддзвінскія песні і 26 наднёманскіх. Ужо тады збіральнік імкнецца да класіфікацыі тэкстаў, вылучае жанры купальскія, дажынкавыя, вясельныя і г. д.

У сувязі з пагаршэннем здароўя пры падтрымцы сяброў Чачот пераязджае бліжэй да родных мясцін. У Шчорсах ён уладкоўваецца на працу ў бібліятэку графа Храптовіча. Там ён рыхтуе і выдае сваю трэцюю кнігу "Вясковыя песні з-над Дзвіны". У прадмове да гэтай кнігі Чачот фармулюе методыку збірання песень: у асноўным ён запісваў іх ад паненак з суседніх маёнткаў, якія слухалі песні ад сваіх служанак ці вясковых дзяўчат: "Сялянкі скрытныя і нясмелыя, саромеюцца расказваць песні перад мужчынам, пачынаюць усміхацца, казаць, што іх песні не маюць нічога добрага. Паненкам жа з радасцю будуць расказваць"[8].

Пасля выхаду ў свет першай кніжкі Чачота рэцэнзенты ў пахвальным водзыве выказалі пажаданне, "каб былі надрукаваны арыгінальныя беларускія песні для аматараў славяншчыны, а таксама для сапраўдных прыхільнікаў чалавечнасці і дабрачынцаў сваіх сялян".

У чацвёртую кніжку "Вясковыя песні з-над Нёмана і Дзвіны" (1844) Чачот упершыню ўключае 20 беларускіх песень у арыгінале ці, як ён адзначыў, "pierwotwornych". Ім папярэднічае невялікая прадмова "Спрадвечныя вясковыя

---

[7] Czeczot J. Piosnki wieśniacze z nad Niemna i Dźwiny: We dwóch częściach. Wilno, 1837. S. VI.

[8] Czeczot J. Piosnki wieśniacze z nad Dźwiny. Wilno, 1840. S. VIII.

песні"[9]. Другая асаблівасць дадзенага зборніка — змяшчэнне ў ім 28 уласных песняў-вершаў Чачота, напісаных ім на беларускай мове і перакладзеных затым на польскую. Тэксты маюць найперш дыдактычны характар, у іх асуджаюцца розныя заганы, п'янства вясковага люду. Польскі даследчык творчасці Яна Чачота Станіслаў Свірка даводзіць, што напісанне вершаў па-беларуску мела мэтай маральнае ўздзеянне на селяніна, бо на польскай мове на вёсцы чытаць не ўмелі[10]. Стыль, мастацкая напоўненасць гэтых вершаў бясспрэчна сведчаць аб арганічнай знітаванасці народнай песні і творчасці паэта, аб яго захапленні і душэўнай далучанасці да мовы беларуса.

Наступны, пяты томік "Песні вясковыя з-над Нёмана, Дняпра і Днястра" выйшаў у 1845 годзе таксама ў Вільні. Але найбольшую фалькларыстычную вартасць мае шосты, апошні зборнік вясковых песень 1846 года. Сярод іншых яго вылучае аўтэнтызм, змяшчэнне песень на беларускай мове, "w gwarze krewickiej". Тут жа змешчана яго грунтоўная характарыстыка ўласна мовы, гаворкі беларусаў, а таксама зварот да моваведаў прыкласці ўсе намаганні для стварэння беларускай граматыкі і слоўніка.

Сюды ўключаны таксама невялікі слоўнічак незразумелых слоў з песень з польскімі адпаведнікамі, спіс фразеалагічных адзінак беларускай мовы, якія змешчаны ў наступных раздзелах: "Некаторыя ідыяматызмы", "Крывіцкія прыказкі", "Прыказкі, прыстасаваныя да свят".

Такім чынам, шостая кніжка Чачота ўяўляе сабой першы друкаваны збор арыгінальных беларускіх народных песень з дэталёвай класіфікацыяй матэрыялу, каштоўнымі заўвагамі і этнаграфічнымі звесткамі. Без перабольшванняў можна адзначыць, што гэта сапраўдная навуковая праца.

Памёр Ян Чачот 11 жніўня 1847 года ў Друскеніках і пахаваны ў вёсцы Ротніца.

Нельга пераацаніць уклад Яна Чачота ў беларускую фалькларыстыку. Сабраны ім фальклорны матэрыял пераўзыходзіць усё, што было сабрана (як па колькасці, так і па

---

[9] Czeczot J. Piosnki wieśniacze z nad Niemna i Dźwiny. Wilno, 1844. S VII.

[10] Świrko S. Z Mickiewiczem pod ręką czyli życie i twórczość Jana Czeczota. Warszawa, 1989. S. 257—259.

якасці) яго папярэднікамі. Запісаныя Чачотам песні — аўтэнтычныя творы. Акрамя таго, ім была распрацавана методыка збору фальклорных твораў у палявых умовах. І, што найбольш важна, упершыню была зроблена спроба навуковай класіфікацыі і жанрава-тэматычны аналіз песень.

Унёс Ян Чачот у беларускую фалькларыстыку многае, падрыхтаваўшы глебу для навуковых даследаванняў народнай творчасці. Сабраныя і інтэрпрэтаваныя ім народныя песні сталі прадметам шырокага грамадскага абмеркавання, абудзілі інтарэс і заахвоцілі да далейшага збірання беларускай народнай творчасці і развіцця фалькларыстыкі.

Каляндарныя песні Ян Чачот запісваў на Падзвінні і Панямонні, і змяшчэнне іх у асобных раздзелах толькі падкрэслівае цэласнасць і пэўную замкнёнасць каляндарнага комплексу пэўнага рэгіёна. Таму запісы Чачота найбольш каштоўныя ў сучасных доследах па фальклорнай геаграфіі і арэалогіі, што, несумненна, не адмаўляе іх высокай эстэтычнай вартасці і інтарэсу адпаведна шырокім колам чытачоў.

У зборніку традыцыйна першымі прадстаўлены калядныя песні. Адсутнасць на Лепельшчыне і Навагрудчыне разгорнутага абраду калядоўшчыкаў абумовіла і сюжэтна-тэматычны рэпертуар Каляд. Гэта падкрэслена абрадавыя тэксты, што сцвярджалі саму ідэю свята — "Прыехала Каляда на сівым коніку". Аднак найпершая рэалізацыя гэтага свята ў дадзеных рэгіёнах на ігрышчах і вячорках вызначыла вольны, гульнёва-жартоўны тон калядных песень:

У Лявона куццю таўкуць,
Куць-куць да куццю таўкуць...
Да ў маёй каханкі
Смаляныя лаўкі —
Як сеў, так і прыкіпеў.

Адметна, што ў прымеркаваных да калядных урачыстасцей песнях з тыпова лірычнымі матывамі выбару пары гаворка ідзе ад імя хлопца — "Да казаў хмялёк, да тычкі ідучы", "Да ехаў я, ехаў, Каляда!", што больш стасуецца з асноўнымі ідэямі "Жаніцьбы Цярэшкі", "Яшчура" і іншых традыцыйных калядных гульняў гэтага рэгіёна.

Належныя пачатку года ўрачыстасць і эпічны размах прадстаўляюць Падзвінне і Панямонне сваім валачобным

цыклам. Натуральна, Чачот не мог абысці ўвагай Вялікадня і яго песень. У зборніку змяшчаецца тыповы тэкст з сакральным ядром:

Дай табе Божа, пане гаспадару,
І ў каморы, і ў аборы.

Сфакусіраваўшы, сканцэнтраваўшы ўсе асноўныя матывы, сюжэты і вобразы веснавой міфалогіі ў валачобных песнях, веснавы комплекс Падзвіння застаўся вербальна нераспрацаваным. З веснавых Чачот запісвае юраўскую песню "Ой, выйду я на вулачку: бычкі бушуюць", што сцвярджала саму ідэю ўжо наступіўшай вясны.

Купальскае свята прыпадае на перыяд летняга сонцастаяння. Прырода ўступала ў перыяд найбольшага росквіту, і гульні і песні гэтай пары насілі сапраўды "язычніцкі" і касмічны размах. Вітанне Сонца, заклінанне Сонца, гімн у гонар Сонца ўвасобіліся ў самім купальскім рэфрэне "Сонейка, сонейка".

Летняе сонцастаянне было паваротнай кропкай і ў гульнях моладзі. Ён сімвалізаваў пераход дзяўчыны ў дарослы стан, які даваў права на шлюбныя адносіны. Да Купалы ўжо цалкам заканчваліся абрады "провадаў вясны", якія сімвалічна прадстаўлялі провады дзявоцтва прыроды / дзяўчыны. Чачотам была запісана арыгінальная песня, якая распавядае пра купальскія ігрышчы моладзі, "Купаллейка, дзявоцкае пагуляннейка", калі канчаткова вызначаліся пары, ішла гаворка аб будучым шлюбе. Цікавыя і пададзеныя этнаграфічныя моманты будучага сватання:

...Донька мая, родненькая, скажы мне,
Каго любіш верна ў сяле,
Таму пашлю залаты пояс, падару,
Каб ён пазнаў Гарыслаўку маладу.

Запісаныя Чачотам песні ствараюць яскравы кантэкст свята з яго міфапаэтычнымі ўяўленнямі і прыметамі. Сярэдзіна лета — гэта якраз той час, калі красавала, налівалася жыта: "Ян з Пятром па межах ходзяць, па межах ходзяць, жыта глядзяць". Падобны адказны момант у жыцці земляроба вымагаў пэўных апатрапеічных і засцерагальных рытуалаў,

“каб змяя заломаў не ламала, у жыце карэнне не капала, у кароў малако не адбірала”. І як сведчанне старажытнасці песні, непарыўнасці эстэтычнага і утылітарнага кампанентаў заключны заклінальны матыў: “Адбяры, Божа, таму ручкі, ножкі, са лба вочкі!”

Спыняе ўвагу і бадай самы ранні (і найбольш поўны) запіс купальскай песні, у якой абыгрываецца матыў тушэння “зялёнай дубровы” хлопцамі і дзяўчатамі пры дапамозе адпаведна рэшата / кубка. Традыцыйна дадзены сюжэт тлумачыўся ў рэчышчы так званых пікіровак моладзі. Аднак зафіксаваная Чачотам яшчэ адна страфа песні, дзе гаворка ідзе аб “жаночках”, якія насілі ваду чапцамі, дазваляе ўбачыць у дадзеным тэксце міфалагічны сэнс. Атрымліваем тры пары сімвалічных супастаўленняў: “кубачак — дзевачкі”, “рэшата — хлопцы” і “чапец — жаночкі”. Адштурхнуўшыся ад несумненнай сімвалізацыі жанчыны праз яе галаўны ўбор, і ў першую чаргу праз чапец, можна дапусціць, што і кубак / рэшата прадстаўлялі адпаведную дзяўчыну і хлопца. Для доказу дастаткова ўзгадаць вясельныя звычаі біцця кубка пасля першай шлюбнай ночы, кубак як сімвал зямлі-жанчыны (“сосуд Земли”) і г. д., а таксама прадстаўленне праз рэшата ідэі неба, хмары з іх аплладняльнымі, жыватворнымі дажджамі. Акрамя таго, нашэнне вады ў рэшаце з мэтай патушыць пажар не выглядае недарэчнасцю, а, наадварот, апраўдана ў рэчышчы міфапаэтычнага сюжэта. Пажар таксама не зусім звычайны, як сведчыць яго апісанне ў запісе Чачота:

Ішла паненка цераз бор,
На ёй сукенка ў дзевяць пол.
Стала тая сукенка шамрэці,
Зялёна дуброва гарэці.

Сярод купальскіх запісаў Чачота вылучаюцца вядомыя сёння як валачобныя песні з тыповым зачынам “Лятала пава па чыстаму полю”, а таксама сюжэт “дзяўчына ўе вянок, які віхура зносіць у мора”. Аднак дзяўчына падаецца як дачка Купалы, што і апраўдвае аднесенасць песні да купальскіх:

— Купалачка, дзе твая дачка?
— А ў гародзе, на пагодзе.
Красачкі ірвець, вяночак уець.
Звіўшы вяночак, пашла ў таночак.

Услед за купальскімі ў зборніку змешчана 27 жніўных песень. У асноўным гэта ўласна жніўныя песні, звязаныя з працай у полі, некалькі дажынкавых, сярод якіх так званыя райкі. Гэтыя песні ўвасобілі ў сабе найбольш раннія ўяўленні аб хлебадайных сілах прыроды, і сам архаічны вобраз Рая, які выразна суадносіцца з матывам пчол, сусветнага дрэва, неба, арганічна зліты з вобразам хрысціянскага Бога, з'яўляўся як бы гарантам дабрабыту і ўраджайнасці. Наогул, дажынкавыя песні ў запісах Чачота даюць абагульнены вобраз жніва як працоўнага подзвігу, гэта гімн хлебу, ураджаю, гімн чалавеку працы.

Асобна хацелася б спыніцца на песнях з выразным сацыяльным пратэстам, успамінаць якія сёння стала не "модна". Адметна, што гэта запісы першай паловы XIX стагоддзя, якія, аднак, і сёння актыўна запісваюцца ў месцах бытавання жанру. Кранае непадробнай шчырасцю паэтычны зварот да сонца: "Сонца, сонейка, ці бывала ты ў найме?" — і студзіць сэрца катэгарычнае: "Бадай таму цямней было, хто да хаты не пушчае".

Сапраўдным шэдэўрам без перабольшвання можна лічыць і наступную жніўную песню:

На гарэ Тацянка пшонку жнець,
З цёмнага лясочку тучка ідзець.
— Чы не баішся, Тацянка, гэтай тучанькі?
— А за што ж я маю яе баяцца?
У гэтай тучцы мая мамка:
А ні ветрам мяне абвеець,
А ні дажджом мяне не абліець,
Доляй, шчасцем агарнець.

І сёння цяжка сказаць: адбітак гэта былога анімістычнага светаўспрымання ці выказванне самой душы надзвычай паэтычнага, таленавітага простага селяніна-беларуса...

У зборніку змяшчаецца пяць запісаных Чачотам хрэсьбінных песень. Гэта вядомыя ў шматлікіх варыянтах "Цераз бор сасна нахілілася", "Хто ж у нас у полазе ляжыць", "Кум ходзіць па саду, кума па гароду" і інш.

Значную частку фальклорных запісаў Яна Чачота складаюць вясельныя песні. Усе разам яны дэманструюць адзіны, арганізаваны вербальны тэкст лепельскага вяселля. Гэты тэкст прадстаўляе асноўныя абрадавыя моманты вясельнай урачыстасці —

заручыны, дарэнне маладых, прыезд жаніха, дарогу да вянца, сустрэчу нявесты са свякрухай і інш.

Цэнтральнае месца, натуральна, адводзіцца вобразу нявесты, маладой дзяўчыны, яе пачуццям, перажываванням, надзеям і страхам. Расстанне з роднымі, ад'езд на "чужадальнюю старонку", канец дзявочага раю — усё гэта прадстаўлена ў канкрэтных сюжэтных сітуацыях, выпісаных псіхалагічна вельмі дакладна, недзе нават асцярожна. Душа нявесты як палахлівая лясная птушка, і народны талент сумеў, здолеў адбіць яе стан у пранікнёных і адначасова сціплых радках:

Да гаворыць лён зялюн,
Пры дарозе стоячы:
— А бяда мая, бяда,
Што буйныя вятры,
Што дробныя дажджы,
Не дадуць мне вырасці,
Сінім кужалем зацвісці.

Цікавыя вясельныя запісы Яна Чачота як найбольш раннія і для іх семантычнай інтэрпрэтацыі, для раскрыцця міфалагічнага падтэксту. Яны яскрава дэманструюць успрыманне самога жаніха і яго дружыны як чужынцаў і нават ворагаў, прычым не столькі ў сацыяльным, колькі ў міфапаэтычным разуменні. І найперш аб тым сведчыць характарыстыка локусаў жаніха і нявесты, іх падкрэсленая абрадавая проціпастаўленасць. Для традыцыйнай сімволікі наогул характэрна падзяленне прыроднай прасторы на культурную і дзікую, а сярод іх мікрапрастора саду — уласна дзявочая. На Беларусі існаваў нават звычай, калі дзяўчына мела свой "сад", у якім вырошчвала неабходныя для вяселля кветкі і расліны.

Песенныя маналогі нявесты найперш звязаныя з садам альбо хатай:

Зязюлька ў садочку — Люсечка ў святліцы,
Сакалы налятаюць, саколку падмаўляюць.
Рада паляцеці, жаль с а д у пакінуць
(разрадка наша — *Т. В.*).

Нявесце не ўласцівыя істотныя перамяшчэнні, іх адсутнасць кампенсуецца багаццем песенных тэкстаў. Запісы Чачота і дэманструюць разгорнуты сюжэтны вербальны комплекс партыі нявесты.

Партыя жаніха, наадварот, спявае мала, аднак яе шлях уяўляецца як далёкі і цяжкі. Локус жаніха адназначна прадстаўляе дзікую прыроду, неасвоеную чалавекам, — “да з-за цёмнага лесу”, “з сіняга возера вятры веюць — з новага гораду госці едуць”;

З гары, з гары, з даліны
Беглі конікі чатыры.
Беглі тыя коні сівыя.
— Куды вы, конікі, бяжыце,
Каму вы разлуку нясеце?
— Нясем мы разлуку Таццяне.

Запісаў Чачот і вясельную песню з матывам расчэсвання нявестай валасоў, прадстаўленую сёння шматлікімі варыянтамі. Дадзены сюжэт, як і вышэйзгаданыя, семантычным ядром таксама мае ідэю пераходу, у дадзеным выпадку ў кантэксце апазіцыі прырода / культура. Змена прычоскі і галаўнога ўбору з дзявочага на жаночы — адна з галоўных прыкмет пераходу. Этнаграфічна дакладным гэты варыянт наўрад ці назавеш:

Стаяла Настулька пад вянцом,
Часала косаньку грабянцом.
Кінула грабянец пад вянец,
Русую косаньку пад чапец,—

важная сама ідэя развітання з вольнымі дзявочымі гадамі, іх незваротнасць і няўпэўненасць у заўтрашнім дні.

Як у зборніках, так і ў рукапісе Чачота колькасную перавагу маюць пазаабрадавыя песні. Паэта прыцягвала іх выключная паэтычнасць, вастрыня сюжэтных калізій і глыбіня выказаных пачуццяў.

Сярод іх адвечныя песні-скаргі на няўдалы жаночы лёс, калі лірычная гераіня “не так жыве, як гаруе”. І прычыны таму могуць быць самыя розныя: няроўны шлюб — “стары-старусенькі сцяў, змяў маладосць маю”, нелюбімы муж — “валей жа мне, мамусенька, цяжкі камень узняці, чым таго нялюбага сакалом назваці”, ды ва ўсе часы застаюцца такімі зразумелымі і блізкімі запісаныя яшчэ ў пачатку мінулага стагоддзя метафарычныя радкі: “чужая старана тугою арана, слязьмі засеяна”.

Лірычныя песні ў запісах Чачота падкупліваюць сваёй адкрытасцю, той наіўнай непасрэднасцю, калі нават грубаватыя словы натуральна ўпісваюцца ў кантэкст шчырага выражэння пачуццяў:

Дзяўчыначка, прапаў я з табою,
Пратаптаў я жоўты боты, ходзя за табою,
Пападраў я пару сукен, па замётах лазя,
А згнаіў я дужа шапачкі, пад страхою стоя,
А спацеў я дужа хустачкі, ліцо ўцірая,
А зламаў я два ножыкі, вакно адчыняя.

Дэмакратычныя погляды Чачота абумовілі і наяўнасць сярод яго запісаў песень з выразнай сацыяльнай скіраванасцю. І гэта не толькі процiпастаўленне багатай і беднай нявестаў — “у багатай валы ды каровы, у худобанькі чорныя бровы”, а і гаспадарчыя нястачы і галеча: “Забіраюць арандары ўсю тваю худобу.— Я сам тое бачу, што худобу трачу, за дробнымі слёзанькамі я свету не бачу”. Блізкія ім па духу рэкруцкія і казацкія песні, наскрозь прасякнутыя болем за гэтых людзей: “Як рэкруцікаў лавілі, назад ручкі павязалі, рэзвы ножкі акавалі”.

Менавіта Чачоту належаць найбольш раннія, поўныя, паэтычна выразныя варыянты шматлікіх балад: “Тры птушачкі ля забітага малойчыка”, “Барвянец-травіца то брацітка і сястрыца”, “Бандароўна”, “Бяроза і явар на магіле закаханых”.

У апошнім, шостым зборніку Чачот змяшчае “Крывіцкія прыказкі і прымаўкі”. Сярод добра вядомых узораў народнай мудрасці знаходзім цікавыя, арыгінальныя варыянты. Напрыклад, даволі распаўсюджанай прыказцы “Ціхая свіння глыбока рые” Чачот змяшчае такія адпаведнікі: “Хто ціха ходзіць, той густа месіць”, “Ціхая вада берагі рве”. Маюць каштоўнасць і заўвагі самога збіральніка — да прымаўкі “Скажы, уража, як пан кажа”: “гэта аб падпарадкаванні і прыстасаванні да волі і ўлады мацнейшага. Гэта прымаўка, відаць, украінская, бо паняцця “вораг”, “ураг” нашае простанароддзе не ведае і няма на яго нават слова, сумняваюся, ці выраз “уража” разумеюць, прымаўкі гэтай з вуснаў сялян я не чуў — толькі са шляхецкіх”. І сёння цешаць сваёй дасціпнасцю і жыццёвасцю такія прыказкі, як “На чыём вазку едзеш, таму песеньку спявай”, “Як пасцелеш, так і выспішся”, “То не банкет, калі прынукі нет”.

У асобныя раздзелы выдзяляюцца прыказкі, прыстасаваныя да свят: “Юр’ева раса, не трэба коням аўса”, “Да Святога Духа не скідай кажуха, а па Святым Духу — у тым жа кажуху” і інш., а таксама адметныя выразы і параўнанні. Трэба адзначыць, што многія з іх захавалі былую рытуальную, магічную і нават міфалагічную аснову: “вадзіць дзяды” — драмаць на рабоце; “скрывіўся як серада на пятніцу” — пра чалавека не ў гуморы, што нагадвае звычай пасціць у гэтыя дні; прыгавор да дзіцяці: “На ката пацягушкі, а на дзіця растушкі”.

Сярод іншых жанраў вуснапаэтычнай творчасці Чачота і загадкі. Узятыя ўсе разам, яны прадстаўлялі своеасаблівую карціну свету простага селяніна, усё яго прыроднае і матэрыяльнае акружэнне. У рэчышчы традыцыйнай міфапаэтычнай сімволікі створаны загадкі пра год: “Вылецела дванаццаць галубоў, села на пяцьдзесят дубоў, знесла па трыццаць яец, кожнаму адно яйцо”, пра сонца: “К сатаю ходзіць да не сватае”. Большасць загадак дэманструе талент народа ў будзённым бачыць дзівоснае, у простым — незвычайнае, у нерухомым — жывое: “Беглі чумаковы лычкі цераз мора, бягуць дый маслечка ядуць” (сані), “У лесе сцята, у хлеве ўзята, а на руках плача” (скрыпка), “Кручаны, мучаны па зямлі скача” (венік) і інш.

Парэміялагічныя запісы Чачота наглядна дэманструюць прынцыповую рознасць прыказкі і загадкі пры іх значным падабенстве. Кожная прыказка, нават калі яна звяртаецца да прыроды, у канчатковым выніку паведамляе нешта пра чалавека, яго адносіны са светам, яна і адрасавана непасрэдна яму. Загадка ж проста апавядае пра свет і самога чалавека, з’яўляецца выпрабаваннем яго кемлівасці і дасведчанасці.

*

*   *

Дваранскі перыяд беларускай навукі эпохі Асветніцтва прадстаўляюць найперш браты Тышкевічы, імёны якіх былі вядомы не толькі сярод тагачаснай інтэлігенцыі, але і далёка за межамі.

Яўстафій Піевіч Тышкевіч нарадзіўся 6 (18) красавіка 1814 г. у Лагойску ў багатай дваранскай сям’і з вялікімі грамадска-

палітычнымі традыцыямі. Першым настаўнікам яго стаў бацька Пій Феліцыянавіч. Гэта быў адукаваны, таленавіты чалавек, які цікавіўся мясцовымі старажытнасцямі, пісаў хроніку Лагойска і ў стогадовым узросце быў абраны членам Віленскай археалагічнай камісіі.

Яўстафій Тышкевіч пачаў вучобу ў Віленскай гімназіі. Яму не давялося атрымаць вышэйшай адукацыі, аднак яго дасведчанасць у многіх галінах, таленавітасць забяспечылі будучаму фалькларысту высокі навуковы ўзровень яго доследаў.

Я. Тышкевіч пачынае працоўную дзейнасць пры сенаце ў ордэнскім капітуле, дзе займаўся афармленнем царскіх і імператарскіх узнагарод. У хуткім часе ён быў зацверджаны ганаровым наглядчыкам вучылішчаў Барысаўскага павета. Восенню 1844 года Я. Тышкевіча абралі маршалкам дваранства Барысаўскага павета, а праз тры гады ён стаў куратарам Мінскай гімназіі.

Значную частку свайго жыцця, сіл і маральных высілкаў Я. Тышкевіч аддаў музею, які павінен быў адлюстроўваць матэрыяльную культуру Беларусі і Літвы. Сабрана экспанатаў было дастаткова, аднак пасля паўстання 1863—1864 гадоў экспазіцыя была падвергнута “рэвізіі” і аб’яўлена “польскай інтрыгай”. Экспанаты сотнямі адпраўлялі ў Маскву. Гэта было балючым ударам для братоў Тышкевічаў.

Канец жыцця Я. Тышкевіча склаўся драматычна. Усімі прызнаны вучоны, член Дацкага каралеўскага таварыства аматараў паўночных старажытнасцей, член-карэспандэнт Стакгольмскай каралеўскай акадэміі, а пазней член Лонданскага археалагічнага інстытута Я. Тышкевіч дажываў свой век у Вільні. Памёр 13 (26) жніўня 1873 года і пахаваны на “Літаратурнай горцы” на Росах.

Самай грунтоўнай і важнай фалькларыстычнай працай Я. Тышкевіча сталі прысвечаныя народнай культуры раздзелы яго “Апісання Барысаўскага павета”[11].

Першым у томе змяшчаецца апісанне “вясельных абрадаў вясковага люду ў Мінскай губерні”, якое выходзіць у друку ўжо не першы раз. Аднак час запісу (1800, 1801 і 1802 гг.),

---

[11] Tyszkiewicz E. Opisanie powiatu Borysowskiego pod względem statystycznym, geognostycznym, historycznym, hospodarczym, przemysłowo-handlowym i lekarskim. Wilno, 1847.

паўната і унікальнасць асобных элементаў абраду робіць дадзены матэрыял неацэнным для сучаснай фалькларыстычнай і этнаграфічнай навукі.

Змешчаныя ў апісанні нязначныя на першы погляд заўвагі збіральніка ўключаюцца ў агульную рэканструкцыю вясельнага комплексу як найбольш архаічныя і семантычна істотныя дэталі. Так, паведамленні аб прыбыцці свата менавіта аднаго і толькі вечарам у чацвер ці ў суботу падкрэсліваюць важнасць часавага коду, які сцвярджаў выдзеленасць сватання ў будзённым жыцці, а таксама яго несумненнае суаднясенне з матывамі таго свету, бо вечар, ноч успрымаліся як варожыя да чалавека.

Не менш выразная і прасторавая арганізацыя рытуалу сватання. Дзяўчына не прысутнічае ў хаце пры размове бацькоў са сватам, а па вяртанні становіцца "ў куточак пры печы, які называецца на простай мове качарэжнік", і доўга калупае пальцамі сцяну. Калі прыгадаць ролю качарэжніка ў сялянскай хаце як сакральнага месца прабывання хатняга духа, становіцца наглядным, па-першае, процістаянне нявесты і свата як прадстаўнікоў двух светаў і, па-другое, удзел таго свету ў самім рытуале сватання.

Адметныя і наступныя заўвагі: пілі ўсе з адной чаркі па чарзе (магчыма, далейшы сакральны сэнс выпіўкі і быў абумоўлены гэтай аб'ядноўваючай чаркай), пасля малых запоін у хаце нявесты жылі дзве яе сяброўкі, у час вялікіх запоін мяняліся пярсцёнкамі, на змовіны збіралася абавязкова ўся вёска і г. д.

У сімвалізацыю партыі жаніха як прадстаўнікоў "таго" свету ўключаюцца гукавы і прадметны коды, калі скіраванасць да процiпастаўленай сферы падкрэслівалася маўчаннем, імітацыяй нябачнасці праз надзетую ў памяшканні шапку: "Дружына ўваходзіць у хату ў вялікай важнасці і ў глыбокім маўчанні, якое гэтак жа сама падтрымліваюць і госці. Прыезджыя ні з кім не вітаюцца... Малады і ўся яго дружына не здымаюць шапак, якія так насунуты, што ледзь не засланяюць вачэй".

У кантэксце сучасных палітычных падзей надзвычай цікавымі ўяўляюцца і элементы колеравага коду вяселля — гаспадыня напаўняла чарку і накрывала белай хусткай, нарачоная ж накрывала чарку чырвонай хусткай, а потым абвівала поясам, які прадстаўляў сабой "тасьму, на аснову

якой бяруць белыя льняныя ніткі, а на ўток — каляровую пражу з воўны, сярод колераў пераважае чырвоны". Так назіраем традыцыйнае сімвалічнае чаргаванне белых і чырвонай палос як выражэнне радаводных ідэй, ідэй каштоўнасці і вечнасці жыцця.

Арганічным працягам запісу передвясельных абрадаў становяцца змешчаныя далей паведамленні Э. М. "Абрады вясковага люду з-над Беразіны". Пасля звычаяў запоін і змовін, асноўны сэнс якіх зводзіўся да канчатковага замацавання дагавору паміж супрацьпастаўленымі родамі, ідзе вельмі падрабязнае апісанне каравайных рытуалаў. Маюць значэнне і выклікаюць цікавасць як каментарый да самой цырымоніі (пякуць караваі: паўмесяц для абмену, булку-перапечку, трэці каравай, які знаходзіў потым адметнае прымяненне: калі маладая першы раз паласкала бялізну, ёй дапамагалі суседзі, якія і частаваліся гэтым караваем, і чацвёртую — булку для саміх каравайніц), так і заўвагі з пэўным міфапаэтычным падтэкстам. Так, гіпотэзу аб сімвалічным суаднясенні каравая з сусветным дрэвам пацвярджае наступная песня:

На дварэ явар сякуць,
А ў хату трэсачкі лятуць.
Каля явару трэсачкі,
Каля караваю маладзічкі...

Сярод адзінкавых запісаў пасаду жаніха найбольш поўны змешчаны менавіта ў кнізе Я. Тышкевіча. Ён яшчэ раз сцвярджае, што прататыпам гэтага рытуалу былі архаічныя юнацкія ініцыяцыі: жаніха перад ад'ездам садзяць на каробку з жытам, хросная матка падстрыгае яму валасы, а сястра падсмальвае іх васковай свечкай:

Падстрыгайся, Яначку,
З рабяцкага стану да ў мужаскую славу.

Абрады вяселля яскрава дэманструюць павагу сялян да хлеба і яго надзвычай высокі сакральны, міфалагічны статус, калі каравай становіцца як бы самастойнай дзеючай асобай і факусіруе ў сабе практычна ўсе асноўныя ідэі і міфалагемы вяселля. Дружка маладога ў хаце нявесты кладзе адзін пірог

высока на слупе ля печы, хросныя бацькі тры разы ўздымаюць наверх абгорнутыя абрусамі каравai маладога і маладой, прыгаворваючы: “Мой вышшы, мой вышшы!”, потым кладуць адзін на адзін, дзявочы знізу, і нясуць у клець.

Будуць цікавымі як даследчыку, так і любому чытачу паведамленні аб шанаванні і нават кульце дзявоцкасці маладой, калі яе шлюбную кашулю напачатку дэманстравалі гасцям, а потым жаніх вёз яе з жытам і грашыма да цешчы. Наогул, змешчаныя ў кнізе Я. Тышкевіча вясельныя звычаі беларусаў з’яўляюцца найкаштоўнейшай крыніцай для спасціжэння духоўнага вопыту нашых продкаў.

Як даследчык, фальклярыст-тэарэтык Яўфстафій Тышкевіч найперш праявіў сябе ў артыкулах, прысвечаных календару беларусаў. Пачынае іх апісанне святкавання Калядаў. Дарэчы, гэта адно з першых узгадванняў калядных урачыстасцей беларускімі фальклярыстамі. Аднак і сёння, праз 150 гадоў, тэзісы даследчыка аб неабходнасці шукаць вытокі абраднасці Раства ў часах язычніцкіх прынятыя і бясспрэчныя.

Калядных песень фальклярыст ведаў мала і на Барысаўшчыне чуў толькі адну: “Стары Восіп барадаты”. Аднак спыняе на сабе ўвагу прыведзеная ў гэтым раздзеле як прымеркаваная да Калядаў балада — “найлепшая, прыгажэйшая” — “Сын у маткі начаваў, дзіўны сон відаў...”

...Дзіўны сон відзеў, дзіўнае дзіва:
З-пад правай ручкі сакол вылятаў,
З-пад левай — сакаламаткі...
— Ой, маці, маці, пара ўстаці,
Пара ўстаці, мой сон разгадаці.
Маці ўстала, сон разгадала.
— Ой, сынку, мой сынку!
Ужо ў тваім доме праява стала,
Ужо твая жана сына радзіла,
Сына радзіла, сама няжыва...

Гэты сюжэт уяўляецца знамянальным у раскрыцці міфапаэтычных вераванняў нашых продкаў і найперш у прадстаўленні птушак як рэінкарнацыі душы чалавека. Смерць жонкі дэшыфруецца як адлятанне яе душы птушкай да неба; адметна, што як птушка ўспрымаецца і нованароджанае дзіця. Такім вобразам балада паэтычна абагульняе архаічныя ўяўленні аб

знаходжанні душы ў пераломныя моманты — нараджэння і смерці — менавіта ў вобразе птушкі.

Наступны раздзел прысвечаны велікодным звычаям. Хаця апісанне іх даволі сціслае, вылучаюцца запісы асобных вераванняў, напрыклад аб выкарыстанні асвечаных прадметаў, якія "неслі божы дар". І сапраўдным шэдэўрам народнай творчасці з'яўляецца запісаная Тышкевічам валачобная песня ў 90 радках, якая падрабязна, паэтычна прадстаўляе земляробчы каляндар беларуса. Гэты варыянт найбольш архаічны, бо зафіксаваў аднясенне пачатку года да вясны, да веснавога раўнадзенства: апісанне календара пачынаецца радком "Святыя Саракі напярод пашлі" і заканчваецца — "Прышлі Саракі да другіх Саракоў".

А вось з запісаў і аналізу купальскіх песень і абрадаў Я. Тышкевіч пачынаў сваю фалькларыстычную дзейнасць. Першая яго публікацыя насіла назву "Забавы і ўрачыстасці вясковага люду. Купалле"[12]. У кнізе фалькларыст супастаўляе святкаванне Купалля ў Барысаўскім павеце з аналагічнымі абрадамі другіх народаў і прыходзіць да высновы аб спецыфічнасці беларускіх рытуалаў. Шматграннае апісанне самой купальскай ночы пераплятаецца з высновамі, зробленымі сталым даследчыкам-фалькларыстам: "Назва боства Купалы ад купы, г. зн. мноства, багацця, дастатка і агню, або ад выразу "купалле", бо і тая і іншая стыхія — як вада, так і агонь — служаць у гэты дзень сродкам для ачышчэння ад грахоў".

Прафесіяналізм Я. Тышкевіча як фалькларыста засведчылі збор і навуковае даследаванне прыказак і прымавак беларусаў. "Народная паэзія дае нам магчымасць пазнаць пачуцці народа, а прымаўкі — пазнаёміцца з яго розумам",— трапна заўважае ён. Прыцягвае ўвагу і класіфікацыя прымавак, зробленая Я. Тышкевічам. У аснову яе пакладзены падзел па тэматыцы: "прымаўкі гістарычныя", "набожныя", "забабонныя", "адносіны падданых з панамі", "навука жыцця і маралі", "хатняе жыццё, сямейнае і грамадскае", "жарты, прымаўкі, сваркі", "прымаўкі пакрыўджаных", "пра гасціннасць", "раскоша жыцця пачуццёвага", "здзеклівыя парады", "розныя прымаўкі", "прымаўкі гандляроў", "прымаўкі аратых".

---

[12] Tyszkiewicz E. Zabawy i uroczystości ludu wiejskiego: Kupało // Tygodnik Petersburski 1837. № 66. 27.VIII. S. 395—396.

Так на прыкладзе аднаго павета вопытны даследчык стварыў панараму духоўнага жыцця народа.

Канстанцін Піевіч Тышкевіч нарадзіўся 5 (17) лютага 1806 года ў Лагойску. Навучанне ў Полацкай езуіцкай акадэміі і ў вядомай на Віцебшчыне Забельскай калегіі дамініканаў, а затым на аддзяленні права Віленскага універсітэта забяспечыла здольнаму юнаку дастаткова высокі, еўрапейскі ўзровень адукацыі.

У 1837 годзе К. Тышкевіч пры падтрымцы бацькі і малодшага брата Яўстафія пачаў ствараць прыватны музей, экспазіцыя якога была поўнасцю завершана ў 1842 годзе. Гэта ён лічыў найважнейшай справай жыцця.

Заслугоўваюць самай пільнай увагі навуковыя прынцыпы К. Тышкевіча. З пункту погляду сучаснай навукі іх можна ахарактарызаваць як комплексны падыход да аналізу народнай традыцыйнай культуры. Ён не праводзіў выразнай мяжы паміж археалагічнымі, этнаграфічнымі і фалькларыстычнымі доследамі. У імкненнях акрэсліць вобраз роднага краю ў старажытнасці даследчык выкарыстоўваў вынікі археалагічных раскопак, запісы народных абрадаў, звычаяў і песень беларусаў. Менавіта разглядаючы матэрыялы ў сукупнасці, ён першы выказаў думку пра ўзаемаўплывы славян і балтаў.

К. Тышкевічу, як і іншым даследчыкам яго часу, давялося сутыкнуцца з такой праблемай, як акрэсленне тэрытарыяльна-этнаграфічнага разумення Беларусі. Таму ён ужывае такія назвы, як “Літва”, “Русь Літоўская”, “Заходняя Русь”, “Беларусь”. Пад “Літвой” ён разумеў заходнія землі сучаснай Беларусі, пад “Руссю Літоўскай” і “Заходняй Руссю” — цэнтральныя раёны, Падняпроўе называў імем “Беларусь”. Цікава, што І. Крашэўскі лічыў Канстанціна Тышкевіча як жыхара Міншчыны “ліцвінам” або “літоўскім археолагам”[13].

Яшчэ ў сярэдзіне XIX стагоддзя Канстанцін Тышкевіч падыходзіць да такой актуальнай сёння задачы, як вызначэнне нацыянальнага космасу, які перш за ўсё ўключае ў сябе прасторавую культуру народа. Нацыянальны пейзаж — гэта і форма, і вобраз прасторавага існавання. У беларускай культурнай традыцыі з язычніцкіх часоў спецыфічнай якасцю

---

[13] Каханоўскі Г. А. Беларуская фалькларыстыка 50-х гадоў XIX ст. // Беларуская фалькларыстыка. Эпоха феадалізму. Мн., 1989. С. 221.

мыслення была яго пейзажнасць. Духоўныя паняцці чалавека агортваліся ў пейзажныя, ландшафтныя формы, нібы далучаючы малюнкі радзімы да працэсаў у сваёй душы. “Пейзажнае мысленне арыентавана на сінтэз прадметна-пачуццёвага свету са светам духоўным, зямной прасторы — з унутранай прасторай чалавека. У народнай свядомасці прырода жыве і выяўляе сябе ва унісон з чалавекам, і кожная часцінка прасторы поўніцца канкрэтным зместам”. Больш таго, вучоныя ў даследаванні менталітэту беларусаў нават катэгарычна сцвярджаюць: “Беларускае нацыянальнае прачытваецца не як аповяд альбо ідэя, а як ландшафт, краявід — і ў гэтым прачытанні маецца глыбокі сэнс унікальнасці. А вызначыць беларускае можна адно пазнаўшы мяжу”[14].

К. Тышкевіч аб’ектам сваіх комплексных навуковых доследаў абірае менавіта ландшафт, канкрэтны геаграфічны рэгіён — раку Вілію і яе берагі. Менавіта так — “Вілія і яе берагі” — будзе называцца і яго манаграфія — адна з найбольш грунтоўных краязнаўчых кніг сярэдзіны XIX стагоддзя. Яна стала вынікам краязнаўча-археалагічнай, фальклорнай і этнаграфічнай экспедыцыі К. Тышкевіча, да якой ён рыхтаваўся задоўга і самааддана.

Ужо да 1856 года па яго праекту ў Лагойску была пабудавана флатылія з пяці суднаў. 16-сажнёвы карабель “Марыя” з родавым гербам прызначаўся для персаналу экспедыцыі. Сярод абсталявання і прыбораў знаходзіліся розныя інструменты для вымярэння Віліі і археалагічных доследаў, тут жа быў і сканструяваны К. Тышкевічам своеасаблівы спідометр для вымярэння даўжыні ракі. Другі карабель — “Ад’ютант” — вёз усё грувасткае начынне. Трэці — “Выгода” — спецыялізаваўся пад кухню, чацвёрты — пад спіжарню, пяты — для камунікацыі паміж экспедыцыяй і берагам.

5 чэрвеня 1857 года флатылія К. Тышкевіча рушыла ад в. Камень у бок Вілейкі. Своеасаблівым праваднікам стаў 70-гадовы Васіль Буслаўскі-Сапежка, які выдатна ведаў раку, суседнія населеныя пункты, засценкі, урочышчы, узгоркі і нават вялікія камяні. 295 вёсак, мястэчак, гарадоў, якія месціліся на берагах Віліі, зафіксаваў К. Тышкевіч.

---

[14] Шамякіна Т. Касмасофія і літаратура (бел. нацыянальны космас і душа беларуса ў творчасці Я. Коласа) // Беларусіка. Кн. 2: Фарміраванне і развіццё нацыянальнай самасвядомасці беларусаў. Мн., 1992. С. 336; Бабкоў І. Беларуская традыцыя на зломе сэнсаў // Культура. 1993. № 19.

Ужо праз год рукапіс манаграфіі "Вілія і яе берагі" быў гатовы, але сама кніга пабачыла свет толькі праз 13 гадоў пасля яе напісання і праз тры гады пасля смерці аўтара.

Фальклярыстычная спадчына К. Тышкевіча прадстаўлена ў дадзеным зборніку запісанымі ў час экспедыцыі па Віліі песнямі. Яны не падзелены па жанрах і тым самым прадстаўляюць увесь цэласны масіў народнай песеннай творчасці.

Успрымаць песню без музыкі — справа нялёгкая. Аднак і ў чыста моўным сваім змесце яна ўяўляе сабой найвышэйшыя ўзоры паэзіі. Многія з асаблівасцей народнай песні ідуць з глыбінь старажытнага анімістычнага мыслення іх стваральнікаў, якія адухаўлялі ўвесь навакольны свет. Жыццё ў калектыве, соцыуме, абумовіла ідэалізуючыя прынцыпы ў абмалёўцы чалавека, што цалкам апраўдана і генетычна: у многім ідэалізацыя ідзе ад самога характару народнага светасузірання, ад арганічнага запатрабавання ў ідэале. Яна дыктуецца неабходнасцю сцвярджэння свайго свету прыгожага, нягледзячы на сацыяльныя перашкоды:

Пане гаспадару
Надзявае порткі замшовыя,
Надзявае сукні саятовыя,
Завязуе хусткі шаўковыя,
Надзявае шапку сабалёвую —
Яго служкі каня выводзяць,
Выводзяць каня варанога,
Кладуць сядло залатое.

Пры ўсёй стракатасці сюжэтаў і сітуацый народнай песні набор іх дастаткова абмежаваны. Яны адлюстроўваюць фрагменты ўзаемаадносін безыменных герояў, вобразы якіх таксама стандартныя і абумоўлены традыцыяй. Асоба героя народнай песні ў самым сваім інтымным перажыванні выяўляецца як бы на "міру", у сямейных і грамадскіх сувязях, як бы карэктуецца грамадой. Гэта адкрытасць інтымных перажыванняў, яе характар споведзі надае народнай песні асаблівую сілу ў сцвярджэнні маральных крытэрыяў і вызначае рознабаковасць і багацце ў перадачы пачуццяў:

Не буду на другога няславы ўкладаць,
Было табе мяне не абманіць,
Было табе маіх гарачых слёз не разліць.

У запісах К. Тышкевіча мы сустрэнем абмалёўкі розных станаў расставання, здрады, няўдачы, аднак усё роўна прысутнічае ідэал шчаслівай сям'і, які і выступае ў якасці сакральнай велічыні, што служыць своеасаблівай меркаю ў кожнай паэтычнай сітуацыі.

У братоў Тышкевічаў вялікія заслугі на ніве беларускай археалогіі, фалькларыстыкі, этнаграфіі, краязнаўства. Сваімі працамі яны прадэманстравалі багацце, жыццёвую мудрасць і паэтычную прыгажосць народнай творчасці. Іх даследаванні выходзілі на розных мовах у Мінску, Вільні, Пецярбургу, Варшаве, Кракаве, Берліне, Дрэздэне і не страцілі каштоўнасці і актуальнасці ў наш такі насычаны навуковымі публікацыямі час.

*Т. В. Валодзіна*

# ПЕСНІ

## КАЛЯДНЫЯ

1. Тыдзень, тыдзень да Каляд,
Пан з чэлядзі ды й не рад.
— Дай, пане, акорак,
Мне ўжо твой хлеб горак,
Аддай, пане, Каляду,
Ужо я ад цябе пайду.

2. Да казаў хмялёк, да тычкі ідучы:
— Чаму мяне да не бралі?
Да казаў хмялёк, да пасыхаючы,
— Чаму мяне да не хавалі?
Ужо ж вы мяне цяпер не возьмеце,
Ужо ж вы мяне да не схаваеце
Ані ў белыя мяшочкі,
Ані ў дубовыя судзёначкі.
Ужо ж я раскачуся,
Ужо ж я рассыплюся.
Да казаў Казюшка, да выходзячы з хаткі:
— Чаму мяне ўвосень не ажанілі?
Ужо ж вы мяне цяпер не удзержыце,
Ужо ж вы мяне цяпер не угледзіце
Ані ў белай сярмяжцы,
Ані ў новай хатцы,
Пайду ж я, мандруючы,
Сабе дзеванькі шукаючы.

3. Да ехаў я, ехаў, Каляда!
Міма гай зялёны, Каляда!
Міма сад вішнёвы, Каляда!
Да бачыў я яблынку, Каляда!
Зялёненька цвіла, Каляда!
Да белым цветам, Каляда!
Да шырокім лісцем, Каляда!
Я ж яе не зачапаў, Каляда!
За галінку не браў, Каляда!
Да чакаў я вясны, Каляда!
Да цёплага лецечка, Каляда!
Каб яна пазрэла, Каляда!
І мне, маладому, паспела, Каляда!

Ехаў я, маладзенек, Каляда!
Міма цясцёвага двара, Каляда!
Да бачыў дзевачку, Каляда!
Харашэнька ўбрана, Каляда!
Па двару пахаджае, Каляда!
Я ж яе не зачапаў, Каляда!
І за ручку не браў, Каляда!
Каб яна вырасла, Каляда!
Да за мяне пайшла, Каляда!

4. У Лявона куццю таўкуць,
Куць, куць, да куццю таўкуць.
У Лявона вароты завешаны
Сукном, сукном, чырвонаю кітайкаю.
У сераду снег напаў,
А мой мілы з каня спаў,
Як спаў, так і ляжыць,
Пакуль міла прыбяжыць.
А як міла прыбяжала,
За ручаньку падзяржала.
— Устань, мілы, не ляжы,
Пайдзі каня прывяжы.
Сівы конь, сівы,
Малёваны санкі,
Як сяду, то паеду
Да свае каханкі.

Да ў маёй каханкі
Смаляныя лаўкі,
Як сеў, так і прыкіпеў.

5. Прыехала Каляда на сівым коніку,
Паставіла коніка ў адрынцы,
Сама села на куце ў пярынцы.
Пастаўляла дудачкі на стаўпе.
Грайце, дудачкі, голасна,
Скачыце, дзевачкі, хораша.

6. Пайшла Каляда, калядуючы,
Да за ею хлопчыкі, жабруючы,
Каляда!
Пайшла Каляда па ляду,
Рассыпала Каляду,
Каляда!
А вы, дзевачкі, не гуляйце,
Да ідзіце Каляду пабірайце,
Каляда!

7. Калі б я была шэрай зязюляй,
Паляцела б я Лукашку пад шыбачку,
Паглядзела б я у Лукашкі кашулечкі:
А чы беленька, а чы тоненька у Лукашкі кашулечка?
Так тоненька, як кляновая лісціначка,
Так беленька, як белая паперачка.

8. Вечар, вечар, вечарыначка,
Хто там едзе вечарыначкай?
Едзе, едзе Андрэйка п’яны:
— Адчыні, Кацярынка, я твой каханы.
— Не адчынюся, брата баюся,
А праціў цябе сама лістам сцялюся.

## ВАЛАЧОБНАЯ

9. Дзень, добры дзень, пане гаспадару!
Хрыстос васкрос, Сын Божы,*
Да цераз поле шырокае,
Да цераз межы залаценькія
Ішлі, цяклі валачоннічкі
Да пыталіся слаўнага пана,
Слаўнага пана, пана гаспадара.
Да чым жа ён уславіўся?
І дабром сваім, і дваром сваім.
Памятаюць двары ўсё павім пяром,
Ўсё павім пяром, залатым крылом.
Стаўляе сталы ўсё цясовыя,
Засцілае сталы ўсё кітайкаю,
Ўсё кітайкаю, ўсё зялёнаю.
Стаўляе кубкі ўсё срэбляныя,
Налівае кубкі зеляным віном,
Зеляным віном, чорным півам.
Чорным півам да салодкім мёдам.
Зеляное віно пану гаспадару,
Чорнае піва для жаны яго,
Саладок мядок для яго дзяток.
Дай табе Божа, пане гаспадару,
Да піва варыці, да сына жаніці,
Гарэлачку гнаці, дочкі даваці.
Дай табе Божа, пане гаспадару,
І ў каморы і ў аборы —
Гдзе гара, там жыта капа,
Гдзе лог, там жыта стог.
Пане гаспадару, не кажы нам іці,
Не кажы нам іці, кажы надарыці.
Да нашы дары невялікія,
Валачобнічкі не дакучнічкі,
Да ў год ходзяць, да Бога просяць —
Пачынальнічку па дзясятнічку,
Старшаму пяўцу да капу яйцу,
Да кашаланосу да пірог к носу.
Хрыстос васкрос, Сын Божы,
Проша, пане гаспадару!

* Прыпеў "Хрыстос васкрос, Сын Божы" паўтараецца пасля кожнага радка.

10. Ой, выйду я на вулачку — бычкі бушуюць,
Юр'я, Юр'я, бычкі бушуюць.

Бычкі бушуюць, бо вясну чуюць,
Юр'я, Юр'я, бо вясну чуюць.

Зашумелі рэчкі, ляды паплылі,
Юр'я, Юр'я, ляды паплылі.

Зачарнела зямліца, бо пааралі,
Юр'я, Юр'я, бо пааралі.

Зазелянела бяроза, бо папукалася,
Юр'я, Юр'я, бо папукалася.

Завесялела дуброва: пташкі спяваюць,
Юр'я, Юр'я, пташкі спяваюць.

Зазелянела даліна: кветкі зацвілі,
Юр'я, Юр'я, кветкі зацвілі.

Ой, выйду я, выйду кветкі збіраці,
Юр'я, Юр'я, кветкі збіраці.

Кветкі збіраці, вяночкі віці,
Юр'я, Юр'я, вяночкі віці.

Вяночкі віці, Юр'я спяваці,
Юр'я, Юр'я, Юр'я спяваці.

11. Разыграўся Юр'я конік,
Разбіў камень капыцейкам.
У том камені ядзерка нет,
У нашых дзецюкоў праўданькі нет.

Разыграўся Юр'я конік,
Разбіў арэх капыцейкам.
У том арэху ядзерка ёсць,
У нашых дзевачак праўда ёсць.

**КУПАЛЬСКІЯ**

12. Сонейка, чаму Янава ночка невялічка?
Сонейка, сонейка, бо ты рана усходзіш.
Сонейка, сонейка, рана усходзіш, да іграючы,
Сонейка, сонейка, іграючы, Яна звелічаючы.
Сонейка, сонейка, дзевунька да не выспалася.
Сонейка, сонейка, шнуры вязала,
Сонейка, сонейка, шаўковыя,
Сонейка, сонейка, да ядвабныя.
Сонейка, сонейка, сяму-таму прадавала,
Сонейка, сонейка, свайму міламу да даравала.
Сонейка, сонейка, сяму-таму па тры грошы,
Сонейка, сонейка, свайму міламу, што найхарошы.

13. Сонейка, сонейка, Ян з Пятром ходзяць,
Сонейка, сонейка, да па межах ходзяць,
Сонейка, сонейка, да жыта глядзяць.
Сонейка, сонейка, да ідучы гаварылі:
Сонейка, сонейка, усё жыта добрае.
Сонейка, сонейка, Юрасёва яшчэ лепшае,
Сонейка, сонейка, Габрусёва да найлепшае.
Сонейка, сонейка, Юрасёва ў трубы ўецца,
Сонейка, сонейка, Габрусёва ў сцірты кладзецца.

14. Прасілася Гарыслаўка у ойчанькі
На Купалейка,
На дзявоцкае пагулянейка:
— Ой, мой ойчанька родненькі,
Пусці ж мяне пагуляць,

Да й дзецюкам Купальнічка заспяваць.
Яны з нас смяюцца да цэлы год,
А мы ім праспяваем да ўсю ноч,
Заспяваем Купальнічка такога,
Каб яны не дачакалі году другога,
Калі яны жаніціся не хочуць,
Да нас, маладзенькіх, любіць не будуць.

Ой, гуляла Гарыслаўка ўсю ноч,
Не маш яе да у ойчанькі на абед.
Нізка сонца, нізка над палудзень,
Гарыслаўка з Купальнічка йдзе,
А ойчанька яе сустракае,
У варацечках праўданькі пытае:
— Донька мая родненькая, скажы мне,
Каго любіш верна у сяле?
Таму пашлю залаты пояс, падару,
Штоб ён пазнаў Гарыслаўку маладу.
— Не пасылай, мой ойчанька, паяса —
Ой, прывядзе мне молайца мая краса.

15. Ішла паненка цераз бор,
На ёй сукенка ў дзевяць пол.

Стала тая сукенка шамрэці,
Зялёна дуброва гарэці.

Пайшлі дзевачкі тушыці,
Залатымі кубачкамі воду насіці.

Колькі ў кубачку вады ёсць,
Столькі ў дзевачак праўды ёсць.

Ішла паненка цераз бор,
На ёй сукенка ў дзевяць пол.

Стала тая сукенка шамрэці,
Зялёна дуброва гарэці.

Пайшлі хлопцы тушыці,
Рэшатамі воду насіці.

Колькі ў рэшаце вады ёсць,
Столькі ў хлопцаў праўды ёсць.

Ішла паненка цераз бор,
На ёй сукенка ў дзевяць пол.

Стала тая сукенка шамрэці,
Зялёна дуброва гарэці.

Пайшлі жаночкі тушыці,
Чапцамі воду насіці.

Колькі ў чапцы вады ёсць,
Столькі ў жоначак праўды ёсць.

16. Ай, нету, нету Купаліша,
Да як над нашага Яначкі,
Пяшком на вулку не выходзіць,
Ён на коніку выязджаець,
Сабе дзеваньку выглядаець.
Сам жа ён едзець на коніку,
Дзеваньку вязець на возіку.
Сам жа едзець у атласе,
А дзеваньку вязець у пакрасе.
Сам жа ён едзець, як жар гарыць,
Дзеваньку вязець, як цвет цвіціць.

17. Звала Купалка Іллю на ігрышча:
— Хадзі, Іллішча, ка мне на ігрышча.
— Не маю часу, Купалачка,
Гэту ўсю ночку мне нада не спаці,
Жыта пільнаваці,
Каб змяя заломаў не ламала,
У жыце карэння не капала,
У кароў малака не адбірала.
Адбяры, Божа, таму ручкі, ножкі,
Са лба вочкі!

18. — Купалачка, гдзе твая дачка?
— А у гародзе, на пагодзе
Красачкі ірвець, вяночкі ўець.
Звіўшы вяночак, пайшла ў таночак,
А ў танок ідучы, пахваляецца:
— Ніхто ў мяне вяночка не соймець.
А гдзе ўзяліся буйныя вятры,
Знялі з галоўкі вяночак,
Пакацілі на сіняе мора.
Пайшла дзявіца, шукаючы, пытаючы,
Спатыкаець трох рыбалоўцаў:
— Ах, рыбаловы, братцы мае,
Чы ня відзелі вяночка майго?
— Ой, дзявіца, не шукаць, не пытаць,
Твой вянок на сінім моры,
Будзем сеці закідаць, вянка шукаць.
— Вы, рыбаловы, братцы мае,
Аднаму дам залаты персцень,
Другому дам шаўкову хустку,
А за трэцяга сама пайду.
Што персцень дала — меншы брацец,
Што хустку дала — сярэдні брацец,
А за старшага сама пайшла.

19. Цёмная ночка Купалачка,
На моры вуткі купаліся,
На беражочку сушыліся.
Наша Настулька засмуцілася,
Што яе дары не прадзёныя,
Хоць прадзёныя, не звіваныя,
Хоць звіваныя, не снованыя,
Хоць снованыя, не вытканыя,
Хоць вытканыя, не бялёныя,
Хоць бялёныя, не дзялёныя.
Таму-сяму па локціку,
Свайму міламу ня мерачы.

20. А у трыснічку, капуснічку
Салаўіцы свішчуць,
Салаўіцы свішчуць,
Трох конікаў ішчуць.
Ішло, пайшло тры брацеткі,
Спаткалі трох дзевачак:
— Чы не відзелі трох коней?
У аднаго каня у лобе зорка,
У другога каня залаты капыт,
У трэцяга каня калясом грыўка.
У галаве зорка — Нічыпаркаў,
Калясом грыўка — то Юрачкаў,
Залаты капыт — то Яшкаў.
А што прыгожы,
Стань подле рожы,
А што багаты,
Стань подле мяты,
А хто круты,
Стань подле руты.
Нічыпарка багаты
Пільнуй мяты,
Юрачка прыгожы
Пільнуй рожы,
Яшка круты
Стань подле руты.

21. Мак зялёны, мак чырвоны
З паўночы цвіцець.
Там за гарой, там за другой
Мяне татка клічыць,
Мяне родны клічыць.
Я не пайду, да душы не пайду,
Далі Бог, не пайду!
Ночка цёмна, рэчка быстра,
Кладка нямошчана.

Мак зялёны, мак чырвоны
З паўночы цвіцець.
Там за гарой, там за другой

Мяне мамка клічыць,
Мяне родная клічыць.
Я не пайду, да душы не пайду,
Далі Бог, не пайду!
Ночка цёмна, рэчка быстра,
Кладка нямошчана.

Мак зялёны, мак чырвоны
З паўночы цвіцець.
Там за гарой, там за другой
Мяне брацец клічыць.
Я не пайду, да душы не пайду,
Далі Бог, не пайду!
Ночка цёмна, рэчка быстра,
Кладка нямошчана.

Мак зялёны, мак чырвоны
З паўночы цвіцець.
Там за гарой, там за другой
Мяне сястра клічыць,
Мяне родная клічыць.
Я не пайду, да душы не пайду,
Далі Бог, не пайду!
Ночка цёмна, рэчка быстра,
Кладка нямошчана.

Мак зялёны, мак чырвоны
З паўночы цвіцець.
Там за гарой, там за другой
Мяне мілы клічыць,
Мяне мілы клічыць.
Я пайду, да душы пайду,
Далі Бог, пайду!
Ночка відна, рэчка ціха,
Кладка мошчана.

22. Лятала пава па чыстаму полю,
Губляла пер'е ў траву зялёну.
А там хадзіла млода Ульянка,
Яна хадзіла, пер'е збірала,

Пер’е збірала, у рукавок клала,
З рукаўка брала, вяночак звівала,
Звіўшы вяночак, да прышпіляла.
Да прышпіліла, пайшла ў таночак,
Пайшла ў таночак і пахвалілася:
— Ніхто не сарвець пярловага вянца.
А гдзе ўзяліся буйныя вятры,
Буйныя вятры, дробныя дажджы,
Сарвалі, паняслі вянок на мора,
На сіне мора, на глыбокія азёра.
Пайшла ж яна яго шукаці,
Спаткала яна трох рыбаловаў.
— Вы, рыбаловы, добрыя малойцы,
Закіньце вы шаўковую сетку,
Знайдзіце мой пярловы вянец.
— А што ты дасі нам за пярэймы?
— Аднаму дам шаўкову хустку,
Другому дам залаты персцень,
Трэцяму дам белую ручку;
Шаўкову хустку — на дараванне,
Залаты персцень — на памінанне,
А ручку дала — сама пайшла.

23. А пры крайчыку, пры Дунайчыку
Там два брацеткі а купаліся,
А купаліся, размаўляліся,
А міжы іх чужаземчык быў.
Чужаземчыка загубіць хочуць.
Адзін кажыць: “Загубім яго”.
А другі кажыць: “Папытаемся,
Чы ёсць у яго а род, племене,
А род, племене, ацец, мамачка,
Ацец, мамачка, брат із сястрою,
Брат із сястрою, жана з дзеткамі”.
— Ціхі Дунаю — то мой татанька,
Сырая зямля — то мамка мая.
У лузе салавей — то мой брацітка,
У бару зязюлька — то сястра мая,
Бела бярозка — то жана мая,

У бярозкі розкі — то дзеткі мае.
Ціхі Дунаю, умывай мяне,
Сырая зямля, прыкапай мяне,
У лузе салавей, пашчабячы па мне,
У бару зязюлька, пакукуй па мне,
Бела бяроза, пашумі па мне,
У бярозкі розкі, паківайцеся.

24. А ўпала ластаўка, ўпала
У тое дзядоўе колкае,
У тую травіцу-макрыцу,
Ужэ яе птушкі жалеюць.
— Ні жалейце, птушачкі, вы мяне,
Я дзядоўе колкае паламлю,
Травіцу-макрыцу патапчу.
А упала наша Анулька, упала
А ў тое дзевяр'ё ліхое,
А ў тыя залоўкі-чачоткі,
Ужэ яе дзевачкі жалеюць.
— Ні жалейце, дзевачкі, вы мяне,
А я дзевяр'ё ліхое пажаню,
Я заловак-чачотак пааддаю,
А дзевачкі ліхія — суседзі,
А залоўкі-чачоткі — госцікі.

25. Выйду, выйду на вулачку,
А удару, удару ў далонечкі,
У залатыя пярсцёначкі.
Зачуў тое мой свякратка:
— Памалу, памалу, мая нявестачка,
Не пабі твае да далонечкі,
Не паламай да пярсцёначкі.
— Не тваё дзела, свякратачка,
Не ты хаваў далонечкі,
Не сын твой спраўляў пярсцёначкі,
Хаваў далонечкі мой татачка,
Спраўляў пярсцёначкі мой брацетка,
Не тут спраўляў, у горадзе,
А падарыўшы мне, моладзе.

## ЖНІЎНЫЯ

26. Размавяла жыта ядраное,
У полі стоячы:
— Ах, не магу у полі стаяці,
Калосся дзяржаці,
Толькі магу у полі капамі,
У гумне стагамі.
Размавяла наша дабрадзейка,
Па двару ходзячы:
— Толькі магу па двару хадзіці,
Золата насіці,
Толькі магу у пакоі сядзеці
Ды мёд, віно піці,
З дзяцьмі гаварыці.

27. А ўбіраці, ўбіраці —
Стаіць прыганяты.
А ўбіранкі, кудраванкі,
Судзі, Божа, дажаці,
Будзем вітаці.

28. Да ўжо вечар вечарэе,
Наш пан весялее,
Па постацях паязджае,
Свае жнейкі прыганяе:
— Жніце па постаце, жніце,
Самі сябе не пазніце,
Майго каня варанога,
Мяне, пана маладога,
Майго каня стракатага,
Мяне, пана багатага.

29. Да ўжо вечар вечарэе,
Наша пані весялее,
Па постаце пахаджае,
На пагоду заглядае:

— Дзякуй Богу за пагоду,
Што мае жанцы ў полі,
Касцы мае на балоце,
Усе людзі на рабоце.

30. А жоначкі, лябёдачкі,
А будзем Бога прасіць,
Чы не прыдзець хто снапы насіць.
А чы глухі, чы ня чуюць,
Снапы ў полі заначуюць.

31. Да ў нашага пана
Да нядобрая слава:
Па месяцу жыта жалі,
Па зорам копы клалі.
Цёмна ў полі, цёмна,
Бадай таму цямней было,
Хто да хаты не пушчае,
Да на полі нас трымае.
Да мы позна з поля ідзём,
Да прыганятага клянём.

32. У нашага пана харашэнька на дварэ,
Харашэнька на дварэ пабудаваныя свірне,
Гонтамі пабіваны, сабалямі пакрываны.
Каля таго будыначку не сакол палятае,
Наш пан пахаджае,
Да за ім дзеткі — як рой высыпае,
Як мак зацвітае.

33. Да што ў полі гудзець?
Да вясёл пасол ідзець,
Вясёлыя весці нясець
Да да слаўнага пана:
Хоць не многа пажалі,
Але многа нажалі:
Да сто коп да абеду,

Другую да палудня,
А трэцюю да вячэры —
То для нашага пана
Добрая слава.

34. Пара, жонкі, дамоў іці,
Пацярала зара ключы,
Каля постаці ідучы,
А з месяцам гукаючы,
А з сонейкам гуляючы.
А ўзыйдзіце самі, зоркі,
А знайце ключы звонкі:
Пара зямлю адмыкаці,
Пара расу выпушчаці:
А первую ледавую,
А другую медавую.
Ледавая — свякраткава,
Медавая — таткава.
Ледавая — каля плоту,
Медавая — каля стала.
Ледавую калом праб'ю,
Медавую з людзьмі пап'ю.

34 а. Пара, жонкі, дамоў іці, пацярала зара ключы,
Каля постаці ідучы, а з месяцам гукаючы.
А з месяцам гукаючы, а з сонейкам гуляючы.
А ўзыйдзіце, ясныя зоркі, а знайдзіце ключы звонкі:
Пара зямлю адмыкаці, пара расу выпушчаці:
А первую ледавую, а другую медавую.
Ледавая — свякраткава, медавая — таткава.
Ледавая каля плоту, медавая каля стала.
Ледавую калом праб'ю, медавую з людзьмі пап'ю.

35. Сцюдзёная раса пала,
Пусці мяне дамоў, пане,
Мае дамы далёкія,
Пераходы вялікія.
А сем міль борам ісці,

А восьмая далінаю,
Дзевятая к свякратку ў двор.
А свёкарка пераймаець
З цясовымі вядзёркамі,
Шаўковымі пачопкамі.
А шле мяне, маладзіцу,
У Дунай па вадзіцу.
А свёкарка, мой татанька,
Не вады ж ты жадаеш,
Мяне з свету збываеш.
Ты ж мяне з свету збудзеш,
Усё табе адно будзець.

36. — Ах ты, сонца, сонейка,
Не бывала ты ў найме.
Каб ты ў найме пабывала,
Дак бы па мне спагадала:
Раненька зайшло,
Позненька ўзышло.
— Маладзіца маладая,
Маладзіца бязумная,
Хоць я раненька зайду,
Цябе на ніве кіну,
Хоць я позненька ўзыду,
Цябе на ніве знайду.

37. Ці выйшла цёмная туча
З-за цёмнага лесу?
Не выйшла цёмная туча
З-за цёмнага лесу,
Толькі выслала буйнага ветру,
Дробнага дажджу.

Ці выйшла наша дабрадзейка
Перад жнейкамі?
Не выйшла наша дабрадзейка
Перад жнейкамі,
Толькі выслала сынкоў-сакалкоў

І дочак перапёлак —
Пытае, ці многа нажалі?
— Мы жалі поле незмяронае,
Копы незлічоныя.

38. Разгарыся, ясная зорка, перад месяцам,
Расхадзіся, наша дабрадзейка, перад жнеямі:
Да пытай жа, чы многа нажалі?
— А мы зжалі поле незмяронае,
Жыта ядронае!
А мы нажалі:
Гдзе гара —
Там капа,
Гдзе лужок —
Там стажо́к.

39. Разгарыся, вячэрняя зорка, перад ранняй,
Расхадзіся, наш паночак, перад жнейкамі.
Расстаўляйце цясовыя сталы, цясовенькі,
Налівайце залатыя кубкі, залаценькі.
Рассцілайце шаўковыя абрусы, шаўкавенькі,
Прывітайце першую жнейку, пастацяначку, —
Сыр на талерку і кварту гарэлкі.

40. Віншую паноў вянком,
Паны мяне мядком.
Перанёс Бог цераз сярпок,
Перанясі, Божа, цераз душок,
Цераз асетку-матку,
Цераз лёгкі дух.
Судзіў жа Бог пажаць,
Судзі ж, Божа, спажыць,
Ў карысці, ў радасці.
Дай жа, Божа, панам
З гэтага дабра піва варыць, панічоў жаніць,
Гарэлку гнаць, паненак замуж аддаваць.
Дай жа, Божа, панам з добрымі дзеткамі
На жыццё, на багацце,
На доўгі век і добры савет.

41. Паночак, паночак, рахуйся з намі,
Плаці ж, плаці ж, хоць талярамі.

Да мы ж тваю ніўку зжыналі,
Да мы ж сваю сілу спацералі.

Слава да і слава, паночак, твая,
Да і п'яна, да і п'яна талака твая.

Да ўчыніў, ўчыніў, паночак, славу,
Папаіў, папаіў талаку сваю.

Шчакатала сарока, на тычынцы седзячы,
На тычынцы седзячы, на хмялінку гледзячы.

Пахваліўся паночак, з паняю седзячы,
Папаіў жнеек з дубовай бочачкі,

З дубовай бочачкі, з залатой чарачкі,
З дубовай бочачкі, з залатой чарачкі.

42. А зялён наш бор, зялён
Над усімі барамі.
А за што ж ён зялён?
Поўна красачак на ём.
Славён наш пан, славён
Над усімі панамі.
А за што ж ён славён?
Поўна гумно жыта нажаў,
А другое ярыначкі.
А выкаціў бочку піва,
А другую гарэлачкі.
— Піце, жоначкі, піва,
А дзевачкі гарэлачку.
А дзіва ж нам, дзіва,
Што пшанічнае піва.
Чаго таму дзівіціся,
Што можна напіціся.

43. А зялён наш бор, зялён
Над усімі барамі.
А зялён ён, зялён,
Поўна шышачак на ём.
А слаўлён наш пан, слаўлён
Над усімі панамі.
А за што ж ён слаўлён?
Поўна гумно жыта нажаў,
А другое ярыначкі.
А выкаціў бочачку піва,
А другую гарэлачкі.
— Піце, жоначкі, піва,
А дзевачкі гарэлачку.
А дзіва ж нам, дзіва,
Што пшанічнае піва.
Чаго таму дзівіціся,
Што можна напіціся.

44. Судзіў Бог пажаць, судзі, Божа, і спажыць.
Перанёс Бог цераз сярпок,
Перанясі ж, Божа, цераз лёганькі душок.
Дай жа, Божа, на таку умалотам,
У дзяжы падходам, у печы ростам.
Дай жа, Божа, на стале сыццю.
Не магу рачыць, прашу пана выбачыць.

45. У нашага пана вялікая слава,
Каля яго двара да тры ручаёчкі:
Першы ручаёчак — салодкі мядочак,
Другі ручаёчак — зялёнае віно,
Трэці ручаёчак — горкая гарэлка.
А салодкі мядок для самога пана,
А зеляно віно для гасцей яго,
А горкая гарэлачка для чэлядзі яго.

46. — А ты пан наш, паночак,
А чы зв’ець нам вяночак
На салодкі мядочак,
На горкую гарэлачку?

47. Ішоў Бог дарогаю,
А за ім наш паночак,
А ў руках шапку носіць,
К сабе Бога просіць:
— А ка мне, Божа, ка мне,
У мяне гумно а з густымі снапамі,
З густымі снапамі, з частымі капамі,
Досць будзе.

48. Хадзіў раю па вуліцы,
Ніхто раю ў хату не пусціць,
Толькі папрасіла наша маці:
— А хадзі, раю, ка мне ў пакой,
А ў маім пакоі, як у святліцы,
Мае сталы цясовыя,
Мае скацеркі бялёныя,
Мае хлебушкі залатыя,
Мёдам налітыя.
А мы жнейкі маладыя,
Сярпы залатыя —
Пад зарою жалі,
Сярпы пазлачалі.

48 а. Хадзіў рай па вуліцы,
Ніхто раю ў пакой не просіць.
Выйшла, выйшла наша паненачка,
Завець рай к сабе ў пакой:
— Прашу, рай, к сабе ў пакой,
У мяне пакоі вялікія,
Столікі цясовыя,
У мяне абрусы бялёвыя,
Кубачкі залатыя,
Зялёным віном налітыя —
Для госцікаў зялёнае віно,
Для паненачкі салодкі мядок.

49. Чыстае золата
На таку малочана,

На стале пасыпана.
Хто тое золата равееець,
Той на вайну не паедзець.
Аж чаляданька яго
Маладзенькі Доўнарка,
Ён золата равееець,
На вайну не пойдзець,
Пашлець каня варанога,
Малойчыка маладога.

50. Паночак, паночак, прымі наш вяночак,
Запалі, пане, свечку да выйдзі на сустрэчку,
Паночак, паночак, пераймі наш вяночак.
Вяночак пераймаць — золата даваць,
І з хлебам, і з соллю, і добрым здароўем надзяляць.
А мы жалі — сілоў пацяралі і на гэта зараблялі.

51. На гарэ Тацянка пшонку жнець,
З цёмнага лясочку тучка ідзець:
— Чы не баішся, Тацянка, гэтай тучанькі?
— А за што ж я маю яе баяцца?
У гэтай тучцы мая мамка:
Ані ветрам мяне не абвеець,
Ані дажджом мяне не абліець,
Доляй, шчасцем агарнець.

52. — Чый гэта двор:
Тры калы ўбіта,
Карытам накрыта?
[Чый гэта сын]
Па двару ходзіць,
Атопкі валочыць?
Чый гэта пан
Па двару ходзіць,
Золата носіць?
— Я ж не магу
Па двару хадзіці,
Золата насіці;

Толькі магу
У пакоях сядзеці,
Мёд, віно піці,
З паняй гаварыці.

53. — Чый гэта двор
Мурам мураваны,
Злотам пазлацаны?
— Быхаўскага пана
Мурам мураваны,
Злотам пазлацаны.
— Чый гэта сын
Па двару ходзіць,
Золата носіць?
— Быхаўскага пана сын
Па двару ходзіць,
Золата носіць.

## ХРЭСЬБІННЫЯ

54. Цераз бор сасна пахілілася,
Ай, кума з кумам пасварылася.
Цераз бор сасна перабралася,
А кума з кумам паядналася:
— А хадзі, куме, кісялю есці,
І з сыціцаю, і з вадзіцаю,
Са мной, добрай маладзіцаю.

55. Хто ж у нас у полазе ляжыць?
Фёкалка наша да ў полазе ляжыць,
Да зажадала вішнёвага соку.
— Сышчыце майго Хвёдарку з току,
Няхай дабудзець вішнёвага соку.
Пытаецца, да хто ж то радзіўся?
— Калі сын радзіўся, я і соку дабуду,

Калі дачушка, вадзіцай адбуду.
Калі сын радзіўся, слаўлён горад стаўлю,
Калі дачушка, я й шацёр не спраўлю.

56. А ў Полацку на рыначку
П'ець кум з кумой гарэлачку.
Яны пілі, гаварылі:
— Кінем дзяцей у крапіве,
Самі паедзем на Украіну.
Едуць поле і другое,
На трэцяе уз'язджаюць.
— Чакай, куме, трымай каня,
Чы не шуміць дубровачка,
Чы не гоніць пагонечка?
Шуміць, шуміць дубровачка,
Едзець, едзець пагонечка,
Два й конікі вараненькі,
Два й брацеткі маладзенькі.
Адзін кажаць: кума мая,
Другі кажаць: сястра мая,
Трэці кажаць: жана мая.
Кума мая хрышчоная,
Сястра мая раджоная,
Жана мая вянчоная.

57. Кум ходзіць па саду, кума па гароду,
Сойдземся, абоймемся і нап'ёмся мёду.
Кумачка п'яна, на ганачку пала,
Паглядзіце, хлопцы, ці ў тонкай сарочцы?
Калі яна ў тонкай, дайце ёй пакой,
Калі яна ў зрэбнай, дайце ёй пакой беднай,
А калі ў пласконнай, завядзіце яе ў пакой.

58. Дуброўка мая зялёная,
Бяседка мая вясёлая.
Гарэлачку піла да ўпілася,
Выйшла на ганачак, павалілася,
Свайму міламу павінілася.

— Не садзіся, жана, проціў печы,
Сядзі, жана, на покуце;
Не пі, жана, спорай чашы,
Дамой ідзі, навары кашы,
Бо мне жаль жаны будзець,
А дзеткі твае плакаць будуць.

**ВЯСЕЛЬНЫЯ**

59. А калі то з нашай Аўдолькі бывала:
У нядзельку ранюсенька ўстала,
Сваю галоўку слізюсенька ўчасала,
Сваю родную мамку будзіла:
— Устань, устань, мая мамухна, доўга спіш,
А нашто ж ты рана дзежу ўчыніла?
— Як жа мне, мае дзеткі, не ўчыняць,
Будуць госці небывалыя бываць,
А будуць цябе, маладзенькую, пытаць,
А ўмей жа тыя мыслі адгадаць.

60. Ніхто ж так не гуляець,
Як Мар'ячка у татулькі.
Кожын дзень дачушачка
У татулькі пытаецца:
— Татулька мой родненькі,
Нашто ты салаты робіш,
Нашто ты піва варыш?
— Мар'ячка, дзіцятачка,
Да мой двор на дарозе,
Госцейкі на парозе.
Мар'ячка, дзіця маё,
Выйдзеш ты на вулку да топаля,
Глянь жа ж ты пад ручачкі,
Што з-пад цёмнага лесу,
Да ці мак зацвітаець,
Ці там рой высыпаець?
— Татулька мой родненькі,

Да ні мак зацвітаець,
Да ні рой высыпаець,
Дружыначка выязджаець
Да з-за цёмнага лесу,
Да з зялёнага саду,
Да з багатага двара,
З вялікай дружыначкай,
Да з сыгралай дудачкай,
Да з пяялайсваціцай.

61. А з сіняга возера вятры веюць,
З новага гораду госці едуць.
— А выйдзі, Алёнка, пераймай гасцей,
А вазьмі коніка за цуглі,
Маладога сужаньку за ручку,
А дай жа коніку аўса, аброку,
Маладому сужаньку віна, мёду.
— Ай, не есць конік, аўса, аброку,
Ай, не п'ець сужанька віна, мёду.

62. Заржалі вараныя коні ў полі,
Застучалі кованыя колы на дворы.
Замкнулася наша Люсечка ў каморы:
— Ні давай мяне, мамухна, ні давай,
— Да як жа мне, маё дзіцятка, ні аддаці,
Наехалі тыя баяры, што ўзяці.

63. А ў полі гай зелянеець,
Пад тым гаем коні — стада,
А ў тэй стадзе конь гаворыць,
Няпраўду кажыць:
— Каб жа я быў пад маршалкам —
Грыўка мая смалой зліта,
Вадой змыта.

А ў полі гай зелянеець,
Пад тым гаем коні — стада,
А ў тэй стадзе конь гаворыць,

Праўду кажыць:
— Каб жа я быў пад Барыскам —
Грыўка мая мёдам зліта,
Віном змыта,
Хустай накрыта.

64. Сакалы налятаюць,
Саколку падмаўляюць:
— Ляці, паляці, саколачка,
З намі, сакаламі.
— Рада б я паляцець,
Жаль саду пакінуць,
А саду зялёнага,
Ягадак салодзенькіх.

Сваточкі наязджаюць,
Марцэльку падмаўляюць:
— Едзь, паедзь, Марцэлька,
З намі, сватамі.
— Рада б я паехаць,
Жаль маткі пакінуць,
Мамухны старэнькай,
А сястрыцы маленькай.

65. Палятала два салавейкі
Па вішнёвым садзе,
Селі, палі
Да зашчабяталі,
Пабудзілі маладу Ульянку
З белага ложа:
— Устань, устань, малада Ульянка,
З белага ложа,
Ужо твой маладзец
На двор уз'язджаець,
З коніка ссядаець.
— Я маладога здаўна любіла,
Сахарам карміла,
Віном паіла,
З двара праводзіла,
Хусту даравала.

66. — Зялёная бярозанька,
Чаму бела, не зелена?
— Як жа мне быці зялёнай,
Пры дарозе стоячы?
Да штодзень купцы едуць,
На карэннях агні кладуць,
Цераз галлё дымы ідуць,
Карэннейка падпальваюць.

— Красна дзеванька,
Чаму смутна, не вясёлая?
— Як мне вясёлай быці,
Штодзень госцейкі,
Штосуботы — то свацейкі,
Штонядзелі — маршалачкі.
Зялёнае віно возяць,
Майго ойчаньку пояць,
Мяне, маладзенькую, просяць:
— Красная дзеванька,
Ці паедзеш ты з намі,
З маладымі сватамі?
— Рада б я паехаці,
Жаль пакінуці
Айцовага падворайка,
Матчынага прыбранейка,
Дзявоцкага гулянейка.

67. Да гаворыць лён зялён,
Пры дарозе стоячы:
— А бяда мая, бяда,
Што буйныя вятры,
Што дробныя дажджы —
Не дадуць мне вырасці,
Сінім кужалем зацвісці.

А гаворыць Адолька
Ды сваёй роднай мамцы:
— А матулечка мая родная,
Калі мяне выдасі?

А бяда мая, бяда,
Што частыя сваты:
А будзен дзень па пяць, па шэсць,
А сьвяты дзень па дзесяць.
А будзен дзень са скрыпкамі,
А сьвяты дзень з цымбаламі,
З маладымі баярамі.

68. А лятаў салавей па ламу,
Тошненька, будненька аднаму.
А каб яму зязюлька,
Шчабяталі б яны шчыранька.

Ездзіў Кузёмка па двару,
Тошненька, будненька аднаму.
А каб яму Антолька,
Пагулялі б яны шчыранька.

69. Хоць ты, мая мамухна, за Дунай замуж аддай,
Толькі, мая мамухна, у прымакі не прымай:
Як зачнуць сварыціся,
За каго ж мне ўступіціся?
Уступіціся мне за бацюхну,
Дак бітай мне быць,
Уступіціся мне за прымаку,
Дык вонках мне быць.

70. Кукавала зязюлька, седзячы ў садочку:
— Божухна, збавіцелю, калі гэта летца будзець?
Плакала малада Люсечка, у святліцы седзячы:
— Божухна, збавіцелю, калі гэта госці будуць?
Ні ў кашульку шнурочка, ні на галоўку вяночка.

71. А ў барку, ў барку
Рабіў Змітрачок каморку.
А прыйшла да яго Ульянка:
Ей Бог помач, Змітрачок!

Рабі каморку скоранька:
Прыстаў ваконца, прыкуй сонца,
Каб к нам салаўі ляталі,
Каб нас раненька будзілі.
А ў нас мамухна чужая,
Ня будзець раненька будзіці,
Да пойдзець на вулку судзіці.

72. На гарэ стаіць шацёр навюсенькі,
А ў тым шатры тры крэўчыкі.
Туды ішоў малады Міхалка:
— А Бог помач, тры крэўчыкі!
Крэўчыкі мае мілыя,
Пашыйце тры сукенкі:
Адну мне самому,
А другую жане маёй,
А трэцюю слузе нашай.
Мне самому сіненькую,
Жане маёй чырвоную,
А слузе нашай зялёную.

73. На моры, на возеры
Два бабры купаліся,
А ў новым церамочку
Два браты змаўляліся:
— Брацетка мой родненькі,
Пойдзем мы бброў біць,
Паненцы на шубачку,
Панічку на шапачку.
Паненачка за стол ідзець,
Шубачку ў руках нясець.
Паціху, баяры, ідзіце,
Шубу паненцы не абатрыце —
Не тут то купляна,
Не тут то спраўляна.
Купляна у горадзе,
Прыслана моладзе.
Шылі краўцы і немцы,
Прыслалі паненцы.

74. Што за панове, што за сватове на дварэ?
Па-польску мовяць, Марыльку просяць да сябе:
— А выйдзі, выйдзі, млода Марылька, ты да нас,
Пазнай, пазнай свайго сужэньку між́ы нас.

— Што ў белым на коню белым — свёкарка,
Што ў сінім на коню сівым — дзеверка,
Што конь вараненькі, сам маладзенькі — сужанька.

75. Што за панове, што за сватове на дварэ,
Па-польску мовяць, Ульянку просяць да сябе:
— А выйдзі, выйдзі, млода Ульянка, ты да нас,
А пазнай жа свайго Змітрочка між́ы нас.
— Хто ў сінім на кані сівым — свёкарка,
А хто ў белым на каню белым — дзеверка,
Конь вараненькі, сам маладзенькі — Змітрочак.

76. Не гніся, не ламіся, калінка,
Не вяліка пад Барыскам дружынка:
Семсот казакоў, апроч палякоў,
Па-польску мовяць, дзевачку моняць:
— А выйдзі, выйдзі, дзевачка-душка, з церама,
А выпі кубачак мёду, два віна,
А пачастуй любых госцікаў ты сама.

77. На дварэ дожджык пераходжваець,
Кузёмка татухну пераказваець:
— Татухна, родненькі, не па-нашаму —
Змардаваў коніка, гарцуючы,
Патаптаў боцікі, танцуючы.
А спацеў, хустачку уціраючы,
Збузаваў шапачку, кланяючы.

78. Не вяліка поле, не мала,
Поўна конікаў нагнана.
Ніхто тых конікаў не спазнаў,
Спазнала конікаў Аўдулька,

Спусціла рукавок дадолу,
Пагнала конікаў дадому.
— Дадому, конікі, дадому,
Да не рабіце шкоды нікому,
Да рабіце шкоду аднаму,
Роднаму татухну маяму.

79. Каліна, не стой, распускайся,
Да у белы цвет раскладайся,
Да на цвяток да бялюсенькі,
Да на цвяток да драбнюсенькі,
Да Хведарка, не сядзі, да размысляйся:
Да чы сваты ты пашлеш,
Да чы сам да паедзеш?

— Сваты пашлю — не прычакаю,
Сам паеду, то пагуляю.
Сват паедзе, да зап'ець яе,
Сват паедзе — лгаці будзе,
Потым міла плакаць будзе.

80. Не лякайся, дзевунька,
Не да цябе сваты едуць.
Да з Вільны купцы едуць,
Не дарагі тавар вязуць:
Шпілечкі да голачкі,
Да жоўтыя пярсцёначкі.
Голачкі на хустачкі,
А шпілечкі на істужачкі,
Пярсцёначкі к вяселлейку.

Не лякайся, Зосечка,
Да не будзеш венчана,
Да няма ксяндза ля дома,
Да паехаў да Альбова
Ключыкі купаваці,
Цэркаўку адмыкаці,
Двое дзетак звянчаці:

Да адно раджонае,
А другое суджонае —
Да Ясеньку сам Бог радзіў,
А Зосеньку яму Бог судзіў.

81. З гары, з гары, з даліны
Беглі конікі чатыры.
Беглі тыя конікі сівыя.
— Куды вы, конікі, бяжыце,
Каму вы разлуку нясеце?
— Нясем мы разлуку Таццяне,
Разлучым яе з мамухнай,
Прылучым яе к Амельянку.

82. Наляцела сакалоў повен двор,
Выглядай, зязюля, каторы твой.
— Звужуець скрыдэлькі, то той мой,
Ясныя вочкі, пэўна, мой.

Наехала сваточкаў поўны двор,
Выглядай, Цыцылька, каторы твой.
— Казловы боцікі, то той мой,
Шаўкова хустачка, пэўна, мой.

83. Ай, затужыўся старшы сват
У паўдарожкі ўехаўшы,
Пад сасоначкай стоючы:
— А сасонка мая зялёна,
А галоўка мая бедная,
А што мае конікі не п'юць, не ядуць,
Толькі іржуць.

А пачула тое малада Праскоўка:
— Не тужы, не бядуй, старшы сват,
Я тваіх конікаў напаю
На ранняй расе у аўсе,
На вячорнай зарэ у ячмяне.
Паганю цераз сад, вінаград,

На ціхім Дунаі накармлю,
У новую стайню заганю,
Насцялю сена па калена,
Насыплю аўса, аброку,
Ежце ж мне мой аброк,
А вязіце мяне у свой бок.

84. У нас сягодні да заручынкі,
Бог нам даў.
Залаты персцень да на ручанькі,
Бог нам даў.
Піва з півам да зліваецца,
Бог нам даў.
[Марылька] з [Янам] заручаецца,
Бог нам даў.
Мядовыя сыры на тарэлачку,
Бог нам даў.
Мядовыя сыры калупаць будзем,
Бог нам даў.
Маладога зяця частаваць будзем,
Бог нам даў.
То ў рот, то ў кішэнь, то запазушку,
Бог нам даў.
Нож зламіўся, зяць падавіўся,
Бог нам даў.

85. Прыехалі запіваць.
Каго яны запіваць будуць?
Ульянкі дома нету,
Ульянка ў садочку,
З коранем вішню ломіць:
— Гніся, вішня, гніся,
А каранём вярніся.
Мне у таткі не бываці,
Вішанек не шчыпаці,
Вяночак на насіці,
Дзеўкай не быці.
Я адзін была звіла,

Я таго не знасіла,
У каморы павесіла,
У каморы, у куточку,
На жалезным пруточку,
На шаўковым шнурочку.
Туды мой татка ходзіць,
Мой татка ходзіць,
Белыя ручкі ломіць,
Дробныя слёзкі роніць:
— Няма майго дзіцяці,
Некім загадаці,
На работку паслаці.

86. Спазнаеш, Люсечка, па калючаньках,
Што ні татка заручаець.
Пашлі, Люсечка, салавеечку
Па роднага татку.
Салавеенька, бардзая пташка,
Скоранька лятаець, к зямле прылягаець,
Татухна не ўставаець.
— Рад ба я ўстаці к свайму дзіцяці
Параданьку даці:
Сырая зямля дзверы залягла,
Жоўты пясочак залёг насочак,
Грабовы дошкі сціснулі ножкі,
Нельга мне ўстаці
Да свайго дзіцяці.

87. Пераманачка чырачка,
Пераманула селязня.
— Да чым я яго манула,
Сам жа ён ка мне прыплываў,—
Чы сваімі сізымі крылкамі?

Пераманула Полюшка,
Пераманула Яшку.
— Дзе, чым я яго манула,
Сам жа ён ка мне прыязджаў, —

Да чы ціхаю паходай,
Чы пышнаю размовай?
Нізкімі уклонамі,
Ціхаю паходай у таночку,
Пышнаю размовай з баярамі,
Нізкімі паклонамі ў касцеле.

88. А плавала шэрая вутка па рацэ,
А плакала родная матка па дачцэ.
А плаваючы шэрая вутка панырнець,
А плачучы родная матка уздыхнець:
Кукавала, балела, ох, ці мне!
Цяпер некім загадаці, ох, ці мне!
Белых ручак пераняці, ох, ці мне!
Борздых ножак падмяняці, ох, ці мне!

89. Да прыстань, Божа, прыстань
Да да нашага да пачастачку,
Што мы яго пачынаем,
Пана Бога звелічаем.
Да Прачыстая Маці
Абяцала долю даці
Да Зосеньцы дзіцяці.
Да доля ж мая, доля,
Калі будзеш добрая,
То садзіся са мною,
А калі будзеш якая,
То з быстраю вадою
Не спатыкайся са мною.

90. Станьце, ўсе баяркі, ў рад,
Ідзець наша Цыцулька на пасад,
Белыя ручкі ломячы,
Дробныя слёзкі ронячы,
Роднае мамухны ішчучы.
Усіх яна жоначак перайшла,
Нігдзе яна роднай мамкі не знайшла.
Уся яе галоўка ў вянку,

Няма яе мамухны ў дамку.
Уся яе галоўка ў квеце,
Няма яе роднай мамкі на свеце.

91. Ляцелі птушачкі на тры стадачкі,
Зязюлька паперад.
Птушачкі палі, зашчабяталі,
Зязюлька закукавала.

Ішлі дзевачкі цераз сенечкі,
Маланка паперад.
Дзевачкі селі, песні запелі,
Маланка заплакала.

92. Лятала стада курапат па полі,
А вадзілі перапёлку з сабою.
А прыляцелі к вішнёваму садочку:
— А тут табе, перапёлка, астацца,
З пташкамі расстацца,
З шчырым салавейкам спаткацца.

Хадзіла карагод дзевак па церамку,
А вадзілі маладу Ульянку з сабою,
Прывялі яе к цясцёваму століку:
— А тут табе, Ульянка, астацца,
З дзеўкамі, баяркамі расстацца,
З маладым сужонкам спаткацца.

93. Ні жарка гарыць калінка,
Да ні жалка плачыць Антолька,
Не разжаліла сваёй мамачкі.
— Да калі хачу — разжалю:
Выплету ўплёты з русых кос,
Павешу ўплёты пры клеці,
Куды маёй мамачцы хадзіці.
У клетку ідучы, абачыць,
А з клеткі ідучы, заплачыць:
— Гэта маей дзіцяці уплёты,
Павесіла мне на ташноты.

94. Зязюлька, зязюленька, да не голасна,
Куеш голасна, да не жаласна,
Не чутно за ельнічкам,
За белым бярэзнічкам.

— Красная Анелька, да не голасна,
Плачаш голасна, да не жаласна,
Не чутно за дружкамі,
За галаснымі скрыпцамі.
— Я па бару не хадзіла,
Голасу не збірала, плакаць не вучылася,
Да Якубку згадзілася.
На ручніку стаяла,
За белую ручку дзяржала
Да Якубку прысягала.

95. — Да красная Зосечка,
Калі з цябе тое было,
Штоб ты служкі наймала
Русу косу расплятаці,
Слёзкі свае разліваці?

— Да дзевачкі, сястрыцы,
Да цяпер той дзень настаў,
Што да мяне братка прыстаў —
Русу косу расплятаці,
Слёзкі мае разліваці.

96. — Кланяйся, Кацярынка, кланяйся,
Старога і малога не мінай,
Слёзкамі зямліцу аблівай,
Роднага ойчаньку пазнавай.
Станавіся, баяр'е, усе радом,
Чы не будзе ойчанька пад перадом.
— Колькі я сцежачак перайшла,
Роднага ойчанькі не знайшла,
Колькі баяр'я перабрала,
Роднага ойчанькі не пазнала.

97. Знаць, табе, Настулька, замуж хочацца,
Што твае слёзанькі не коцяцца.
Ідзі, Настулька, у зялёны садок,
Вырві горку цыбульку, патры свае вочанькі —
Чы не пойдуць у цябе дробныя слёзанькі?
Узыдзі, сонейка, для цяпла дзеля,
Заплач, Настулька, для сарама дзеля.
Узышло сонейка, абутрала,
Настулька плакаць і не думала.

98. Знаць, табе, Настулька, замуж хочацца,
Што твае слёзкі не коцяцца.
Ідзі, Настулька, у зялёны садок,
Вырві ж горку цыбульку,
Патры свае вочанькі —
Чы не пойдуць у цябе дробныя слёзанькі?
Выйдзі, сонейка, для цяпла дзеля,
Заплач, Настулька, для сарама дзеля.
Узышла зорачка, абутрала,
Настулька плакаць ані думала.

99. Кукавала зязюлька ў садочку,
Прыклаўшы галоўку к лісточку:
— Хто маё гняздзечка разаўець,
Хто мае яечкі пабярэць?
— Разаўець гняздзечка лябедзька,
Пабярэць яечкі лябёдка.

Плакала паненка ў святліцы,
Прылажыўшы галоўку к скам'іцы:
— Хто маю косыньку распляцець,
Хто мае ўплёты пабярэць?
— Распляцець косыньку брацетка,
Пабярэць уплёты сястрыца.

100. — Рэчанька быстрая, што ціха стаіш?
Нет у цябе, рэчанька, крутых беражкоў.
— Негдзе мне, рэчаньцы, разліціся.

— Малада Тацянка, што смутна сядзіш?
— Як жа мне, маладзе, смутнай не быць?
Нет у мяне, нет у мяне роднага татанькі,
Некаму мяне, некаму і благаславіць.
Лепей было мне, маладзе, не кахацîся,
Чым цяпер з татулькам расставацîся.
Лепей было мне, маладзе, не радзіціся,
Чым цяпер з татулькам разлучыціся.

101. Ішла Эльжбетка з поля,
Несла красачкі у прыполе,
Віла вяночак пры столе,
Пакаціла вяночак па скам'іцы,
Задала жаласці ўсёй сям'іцы.
Да ні так сям'і, як мамцы:
— Падай, мамухна, венчык мой!
— Не падыму, дзіцятка, не падыму,
З жаласці ручак не падыму,
З клопату не схіну.

102. Нет Марыські, нет у дому,
Пайшла Марыська да да пана Бога.
Стаіць гадзіну, стаіць другую,
Пакуль адчыняць райскія дзверы,
Пакуль выпусцяць яе матаньку.
— Прашу цябе, матухна, прашу на вяселле,
Да на сірочае, да на дзявочае.
— Весяліся, дзецятка, весяліся з Богам,
Весяліся з Богам да і з добрымі людзьмі,
З добрымі людзьмі і суседзямі,
З маладымі да і з дзевачкамі.

103. Брацетка мойродненькі,
Дай жа мне каня у воз,
Каб мяне да шлюбу завёз
Да на тую гору крутую,
Пад цэркаў святую,
Гдзе людзі збіраюцца,

Пану Богу кланяюцца —
Нізенька і пакорненька,
Пану Богу прыемненька.

104. — Чаго ты, Рыпінка, змарнела,
Чы табе галоўка балела?
— Балела галоўка ўвесь дзень,
Не відзела сужэнькі сем нядзель.
А вы мне галоўку звяжыце,
Толькі сужэньку пакажыце.
Звязалі галоўку ручнічком,
Паказалі сужэньку пад вянцом.

105. — Чаго, селязень, так сташніўся?
— А як жа мне тошнаму не быць?
А учора з вячора з вутачкай плаваў,
А сягодня рана адпужан.
Не жаль бы было, каб далёка,
Цераз тры кусты у чацвёрты,
А яшчэ [................]*
— Чаго, Макарка, так сташніўся?
— А як жа мне тошнаму не быць?
Учора з вячора дзевачку запіў,
Сягодні рана адвязёна,
Не жаль бы было, каб далёка,
Цераз тры двары у чацвёрты,
Цераз мой двор ідзець —
Вадзіцу нясець!

106. Плакала Наташка на свой род,
Нашто яе аддаюць гэты год:
— Яшчэ б я летачка летавала,
Яшчэ б я зімачку зімавала,
Яшчэ б я хлопчыкаў выбірала.

---

* Не расшыфравана.

107. Мар’ечка з двара з’язджала,
З бярозы вяршок сарвала.
— Расці, мая бярозка, без верха,
Жыві, мой татулька, без мяне.
Пры мне была пасцелька мяканька,
Пры мне была кашулька беленька,
Пры мне была ножанька разута.
А ўспомніш, татулька, як мякка пасцелька,
Да ніхто ж цяпер татульку
Ні сарочачкі не памыець,
Ні ножак не разуець.

108. Ехала Настулька да вянца,
Мецяная дарожка да канца.
Бог ёй дарожку пераксціў,
Анёлы вароты адчынілі,
А Прачыстая свяціла.

109. Стаяла Настулька пад вянцом,
Часала косаньку грабянцом.
Кінула грабянец пад вянец,
Русую косаньку пад чапец.
Касіца мая русая,
Аддуха мая ранняя!
Не адно я раненька згуляла,
Русую косаньку часала.

110. Служыў Данілка каралю,
Выслужыў коніка варанца,
Павёз Мар’ечку да вянца.
Стаяла Мар’ечка пад вянцом,
Часала косачку грабянцом.
Кінула грабеньчык пад венчык,
Русую косаньку пад чэпчык.
Шаўковай хустачкай вочкі трэць,
Шаўковы чэпчык коскі мнець.

111. Дружко ў хату лезець,
У печ паглядаець:
Чы густа капуста,
Чы вялік гаршчок кашы,
Чы паядуць нашы?

112. Дружкі ў хату лезуць,
У печ паглядаюць:
Чы густа капуста,
Чы вялік гаршчок кашы,
Чы паядзяць нашы?

113. Палез дружко па лучыну,
Выдралі дзеўкі чупрыну,
Усторкнулі на тычыну —
Хто едзець, пытаець:
Чый гэта хахол лятаець?
Дружкоў хахол лятаець,—
Чаму ж баярак не вітаець?!

114. Купі, дружку, мыла,
Памый сваё рыла,
Каб жонка любіла,
Каб спаць палажыла.
Каб дзеткі спазналі
І бацькам назвалі.

115. Не гнѣся, дружко, не гнѣся,
Кладзі чырвонцы на місе.
Наша Ульянка не ўдава,
Кладзі чырвонцы хоць і два.
Вашы чырвонцы, як сліна,
Наша Ульянка вячніна.
Вашы чырвонцы гніць будуць,
Наша Ульянка жыць будзець.

116. Красны Грышачка,
Не ўсядайся ля лавачкі,
Да вазьмі сакала ў ручкі,
Да пайдзі каля пшоначкі,
Абжані перапёлачкі:
— Кіш, кіш, перапёлачкі,
Да не ежце мае пшоначкі.
Пшонка мая прыдалася,
Да на каравай згібалася,
Да на каравай, на кветачкі,
Лучы, Божа, нашы дзетачкі!

117. Цётачкі-лябёдачкі, кладзіце намётачкі,
Дзядзечкі-лебядзечкі, кладзіце капеечкі.
Дзядзінкі-галубачкі, кладзіце урубачкі,
Дзецюкі-малойчыкі, кладзіце чырвончыкі,
Дзевачкі-баярачкі, кладзіце падарачкі.

118. Да ляцелі гусанькі ў чужы край,
Час табе, дзевачка, за каравай.
— Сцяліце кубельцы, я сяду,
Благаславі, ойчанька, я пайду.

Ляцелі гусанькі выш дубу,
Час табе, Анулька, да шлюбу.
— Сцяліце кубельцы, я сяду,
Благаславі, матухна, я пайду.

Да ляцелі гусанькі цераз сад,
Час табе, Анулька, на пасад.
— Сцяліце кубельцы, я сяду,
Благаславі, брацейка, я пайду.

119. Соўнінька на заходзе,
Верачка на выездзе.
Мамухна забаўляець,
Ехаць не пускаець.
— Мамухна мая,

Родная мая,
Дай жа мне праваднічка,
Брацітку надкосінічкам,
Сястрыцу прыданачкай.

120. Выйду я на даліначку,
Гляну я на красачкі.
Ай, мае красачкі іграюць,
Ай, мае вянкі вянуць.
Грайце, красачкі, грайце,
Мне ж к вам не бываці,
Мне ж к вам не бываці,
Мне ж вас не шчыпаці,
Вяночкаў не віці,
Вяночкаў не віці,
На галоўцы не насіці.
Я адзін была звіла
І яго не знасіла,
У каморы павесіла,
У каморы, у куточку,
На шаўковым шнурочку,
Куды мая мамка ходзіць,
Белыя ручкі ломіць,
Дробныя слёзкі роніць:
— То ж у мяне дзіця было,
Што гэты вянок віло.

121. — Як табе, заранaчка, з зарою расстаціся,
З месяцам спаткаціся.
— Па-за горайку пайду, тучкаю абцянуся,
Дожджыкам абліюся,
Зарою расстануся,
З месяцам спаткаюся.

— Як табе, Прасковачка, з матухнай расстаціся,
З татачкам спаткаціся.
— Па застолійку пайду, коскамі апушчуся,
Слёзкамі абліюся,
З матухнай расстануся,
З татачкам спаткаюся.

122. Дзякавала бяроза зялёнай дуброве:
— Дзякую, дуброва, за пастаянне,
Што я ў цябе зелена настаялася,
Лісцейкам, веццейкам нашугалася.
Дзякавала Праскоўка свайму татухну:
— Дзякую, татухна, за пагулянне,
Я ў цябе молада нагулялася,
Па рынках, па местах нахадзілася,
Пад скрыпкамі, пад дудкамі нагулялася.

123. А жаль жа, мая мамухна, на цябе,
Астаецца ўся мая сіланька ў цябе.
Уставай жа, мая мамухна, раненька,
Палівай маю рутаньку часценька.
Не палівай маю рутаньку вадою,
Да палівай маю рутаньку слязою.
Ад вадзіцы мая рутанька мярцвеець,
Ад слязіцы мая рутанька лялеець.

124. На бару зязюля кукуець,
Аўдулька мамухне дзякуець:
— Дзянькую, мая мамухна, за хлеб, соль,
Ня скора буду за твой стол.

125. Паглядзіся, матанька, да мяне аддаўшы,
Да нявестку ўзяўшы:
Да ўстанеш раненька, да няма каго будзіць,
Возьмеш вядзёрка, няма вадзіцы.
Ты ж будзеш думаць, што валы пагнала,
Да твае валы стаяць у хляве,
Да тваё дзіця ў чужой старане!
Пастушкі ідуць, ты будзеш пытаці,
Яны табе, мая матанька, не будуць казаці.
Да волікі прыйдуць, да мяне не будзе,
Да табе, мая матанька, горшы жаль будзе.

126. Да няхай бы таго не чуў, не відзеў,
Як заянька рэчку пераплыў.
Пераплыўшы рэчаньку, атрахнуўся.
Толькі чула, відзела Наталка,
На высокім цераме сядзеўшы,
Толькі кашульку шыўшы,
З тонкага кужалю станочак,
З белае белі каўнярочак,
З шырокае кітайкі рукаўкі.

127. Па двару сіз голуб ходзіць,
Юрачка цесця просіць:
— Цесцечак, мой татухна,
Выраджай мяне з дому:
Коні мае настаяліся,
Сваточкі нагуляліся,
Дудачка наігралася,
Свацюхна напяялася.

128. А ездзілі вячэрнічкі па полю,
А згубілі сівага каня падкову.
Не жаль жа мне сівага каня падковы,
Да жаль жа мне маёй сястрыцы размовы.
А знайдзіце сівага каня падкову,
А вярніце маёй сястрыцы размову.

129. Ой, свет світаець, зара займаець,
Наша Марынка з двара з'язджаець,
А ў яе браценька ключоў пытаець:
— Гдзе ты, Марынка, ключы падзела?
— Я табе, брацетка, да не ключніца,
Чужому татку буду ключніца.

130. А вылецеў салавейка
З зялёнага саду,
З зялёнага вінаграду.
А выехаў Амеленька

З вялікага сяла,
З багатага двара,
А за ім чаляданька,
Як рой высыпаець,
Як мак зацвітаець, —
Амеленьку пытаець:
— Маладзенькі Амеленька,
А гдзе будзем начаваць?
А чы ў лузе, чы ў дарозе?
— Міла мая чаляданька,
А ні ў лузе, ні ў дарозе,
Ні ў зялёнай дубраваньцы,
Ёсць у мяне піва пуціва,
А цешчухна на дарозе,
А дзевачка ў церамочку,
Вы будзеце ў цешчухны,
А я буду ў дзевачкі,
Вы будзеце гарэлку піць,
А я буду салодкі мёд.

131. Удалы Барыска, удалы,
Сам жа ён удаўся,
А конь лепшы:
Каля капыта золата,
Каля грывачкі серабро.
Хто ж яму золата надаваў,
Хто яму коніка падкаваў?
Давалі золата кавалі,
Кавалі коніка кавалі.
Чатыры кавалі кавалі,
Адзінаццаць малайцоў дзяржалі.
Варанога коніка падкавалі,
Барыску ў ручкі аддалі.
У далёкую дарожку паехалі,
У тую дарожку шчасную,
Па тую дзевачку красную.

132. У дарозе Боранька, у дарозе,
Прывязаў коніка к бярозе.
Выразаў з бярозкі тры розкі,
Сekануў коніка пад ножкі.
А ступай, мой конік, шырока,
Яшчэ мая дзевачка далёка.
А ступай, мой косю, вузенька,
Ужо мая дзевачка блізенька.
А ступай, мой косю, ступою,
Ужо мая дзевачка са мною.

133. У дарозе Тамашок, у дарозе,
Ня кован конічак у возе.
— Ёсь у мяне кавалі ў дарозе,
Падкуюць коніка у возе.
Ёсць у маёй Зосенькі пярсцёнкі,
Будуць майму коніку падкоўкі.
Ёсць у маёй Зосенькі каралькі,
Будуць майму коніку ухналькі.
Ёсць у маёй Зосенькі істужкі,
Будуць майму коніку падпружкі.

134. Пад кім, пад сім конь вараненькі гаворыць,
Пад Славачкам, як салавейка шчабечыць:
Пераскочыў трое варот у гарод,
Патаптаў руту-мяту жоўты цвет,
Сталі на яго дзевачкі сварыцца.
— А ні сварыся, мая дзевачка, на мяне,
Не насіці табе вяночка ў мяне,
Толькі насіці шаўковы чэпчык ў мяне.

135. А разгуляўся вараны конік па полю,
А разадраў жа Нічыпарка шаўкову шапку да долу.
А затужыўся малады Нічыпарка па шапцы,
А зачула яго дзевачка у цераме:
— Не тужы, не бядуй, молад Нічыпарка, па шапцы,
Ёсць у майго таткі сорак сабалёў раблёных,
Ёсць у майго таткі а тры бабры куплёных,

Сышчаць ён крэўчыкаў з далёку
Пашыць шапку мне з табою да долу,
Будзем насіць і Бога прасіць з табою.

136. — Чаму ты, Аўрамка, не вясёл,
Ці ў цябе дружына з сямі сёл?
— А у мяне дружына — радзіна,
А маршалкі — дзядзечкі,
А намеснічкі — брацііткі,
Першая свахначка — сястрыца.
Іграй жа, дудачка, нанята,
Іграй, мая дудачка, з сілай да сілай,
Каб дружына вясёла была,
Бо там чужая старана,
Каб не было сарама.

137. Змітрачок зорачку напрасіў:
— А свяці, зорачка, да света,
Пакуль я ад дзевачкі прыеду.
А зорачка Змітрачку адказала:
— Тады я табе свяціла,
Як цябе мамухна радзіла,
Да па новых сенях хадзіла,
У Бога долі прасіла.
А хадзіла яна, як пава,
А радзіла Змітрака, як пана.

138. Ходзіць зайка па ячыне, туліцца,
Едзець малойчык жаніціся, хваліцца.
А сеў зайка на межыцы, вочкі трэць,
А ўжо ў яго белы малойчык да й б’ець.
— За што, за што, белы малойчык, мяне б’еш,
Чы я табе дарожаньку перабег,
Чы я табе вараныя коні папудзіў,
Чы я табе тваю дзевачку разгудзіў?
Папудзіў вараныя коні шэры воўк,
Разгудзілі тваю дзевачку малойцы.

139. Калінка наша Віктуся
Пад калінкай стаяла,
Ручкамі калінку ламала,
Ножкамі зямельку таптала.
А зайцы-малайцы хадзілі,
У яе калінку прасілі.
— Не хадзіце, малайцы, за мною,
Не дам калінкі нікому,
Панясу калінку дадому,
У свякраткаву каморку.
Кіну калінку ў пярынку:
Тут табе, калінка, разліцца,
А мне, маладзенькай, разжыцца;
Тут табе, калінка, з веткамі,
А мне, маладой, з дзеткамі.

140. У дарозе Сцёпачка, у дарозе,
Не кованы конік у возе.
Ёсць у яго кавалі ў дарозе,
Падкуюць коніка у возе.
Ёсць у яго Тацянкі пярсцёнкі,
Будуць яму, коніку, падкоўкі.
Ёсць у яго Тацянкі каралькі,
Будуць яму коніку ухнalькі.

141. Ехалі сваты борам,
А ўвідзелі пнёўе.
З імі сваццця-матка,
Калі ж яна разумна.
Адзін кажаць: воўк стаіць,
Другі кажаць: будзем крычаць.
— Едзьце, сваты, не брашыце,
Чы вы борам не язджалі,
Чы вы пнёўя не відалі?!

142. Ехалі сваты сялом,
А ўвідзелі лазню.
Адзін кажаць: цэркаў стаіць,

Другі кажаць: ксціцца будзем.
З імі сваццbackground-матка,
Да калі яна разумна:
— Едзьце, сваты, не брашыце,
Чы вы сялом не язджалі,
Чы вы лазні не відалі?!

143. Да іх вулачкі цесны,
Ехалі баяры пышны.
Пышней, гардзей Якубка.
Пад ім конік, як арол,
На ім сукенка, як агонь,
Шапачка саболля.
Павеялі ветрыкі сы гор'я,
Скінулі шапачку саболлю.
Кінуліся баяры паднімаць,
Малады Якубка — ні даваць:
— А што вам, баяры, да таго,
Ёсць у мяне дзевачка для таго,
Падымець шапачку, уздзенець,
І са мной паедзець.

144. Цёмная ночка, нявідна,
Доўгая дарожка грудліва.
Вараны конік падбіўся,
Малады Іллючок спазніўся,
А яго цешчухна гардзянка.
— А я сваю цешчухну перапрашу,
Чырвонца паклон палажу,
А я сваю цешчухну з'яднаю,
Выведуць дзевачку, спазнаю.

145. Ляцяць пташачкі
На тры стадачкі,
Зязюля паперацу.
Пташачкі селі,
Песні запелі,
Зязюля закукавала.

Ідуць дзевачкі
Сіраціначкі,
Тэклечка папераду.
Дзевачкі селі,
Песні запелі,
Тэклечка заплакала.

146. Заржалі конікі на браду,
Чулі яны на сабе прыгоду,
Што брат за сястрой гоніцца,
Здзеўшы шапачку, клоніцца:
— Пастой, швагерка, не уязджай,
Дам табе коніка варанца,
Вярні маю сястрыцу ад вянца.
Дам табе шабельку, усю ў злоце,
Вярні маю сястрыцу пры цноце.
Дам табе хустачку, ўсю ў шаўку,
Вярні маю сястрыцу у вянку.
— Мне тваёй хустачкай не махаць,
Мне з тваёй сястрыцай век векаваць,
Мне тваёй шабелькай не ваяваць,
Мне з тваёй сястрыцай век векаваць,
Мне на тваім коніку не паязджаць,
Мне з тваёй сястрыцай век векаваць.

147. Адчыні, мамухна, новы двор,
Вот табе нявестка, як явор.
Адчыні, мамухна, аконца,
Вот табе нявестка, як сонца.
Запалі свечку дзецям на ўстрэчку:
Першае раджонае, другое суджонае.

148. Адчыні, мамачка, новы двор,
Вязуць табе нявестку на выбор.
Адчыні, матулька, клетачку,
Вязуць табе нявестку-кветачку.
Адчыні, мамачка, аконца,
Вязуць табе нявесту, як сонца.
Адчыні, мамачка, вераю,
Вязуць табе нявесту, як зару.

149. Да выйдзі, матулька, паглядзі,
Што мы табе угоддзя прывязлі:
Прывязлі скрыню, пярыну,
Маладую Мар'ечку княгіню.

150. Да свякровачка-вутка,
Варочайся хутка,
Да й з намі дзеткі,—
Сцялі палаценца,
Ідзі ў нову клетку,
Вядзі сваіх дзетак.

151. Свякровачка каля печы ходзіць,
За поясам палонік носіць,
Здаля сабе карыстаючы,
Маладую нявестачку
Сюды-туды пасылаючы.
Сюды-туды нявестачку пашлю,
Сама ўпярод пайду.

152. Зялёная дуброванька,
Што ў цябе дуб'я многа?
Зялёнага да ніводнага,
Адростачка да ні з воднага.
Ёсць каму пастаяці,
А некаму пашумеці.

Маладая Ульянка,
Што ў цябе мамак многа?
А роднае да ніводнае,
Парадачку ні з однае.
Ёсць каму піць, гуляці,
А некаму парадачак даці.
Ёсць каму пажурыці,
А некаму пажалеці.

153. Люлі, люлі, люлі,
Прыляцелі куры,
Селі на вароцях
У чырвоных боцях,
Сталі сакатаці,
Што дзіцяці даці:
Каня варанога,
Быка палавога,
Цялушку-рабушку
Дзіцяці на юшку.

154. Люлі, люлі, люлі,
Прыляцелі куры,
Селі на вароцях
У чырвоных боцях,
Сталі сакатаці,
Што дзіцяці даці:
Ці бобу каробу,
Ці гароху троху,
Ці канапель чарапень,
Ці ячменю жменю?
Каня варанога,
Быка палавога,
Цялушку-рабушку
Дзіцяці на юшку.

155. Люлі, люлі, малое,
Дзіця дарагое.
Нядаўна ты, дзіцятачка,
З калыбелі ўпала,
За табою, дзіцятачка,
Уся гульба прапала;
Уся гульба прапала,
Гуляць волі не стала.

156. Пайшоў каток у лясок,
Знайшоў каток паясок,
А кошачка атняла —
Дзецям аддала.
Пайшоў каток на таржок,
Знайшоў каток піражок:
Чы самому есці,
Чы дзіцяці несці?
І сам трошкі укусіў,
І дзіцяці прынасіў.

157. Люлі, люлі, дзіця, спаць,
Адна матка, бацькоў пяць.
Люлі, люлі, Несцерка,
А на лета шэсцерка.
Люлі, люлі, Пятрочак,
А лета гоіць чырочак.
Люлі, люлі, малое,
А на лета другое.
Люлі, люлі, дзіця, спаць —
Калысачка цясова,
Пярыначка пухова,
Пачопачка шаўкова.

158. Наката варката,
А на дзетку драмата.
Пашоў каток на гулі,
А малое дзетка ў люлі.
Ты, каток, паварчы,
А ты, дзетка, спі, маўчы.
А спі, каток, у далінцы,
А дзіцятка ў пярынцы.
А спі, каток, у балоце,
А дзіцятка ў золаце.
Люляй, люляй, палюляеш,
Як выспішся, пагуляеш.

159. Ага! Ага! А люлі!
Пашоў кот у дулі,
Памарозіў лапкі,
Палез на палаткі,
Сталі лапкі грэцца,
Негдзе катку дзецца.

160. Ага, ага, люлькі!
Пашоў кот па дулькі,
Памарозіў лапкі,
Узлез на палаткі,
Сталі лапкі грэцца,
Негдзе катку дзецца.

161. Святы Антоній, гадуй,
Святая Юзэфа, пястуй,
Найсвента матка, благаслаўляй,
Божа Сына святога ласку праў.
Усіх святых пабажайце,
Дзіцяці сон дайце.

## ПАЗААБРАДАВЫЯ

162. Як паехаў паповіч у поле
І заплакаў пры коніку стоя:
— Бяда ж мая, што не родна маці,
Не вялела худобанькі браці,
Не вялела худобанькі браці,
Прымушаець багатай шукаці.
У багатай валы і каровы,
У худобанькі чорныя бровы.
У багатай лісы, адамашкі,
У худобанькі кажухі, сярмяжкі.
У багатай срэбра і злота гнецца,
Калі ж маё сэрца не хінецца.
Худобынька нічога не маець,
Калі ж маё сэрца прылягаець.

163. Ляцеў воран па-над морам
І стаў галасіці:
— Ой, як цяжка убогаму
Багату любіці.
Багатая не думае,
Што бедненькі нудзіць,
Багатая да думае,
Як дзецюкоў гудзіць.
Палавіна лет мінае,
Я шчасця не знаю,
Як жа о мне Бог прызначыў,
Што чыніці маю.
Хаджу, блуджу, хаджу, блуджу,
Як то слонца ў крузе,
Куды пайду, чы што раблю,
Усё сэрца ў тузе.
Хаджу, блуджу, хаджу, блуджу,
Век свой праклінаю,
Што палюбіў багатую,
Да яе не маю.
Ляцеў воран па-над морам,
Да сеў ён на сосне.
— А мой жа ты Пракопачку,
Не будзь так нудошны.
Ёсць жа ў нас Пракседанька,
Малада, хоць бедна.
Пакінь любіць багатую,
Палюбі Пракседку.
Багатая да пышная,
Цябе глуміць будзе,
А бедная Пракседанька
Цябе любіць будзе.

164. А на моры, на моры, на цёмненькім азёры,
Дуброўка, ты дуброўка, ты зялёная мая![*]
Пісар гусей ганяець, у іскрыпачку іграець.
— Да скажыце паненцы, што ў чырвонай сукенцы,

[*] Прыпеў паўтараецца пасля кожнага радка.

Няхай замуж не ідзе, няхай мяне падажджэ,
Я ёсць пісар малады, к таму яшчэ багаты.
Дзевяць коней у аборы, яшчэ столькі ў полі,
А дзесяты вянчаты, што паехаць у сваты.
Матка капай карэнне з-пад белага камення —
А вымыйце на рацэ, а ўпарце ў малацэ,
А вымыйце на ляду, а ўсмажце у мяду.
Яшчэ корань не ўкіпеў, а ўжэ пісар прыляцеў.
— А што цябе прынясло, чы чаўночак, чы вясло?
— Прынёс мяне сівы конь да дзяўчыны маладой.

165. А на тым на тыночку
Сядзела галубачка.
Там сядзела галубачка,
Залатая галовачка.
Там ехаў Кузёмка,
Зняў тую галубачку,
Залатую галовачку,
Павёз да татухны,
Да роднае мамухны.
— А мамухна мая,
Родная мая,
Пазволь мне жаніціся
Да з гэтай галубкаю,
Залатой галоўкаю.
— А стой, сынку, не жаніся,
Едзь да круля да найміся,
Розуму набярыся:
А розуму крулеўскага,
А поезду паненскага,
А з розумам кругляваць будзеш,
А з поездам паязджаць будзеш.

166. Туман, туман, туман на даліне,
Шырокі ліст на каліне, на каліне.
Шырэй таго, шырэй таго на дубочку,
Клічыць голуб галубачку, галубачку.
Хоць ні сваю, хоць ні сваю, да чужую:

— Пастой, міла, пацалую, пацалую.
— Нашто ж тое, нашто ж тое цалаванне,
Сэрцу тугі задаванне, задаванне.
Не задавай, не задавай сэрцу тугі,
Не возьмеш ты, возьме другі, возьме другі.
— Пастой, дзеўка, пастой, дзеўка, не журыся:
Я й шчэ молад, не жаніўся, не жаніўся,
А як буду, а як буду жаніціся, жаніціся,
Прашу піва напіціся, прашу дзіва дзівіціся.
— Тваё й піва, тваё й піва мне не міла,
Тваё й дзіва мне не дзіва, мне не дзіва,
Толькі дзіва, як мы з табой гаварылі:
Твая маці чараўніца, твая сястра разлучніца,
Разлучыла, разлучыла нас з табою,
Як рыбачку із вадою, із вадою.

166 а. Туман, туман,
Туман, туман на даліне,
Шырокі ліст на каліне,
на каліне.

Шырэй таго, шырэй таго на дубочку,
Клічыць голуб галубачку, галубачку.

Хоць не сваю, хоць не сваю, да чужую:
— Пастой, міла, пацалую, пацалую.

— Нашто ж тое, нашто ж тое цалаванне,
Сэрцу тугі задаванне, задаванне.

Не задавай, не задавай сэрцу тугі,
Не возьмеш ты, возьме другі, возьме другі.

— Пастой, дзеўка, пастой, дзеўка, не лякайся,
Яшчэ молад, не жаніўся, не жаніўся.

А як буду, а як буду жаніціся,
Прашу піва напіціся, прашу піва напіціся.

— Тваё піва мне не піва, мне не піва,
Тваё дзіва мне не дзіва, мне не дзіва.

Толькі дзіва, як ты стары не жанаты —
Твая маці разлучніца, твая маці разлучніца.

Разлучыла, разлучыла нас з табою,
Як рыбачку із вадою, із вадою.
Гарыць агонь, гарыць агонь за вадою,
Я ж не віжу за бядою, за бядою.
Гарыць агонь, гарыць агонь за лясамі,
Я ж не віжу за слязамі, за слязамі.

167. Дзяўчыначка ваду бярэ,
Каромысел гнецца.
Дзяўчыначка у вакно глядзіць,
Слёзанькамі льецца.
Маляваны каромысел
Гнецца, не ламецца,
— Дзяўчыначка, мая рыбка,
Не плач, не тужыся:
Не ўсе тыя сады цвітуць,
Што распушчаюцца,
Не ўсе тыя вянчаюцца,
Што заляцаюцца.
Цвітуць сады, цвітуць сады,
А ўсе саджоныя,
А младзенцы вянчаюцца
Ды ўсе суджоныя.

168. Дзяўчыначка, прапаў я з табою,
Патаптаў жа я жоўты боты, ходзя за табою,
Пападраў я пару сукен, па замётах лазя,
А згнаіў я дужа шапачкі, пад страхою стоя.
А спацеў я дужа хустачкі, ліцо уціраючы.
А зламаў я два ножыкі, вакно адчыняя,
А згубіў я два пярсцёнкі, на цябе шыргая,
На цябе шыргая, цябе пабуджая.

— Скажы, скажы, дзяўчыначка, усю шчырую праўду,
Ці ты мяне верна любіш, ці са мною здрадна?
— А я сяджу, я гавару, я лепшага маю.
— Прападзі ж ты, дзяўчыначка, з сваею радаю,
Я да цябе з шчырым сэрцам, а ты з няпраўдаю.
Бадай жа ты, дзяўчыначка, тады замуж пашла,
Як у млыне на камені пшанічка ўзыйшла.
— Бадай жа ты, дзяціначка, тады ажаніўся,
Як у лесе на верасе гугаль урадзіўся.
А у млыне на камені пшанічка ўзышла,
А ужэ ж тая дзяўчыначка даўно замуж пашла.
А у лесе на верасе гугаль не ўрадзіўся,
Састарыўся, як сабака, яшчэ не жаніўся.

169. Стаяла бярозачка на заходзе сонца,
Плакала дзяўчыначка, гледзячы ў аконца:
— Туды, лозы, хініцеся, куды ветры веюць,
Глядзіцеся, мае вочы, адкуль мілы едзець.
Вецер веець, сонца грэець, былінку калышыць,
А мой мілы, чарнабрывы, па тры лісты пішыць.
— Не плач, не плач, мая міла, ў тугу не ўдавайся,
За чатыры нядзелечкі мяне спадзявайся.
— А хоць жа я, маладзенька, не тужу, не плачу,
А як выйду на вулачку, сцежачкі не бачу.
А хоць жа я, маладзенька, не тужу, не плачу,
А як выйду на вулачку, ад ветру валюся.
— А чаму ж ты, дзяўчыначка, тады замуж не йшла,
Як у млыне на камені пшанічанька ўзышла.
— А чаму ж ты, бел малойчык, тады не жаніўся,
Як у бару на верасе сокал урадзіўся.

170. Па полю, полю шырокім,
Па полю па шырокім, шырокім
Чырвоны мак чырванеець,
Чырвоны мак зелянеець.
Сын у бацькі пытаецца,
Сын у бацькі пытаецца,
Па зялёным саду ходзячы,

Вінаградачку ломячы,
Зялёную тую да ягадачку,
Да чорную смародачку,
Сваёй матулі пытаецца:
— А скажы мне, матуля,
Чы мне жаніціся,
Чы мне коніка купіць?
— Не жаніся, белы малойчык,
Не бяры сабе жаны няўдалай,
Купі сабе лепей коніка.
На коніку да наездзішся,
А наездзішся — прадай ці змяняй,
Маладой жаны ні прадаць, ні змяняць,
Ні прадаць, ні змяняць, ні дарам аддаць.

171. Я не здумаю, не згадаю,
Як мне, маладой, пачаць жыць:
Чы мне дзеўкай быць, чы мне замуж іці?
Замуж пашоўшы — вяліка няволя,
Дзеўкай быці — людская мова.
Бог той даў зязюлі —
Куды хацела, туды паляцела:
У шчырыя бары на сасоннічак,
У зялёныя лугі на бярозу,
У чыстае поле на крыніцу
Піць халодную вадзіцу.

172. Баліць мая галованька і брыўца,
Не дай, не дай, мая мамуленька, за ўдаўца:
А у ўдаўца два нараўца і дзеткі.
Аддай, аддай мяне, мамулька, у сямейку,
Дзе у сямейцы парадачак усяму:
На ток пойдуць малаціць — будуць дзевяркі,
У ступку таўчы, малоць — ятроўкі,
Хатку мясці, дровы нясці — залоўкі,
Хатку тапіць, абедаць варыць — свякроўка,
А ў крыніцу па вадзіцу — я, малада.

173. А дубе, мой дубе, чаго пахіліўся,
Малады малойчык, чаму не жаніўся?
— А мамачка, вутка, жані мяне хутка.
— А сынку, мой сынку, а ты ж каня маеш,
А ты ж каня маеш, з канём размаўляеш,
А сам жа ты пойдзеш гарэлачку піці,
А коніка aставіш сыру зямлю біці.
— А конік, мой конік, а што ж табе цяжка,
А што ж табе цяжка, ці не мая зброя?
— А мне ж твая зброя ні цяжка, ні лёгка,
А толькі мне цяжка — доўгія дарожкі,
Доўгія дарожкі, частыя карчомкі,
Частыя карчомкі, шкляныя чарачкі,
Шкляныя чарачкі, маладыя шынкарачкі.

174. А ў гародзе да на пагодзе
Ульянка рожу шчыплець.
Каля плоту, каля замёту
Сужанька коні гоніць,
У Ульянкі рожу просіць:
— Падай, Ульянка, падай, душанька,
За шапачку вутачку.
— Не дам, душанька, не дам, сужанька,
Баюся татухны.
— Не бойся, Ульянка, ты свайго татухны:
Таткава сляза, як летня раса,
А мае прыгрозы, як люты марозы.

175. Пахіліўся зялёненькі дуб
Да белай бярозы.
Пасварыўся малады Марцінка
З сваею жаной:

— Нанасіўся тоўстых сарочак,
Кароткіх анучак,
А наспаўся: кулачок пад бачок,
А другім накрыўся.

Пахіліўся зялёненькі дуб
Да белай бярозы.
Пахваліўся малады Ціхонка
Сваею жаной:

— Нанасіўся тоненькіх сарочак,
Беленькіх анучак,
Наспаўся ў цясовай краваці,
У пуховых падушках.

176. Пайду я гуляючы,
Тры двары мінаючы.
У чацвёрты увайду,
Пастаю, паслухаю.
А ж там людзі судзяць,
Маю свякроў гудзяць.
Дзіўныя вы людзі,
Чаму ж вы мне не сказалі,
Як мяне вянчалі,
А цяпер так будзець,
Як Госпад Бог судзіць.

177. Учора ў піру была,
Сягодні з піру прыйшла,
У свёкаркі журбу знайшла.
Свёкар журыць, журыць,
А свякроўка паднашчаець.
Мой мілы па сянёх ходзіць,
У руках шапачку носіць,
Ён свайго татухну просіць:
— Татухна, родненькі,
Не бі жану п’янюсенькую,
Бі жану цвярозую
Белаю бярозаю;
Бярозка за ўсё бялей,
Мне жана за ўсіх мілей.

178. Ой, у полі да ў чысценьком
Тры садочкі зелянюсенькі:
Ў першом садочку пташачка салавей пе́е,
У другом садочку зазуль кукавала,
А ў трэцём садочку матка з сынам да размаўляла:
— Мой ты сыночку найроднейшы,
Да хто ў цябе наймілейшы?
Да чы цешча, да чы жонка,
Да чы матка родненька?
— Да у мяне цешча міла на прывет,
Жонка міла, як добры быт;
Матка ж мая родненькая,
Ты мне мілейша за ўвесь свет.
Ты ж мяне цяжэнька насіла,
Яшчэ цяжэй радзіла;
Сорак свечак ясненькіх спаліла,
Покі мяне выкарміла;
Сорак ночак цёмненькіх не спала,
Покі мяне, маладзенькага, згадавала.

179. Баліць мая галовачка, а вой, не магу!
Сказала б я шчыру праўду, не маю каму,
Што мой мілы чарнабрывы не дружна жывець,
Каля маіх вароцікаў к чужой жане ідзець.
— Загарадзі, суседачка, вішанькамі двор,
Каб ні зайшоў, ні заехаў к табе мілы мой.
Малявана калясачка, вараненькі конь,
Ніхто к табе не паедзець, толькі мілы мой.

180. Як пайду я ціхонька, ціхонька
К татку пад аконка:
— Адчыні, татка, новыя
Цясовыя дзверы,
Падай, татка, новыя вядзёркі,
Шаўковыя пачопкі.
— Ты, дзіцятка, чаго рана ходзіш,
І куры не пяялі, і гусі не крычалі.
— Ах, мой татка,

Свякраткава нега
Горш тваёй няволі.
— Ты, дзіцятка, узяла сваю волю,
Цярпі няволю.

181. У лузе салавей калінку клюець,
Ліхая свякроўка нявестку журыць.
Шлець яе маладу на Дунай па ваду.
На маё бяздолле пятух не пяяў,
Пятух не пяяў, гусак не крычаў,
Толькі адзін ваўчышча за гарою выець.
Плакала малада, к Дунаю ідучы,
А зачуў міленькі, коні пасучы.
— Нябось, мілая, я коні пасу,
Я коні напасу і вады прынясу.
— Чарпай, міленькі, вёдры паўненькі,
Нясі, міленькі, памалюсеньку,
Пастаў, міленькі, у сенях на лаўцы,
Не кажы, міленькі, а сваёй мамцы.
Вот табе, свякроўка, з Дунаю вада,
Умыйся, напіся з поўнага вядра.
— Я ж цябе, нявестка, не вады слала,
Я ж цябе, нявестка, з свету збаўляла.

182. Каліна-маліна,
Не стой над ракою,
Не стой над ракою,
Не раўніся са мною.
Было тады раўнавацца,
Як я у мамухны была,
Бялей твайго цвету цвіла,
Чырваней тваіх ягадак.
Як дасталася к свякратку,
Нpropдному татку,
Стала тонка, як былінка,
А беленька, як ліпінка.

183. Каліна-маліна рана зацвіцела,
Малада дзяўчына замуж захацела,
Замуж захацела, леты патраціла.
— Слугі мае, слугі, слугі маладыя,
Запрагайце коні, коні вараныя,
А паедзем леты даганяць.
— Малада дзяўчына, конікаў паморыш,
Конікаў паморыш, летаў не дагоніш.
— Божа, мой Божа, Божа мой адзіны,
Вярні мяне, Божа, з чужой краіны.
У чужой краіне ляскоткі ляскочуць,
У сваёй краіне ляскоткі гавораць.

184. Пайду я к роду з нялюбым другам,
З нялюбым другам уздыхаючы.
Нялюбы кажаць: чаго уздыхаеш?
— Нашто пытаеш, калі не знаеш.
Ёсць у майго таткі сад ля рэчанькі.
Пусці, татачка, у сад пагуляці,
Я не буду вішань шчыпаці,
Толькі выламлю вінаградачку —
Нялюбаму перасадачку.

185. Сонца за лес апускаецца,
Госці дамоў раз’язджаюцца.
Дачка матку праводзіла,
Сама стала пад яблынкаю,
Сама стала пад кудравенькай.
Аглянулася яе маманька,
Аглянулася яе родная:
— Чаго стаіш, дзіцятухна,
Чы травіцай ты прыпутана?
— Ах ты, мая маманька,
Ах ты, мая родная,
Ні травіцай я прыпутана,
Ні расіцай я прырошана,
Прыпутала чужа староначка,
Прыпутала незнакомая,

Да шчэ к таму чужы бацька,
Шчэ к таму чужая матка.
Чужы бацька пасварыцца,
Чужая матка папракаецца.

186. Ах ты, салавейка, ах ты, шчабятунчык,
Не лятай рана па расе, не абівай расы,
Ababiў расу мой татулька,
Ка мне ходзячы да пытаючы:
— Чы жывеш далёка, чы гаруеш?
— Ах, мой татулька, ах, мой родненькі,
Не так жыву, як гарую,
Без пасцелькі спаткі кладуся,
Без вадзіцы бела мыюся,
Без румянку румянюся.
Спатачкі кладуся на сырую зямлю,
Ай, вымываюся дробнымі слёзкамі,
Уціраюся тоненькім рукавочкам.
Мой свякрочак майму біццю журыцца,
Мяне б'ець, журыць, сам у пір паязджаець.
У піру сядзіць, пахваляецца,
Добра гэто біць чужое дзіця,
Чужое дзіця не ўпіраецца,—
Татка слёзкамі абліваецца.

187. Павей, павей, вецярок,
З нашай далёкай стараны,
Ад роднага татачкі,
Ад роднага баценькі,
Гдзе мой міленькі жывець,
На краватцы ляжыць,
На краватцы ляжыць
Да з-пад шапачкі глядзіць.
Жана, шэльма, сварліва,
Чэраз мой дварэц ідзець,
Чэраз мой дварэц ідзець
І як вуціца плывець.
Як увіджу персцянёчак,

Баліць мой жываточак.
Як увіджу калечка,
Баліць маё сярдзечка.

188. Старана мая, староначка,
Не магу цябе пазабыці,
Да ні ў дзень ходзячы,
А ні ў ночы сплючы.
У дзень ходзячы, на сэрцы трымаю,
У ночы сплючы, сны сню.
Стану ў полі — гукаецца,
Брат з сястрыцай вітаецца,
Брат з сястрыцай вітаецца,
Аб сваёй радзіне пытаецца.
— Брацітка, салавеечка,
Чы даўно бываў у сваёй старане,
Чы відзеў ты айца, матушку,
Айца, матку, брата з сястрою?
— Сястрыца мая, родная мая,
На сваёй старане пабываў,
На сваёй старане пабываў,
Айца, матку пахаваў,
Айца, матку пахаваў,
Брата з сястрыцаю адведаў.

189. А ў нядзелю рана на зóру займала,
Жана ў мужа папытала:
— Куды ты паедзеш, мой мілы дружочак,
А без маёй ведамосці?
— Туды я паеду, куды коні пойдуць,
Адступ, жана нялюбая!
— А дзе ж ты заначуеш, мой мілы дружочак,
А без маёй ведамосці?
— Там я заначую, гдзе ночанька абойме,
Адступ, жана нялюбая!
— А што ж ты пасцелеш, мой мілы дружочак,
А без маіх падушачак?
— У полі гарушкі — то мае падушкі,

Адступ, жана нялюбая!
— А чым ты накрыешся, мой мілы дружочак,
А без маёй дзяружкі?
— А ў мяне дзяружкі, сярмяжкі, кажушкі,
Адступ, жана нялюбая!
— Чым жа ты умыешся, мой мілы дружочак,
А без маёй вадзічкі?
— А ў мяне вадзіца — сцюдзёна крыніца,
Адступ, жана нялюбая!
— Чым жа ты утрэшся, мой мілы дружочак,
А без майго ручнічочка?
— А ў мяне ручнічочак — тонкі рубавочак,
Адступ, жана нялюбая!

190. Ах ты, стары, ты старусенькі,
Узяў мяне маладзюсеньку,
А сцяў, змяў маладосць маю
І вясёлую галовачку.
Сама сабе я дзівуюся,
Што я, молада, старая стала,
Чы з позняга угляданейка,
Чы з ранняга уставанейка,
Чы з слёзнага абліванейка.

191. А Божа мой мілюсенькі, што я учыніла,
Усе людзі паабедалі, а я печы не тапіла.
Не буду я печы тапіць, не буду варыці,
Няма майго міленькага, не з кім гаварыці.
А мой мілы чарнабрывы за быстрай ракою,
Ён п'ець і гуляець з чужою жаною.
А я ж тую быстру рэчку бродам перабрыду,
А я свайго міленькага к сабе перабуду,
Парай жа мне, мамуленька, як з нялюбым жыці.
— Сядзь жа, маё дзіцятачка, за цясовым столам,
А назаві нялюбага ясным саколам.
— Валей жа мне, мамуленька, цяжкі камень узняці,
Чым таго нялюбага саколам назваці.
А лепей жа мне, матуленька, горкі палын есці,
Чым з нялюбым, не каханым за столікам сесці.

192. Ах, у лузе калінушка,
А ў бару стаіць сосна.
Гдзе я пайду, прыхінуся,
Усё на маім сэрцы тошна.
Лугі мае зялёныя,
Ды ўсё не кошаныя,
Поле маё шырокае,
Ды ўсё не аранае.
Валы мае палавыя
Яшчэ не паёныя,
Коні мае вараныя
Яшчэ не пасаныя.
Пайду я к свайму татку на парадку:
— Парадзь, парадзь, татулёнька, як мне
гараваць,
Як мне дзетак падхаваць.
— Гаруй, сынку, гаруй родны,
Будуць паля паараныя,
Будуць лугі пакашоныя,
Будуць валы палавыя
Ўсе накормленыя,
Будуць коні вараныя
Ўсе напоеныя,
Будуць твае дзеткі
Падхаваныя.

193. А ўжо вечар вечарэе,
Мая матка вячэрае,
Завуць мяне вячэраці:
— Хадзі, дзіця, вячэраці!
— Вячэрай, мая матухна,
Вячэрай, мая родная,
А я ўжо вячэрала,
Не сухі я хлеб ела,
Ела, ў соль макаючы,
А слёзкамі праганяючы,
Сваю долю ўспамінаючы:
От дзе ж мая доля?
Чы ў агне згарэла,

Чы ў лесе заблудзіла,
Чы на вадзе патанула?
Да каб у агне згарэла,
Я ж бы ручкі пагрэла,
Да каб у лесе заблудзіла,
Дак бы лясы шумелі,
Да каб на вадзе патанула,
Я б бядою лоб памыла,
Чы не была б шчасліва?

194. Нікому так не тошненька, як мне, маладзе,
Асталася ад радзіны, як ліст на вадзе.
Як выйду ж я за вароты — зялёна трава,
Як выйду я за другія — чужа старана,
Як выйду я за трэція — вішнёвенькі сад.
А ў сад пашло дзве дарожкі, міма сад адна,
А ў сад пашло дзве сястрыцы, міма сад адна.
Вы сястрыцы, вы родныя, галубкі мае,
Будзеце ж вы шчыпаць вішні, шчыпліце і мне.
Пойдзеце ж вы к айцу, к матцы, хочацца і мне,
Паложыце на талерцы, кладзіце й мае.
Будзеце вы піць, гуляць, спамянце мяне:
Ах, як наша бяздольніца ў чужой старане —
Да чы жывець, чы гаруець, чы бяду бядуець?
Сядзіць сабе пад аконцам, як на рожы цвет,
Выплакала свае вочкі, не волен ёй свет.

195. Аддаў мяне татка
Ды ў багатую хатку.
А даў жа мне коніка што найлепшага,
Сакала найяснейшага.
Пажыла я, малада, гадочак,
Называюць мяне неразумнаю,
Называюць майго коніка:
— Ах ты, канішча, варанішча!
Называюць майго сакала:
— Ты варона падсмалёна!
Называюць майго хорціка:

— Ты сабака валачашчы!
Як пайду ж я, малада,
Ды цёмнінькай ночай
Каля таткавага церама,
Каля мамчынага акна.
Увідзела мяне мамка з высокага церама:
— Пажджы, маё дзіцятухна, я у цябе распытаюся
Аб тваё жыццё.
— Некалі, мамачка, мне стаяці
І з табою гукаці,
Стаўшы гукаці — мне наплакацца.
Мая мамка, вазьмі ксёнжку старасвецкую,
Дай яе брату што найменшаму,
Свайму сыну наймілейшаму.
Як стаў мой брацітка чытаць,
Яго вочкі змітусіліся,
Яго ручкі апусціліся.
— А мая ты мамачка,
Утапіла сваё дзіцятачка:
Ані золатам яе не выкупім,
Ані серабром не выручым,
Сівым канём не вывезем!

196. У лузе салавей калінку клюець,
Ліхая свякроўка нявесту журыць,
Шлець яе маладу ў Дунай па ваду.
На мае бяздолле пятух не пяяў,
Пятух не пяяў, гусак не крычаў,
Толькі адзін ваўчышча за гарою выець.
Плакала малада, к Дунаю ідучы,
А зачуў міленькі, коні пасучы.
— Не бойся, мілая, я коні пасу,
Я коні напасу і вады прынясу.
— Чэрпай, міленькі, вёдры паўненькі,
Нясі, міленькі, памалюсеньку,
Пастаў, міленькі, у сенях, не бойся,
Не кажы, міленькі, а сваёй мамцы.
— Вот табе, свякроўка, з Дунаю вада,

Умыйся, напіся з поўнага вядра.
— Я ж цябе, нявеста, не вады слала,
Я ж цябе, нявеста, з свету збаўляла.

197. Чырвоная калiначка
Ў зялёны луг схiлiлася,
Ў зялёны луг схiлiлася,
Я, малада, зажурылася,
Што ад роду адбiлася.
Ай, ад роду, ад радочку,
Цяжка майму жываточку.
Цяжка жыцi, цяжка быцi
Ў чужой земцы маладзiцы.
Ой, пайду я гуляючы,
Сваёй долi шукаючы.
Адклiкнiся, мая доля,
На тым боку сiня мора.
А прыплывi, мая доля,
А к крутому беражочку,
А к крутому беражочку,
А к лiповаму кусточку,
А напiшам па лiсточку,
Мы ж напiшам па лiсточку
I пашлём iх да радочку,
Няхай радня прачытае,
Назад пiсьма адсылае.

198. Ой, нашто ж мне свайго мiлага гудзiць,
Калi ён мяне, маладу, да не раненька будзiць.
Да сам iдзе да на ток малацiць,
А мне, маладзенькай, вялiць легчы запачыць.
Ой, сам iдзе да ў поле арацi,
А мне, маладзенькай, вялiць iцi гуляцi.
Ой, iду я, iду гуляцi,
Кроiць жа маё сэрцайка на часцi.
Ой, мае суседачкi i п'юць i гуляюць,
А мяне, бяздольную, адну акаляюць.
Ой, выйду я на вулачку, рассыпаны карты,

Ой, гдзе ж мае дзявоцкія падзеліся жарты?
Ой, выйду я на вулачку, рассыпаны суніцы,
Ой, гдзе ж мае падзеліся дзявоцкія вечарніцы?
Ой, выйду я на вулачку, рассыпаны дулі,
Ой, гдзе ж мае дзявоцкія падзеліся гулі?
Ой, выйду я на вуліцу, рассыпаны вішні,
Ой, гдзе ж мае дзявоцкія падзеліся мыслі?
Ой, выйду я на вулачку, раскіданы дровы,
Ой, бедная ж я, маладзенька, сяджу, як удова.
Ой, крутая бярозанька, што пад гаем зросла,
Няшчасная нядзелечка, што я замуж пошла.
Ой, крутая бярозанька воду замуціла,
Няшчасная гадзінанька замуж пракруціла.

199. Дзе я радзілася, там не была,
Дзе мяне цёмная ноч абняла.
Куды мяне мамулька аддала —
За цёмныя лясочкі,
За жоўтыя пясочкі.

200. Пахіліцеся, лозы, ад дуба да бярозы,
Каб мне было відно да ойчанькі майго.
Лозанькі схіліліся, да хмаркі явіліся,
Такі мне не відно да ойчанькі майго.
Такі ж мне не відненька да ойчанькі
Майго радненькага.

201. Каюся млода, а не памалу,
Што млода замуж пайшла.
Жыву я гадок, жыву другі,
У мамкі не бываю.
Абярнуся я шэрай зязюляй
І палячу ў мамкін сад.
Сяду ў мамкіным саду
На белай лілеі.
Як закукую, як зашчабячу
Жаласным галасочкам.
Чы не пачуе мая маменька,

Пад аконцам седзячы.
Як выйшаў старшы брацец
З новага церама:
— Калі зязюля, калі шэрая,
Ляці ў шчырыя бары,
Калі сястрыца, калі родная,
Хадзі ка мне ў госці.
— Ах, добра табе, мой брацетка,
Гдзе радзіўся, там і жыць,
А я, маладзенька, у чужой старане,
Цяжанька мне жыць.
Чужа старана тугою арана,
Слязьмі засеяна.
Свая старана сошкаю арана,
Пшонкаю засеяна.

202. А жужнела пчолачка,
Да па бару лятаючы,
Салодкі мёд збіраючы.
А плакала ўдовачка,
Вячэрачку гатуючы:
— Страўка мая кухарная,
З кім жа цябе вячэраці?
Дзеткі мае дробненькія,
З кім жа вас гадаваці?
Ночка мая цёмненькая,
З кім жа цябе начаваці?

203. Ах вы, столікі мае цісовенькія,
Чаго ж вы стаіце не засланенькія?
Ах вы, госцікі мае любовенькія,
Чаго ж вы сядзіце не частованыя?
Чы мой хлябец пушон, чы мой муж не вясёл?
Калі хлябец пушон, то я выпалаю,
Калі муж не вясёл, то я выпытаю,
Мужыковы наравы да я выведаю.
Кунні, рыссі сабалі на вароціках вісяць,
Мужыковы наравы на плечках баляць,
На плечках баляць і ў галоўках шумяць.

204. Да пайду я каля гаю, выжану сакала з гаю,
Не сакала выгнала, але свайго ойчаньку.
— Ойчанька мой родненькі, ружовы квеце,
Пабывай у мяне хаця раз у леце.
— Дзіцятка маё дарагое,
Як мне ў цябе пабываць —
Улетку за пяскамі, зімою за снягамі,
А вясною за вадою!
— Улетку ў карэце, а зімою ў вазочку,
А вясною ў чаўночку.

205. Не дорага піва п’янае,
Ды дорага пасядзенейка,
Муская пагуканейка,
Муская гаспадарская.
А ў бяседзе людзі добрыя,
Гукаюць яны муское:
А будзем мы піва варыць,
А будзем мы сыноў жаніць,
А будзем мы гарэлку гнаць,
А будзем мы дачок даваць.

206. Піў бы я мёд і віно,
Цяжка пахмелле маё.
Людзі, суседзі мае
П’юць і гуляюць у мяне,
Судзяць, гаворaць аба мне,
Штоб я пакінуў жану,
Штоб я пакінуў маладу.
Аж не, сумленне маё,
Я не пакіну жану,
Я не пакіну маладу,
Жонка — пакраса мая,
Дзеткі — пацеха мая,
Жана — пакраса ў піру,
Дзеткі — пацеха ў даму.

207. Ах ты ж, мая гарэлачка,
А я ж цябе люблю.
А хто ж цябе будзець піці,
Як я, малада, умру.
Будуць піці і гукаці
Суседачкі мае,
Будуць яны ўспамінаці
Піяшачку, мяне.
А каб жа я, піяшачка,
Каб піяшачкай была,
А я б сваю худобачку
За дзень прапіла.

208. А чы поўна арэхава чаша,
А пад зарой стоя?
Стаіць поўна, ні скалыхнецца,
Ні пральецца.
А чы поўна ў нашага ягамосця
Сталоў настаўляна?
А так поўна, канямі не праедзеш,
Пехатой не пройдзеш.
Толькі можна сокалам ляцеці,
Добра паглядзеці.
Толькі можна добра паглядзеці,
На жал паляцеці.

209. Госцікі мае любыя,
Чым я вас частаваць буду?
Боб, гарох не малочан,
Сачывіца у копах стаіць,
Шчука-рыба да на возеры,
А рыбакі на рыначку,
П’юць яны гарэлачку.

210. Шэры гусі ляцелі,
Летучы гаварылі:
— Ці з’елі б дзве ягадкі?
А ў бару бруснічанькі,

А ў полі сунічанькі,
А ў доме да гасцінка.
А ў доме да гасцінка,
Да дачка ў татанькі.
Дачка дамоў ад'язджаець,
А татанька не пушчаець:
— Гасці, дзіця дарагое,
Гасці, дзіця дарагое,
За маею галавою,
За сваею красатою.
А як мяне не будзець,
І гасціці прызабудзеш,
Зарастуць і сцежачкі,
Зарастуць дарожачкі
Да дуб'ём, бярэзнічкам,
Да горкім асіннічкам.

211. Сівы галубочку, сядзі на дубочку,
Выклікала матка сына з карчмы да дамочку.
— Ой, хадзі, мой сынку, з карчмы да дадому,
Забіраюць арандары ўсю тваю худобу.
— Я сам тое бачу, што худобу трачу,
За дробнымі слёзанькамі я свету не бачу.

212. — Сіні салавейка, чом ты не спяваеш,
Чы ты, салавейка, голасу не маеш?
— Патраціў я голас па зялёным гаю,
Па зялёным гаю, па ціхім Дунаю.

— Чаму ты, малады, чаму не гуляеш?
Чы ты, малады, шчасця, долі не маеш?
— Патраціў я долю цераз сваю волю
У новай карчомцы, на горкай гарэлцы.
Цяпер жа мне некуды павярнуць яе.
Усё маё сяло у Боруха на водцы,
Тут мае конікі, тут мае волікі,
Тут мая адзежка, тут мае грошыкі!

213. Чуць, мамачка, чуць,
Гдзе молайцы п'юць!
А шчаслівая тая вулачка,
Ды куды яны ідуць.

— Мамачка мая,
Родная мая,
Не 'тдавай мяне за п'яніцу,
Я ў цябе адна.

— Дачушка мая,
Родная мая,
Выбірай сабе, выглядай сабе,
Ты яшчэ малада.

— Мамачка мая,
Родная мая,
Да не выбрала сабе доленькі,
За п'яніцу пайшла.

— Дачушка мая,
Родная мая,
А вясёлая твая долечка
Травой зарасла.

Травой зарасла,
Рэчкай заплыла,
А чырвонаю калінкаю
Завесілася.

— Дайце ж мне касу,
Траву пакашу,
А чырвоную каліначку
У пучкі павяжу.

У пучкі павяжу,
Рэчку намашчу,
А тады ж сваю я матулечку
Ў госці запрашу.

214. Наварылі два брацікі
Пшанічнага піва.
А зазвалі два брацікі
Сястрыц у госці.
Па багатую сястрыцу
Тры паслы пасылаюць,
А худой сястрыцы
Цераз людзей наказалі.
Багатую сястру
За варотамі пераймаюць,
А худую сястру
На парозе не спаткаюць.
Багатую сястру
На покуце саджаюць,
А худую сястру
Каля печы на лаўцы.
Багатую сястрыцу
Мёдам, півам частуюць,
А худую сястрыцу
Горкаю гарэлкаю.
Багатую сястрыцу
На тры ночкі упрашаюць,
А худую сястрыцу
Проці ночы выпраўляюць.
А худая сястрыца
За вароцечкі выйшла,
За вароцечкі выйшла,
А сільненька заплакала:
— Сабярыцеся ўсё звяр'ё,
Разарвіце мяне,
Не хадзіла б я,
Не валачылася б,
Брацікам не дакучала.
Як зачула ж гэта
Сястрыца багата:
— А вы брацікі мае,
А вы родныя мае,
Даганіце ж вы яе,
Перапрасіце ж вы яе.
А частуйце ж вы яе,
Чым мяне частавалі,
А кладзіце спаці
Ў цясовай каравацї.

215. Прыехалі два брацеткі
К сястрыцы у госці.
— Адчыніся, сястрыца,
Адчыніся, гаратніца.
— А пастойце, брацеткі,
А пастойце, родныя,
Маёй сям'і дома няма,
Свякроў і свякроўка ў піру,
Залоўкі на ігрышчы,
А дзевяр'ё па суседзях,
А мой мілы ў церамочку,
У беленькім палажочку.
— Адчыніся, церамочак,
Адчыніся, мой дружочак,
Прыехалі к нам госцікі,
Мае браты, твае швагры.
— Адступіся, нялюба,
Адступіся, няміла,
Твая радня пастыла.
— А брацейкі, мае родныя,
Пакланіцеся маёй мамцы,
Што вы ў мяне пабывалі,
Вароцеткі не 'тчынялі,
З страмён ножак не выймалі
І з конікаў не ссядалі,
За столікам не бывалі,
Хлеба, солі не спыталі.

216. Шчыглік невялікі грамаду збірае,
Сам не хоча адзін жыць, жаніціся мае.
Узяў сабе пеіцу, бараву сініцу —
Красную, ясную вераб'я сястрыцу.
Паслаў арла, паслаў арла ўсё птаства збіраці,
Арол напаў на гусей, давай мардаваці.
Два снягіры, два снягіры да шпака спаймалі.
А вароны за той час каравай згібалі.
Два каплуны, два каплуны солад малацілі,
Курапатва з цяцераю да млына насілі.
Бацян меле, бацян меле, а крук засыпае,

А варобчык, добры хлопчык, муку выбірае.
Перапёлка, перапёлка хату замятае,
Сава сядзіць на покуце, скоса паглядае.
Сядзіць дзяркач на парозе, сядзіць на парозе,
Пугач, пугач упіўшыся ляжыць на марозе.
А сарочкі, а прыданкі скачуць каля лаўкі,
Бедна наша галованька, не маем прыганкі.
А чаечка з кулічком на вяселлі грае,
Кулік чайку, кулік чайку ўзяў за чубайку.
Чайка кугіча: згінь ты, куліча!
А зязюля, а вазніца добрая пеіца,
Залатыя крылы мае, так гучна спявае,
А чмель мёду дадае і гасцей прымае.

217. Жана мужа біла, біла,
У памыйніцы намачыла,
Узяла яго за чупрыну,
Укінула у пярыну:
— Ляжы, ўражы сыну, тут,
А я пайду шукаць кнут.
Пайшла яна шукаць кнут,
Як усхадзілася,
Зміласердзілася.

218. Біла жонка мужыка, рукі закасаўшы,
А ён яе перапрасіў і шапачку зняўшы.
— А дзякуй жа, мая міла, што нямнога біла,
Куплю табе гарнец мёду і кубачак піва.

219. На ціхум Дунаю жаўнер коніка сядлае,
Конік цяжка уздыхае.
— Ой, коню, мой коню, чаго цяжка уздыхаеш?
Чы я табе цяжак, чы сядло залатое?
Чы сядло залатое, чы сукенкі дарагія?
— Ні ты мне цяжак, ні сядло залатое,
Ні сядло залатое, ні сукенкі дарагія,
Ой, цяжкі мне, цяжкі твае доўгія залёты.
Сам паедзеш у залёты, каня ўвяжаш да плота,

Да на буйненькам ветру, да на дробненькам дажджу
Стаіць конік гадзіну і другую палавіну.
— Да пакінь, пане, ў карты граці, паедзем ваяваці
На прускую граніцу, на варшаўскую вуліцу,
Знайдзем там паненку тонку, як былінку,
Знайдзем і другую да саўсім не такую.

220. Служыў Ясь ваяводзе,
Выслужыў Касеньку, маладу жоначку.
Кася лісты пісала і да Яся пасылала:
— Едзь, Ясю, дадому, збудуй нову камору,
Штоб я мела, гдзе ляжаць, свае дзеткі гадаваць.
Прыехаў Ясь дадому, праводзіць Касю да гробу.
— Ой, пакажыце Касю мне, пагляджу, чы не жыве.
Ляжыць Кася на дошцы, малы сын у калысцы.
— Люлі, люлі, сыну мой, нашто цябе Бог стварыў?
Нашто цябе Бог стварыў, што ты Касю умарыў?
Сястра тое як учула, да на Ясю крыкнула:
— Ой, не кляні ты яго —
Табе жонка зараз будзець, яму маткі не будзець,
Яму маткі не будзець!
Табе жонка ў вяночку, яму матка ў пясочку.

221. Зажурыўся ясны сакалочак,
Што не рана з выраю вылятае:
Негдзе сесці гнязда звіці.
Сяду, паду у вішнёвым саду,
Саўю гняздзечка з зялёнага дрэва.
За гарою снягі выпадалі,
На даліне быстры рэчкі сталі,
Усе салдаты ў паход выступалі.
Ў агародзе зацвітала рожа,
Пазнала матка сына ў паходзе.
— Вярніся, сынку, дадому,
Змыю табе бела галоўку.
— Змывай, маці, сабе, не мне,
У полі дажджы дробныя,
Змыюць дажджы галоўку,

А высушаць вятры буйныя.
— Вярніся, сынку, дадому,
Пасцялю табе белу пасцельку.
Сцялі, маці, сабе, не мне,
Ой, у полі травы шаўковыя,
Для салдата пасцель гатовая:
Яловая шышачка —
Салдацка падушачка,
Кляновым лісточкам апрануся,
З сваім таварышам высплюся.

222. Зашумела яліначка позна а паўночы,
Затужыўся бел малойчык, на вайну ідучы,
Затужыўся, занудзіўся і стаў паміраці.
— Ах вы, братцы, чужыпанцы, учыніце волю,
Прывядзіце мне коніка да з усёю зброяй —
Як я сяду да паеду, аж на вайне стану.
— Заржы, заржы, сівы коню, хоць раз пада мною,
Каб зачула мая матка у маёй староне!
Як зачула, уздыхнула, сільна заплакала:
— Каб я была зязюлечка, я ж бы паляцела.
Памёр, памёр бел малойчык у нядзелю рана,
Палажылі малойчыка ў святліцы на лаўцы,
Пахавалі малойчыка у траўцы, мураўцы.
Прыляцела зязюлечка да сказала: ку-ку!
— Падай, падай, мой сыночак, хоць правую руку.
— А рад бы я, мая маці, абедзве падаці,
Сыра зямля, жоўты пясок, няможна мне ўстаці.
Ляцеў пятух цераз рэчку, крыкнуў: кукарэку,
Не відзела матка сына, не відзець да веку.

223. Бедна мая галованька,
Што чужая старонанька,
Бедна, бедна, няшчасная,
Мяне доля не спазнала,
Як ракруцікаў лавілі,
Назад ручкі павязалі,
Рэзвы ножкі акавалі.

У нядзелю параненька
Выбіраюць фурманенькаў
Да да двара прысылаюць,
Да ракруціка саджаюць.
Самі сядуць па задочку,
Мяне садзяць ў перадочку
Ракруціка паганяюць,
Ракруціка разважаюць.
— Цыць, ракруце, не журыся,
Яшчэ молад, не згодзішся.
— Я б не плакаў, не журыўся,
Каб я, молад, не згадзіўся.
Вязуць мяне ў гарадочак,
Ў гарадочак, у Наваградак,
Садзяць мяне за столічак,
Голяць маю галованьку.
Півам, мёдам напаілі,
Пірагамі накармілі,
Ў камяніцы спаць лажылі.
— Ляж, ракрут, перасыпайся,
Да да муштру прыбірайся.
— Прыхіліўся я к яблыньцы,
Мне яблыня не матуля,
Зялёная, не родная.
Прыхіліўся да явару,
Да мне явар не ойчанька,
Зялёненькі, не родненькі.
Я без маткі, я без айца,
Блукаюся, як аўца!
Без сястры, без брата,
Я бедны сірата!

224. Жана па новых сенях ходзіць
Свайго мілага просіць:
— Начуй, начуй, мілы, хоць адну ноч у мяне.
— Начаваў бы я і тры —
Ужо мае коні запрэжаны,
Ужо мае служкі засядзеліся.
Як выйду я на вулачку —

Усе мужы з вайны едуць, —
Майго не чуваць, не відаць.
Майго мілага толькі конік бяжыць,
На том коніку сядзёлачка ляжыць,
На сядзёлачцы хустачка ядвабная.
Ехалі каля аконца, ўкінулі ў аконца —
Я ж думала хустачку ядвабную,
А ж кашулячку крывавую —
А з вялікімі прыгрозамі:
Каб без вады вымыта была,
Без ветру высушана была,
Без качалак слізка выкачана.
Я молада дагадліва была:
Слёзкамі бела вымыла,
Уздыхаючы цяжка, высушыла,
Ручкі ломячы, слізка выкачала.

225. Каму ночка вяліка,
А мне ночка малюсінька.
Я ўсю ночку не спала —
З міленькім размаўляла.
А мой мілы рана ўстаець,
Ён коніка гатуіць і шабельку шаруіць,
На вайну паедзець, мяне дома кінець.
— А мой мілы, мілюсенькі,
Вазьмі мяне з сабою,
Назавеш мяне слугою.
Ты будзеш страляці,
Я стрэлачкі пабіраці,
Табе ў ручкі даваці.
— Ах ты, жонка, жонухна,
Жонкі на вайну не язджаюць,
Яны дома прабываюць,
Хаты даглядаюць,
Малых дзетак гадуюць.
Як адтуль я вярнуся,
Прывязу табе гасцінца:
Казловыя чаравічкі,
А бяловыя панчохі.

226. З-пад лесу, з-пад цёмнага,
З-пад кусточка зялёнага
Вылятае птушачка райская,
Выносіць пісьмо панскае,
На скрыдэльку напісанае.
Як бы нам тую птушачку паймаці,
Як бы нам тое пісьмо перачытаці?
Паймала тую птушачку матуля,
Тры сынкі родненькія маючы.
Як прачытала, то заплакала,
Катораму да шчасце даці:
Да ці старшаму, ці малодшаму,
Да ці Грыгорку серадольшаму?
Той жа беленькі і харошанькі,
Яна яго спадабае,
Будзе шчаслівы і галаслівы
Да на цэлым свеце,
Што спадабала да і ўзяла
Паненка з Украіны.
— Ой, прыбірайся, Грыгорка, сынка,
Шчаслівы ты будзеш.
Едзь на Украіну у шчасліву гадзіну,
Там век каратаці будзеш.
Ёсць жа там панна, што цябе возьме
За мужа і за пана.
Памятай, сынку, на сваю дружынку,
Калі цябе шчасце спаткае.
Штоб не забыўся, што навучыўся,
Як Бога знаці, на зямлі гараваці.

227. Ой, у полі пад вішанькаю
Там казачок забіты ляжыць,
Над ім конік вараны стаіць,
Капыцейкам землю сячэ,
Свайму пану вады дастае.
— Табе, коню, вады не дастаць,
А мне, маладому, ад зямлі не ўстаць.
Бяжы, коню, да новага двара,
Выйдзе да цябе старая жана,

Старая жана — то матка мая.
Будзе ў цябе сынка пытаці,
Не кажы, коню, што забіт ляжу,
Да скажы, коню, што ажаніўся.
— Што ж у яго за сваты былі?
— Былі ў яго сваты зялёны дубы.
— Што ж у яго, коню, за музыка быў?
— Быў у яго музыка, зялёны явар.
— Што ж у яго, коню, за сванька была?
— Была ў яго сванька, чырвона калінка.
— Што ж у яго, коню, за дружкі былі?
— Былі ў яго дружкі — белы бярозкі.
— Што ж у яго, коню, за млода была?
— Была ў яго млода — арабіначка,
У чыстым полі да магілачка.

228. У чыстым полі пад белай бярозкаю
Белы маладзец сачывачку косіць.
Пакасіўшы, караватачку сцеліць,
А паслаўшы, спатычкі кладзецца.
Як насталі буйныя ветры
І забілі малойца ў караватцы.
Некаму па ім кукаваці,
Ай, некаму па ім шчабятаці.
Прыляцелі тры зязюлькі з бору,
Прыляцелі тры шэранькіх з бору.
Яны сталі па ім кукаваці,
Яны сталі па ім шчабятаці.
Адна села ў малайца ў галоўцы,
Другая у малайца на сэрцы,
А трэцяя ў белых ножках яго.
А як сталі па ім кукаваці,
А як сталі па ім шчабятаці,
Як родныя маткі па дзіцяці.
Што ў галоўцы — то яго мамулька,
Што на сэрцы — то яго жонухна,
Што у ножках — то яго сястрыца.
Мамка плачыць ад веку да веку,
Сястра плачыць ад году да году,
Жана плачыць ад абеду да абеду.
Паабедаўшы, пашла у садочак,
Звіла сабе на галоўку вяночак.

229. Устану я, устану я раненька,
Памыюся бяленька.
Выйду я на вулачку,
Гляну я пад ручачку:
Аж мой мілы з вайны едзець,
Коніка ў руках вядзець.
— Выйдзі, выйдзі, дзяўчынанька,
Выйдзі на вуланьку,
Вазьмі каня за ’бротаньку,
Мілага за ручаньку.
Вядзі каня да стаенькі,
Мілага да свяцёлкі.
Дай коніку сена, аброку,
Міламу віна, мёду.
Конічак не есць, не п’ець,
Міленькі не гаворыць.
Конічак застаяўся,
Міленькі затужыўся.
Конічак па коніках,
Міленькі па дзеваньках.
— Гдзе ж падзеўся мой кмецю?
Закладайце пару коней
Да паедзем у чыста поле.
Еду поле і другое,
На трэцяе уз’язджаю.
Пастой, хлопча, паслухаю,
Чы звініць дарожанька,
Чы шуміць дуброванька?
Ні звініць дарожанька,
Ні шуміць дуброванька,
Плача дзеўка па молайцу.

230. — Развявайся, сыры дубе,
Зараз мароз будзе.
Прыбірайся, сыну, ў панцыр,
Зараз паход будзе.

— Я марозу не баюся,
Зараз разбяруся,
Я паходу не баюся,
Зараз прыбяруся.

Ой, сеў сабе на коніка,
Нізенька скланіўся:
— Выбачайце вы, суседзі,
Можа пасварыўся.

Матка ў яго запытала:
— Калі будзеш госцем?
— Як у сенях на памосце
Травіца выросце.

Расла трава, расла трава,
Стала пасыхаці.
Ждала, ждала матка сына,
Да й стала плакаці.

— Пакрапляйце дарожаньку,
Штобы не пыліла,
Да скажыце маёй матцы,
Штобы не тужыла.

Ой, ляцела зязюлечка
Да й сказала: ку-ку,
Чакай мяне, мая матка,
Чакай хоць да веку.

231. Кукавала зязюля, з бору летучы,
Затужыўся бел малойчык, ў службу ідучы,
Затужыўся, занудзіўся і стаў паміраці.
Памёр, памёр казачэнька ў нядзелю раненька.
Вот адзелі казачэньку чорную чумару,
Палажылі казачэньку ў святліцы на лаўцы,
Сабралася капітанства казака хаваці.
— Капітанства, маё панства, учыніце волю,
Каб заржаў мой сівы конік, стоя нада мною,
Каб зачулі ацец, маці у сваім пакоі,
Каб зачулі, уздыхнулі, сільна заплакалі.
— Каб я была зязюляю, я ж бы паляцела,
Села, пала на магіле і сказала: ку-ку,
Падай жа мне, мой сыночак, хоць правую руку.

— Рад бы табе, мая маці, абедзве падаці,
Завалены сырой зямлёй, не магу устаці.
Ляцеў пятух цераз рэку, сказаў: кукарэку,
Дык цярпіце ж, ацец, маці, разлуку на векі.

232. У суботу на рынку
Піў моладзец гарэлку.
— Шынкарачка малада,
А дай мёду гарцы два.
— Гарцы табе мёду дам,
Калі скінеш сінь жупан.
— Нашто табе сінь жупан,
Калі ў мяне грошай збан.
— Калі маеш грошай збан,
Я за цябе доч аддам.
А ў суботу гулялі,
А ў нядзелю звянчалі,
А ў нядзелю звянчалі,
У панядзелак спаць уклалі.
— А дзевачка-вішанька,
Прыхініся блізенька.
— Ой, пашла я за цябе,
А якога роду, племя?
А я роду папоўна,
Паповіча Карпоўна.
Пытаецца Карпоўна,
Якога роду Ясенька.
— А я роду паповіч,
А паповіч Карповіч.
Слава ж табе, Божа,
Што пажаніць Бог сцярог!
Што пажаніць Бог сцярог,
Што з сястрою спаць не лёг.

233. А паехаў сын Даніла на вайну ваяваць,
А пакінуў Кацярыну ў сваім даму дамаваць.
Маці яго старая к яму лісты пісала:
— А вярніся ж, сын Данілушка, дамоў,

А ўжо твая Кацярына сваю волю паняла:
Мяды твае салодкія павыцэжвала,
Сукні твае дарагія пазаношвала,
Коні твае стаенныя пазаездж вала,
Грошы твае вялікія парассорвала.
А вярнуўся сын Данілушка дамоў,
Ажно яго Кацярына на пярэймы вышла,
Сынка яго маленькага на руках вынесла.
А хваціў сын Даніла ваструсенькі меч,
А зняў Кацярыне галовачку з плеч.
Як пашоў сын Даніла да шкатулы сваёй,
А ў шкатуле яго грошы ў цалосці ляжаць.
Як пашоў сын Даніла да шафы сваёй,
А ў шафе яго сукні ў цалосці вісяць.
Як пашоў сын Даніла да клеці сваёй,
А ў клеці яго мяды пазаплесневелі.
Як пашоў сын Даніла да стайні сваёй,
А ў стайні яго коні пазачэсаваны.
Як пашоў сын Даніла да святліцы сваёй,
А ў святліцы дзве сястрыцы дробны слёзкі ліюць.
Як пашоў сын Даніла да пякарні сваёй,
А ў пякарні Кацярына без галовачкі ляжыць,
Недалёка Кацярыны дамаверка стаіць.
Як пашоў сын Даніла да палацу свайго,
А ў палацы стара маці да ў крэсле сядзіць,
Сынка яго маленькага на руках дзяржыць.
— Ой, маці, маці, увесь грэх на цябе!
Першы грэх, што я молад аўдавеў,
Другі грэх, што мой сын сірата,
Трэці грэх, што Кацярынкі няма.

234. Да што ў полі за дымы дымяць,
Да што ў полі за агні гарэць?
Турэцкі цар з вайны едзець.
А зачула Марысечка,
Да зачула яго душачка:
— Татулечка, а мой родненькі,
Замкні мяне на трыста замкоў,
З трыста замкоў да хоць на тры,

Каменнікамі пазавалівай,
Калодзейкамі пазакачывай.
— Чалом, чалом, да Іванавіч,
Выведзь жа свату дачушачку,
Выведзь свату да Марысечку!
Іван таго не ўбаяўшыся,
Вывеў свату да чалядніцу.
Турэцкі цар да з каня далоў,
Трыста замкоў да паадмыкаў,
Калодзейка да паадкідываў,
Каменнейка да паадкачываў.
— Чалом, чалом, да Марысечка,
Чалом, чалом, мая душачка,
Сядай са мной да на коніка.
А мой конік варанюсенькі,
Каламажачка маляваненькая,
Аглоблічкі пазлачоныя —
Едзем поле, едзем другое,
На трэцяе уз'язджаем мы.
— Пастой да пастой, турэцкі цар!
Аддай маю да Марысечку,
Аддай маю да дачушачку,
— Марысечка, мая душачка,
Ай, вярніся да адкланяйся,
З айцом, маткай папрашчайся!

235. Да дымна ў полі, дымна!
Зачым яно дымна?
Там ехалі татарыны,
Везлі сабе валыначку,
Да красную паненачку,
Маладзенькую Юлечку.
Да за ёй пагонь гоніць
Яе родны татанька.
Яна дзіця разумнае,
Назад аглянулася:
— Пастой, татка, не ганіся,
А назад вярніся.
Я сама к табе буду

З маладзенькім зяцем,
З бялюсенькім сырам,
З малюсенькім сынам.

236. Ой, чаму ж то пан Хаміцкі той час не жаніўся,
Як у лесе на арэсе голуб урадзіўся?!
Ой, чаму ж ты, Бандароўна, ў той час замуж не ішла,
Як у млыне на камені пшанічанька ўзышла?
У мястэчку Берастэчку каманда стаяла,
Там жа наша Бандароўна ўсю ночку не спала.
Гаварылі Бандароўне да добрыя людзі:
— Уцякай ты, Бандароўна, ліха табе будзе.
Ой, як скочыць Бандароўна межамі, лугамі,
А за ею пан Хаміцкі з сваімі слугамі.
А як дагнаў Бандароўну у пулляшчынэчкі,
Так ухапіў Бандароўну за белы ручэчкі.
А прывёз жа Бандароўну да сваей святлічанькі,
Пасадзіў жа Бандароўну на белым крэселку.
А казаў жа Бандароўне песеньку спяваці,
А сам пашоў пан Хаміцкі стрэльбу набіваці.
— А ці лепей, Бандароўна, ў сыром пяску гніці,
Як за мною, за Хаміцкім, ў атласе хадзіці?
— Ой, лепей жа, пан Хаміцкі, ў сыром пяску гніці,
Як за панам, за Хаміцкім, ў атласе хадзіці.
Ох, як выцяў Бандароўну пад левае вуха,
Засталася Бандароўна і слепа і глуха.
Ой, казаў жа пан Хаміцкі ад ранку да ранку
Выкапаці Бандароўне глыбокую ямку.
Ой, казаў жа Бандароўну у тры дні хаваці,
Да няхай жа наплачацца яе бацька, маці.
Ой, прышоў жа яе бацька і сплясनуў рукамі,
Ото ж табе прышло ліха з тваімі думкамі!

237. Рыцар каня паіў,
Савуценька ваду брала
І з рыцарам размаўляла:

— Ай, рыцарык, рыцэ́ру,
Прашу цябе на вячэру —
На рыбку асятрынку,
На мяккую пярынку.
— А баюся, Савоська,
Цёмнай ночы, цямненькай,
Быстрай рэчкі, быстрэнькай.
— А ня бойся, рыцэру,
Запалю тры свечкі,
Сама пайду каля рэчкі.
Я пастаўлю свечкі
І нізенька, і высока,
Каб увідзеў далёка.
Каралева, ключніца —
Усяму свету разлучніца,
Каля рэчкі хадзіла,
Хустачкай махнула,
Усе свечкі патушыла,
А рыцара утапіла.
Як зачула Савоська,
Захварэла Савоська,
Зажадала шчукі-рыбы:
— Мае мілы рыбаловы,
Да закіньце шоўкаў невад,
Ды ўлавіце шчуку-рыбу.
Закінулі шоўкаў невад,
Не ўлавілі шчукі-рыбы,
Улавілі рыцара.
Рыцара хаваць вязуць,
А Савоську канаць вядуць.
Пахавалі рыцара
У касцеле пры сцяне,
А Савоську на дварэ,
На рыцару явар расцець,
На Савосьцы бярозачка.
Раслі, раслі, схіліліся,
Яны з сабой злюбіліся.

238. А пры дарозе да й пры шырокай,
Дума мая, дума, дума над думою.*
Стаіць карчомка — шэльма, новая.
У той карчомцы шынкарка млода,
Шынкарка млода, мёдам шынкуець,
Шынкуець мёдам, зялёным віном.
Ай, там жа пілі тры брацеткі:
Адзін жа п'ець, ён грошы кладзець,
А другі жа п'ець, ён каня прапіў,
А трэці жа п'ець, ён жану прапіў.
Што грошы прапіў, вышаўшы плюнуў,
Што каня прапіў, вышаўшы свіснуў,
Што жану прапіў, рукі сашчапіў,
Прышоў дадому, дзетачкі плачуць:
— А татка, татка, гдзе наша матка?
— Пашла на мора умывацїся.
Пашлі дзетачкі туды скачучы,
Ідуць дзетачкі адтуль плачучы.
— А ціха, дзетачкі, не плачце па ёй:
Я вам пастаўлю новую хатку,
Я вам прывяду маладую матку.
— А згары, татка, новая хатка,
Прападзі, татка, маладая матка.

239. А пахадзіў бел малойчык
Па высокай гарэ,
А распусціў русы косы
Па сваёй галаве,
А выплакаў свае вочы
Па няўдалай жане.
Узяў жану няўдалую
За тонкія бокі
І ўкінуў сваю жану
У Дунай глыбокі.
— Плыві, жана няўдалая,
Міжы гор вадою,

* Прыпеў "Дума мая, дума, дума над думою" паўтараецца пасля кожнага радка.

Я сам знаю, розум маю,
Што не жыць з табою.
— Было не сеч, не рубаці
Дубову клетку,
Было мяне не адвозіць
Ад айца, ад маткі.
Было не сеч, не рубаці
Зялёнага дуба,
Было мяне адрачыці,
Як ехалі да шлюбу.
Было не сеч, не рубаці
Ды белай бярозы,
Было мяне не звадзіці,
Калі знаў не ў розум.
Было не сеч, не рубаці
Зялёнай ігрушы,
Было мяне не ціснуці
Ды да сваёй душы.
Было не сеч, не рубаці,
Сухое ляшчыны,
Было мяне не звадзіці,
Маладой дзяўчыны.

240. Ды жана мужа да й пакарала,
Ай, люлі, люлі, да й пакарала,
К белай бярозе да й прывязала,
Ай, люлі, люлі, да й прывязала,
А палажыла, а сена вязку,
Ай, люлі, люлі, а сена вязку,
А сена вязку і вады ражку,
Ай, люлі, люлі, і вады ражку.
Не іду нядзелю, не іду другую,
Ай, люлі, люлі, не іду другую,
А на трэцюю пайду атведаць,
Ай, люлі, люлі, пайду атведаць.
А сена вязка цалюсенькая,
Ай, люлі, люлі, цалюсенькая,
А вады ражка паўнюсенькая,
Ай, люлі, люлі, паўнюсенькая.

Ай, яго ножкі падламіліся,
Ай, люлі, люлі, падламіліся,
А яго ручачкі сашчапіліся,
Ай, люлі, люлі, сашчапіліся.
А яго вочанькі засмуціліся,
Ай, люлі, люлі, засмуціліся,
А яго вочачкі зачыніліся,
Ай, люлі, люлі, зачыніліся,
Ай, люлі, люлі, зачыніліся.
Ай, шкада жане, па мужу плачыць,
Ай, люлі, люлі, па мужу плачыць.
Па мужу плакаць, ай, прыгуківаць,
Ай, люлі, люлі, ай, прыгуківаць:
— Вот табе, мужу, гэта за тое,
Ай, люлі, люлі, гэта за тое.
Было не хадзіць з торгу да торгу,
Ай, люлі, люлі, з торгу да торгу.
Было не губляць шаўковай сеці,
Ай, люлі, люлі, шаўковай сеці.
Было купіць раменны плеці,
Ай, люлі, люлі, раменны плеці,
Раменны плеці на мае плечы,
Ай, люлі, люлі, на мае плечы.
Было выганяць таткаву роскаш,
Ай, люлі, люлі, таткаву роскаш,
Таткаву роскаш, а мамкіну негу,
Ай, люлі, люлі, мамкіну негу.

241. Паехаў Ясенька на вайну,
Пакінуў Касеньку адну.
Заехаў Ясенька к цешчы начаваць,
Стала цешча пасцель белу слаць.
Устаў Ясенька раненька,
Умыўся бяленька.
— Што я табе, цешча, за дзіва скажу:
Перад маімі варотамі яблыня цвіла
І цвет атрусіла.
— А я табе, зяцю, адгану:
Твая Касенька сына павіла,

К беламу свету сама памерла.
— Служкі мае вярненькія,
Закладайце коні вараненькія,
Паедзем да свайго двара,
Нашай Касі на свеце няма.
Пад'язджаю пад гай, гай не шуміць,
Пад'язджаю пад сад, сад не зялён,
Пад'язджаю пад двор, двор не вясёл.
Скочыў Ясенька да пякарні,
У пякарні мамкі да нянькі,
Да ўжо майго сыночка няньчуць, калышуць.
Скочыў Ясенька да святліцы,
У святліцы панны у чэрні,
Мая Касенька ляжыць у белі.
Служкі мае вярненькія,
Закладайце коні вараненькія,
Паедзем да Гайбова
А купім тры кітайкі:
Адна кітайка чырвоная,
А другая зялёная,
А трэцяя чорная.
Чырвона кітайка — то жана мая,
Зялёна — паходы яе,
А чорна — жалоба мая.
Цяжка каменю па вадзе плысці,
Так майму сыночку без маці расці.

242. — Ох ты, дзеўка, дзеўка красная,
Доля твая няшчасная.
Нашто прыгожа радзілася,
Лепша маёй маладой жаны?
Як пайду я у новы гарадочак,
Як куплю я салодкага мёду,
Налью чару сабе і жане.
Злота чарачка увагнулася,
А яе сэрца улякнулася.
Жана таго дагадалася,
У дзетачак запыталася:
— Чы піць чару, чы не піць, мінуць яе?

Піўшы чару, ды жыўшы мне не быць,
Не піць чару, дык мілага угнявіць.
З вечара разгаласілася,
З паўночы разбалелася,
А белым светам душы нету,
Каля абеду хаваці вязуць.
Красна дзеўка ля вакошка усміхалася,
Людзі таму дагадаліся,
Што яны даўно спадабаліся.
Людзі таму падзівіліся,
Што яны даўно палюбіліся.

243. Паехаў сынок аж на Украіну.
Туды паехаў не ажаніўшыся,
Адтуль прыехаў ажаніўшыся.
Ой, вышла маці іх пераймаці,
Сына вітала чырвоным віном,
А нявестку белай атрутаю.
Сын віна не піў, на каня ўзліў,
Белую атруту нявестка выпіла.
— Не ўмела, маці, нас пераймаці,
Умей жа, маці, нас пахаваці.
Сына ўбрала ў тонкую кітайку,
А нявестку ў тоўстую рагожу.
Сына вязла шасцю канямі,
А нявестку сляпой кабылай.
Сына хавала перад касцёлам,
А нявестку аж за касцёлам.
На сына магіле вырас явар зялёны,
А у нявесткі — белая бярозка.
А раслі, раслі да й пахінуліся,
Ўместа вяршочкі зрасліся.

244. Зацвіла ў гародзе макаўка,
Забалела ў Марысі галоўка,
Захацела заморскага зелля.
Каму ехаць за мора па зелле?
Таму ехаць, каму рукадзелле.

Татку ехаць за мора па зелле.
Татка кажаць: я й коніка не маю,
Татка кажаць: я й зелля не знаю.
Зацвіцела ў гародзе макаўка,
Забалела ў Марысі галоўка,
Захацела заморскага зелля.
Каму ехаць за мора па зелле?
Таму ехаць, каму рукадзелле.
Брату ехаць за мора па зелле.
Братка кажаць: я й коніка не маю,
Братка кажаць: я й зелля не знаю.
Зацвіцела ў гародзе макаўка,
Забалела ў Марысі галоўка,
Захацела заморскага зелля.
Каму ехаць за мора па зелле?
Таму ехаць, каму рукадзелле.
Ясю ехаць за мора па зелле.
А Ясь кажаць: я й коніка маю,
А Ясь кажаць: я й зелле знаю.
Адзін конік — поле пераехаць,
Другі конік — мора пераляцець,
Трэці конік — да зелля даехаць.
А стаў Ясь зелле капаці,
Сталі над ім птушкі шчабятаці:
— Не капай, Ясюленька, зелля,
Ужо ў Марысі другое вяселле.
А едзь, Ясю, лужком, беражком,
А стань, Ясю, ў полі пад шатром,
Будзеш відзець, як к Марысі сваты паедуць.
— Пазволь, пазволь, Марысенька, на двор!
— Не пазволю, Ясюленьку, першым,
Ёсць у мяне другі, мілейшы.
— Пазволь, пазволь, Марысенька, танчыць!
— Не пазволю, Ясюленька, першым,
Ёсць у мяне другі, мілейшы.
Узяў Ясь Марысю за левую руку,
У правай ручцы шабельку трымаець.
Сцяў Ясь Марысі галоўку роўна з плеч.
Вот Марысі заморскае зелле,
Вот Марысі другое вяселле,
Вот Марысі Ясюленька першы,
Ёсць жа у мяне другі мілейшы!

245. А жыла, была жыдоўка, ўдоўка,
Была ў яе дочка Хайначка.
— Дочка Хайначка, люблю я цябе.
— Пане Зелянкевіч, пайду за цябе.
Не едзь жа ка мне у нядзелю рана,
Прыедзь жа ка мне у суботу позна,
Калі мая маманька да школы пойдзе.
Прыедзь жа ка мне у трох вазочках:
У адном вазочку — скрынкі, пярынкі,
У другім вазочку — срэбра і злота,
У трэцім вазочку — там мы з табою.
Узяў ён Хайначку пад белыя плечкі,
Кінуў Хайначку ў глыбокую рэчку.
— Вот табе, Хайначка, вада і блота,
А мне, маладому, срэбра і злота.
Вот табе, Хайначка, жыці з вадою,
А мне ажаніціся ды з маладою.

246. А ў нядзельку парана,
А ў нядзельку рана ўстаў
І коніка асядлаў,
У чыста поле выязджаў,
Сам жа лёг на гарэ,
Каня пусціў па траве,
І сасніўся дзіўны сон.
Ускочыў я — каня няма,
Прышоў дамоў — жаны няма.
— Ой, мае ж вы малайцы,
Запрагайце трох каней,
Я паеду даганяць.
Еду поле і другое,
На трэцяе уз'язджаю,
Аж ну, стаіць бел шацёр,
А ў тым шатры жана мая
З казакамі жартуецъ,
І хустачкай махаець:
— Не едзь, не едзь, мой мілы,
І конікаў патраціш,
І віночкам заплаціш,

І галоўкай наложыш,
І жану з сабой не возьмеш.
— Хоць я конікаў страчу,
Хоць галоўкай налажу,
З сабой жану прывязу.

247. Блудзіў бел малойчык,
Нямнога ён блудзіў,
Блудзіў тры гадочкі,
Прыблудзіўся к дубу,
Прыблудзіўся к зялёнаму.
На дубе зязюлька кукуець,
На дубе шэрая кукуець.
— Пакажы мне сцежаньку,
Пакажы сцежку, дарожку.
— Чы ты дурань, бел малойчык?
Я век тут кукую, з дуба не злятаю,
З дуба не злятаю —
І дарожкі не знаю,
Ні дарожкі, ні сцежкі.
— Ай, зямля, мая маці,
Палажы мяне спаці,
Палажы мяне спаці,
Штоб век не устаці.
А зялёны дубочак,
Апусці сваё вецце
З вярхушкі на землю,
Прыкрый маё цела,
Штоб ад слонца не чарнела,
Ад дажджу не сінела.
А калі мяне не прыкрыеш,
Кажу цябе сеч, рубаці,
На дом збудаваці.
Збудуйце дамочак
Да й у галоўку аконца.

248. Ой, пад гаем зеляненькім,
Ой, здаўся мне сон дзіўненькі,

Прысніўся мне брат родненькі.
Кажу коні закладаці,
Еду брата адведаці.
Пад вароты пад'язджаю,
Чую брата гаворачку:
— Знімай, жонка, хлеб-соль з стала,
Едзе сястра мая родна,
Знаю, яна да галодна.
Жонка мужа не слухала,
Хлеба-солі не знімала.
Сястра тое, як учула,
Назад коні завярнула.
Муж на жану пасварыўся,
Вышаў, сястры да й скланіўся.
— Сястра ж мая родненькая,
Прашу цябе абедаці
Да і мяне адведаці.
— Я абеду не хацела,
Цябе, братка, паглядзела.
Ёсць у мяне хлеб-соль у возе,
Будзе абед у дарозе.
Кажу коням аброк даці,
Сама сяду абедаці.
Табе ж, братка, павялося,
А мне гора прыплялося.
Як я дзеткі падгадую,
Сваё гора пазабуду.

249. Ах ты, мурава зялёная,
Ах ты, дзевіца красавіца,
Нашто гожа урадзілася?
Ты палепша жаны маей.
Вазьму я вясельца і чаўнец,
Паеду у новенькі гарадзец,
Куплю віна паўтара вядра,
Налью чару сабе і жане.
Жана мая дагадалася,
Пашла у суседа папыталася:
— Суседзенькі мае мілы,

Чы піць чару, чы не піць.
— Маладзіца маладая,
Маладая, бязвумная,
Падымі чару вышай галавы,
Удар чару аб сыру зямлю.
Зямелечка увагнулася,
Яе сярдзечка улякнулася.
Су вячора жана здарова была,
З белым светам Богу душу аддала.
Маладу жану хацеў узяць.
Стаіць дзеўка ля магілачкі,
Паглядзела, усміхнулася:
— Не меці табе жаны маладой,
Бо будзець і мне так маладзе.

250. У (той вёсцы)* вецер вее,
А (у той вёсцы) ціха.
У (нашай вёсцы) дабра няма,
А (у суседняй) ліха.

У нашых войтаў, аканомаў
Ядвабныя хусткі,
А гдзе былі гаспадары,
То ўсе хаты пусткі.

У нядзелю ранюсенька
У два званы звоняць,
А ў нас войты, аканомы
На паншчыну гоняць.

Як за старым было панам
Лёгка на работу,
Увесь тыдзень сядзі дома,
Шарварка ў суботу.

Цяпер за маладым панам
Цяжка на работу,
Увесь тыдзень на паншчыне,
Шарварка ў суботу.

* Падстаўляецца назва канкрэтнай вёскі.

251. Наляцелі журавы,
Селі, палі на аралі.
Сталі яны аграбаці,
Аб аралі гараваці:
Ранейшая лепшая,
Пазнейшая не лепшая.
На ранейшай пшаніца,
З пазнейшай мятліца.

Ажаніўся удавец,
Узяў сабе дзяўчыначку.
З першай жаной дзеці меў,
А з другою гадаваў,
А з другою гадаваў,
А з трэцяю разагнаў.

252. Ой, за лесам, лесам, за белай бярозай
А ні месяц свеціць, а ні слонца грае,
Там маладзенец коніка сядлае,
Коніка сядлае, цяжанька ўздыхае:
Узяў каралёўну, да не сваю роўню.
Па двару ходзіць, ключыкамі звоніць,
У хатку ўвойдзе, уся дружына ўстане,
Уся дружына ўстане, шапачкі знімае.
— Сядзь, сядзь, каралёўна, з намі хлопамі,
Пій, пій, каралёўна, піва, водку з намі.
Чаравічкам тупне — адступіся, глупне!
Чаравічкам бразне — адступіся, блазне!

253. У нядзельку парана
Прыплыла прыплаўка к Дунаю,
А на той прыплаве konічак,
А ля таго коніка Ясенька,
Раніцай коніка змываець,
Шаўковай хустачкай сціраець,
У коніка праўды пытаець:
— Чы конічак, конік на сіле,
Чы узвязеш мяне на гару?

А на тую гару крутую,
Гдзе мая дзевачка мяне жджэць,
Да мяне, моладца, паслы шлець.
— Пісала б лісточкі, не ўмею,
Паслала б пaслочка, не смею,
Пашла б я сама, баюся —
Стаіць у полі бяроза,
На той бярозе старожа.
Тая мяне старожа прызнаець,
Па русай касіцы спазнаець,
Па руцяным вяночку,
Па дзявочым станочку.

254. Да паедзеш, панічыку, жаніціся,
Не стаў коніка пад калінаю,
Бо каліна — дзерава нешчаслівае:
Вясною каліну дзеўкі ломяць,
Увосень каліну пташкі зобляць.
Пастаў коніка пад яварам,
Явар — дзерава шчаслівае:
У яварным камлі — чорныя бабры,
У явары ў сярэдзіне — райскія пчолкі,
У явары у вярху — сівыя сакалы.
Чорныя бобрыкі — добрыя боцікі,
Райскія пчолкі — саладок мядок,
Сівыя сакалы — да на пагулянне.

255. Не сячы, а мой татанька, ля дорожкі бярозкі,
Не бяры, мая маманька, у крыніцы вадзіцы,
Не касі, а мой брацетка, у лужочку травіцы,
Не шчыплі, мая сястрыца, у садочку цвяточкаў.
Ля дарожкі бярозка — я сама маладзенька,
У крыніцы вадзіца — мае дробныя слёзкі,
У лужочку травіца — мае русыя коскі,
У садочку цвяточкі — мой руцвяны вяночак.

256. А я у маткі да каханка была,
Мне матка да катанку дала.

А ў катанцы да кішэнька была,
А ў кішэньцы да машонка была.
Я, молада, разгулялася,
Катаначка размахалася,
Машоначка развязалася,
Капеечка пацяралася.

257. Сею, сею рэдзьку,
Сею, паліваю.
Расці, рэдзька вялікая,
На зіму схаваю.

Я не буду рэдзькі есці,
Кажуць людзі горка,
Я не буду жаніціся,
Будзець біці жонка.

А хоць будзець, чы не будзець,
То не будзець болька,
Людзі едуць жыта сеяць,
А я маё гора.

Людзі просяць пана Бога,
Штоб жыта урадзіла,
А я прашу пана Бога,
Штоб гора не усхадзіла.

Узышло маё гора
Рэдкімі усходамі,
А зацвіло маё гора
Рознымі цвяткамі.

Ніводзін мне цвяточак
Не міл, як сінь васілёчак,
Ніводзін мне дзяцюк не міл,
Як мой міл дружочак,
Сядзіць сабе за столікам,
Як сыз галубочак.

258. Чые пчолы на дуброве,
А мае ў садочку,
А хто любіць далёкую,
А я — суседачку.

А хто любіць гарбуз, гарбуз,
А я люблю дыню,
А хто любіць гаспадара,
А я — гаспадыню.

259. Ой, не шуміце лугі,
Не задавайце тугі,
Бо я і так тугу маю,
Што мілога не прычакаю.
Эй, пашоў мілы за лес,
Чорны очкі занёс,
Усе жартанькі забраў,
Тугу сэрданьку задаў.
Ой, пасею я рутку,
Штоб не мела я смутку,
Тры рокі палівала,
Слёзкі свае я раняла.
На чацвёрты я не буду,
Ужо смуткі я забуду.
— Ой, не забудзеш, міленька,
Покі будзеш жывенька;
Ой, я ж буду табе сніціся,
Да й табе прыпамінаціся.

## КРЫВІЦКІЯ ПРЫКАЗКІ І ПРЫМАЎКІ

1. Абое рабое (абое благія, аднолькавыя).

2. Авечку стрыгуць, а баран дрыжыць.

3. Аб воўку памоўка, а воўк і тут (калі пра каго гавораць, а ён тут жа прыходзіць).

4. Баба з калёс, калёсам лягчэй; Баба з возу, калёсам лягчэй (пра тых, хто не прымае чыю-небудзь ласку).

5. Багаты дзівіцца, як худы жывіцца (багач дзівіцца, як бедны жыве, чым жыве).

6. Багаты чы будзем, а галодны не будзем (так кажуць гасцінныя людзі).

7. Баючыся воўка, у лес не ісці (пра тых, хто баіцца якой-небудзь небяспекі).

8. Блізка відаць, ды далёка дыбаць (ісці або ехаць дакуль-небудзь).

9. Блізкая сарочка — як кабат (гэта нехрысціянскае — prima charitas ab ego — першае каханне ад сябе; веравызнанне язычніцкіх самалюбаў, эгаістаў; прымаўка не сялянская, бо сяляне кабатаў не носяць).

10. Бог высока, пан далёка (так кажуць пакрыўджаныя панскімі слугамі).

11. Бога хвалі, чорта не гняві (калі трэба дагадзіць абодвум бакам).

12. Будзе кій, ды не такій (аб рэчах ці асобах, якіх шкадуюць тады, калі яны знікаюць).

13. Быў конь, ды з'ездзіўся (пра тых, у каго ўжо няма сілы).

14. Быў і на кані і пад канём (пра бывалых людзей).

15. Хоць бяда, то гоц! Хоць бяда, то гоп!

16. Хоць ты мяне капут, то я не галём (хоць ты мяне забі, то я не пайду; згадка з 1812 г., так казалі праваднікі французскіх войск, не маючы сілы ісці далей).

17. Хоць за вала — абы ў дому не была (пра дачок).

18. Хітра, мудра, з невялікім коштам (шляхецкая прымаўка; гаворыцца, калі што робіцца з невялікім коштам).

19. Хто багат, той мне брат (так кажуць бедныя пра сваю радню, якая не хоча іх ведаць).

20. Хто ціха ходзіць, той густа месіць (адпавядае прымаўцы: Ціхая вада берагі рве).

21. Хто пытае, той не блудзіць (пра дарогу і дапытлівых людзей).

22. Ці даў я табе, бабка, шэляг? — Даў, пане (гаворыцца пра тых, хто часта прыпамінае каму-небудзь дробную дабрачыннасць).

23. Цярпён — спасён (цярплівы, збавёны).

24. Чаго, чорце, у балоце сядзіш? — Бо прывык (гаворыцца аб прывычках).

25. Чым хата багата, тым рада.

26. Даганяючы не нацалавацца (гвалтам ласкі не даб'ешся; тых, хто не хоча, не з'яднаеш).

27. Да пары збан воду носіць (некаторыя дадаюць: вушка урвецца, збан разаб'ецца).

28. Дзіця не плача, маці не дагадаецца (пра тых, хто чаго-небудзь хоча, але маўчыць).

29. Дзень наш — век наш (заахвочванне да ўжывання чаго-небудзь недаўгавечнага).

30. Дзеткі падраслі — хатку растраслі (пра пасаг і выдаткі для дарослых дзяцей).

31. Дзіва, што ў караля жонка красіва (пра людзей, якія могуць вельмі многае, калі нехта здзіўляецца, што яны маюць нешта асаблівае).

32. Гадка з'есці, жаль пакінуць (пра ваганні ў адносінах да чаго-небудзь).

33. Гаманіць — не баліць; Крык — не боль (калі робяць каму-небудзь заўвагі ці лаюць, але не б'юць).

34. Гаварыў бы каток, ды язык караток (пра сарамлівых і лісліўцаў, якія не знаходзяць, што сказаць, пра плеткароў).

35. Гдзе чорт не араў, там сеяць не будзе (пра немагчымасць здарэння чаго-небудзь ліхога, шкоды з боку якога-небудзь злыдня).

36. Голы, як біч, востры, як меч.

37. Голы разбою не баіцца.

38. Госць у дом — Бог у дом.

39. Гушча дзяцей не разганяе; Густою патравай не прагоніш дзяцей з лавы (пра густыя стравы).

40. Як гукнеш, так і адгукнецца (якое пытанне, такі і адказ).

41. Як пасцелеш, так і выспішся.

42. Як пераначуеш, то больш пачуеш (болей будзе часу для разгадкі чаго-небудзь).

43. Які б гэта крук, штоб выпусціў з рук? (пра не злоўленых зладзеяў альбо пра тых, хто нахабна прысвойвае чужыя рэчы).

44. Язык Кіева дапытаецца (пра тых, хто не ведае дарогі).

45. Еж, дурню, — з макам! (іранічна, калі падахвочваюць на што-небудзь).

46. І з Пракопам, і без Пракопа — то ўсё роўна (ці ёсць ён, ці яго няма, то ўсё роўна).

47. І воўк сыты, і козы цэлы (Апалінскі ў сатыры VII, кн. 5, 1650 г. гаворыць: “Каб і воўк сыты быў і авечка цэлая”).

48. Кабыла здыхае, а за траву хапае; Кабыла здыхала, а за траву хватала (пра звычкі саслабелых людзей).

49. Калі ўзяўся за гуж, то не кажы, што не дуж; Калі ўзяўся за гужы, не гавары: не дужы (гуж — па-крывіцку рэмень для сцягвання двух палавінак хамута; такі гуж цяпер беларусы называюць супоняй. — *В. С.*).

50. Калі не поп, то не ўбірайся ў рызы.

51. Калі шанцуе, то і Філімон танцуе (іншыя кажуць замест Філімон — баран).

52. Калі вядзецца, то і на трэску прадзецца.

53. Калі робіш у купе, не баліць у пупе.

54. Калі ёсць хлеб і вада, то не бяда. Або: Калі ёсць хлеб і вада, то няма галада. Або: Хлеб і вада — не бяда!

55. Кепска, пане Грыгоры, — што далей, то горай (пра ліхія часы).

56. Кепска ў Мінску, пане Каранеўскі (відаць, шляхецкая і гістарычная).

57. Круці не круці — трэба ўмярці.

58. Куку ў руку (пра ўзяткі, подкупы; узята ад голасу зязюлі: дзеці, хаваючыся, кажуць адно аднаму: “а куку!”; подкупы патаемныя).

59. Купіць не купіць, а патаргавацца можна.

60. Любі, як душу, трасі, як грушу (пра строгасць, якая дыктуецца патрэбай).

61. Ласкавае цялятка дзве маткі ссе, а гордае — ні адной.

62. Майстар з Міра, што цяў, то дзіра (Мір — мястэчка ў Наваградскім павеце, калісьці радзівілаўскае, перайшло, здаецца, ад Ільінічаў, з руінамі замка; некалі славілася таварамі, асабліва футрамі, цяпер заняпала; відаць, гэта прыказка гістарычная).

63. Мой мілы пакою, добра мне з табою!

64. Мужык дурны, як варона, а хітры, як чорт (ліс) (відаць, шляхецкая, аб сялянах).

65. На чыём вазку едзеш, таму песеньку спявай.

66. Над сіратою — Бог з калітою.

67. На дурня і Бог ласкаў (калі дурному што-небудзь удаецца).

68. На табе, нябожа, што мне не гожа (пра абы-якія дарункі).

69. На што нам гэтыя пісталеты, калі страляць не ўмеем (прымаўка, відаць, шляхецкая, а можа, гістарычная; пра такія рэчы, без якіх можна абысціся).

70. На злодзеі шапка гарыць.

71. На ком скрупіцца, на ком змелецца (калі каму не шанцуе альбо ён болей за іншых церпіць).

72. Не адзін Гаўрыла ў Полацку (відаць, тады было распаўсюджана імя Гаўрыла).

73. Не біўшы кума, не піць піва (апраўданне тых, хто б'е дзяцей альбо слуг).

74. Не даў бацька шапкі, няхай вушы мерзнуць (калі абыходзяцца без чаго-небудзь патрэбнага).

75. Не фігуруй, Грышачка! (адзін шляхціц з Наваградскага павета меў фурмана, які любіў пад'язджаць шумна пад ганак; гэтымі словамі гаспадар стрымліваў яго азарт; можа гэта паслужыць перасцярогай многім і розным Грышачкам, якія любяць пафігураваць).

76. Не гэта паны, што грошы маюць, а што Бога знаюць.

77. Не кайся, рана ўстаўшы, ні молада ажаніўшыся.

78. Няма той хаткі, штоб не было звадкі.

79. Не плюй у ваду, часам трэба будзе напіцца.

80. Не плаціць багаты, плаціць вінаваты.

81. Не ўрадзіў мак, перабудзем так.

82. Не стрыжана, а голена (калі не згаджаюцца з якім-небудзь словам).

83. Не кажы гоц, калі не пераскочыў.

84. Не вялікі пан — пералезеш сам (калі які-небудзь пястун просіць, каб яму памаглі пералезці праз плот, прайсці па кладцы і інш.).

85. Не зажыўшы нэндзы, не мець пінендзы.

86. Ні чытаць, ні пісаць — на ўрад вядуць (кажа той, хто лічыць сябе да чаго-небудзь няздольным).

87. Ні куецца, ні плешчацца (калі што не ўдаецца); Не куецца, то плешчацца (калі на каго бяда якая наваліцца).

88. Ні рыба, ні мяса (пра няўдаліцу, з якога няма ніякага толку, альбо пра чалавека няпэўнага характару).

89. Ні села, ні пала — дай бабе сала (пра няпэўнасці).

90. Ні ў пяць, ні ў дзевяць (пра недарэчнасці).

91. На пахілае дзерава і козы скачуць.

92. Паволі едзеш — далёка будзеш (далёка станеш).

93. Перад невадам рыбы не лаві.

94. Покуль сонца ўзыдзе, раса выесць вочы (пра спадзяванне на далёкую дапамогу пры цяперашнім уціску).

95. Пярвей Бог стварыў пальцы, як відэльцы (дакор тым, хто есць рукамі, альбо тым, што робяць што-небудзь не вельмі ўмела).

96. Поп сваё, чорт сваё. Некаторыя дадаюць: аддай маю малітву (гаворыцца, калі ў спрэчках не слухаюць добрай парады, заўвагі).

97. Прыйдзе каза да ваза, будзе сена прасіць. Некаторыя дадаюць: а я казу кіем (пра тых, хто адмаўляе ў просьбе ці не зважае на пагрозу).

98. Прынясі, Божа, госця, то і гаспадар пажывіцца (пра частаванне госця, якому даюць што-небудзь смачнейшае).

99. Прыпомніла баба дзевіч вечар (дзевіч вечар бывае перад шлюбам; гаворыцца пра старую, якая прыпамінае падзеі сваёй маладосці, альбо пра тых, хто ўспамінае нешта даўнейшае).

100. Сабака брэша, а дваранін едзе (калі не зважаюць на абмовы).

101. З чужой кабылы трэба і ў балоце ссесці.

102. Сем сёл, адзін вол — і той гол. Іншыя кажуць: Сем сёл, адзін вол, а дзесяцьураднікаў (пра вельмі бедную вёску, дзя няма каму і чым рабіць).

103. Скажы, уража, як пан кажа (аб падпарадкаванні і прыстасаванні да волі і ўлады мацнейшага; гэта прымаўка відаць, украінская, бо паняцця "вораг", "ураг" наша простанароддзе не ведае, і няма на яго нават слова; сумняваюся, ці выраз "уража" разумеюць; прымаўкі гэтай з вуснаў сялян я не чуў — толькі са шляхецкіх).

104. Сляпому вечная памяць! (пра тых, хто чаго-небудзь шукае, але не знаходзіць, хоць тое, што шукалася, ляжала пад рукой, незаўважанае).

105. Славен бубен за гарамі (калі вельмі што-небудзь не сваё, далёкае праслаўляюць).

106. З песні слова не выкінуць.

107. З прыбытку галава не баліць (калі каму што-небудзь дастаецца болей, чым трэба).

108. Свая сярмяжка нікому не цяжка.

109. Свой свайго пазнаў і на піва пазваў (пра злых, якія лёгка знюхваюцца, і нават пра тых, што абараняюць каго-небудзь непрысутнага ад нагавораў).

110. Сыты галоднаму не спагадае (пра абыякавых да чужой беднасці ці пакут).

111. Што галава, то розум.

112. Шмаруй мужыка салам, а ён дзёгцем смярдзіць (пра тое, што нібыта селяніна нельга ласкаю схіліць да сябе).

113. Штобы галава, а шолудзі будуць (пра тое, як лёгка знайсці слугу ці работніка, калі ёсць чым заплаціць і накарміць).

114. Што ўбіў, то ўехаў (пра тупога каня, ды і чалавека).

115. Што з воза ўпала, то ўжэ прапала (пра незваротную страту).

116. Трэба жыць, як набяжыць (падахвочванне цярпець цяжкасці).

117. То не банкет, калі прынукі нет (то не частаванне, калі няма прымусу); Не банкет — прымусу нет; Не учта, не прымушай! (у гэтым значэнні бытуе сярод шляхты; не ведаю, ці і сяляне па-старасвецку змушаюць госця).

118. Улез, як у нерат: ні ўзад, ні ўперад.

119. Усюды добра, а дома лепей.

120. У страха вочы вялікія.

121. Вала з'ядуць, зайца заб'юць; Вала з'ядуць, зайца забіваючы (напэўна, шляхецкая ... пра паляванні, якія дорага каштуюць і працягваюцца да сённяшняга дня, — хутчэй на бутэльку і шынок, чым на воўка).

122. Ведаў Бог, што не даў свінні рог. Некаторыя дапаўняюць: бо каб рогі мела, то б і свет перарыла.

123. Волас доўгі, ум кароткі (пра бедных нявест, якім гэты доўгі волас нібы замяняе розум).

124. Воўк дарогу перабег (калі каму пашчасціць). Людзі, займаючыся калісьці паляваннем, лічылі за шчасце, калі спаткаюць воўка, — маглі яго забіць, і наадварот, спатканне з зайцам было няўдачай. Адсюль, відаць, і пайшло, што перабяганне імі дарогі ўспрымаецца па сённяшні дзень, як пэўныя добрыя або нядобрыя прыкметы, гаданне.

125. Воўка ногі кормяць.

126. Вывеў воўка з лесу (пра накліканыя на сябе напасці).

127. За маё жыта мяне набіта (калі хто за дабро робіць замест падзякі шкоду).

128. Заплата ў ката, быле душа не была галодна. — Якога чорта заплата! Каб толькі пакармілі (гавораць слугі і пасыльныя, якія часам і галоднымі бываюць).

129. Здарылася чарвяку на вяку (калі нешта раз у жыцці ўдалося або дасталося каму-небудзь і ён гэтым хваліцца).

130. Знаюць яго, як ліхога шэляга (пра таго, каму ўсё даступнае і магчымае).

## ПРЫКАЗКІ І ПРЫМАЎКІ, ПРЫСТАСАВАНЫЯ ДА СВЯТ*

*2 лютага.* Грамніца — зімы палавіца (на свята Грамнічнай н. п. Марыі, калі свенцяць па касцёлах свечкі, якія завуць грамніцамі).

*24 лютага.* На Мацея зіма пацее (аднак не заўсёды, бо найчасцей люты пытае, ці добра абуты).

У Вербную нядзелю, злёгку хлёстаючы каго-небудзь асвечанай у касцёле вярбовай галінкай, весела гавораць: "Не я б'ю — вярба б'е, за тыдзень Вялікдзень!"

*23 красавіка.* Юр'ева раса — не трэба коням аўса.

Май — валам дай і сам на печ уцякай; Валоў накармі, а сам на печ. Пра халодныя майскія дні ёсць яшчэ прыказка: Да Святога Духа не скідай кажуха, а па Святым Духу — у тым самым кажуху.

*24 чэрвеня.* Перад святым Янам прасіце, дзетачкі, у Бога дажджу, а па святым Яне я і сам упрашу (так быццам кажа ксёндз парафіянам).

* Даты даюцца па старому стылю.

*29 чэрвеня.* Прышоў Пятрок — апаў лісток, прышоў Ілля — апала два.

*20 ліпеня.* На Іллю поўну печ хлеба налью (якраз тады пачынаюць жаць).

*24 ліпеня.* Барысе, Барысе, сам бараніся (пачаўшы жніво, некаторыя часам не звяртаюць увагі на свята і працуюць у полі; гэтаю ж парою часта бывае і гром; набожныя і больш баязлівыя не ідуць у такі час у поле, святкуюць той дзень; адсюль, пэўне, і паходзіць гэта прымаўка).

*6 жніўня.* Прышоў Спас — усяму час (у гэта свята садавіна бывае ўжо амаль спелая, аднак цалкам паспявае недзе каля Зельнай, г. зн. 15 жніўня).

*24 жніўня.* Прышоў Баўтрамей — жыта на зіму сей.

Летам. Калі грыбна, то і хлебна (бо звычайна ідуць цёплыя дажджы).

*4 снежня.* Святая Барбара ночы ўрвала (у разуменні люду ноч меншыцца ад 4 снежня, хаця папраўдзе яна пачынае скарачацца 11—12 гэтага месяца).

*6 снежня.* Да Міколы нет дабра ніколі (добрай саннай дарогі не бывае, і гэта праўда, часам нават і да Каляд).

*25 снежня.* Коляды, то ён цяпер пан (у гэты дзень для слуг заканчваецца год іх службы; бываюць т. зв. ігрышчы з музыкай і танцамі, на якіх яны ў вёсках і мястэчках развітваюцца з гаспадарамі, а ў іншых прымаюць на службу альбо дамаўляюцца служыць далей).

## АДМЕТНЫЯ ВЫРАЗЫ І ПАРАЎНАННІ, ЯКІЯ МОЖНА АДНЕСЦІ І ДА ПРЫМАВАК

1. Ані галера няма (галер — гэта была бітая ў Польшчы манета накшталт бітых у Гале (Саксонія) — дынараў гальскіх).
2. Ані вухам не вядзе (хто не зважае ні на чые перасцярогі ці забароны).

3. Брэша, як сабака. Або: як сука (калі пра жанчыну).

4. Бычок трацячок (трохгадовы; кажуць пра пешчаных дзяцей; звычайна сялянскіх дзяцей не адвучваюць ад грудзей да двух, а часам і трох гадоў).

5. Цаца, ляля, Баўтрусь! (таксама пра спешчанае дзіця; гаворыцца іранічна).

6. Хаваецца, як сабака ад мух (калі хто ўхіляецца ад працы).

7. Хоць яму кол на галаве чашы (пра непанятлівых і непаслухмяных).

8. Хоць запалі, то не трэсне (пра немагчымасць даказаць штонебудзь).

9. Худы, як хрусцель (хрусцель — птушка).

10. Цвіце, як макаўка (пра прыгожую альбо маладую; пра тую, якой добра жывецца замужам).

11. Дзяцей, як бобу (калі шмат у каго дзяцей).

12. Гады ў рады (вельмі рэдка, часамі; гаворыцца пра тых, хто рэдка бачыцца ці што-небудзь не атрымлівае).

13. Як курыца сакоча (пра вельмі гаваркіх).

14. Як у Бога за пазухаю (пра тых, хто жыве пад чыёйсьці вельмі клапатлівай апекай; пра поўную бяспеку).

15. Як воўк мялькнуў хвастом (калі хто-небудзь паказваецца на міг).

16. Квокча, як курыца (пра тых, хто заўсёды жаліцца ды бурчыць).

17. Лёстачкамі душу выманіць (пра хітрае і лоўкае вымаганне чаго-небудзь).

18. Меле языком, як цяля хвастом (пра балбатуноў).

19. На ката пацягушкі, а на дзіця растушкі (пажаданне нянек і матак).

20. Накрыўся, як лісіца хвастом.

21. На вус матае; На розум бярэ.

22. Ні к Богу, ні к людзям. Або: Ні к сялу, ні к гораду; Ні да Бога, ні да людзей; Ні да танца, ні да ружанца (ружанец — пацеры — малітва).

23. Ні вала, ні кала (пра вялікую беднасць).

24. Пацеха, як ражон (калі мала ўцехі ад дзяцей ці ад чаго іншага).

25. Палажыць зубы на паліцу (кажуць, калі няма хлеба).

26. Паповы вочы (пра хцівых).

27. Пайшлі ўсе ў камыш (пра якіх-небудзь праціўнікаў, якія ўцяклі альбо схаваліся; у адным толькі гэтым выразе ўжываецца татарскае слова "камыш", якое азначае балотны чарот).

28. Плесці кашалі з лапцямі (калі хто вярзе абы-што).

29. Плача, як у дзявіч вечар (пра дзяўчыну, якая плача; кажуць з дакорам за яе залішні, непатрэбны плач).

30. Працуе, як чорны вол.

31. Прыйшоў на яго гіз (гіз — род авадня, падобнага на сляпня, які летам нападае на жывёлу, ад чаго яна вельмі бегае — гізуе; гэты выраз адсюль ужываецца і ў пераносным значэнні — у адносінах да свавольных).

32. Распусціўся, як дзядоўская пуга (пра таго, хто многа сабе дазваляе і не ведае кары).

33. Сам сабе рад (пра гасцінных і самалюбцаў, больш вядомых у нашай мове, як эгаістаў).

34. Сядзіць, як заяц у жыце (пра тых, хто ўхіляецца ад работы).

35. Скрывіўся, як серада на пятніцу (намёк на пост; гаворыцца пра чалавека не ў гуморы, "кіслага").

36. Шчабеча, як сарока (пра балбатуноў).

37. Вадзіць дзяды (драмаць на рабоце).

38. Варочаецца, як мядзведзь (пра нерухавых).

39. Высалапілася, як патароча (пра тых, хто прагне сваімі строямі перагнаць усіх).

40. Затакаваўся, як цецярук (пра таго, хто так загаворыцца, што не чуе, што да яго кажуць, альбо пра марудлівых у размове).

## ЗАГАДКІ

1. Адна каза ў балоце гінець. (Градзіца.) [Градзіца — жэрдка ў дыму]

2. Адну казу маю і тую штодзень падымаю. (Заслонка.)

3. Бегла сабе чачотка міма маіх варотачак. Выйшаў чэчат, даў ёй мяшок — працуй сама. (Бегла вада, выйшаў мельнік, заставіў застаўкі, і млын пачаў малоць.)

4. Беглі чумаковы лычкі цераз мора; бягуць да й маслечка ядуць. (Сані.)

5. Бочка стогнець, а баяр'е — мёд п'юць. (Свіння з парасятамі.) [Мёд — малачко; парасяты кормяцца матчыным малачком]

6. Бочачка касцяная, а абруч жалезны. (Палец і пярсцёнак.)

7. Вінны колер, добры смак, зачым яно, чаму так? (Вішня.)

8. Вылецела 12 галубоў, села на 50 дубоў; знеслі па 30 яец, кожнаму адно яйцо. (12 галубоў — 12 месяцаў, 50 дубоў — 50 нядзель, 30 яец — 30 дзён.)

9. Грукавіца, тукавіца, куды ідзеш? — Табе што да таго, стрыжаная с..., куды іду?.. (Размова навальнічнай дажджавой вады з прарванаю саламянаю страхою.)

10. Да не гуж, гуж; да не цэп, цэп; да і не рамянец. (Ланцужок.)

11. Два вепручкі на смецці сякуць. [........][*]

12. Два галубчыкі пад зямлёю лаўкуюць. (Нарогі.)

13. Дзве рызы адзявае ні разу не хрышчоны, а чорт яго баіцца. (Певень.)

14. Дзед скібаю ўдавіўся. [.........]

15. Дзве лавы, дзве кары, на чоп — века. (Жалуды.)

16. Еду, еду не дарогаю, паганяю не пугаю, скубу не пер'е, не мёд (не мяса). (Рыба.)

17. Ехаў тот, прывязаў кабылу за плот, да не да плоту, да да старой бабы. [..........] Дзяцел — сеў, прысеў, учапіўся. [Прычапіўся да спарахнелага дрэва]

18. Іду радасна і міласна, у адной галаве, знайшла сямёра жывых. (Ішла дзяўчына. У галаве — наперадзе, знайшла сем жывых птушанят.)

19. К сатане ходзіць да не сватае. (Сонца.)

20. Каля ямы з булавамі. (Каля місы з лыжкамі.)

21. Кацібочкі чырычукі па каўравой дарожцы каціліся — чырычукі ў гліняны гарадок. (Гарох.) [Каціліся па дошцы гарошыны да ўкаціліся ў гаршчок]

22. Колькі на небе зорачак, столькі на зямлі дзевачак. (Іржышча.)

23. Кругленькі, маленькі, за хвост не паднімеш. (Клубок.)

24. Крывая крывулінка да ўсё поле збегала. (Серп.)

25. Кручаны, мучаны па зямлі скача. (Венік.)

26. Кіну на дуб — не разаб'ецца, кіну на ваду — не расплывецца. (Попел.)

---

[*] Выпадкі, калі адгадка ўкладальнікам не даецца.

27. Лез цар з-пад новай зямлі, пытаўся ў свае какары барады, ці дома пан Лабовіч, а ён казаў: нямашака дома, быў на гліняным горадзе да палез на грумадзіра. (Мыш лезла з нары, пыталася ў пеўня, ці дома кот, а певень сказаў, што быў кот на печы да палез на жорны.) [Грумадзір — жорны]

28. Ляціць — вые, сядзе — рые. (Жук.)

29. Ляціць чарток, задзершы насок. (Санкі.)

30. Ляцела пава, села на паплаве, распусціла пер'е на ўсялякае зелле. (Вырасла ў агародзе, на градзе капуста.)

31. Матка пукатка, дзеткі трушчаткі, а бацька лысы. [.........]

32. Маеш малое падпечайка, поўна ў цябе жалезейка. (Зубы ў роце.)

33. Мае ж малыя малышачкі носяць мёд на вышачкі. (Пчолы носяць мёд у вулей.)

34. Маці таўстушка, донька красушка, а сын Лявон выскачыў на двор. (Печ, агонь, дым.)

35. Мая Кася не вялікая, каб устала, то б неба дастала. (Дарога.)

36. Мілае маё загаловейка, нясі мяне ў загаловейка, каб мяне чатырохногі не з'еў. (Яйцо прасілася ў курыцы: нясі мяне падпеччу, каб сабака не з'еў.)

37. На чом крыжоў многа? (На клубку.)

38. На людзішча не садзішча. (Гарох.)

39. Наша Кася на ўсё неба расцяглася. (Дарога.)

40. На золаце цыган стаіць. (Чорны гаршчок стаіць на гарачых вуголлях.)

41. На паліцы тры суніцы, што дадуць, то і з'ядуць. (Лыжкі.)

42. Не стой ля мяне, не глядзі на мяне, злезь да нацялёпкайся. (Груша.)

43. Ні стуку, ні груку — пад акно прыйдзець. (Дзень.)

44. Новая палаць, ды няма на чым спаць. (Дым.)

45. Пасцялю дзяружку, пасыплю гарошку і палажу акраец хлеба. (Акраец хлеба — месяц, гарошак — зоркі, дзяружка — неба.)

46. Пайшла Цімахова нявестка ў кут па золата. (Пайшла па агонь.)

47. Пад адным капялюшыкам чатыры панічы стаяць. (Стол.)

48. Пад прыпечкам рубяжы, хто ведае, не кажы. (Пацеркі.)

49. Цераз мора катоў хвост. [.........]

50. Поўна хата гараб'ёў. (Сукі, суччa.)

51. Пад кожную каморачку да ёсць падпечайка. (Сцежка пад кожныя дзверы.)

52. Прыляцела пава, ні рыба, ні сава. (Яйка.)

53. Поўна бочачка віна, ані вянцоў, ані дна. (Яйка.)

54. Патру, самну, за мора пашлю, і там гаворыць. (Ліст, напісанае.)

55. Рыўка рые, скачка скача; сцеражыся, рыкадо, бо фурман едзець. (Свіння рые, сарока скача, воўк ідзе; сарока папярэджвае свінню: сцеражыся, бо па цябе воўк ідзе.)

56. Сама голая, а кашуля запазухаю. (Свяча з кнотам.)

57. Смачная кашка ў маленькім гаршчэчку. (Гарэлка.)

58. Стаіць у гародзе палка, на той палцы хатка, а я магу ўкусіць; хто ета ўгадае, тысячу палучыць. (Макаўка.)

59. Стаіць хатка на тры вуглы. (Свашка.)

60. Сонца гарачае, у сярэдзіне жывіца, хто не адгадае, не будзе жаніцца. (Свечка.)

61. Суну, пасуну — Трахім смяецца. (Іголка, нітка, вушка, зашыванне.)

62. Сучка стаіць, а сабакі брэшуць. (Ступа стаіць, а ў таўкачы таўкуць.)

63. Сядзіць пятух над кручаю, заткнуў с... анучаю. (Верх над печкаю, заткнуты анучаю.)

64. Той зайграе, хто крылы мае. (Пятух.)

65. У лесе-чарналозе стаіць казак на адной нозе. (Казляк.)

66. У адном месце крыжоў дзвесце. (Клубок.)

67. У нашага Астапка чырвона шапка. (У ступе вяршок.)

68. Усё вынесу, усё вынесу, толькі бацькавага пояса не вынесу. (Сонца.)

69. Удзень — як абруч, уночы — як вуж, хто адгадае, будзе мой муж. (Пояс.)

70. У чыёй хаце Аўдотка? [.........]

71. У лесе сцято, у хляве ўзято, а на руках плача. (Скрыпка.)

72. Хода ходзіць, віса вісіць; віса ўпала, хода з'ела. (Каўбаса ўпала, кот з'еў.)

73. Чаго ў цэркві няма? (Моху, калі царква мураваная.)

74. Чырвоны чырванец, у сярэдзіне камянец. (Вішня.)

75. Чатыры чатраначкі пабеглі ў паляначкі, злавілі вутачкі, усадзілі ў пракутачку, гаспадар таму рад. (Колы, калёсы, поле, хлеб у копах, звезены з поля.)

76. Што само ў хаце дзела робіць? (Сцены самі колюцца.)

77. Што на хвасце, то мне; што пад хвастом, то бабе. (Мука і высеўкі.)

78. Шчупу, шчупу па галавішчу; ашчупаў мазгавішча, сунуў галыша. (Рукавіца на лаве, ашчупаў, шукаючы яе, і на голую руку надзеў.)

79. Шчарбач, гарбач, на сяле багач; сто коней не вазьмець, што ён на сабе павязець. [.........]

80. Што ў вокан — 25, а на вярху сляды знаць. (Барана.)

81. Што ў цэркаў напярод ідзе? (Ключ.)

82. Як устанець, дак вышай за каня, як ляжа, дак ніжэй за кала. (Дуга.)

83. Падтыкаўшыся, падперазаўшыся, па лесе коні ганяець. (На галаве вошы ганяець.)

84. За белым бярэзнікам таратайка скача. (Язык за зубамі.)

85. За белым бярэзнічкам пералайка брэша. (Язык за зубамі.)

86. Загану загадку, закіну за градку — рукі патаскаюць. (Закідваць рыбу у стаў.)

*Я. Тышкевіч*

# ВЯСЕЛЬНЫЯ АБРАДЫ ВЯСКОВАГА ЛЮДУ Ў МІНСКАЙ ГУБЕРНІ, БАРЫСАЎСКІМ ПАВЕЦЕ, ГАЕНСКАЙ ПАРАФІІ, НАЗІРАНЫЯ Ў 1800, 1801 І 1802 ГАДАХ, З НЕКАТОРЫМІ ПЕСНЯМІ І НОТАМІ

## ЗАРУЧЫНЫ

Пра шлюбныя сувязі тут сяляне звычайна пачынаюць клапаціцца з першых дзён кастрычніка. У іншую пару да гэтага іх змушаюць хіба толькі пільная гаспадарчая патрэба ці якія-небудзь непрадбачаныя акалічнасці. Калі ў мужа і жонкі, якія пажаніліся "не ў пару", узнікнуць потым сямейныя нелады ці іншыя нечаканасці, гэта прыпісваюць адступленню ад агульнага звычаю. Лічыцца, што самы спрыяльны для шлюбу час — паміж Пакровамі і першай нядзеляй каляднага посту.

Ёсць у вуснах тутэйшых сялян песенька (або хутчэй невялічкая малітва), якую звычайна спяваюць дзяўчаты; у ёй выказваецца просьба да Пакрова, каб даў мужа:

Святы Пакроў, Пакроў!
Пакрыў зямлю і ваду,
Пакрый мяне, маладу, і г. д.

Зразумела, сяляне таму імкнуцца спраўляць вяселле ў гэты, а не ў іншы дазволены касцёлам час; цяпер, калі ўсё сабрана ў полі, яны могуць больш багата і шчодра абставіць бяседны стол, спадзеючыся, што гэткае багацце будзе і ў доме маладых. У нас жа амаль усюды вераць, што як робіцца тады, калі мы спраўляем якую-небудзь урачыстасць, так будзе і далей у жыцці. Адсюль, відаць, ідзе і тое жаданне ашаламіць усіх на такіх урачыстасцях празмернай раскошай, якую мы назіраем асабліва ў багатых класаў і якую не можа сабе дазволіць земляроб, і перш за ўсё вясной, калі ён застаецца амаль што без хлеба.

Якраз у гэту пару дзяўчаты, якія думаюць аб сваёй долі, бываюць асабліва рухавыя і неспакойныя: апрача таго, што яны больш старанна, чым у іншы час, уходжваюцца каля дому, мусяць асаблівую ўвагу звяртаць на чысціню і ахайнасць; асабліва яны стараюцца ў чацвер і суботу, дні, у якія звычайна прыязджае сват. Таму ў хаце, дзе чакаюць такога госця, дзяўчына на выданні старанна шаруе стол, лавы, паліцы, усё кухоннае начынне, падмятае па некалькі разоў хату, на сябе ж адзяе танчэйшую, чым звычайна, і чыстую бялізну, белую спаднічку, такі ж фартушок, на галаву завязвае хустачку, з-пад якой звісае каса, заплеценая звычайна ружовай стужачкай. Усё гэта ўбранне, над якім так шчыруе дзяўчына, павінна быць разам з тым будзённым, неадметным.

Вечарам, калі чакаюць свата[1], уся сям'я і парабкі адзеты больш ахайна, чым на працы. Трымаюцца ўсе разам, сядзяць, размаўляюць, нічога не робячы, апрача панны, якая ўвесь час снуе ад кутка да кутка, то прыбіраючы параскіданую тут і там вопратку, то перастаўляючы на паліцы посуд, то падмятаючы вугаль, што спадае з запаленай лучыны, і г. д. У гэты вось час і з'яўляецца, нарэшце, сват. Уваходзіць, становіцца пасярод хаты, кланяецца ва ўсе бакі, але ніхто на яго не звяртае ўвагі, асабліва дачка гаспадара, якая ў гэты час мітусіцца болей, чым звычайна. Сам гаспадар нерухома сядзіць у кутку насупраць дзвярэй (ганаровае месца) з задумлівым выглядам. Убачыўшы, што да яго падыходзіць сват, стрымана вітае яго, не кратаючыся з месца: "Сядзь у нас, суседзе, дома госць будзеш". — "Дзякуй, сядзелі дома, але што з таго будзе?

Наш бык
Да да вашай цялушкі прывык,
Каб даў Бог даждаці
Вашую цялушку да нашага быка загнаці".

---

[1] Сват — важная ва ўсім вяселлі (як будзе відаць далей) асоба. Яго запрашае звычайна сям'я маладога; выбіраюць за свата гаспадара гадоў 40: маладзейшы не меў бы належнага аўтарытэту і паважнасці, а стары чалавек не здолеў бы выканаць абавязкі, якія патрабуе такая пасада, што вымагае надзвычай многа руху. Гэты гаспадар павінен быць заможны, цвярозы, а да таго ж дасціпны і гаваркі. Такія людзі сярод сялян рэдка трапляюцца: здараецца часам, што аднаго такога чалавека запрашаюць сватам амаль на ўсе вяселлі, так што, бывае, уся вёска ўжо не хрышчоным імем і прозвішчам яго называе, а толькі сватам, дзяцей жа яго — свацюкамі; яны потым самі, забыўшыся на сваё прозвішча, запісваюць новае ў інвентары, казкі і г. д.

Тут гаспадар хутка ўскоквае з месца, бярэ свата пад руку і, паказваючы на кут, з асаблівай ветлівасцю запрашае садзіцца. Сват з ахвотай сядае на куце, а дзяўчына ў тую ж хвіліну хутка ўцякае з хаты — або да блізкай і добрай сваячкі, або, калі такой няма, да самай вернай сяброўкі і, расказаўшы ёй усё, вяртаецца з ёю дамоў, аднак ідзе назад не ў хату, а ў істопку[2]. Там яны шэпчуцца паціху, а ў гэты час гаспадар вядзе са сватам размову пра мэту яго прыходу. Сват пералічвае вартасці і маёмасць хлопца, за якога прапаноўвае дачцы гаспадара выйсці замуж, усяляк імкнецца давесці, якая б шчаслівая была дзяўчына, калі б выбрала сабе такога харошага мужа, расхвальвае гэтак жа сама яго радню і парабкаў. Але ўвесь гэты панегірык як быццам не робіць ніякага ўражання на гаспадара, і чалавек, які не ведае звычаяў, адразу падумаў бы, што ў жаніха няма ніякіх шансаў на ўдачу і сват дарэмна толькі траціць словы, але на самай справе якраз наадварот.

Ледзь пачуецца стук дзвярэй у істопцы, якая за сенцамі, як сват перапыняе пахвальнае балаканне і, паглядаючы на дзверы, кажа: “Што гэта, не ўсе дома?.. Дзе ж нашы? Дзе ж гэта?..” Бацька: “Ведама, моладзь, у яе заўсёды нейкія свае патрэбы”. Тут сярод жанчын заўважаецца нейкі рух. Яны нічога не гавораць, але, паразумеўшыся мігамі, якія ім адным зразумелыя, выходзяць, нарэшце, адна за адной у сенцы, каб угаварыць дзяўчыну і прывесці яе ў хату. Вяртаюцца, зноў выходзяць, і так некалькі разоў, пакуль дачка гаспадара не ўваходзіць, нарэшце, у хату. Агульнае маўчанне. Усе паднялі на яе вочы. Не асмельваецца, бедная, падняць свае, але, стаўшы ў куточку пры печы[3], доўга калупае пальцамі сцяну. У хаце пачынаецца гоман, спачатку гавораць паціху, толькі паміж сабой, але паступова гоман нарастае. Перапыняючы шум, сват звяртаецца да паненкі гучным голасам: “А што ж, (імя), я сюды не так сабе прыехаў?” Дзяўчына маўчыць і ўсё калупае сцяну. Бацька ці матка ў тон свату адзываецца: “Няма чаго сказаць, хлопец што трэба, не знойдзеш у ім заганы: не п’яніца, не буян, не злодзей, хата заможная, сям’я пачцівая, ніхто з яе не смяецца. Што думаеш, маё дзіця? Адкажы, ты ж

---

[2] Істопка — так называецца кладоўка, дзе хаваюць гародніну, малако, такую слаўную сёння лапату, а таксама муку для штодзённага ўжытку, дзе мелюць на жорнах крупы, і г. д.

[3] Куточак той называецца на простай мове “качарэжнік”: там стаіць венік, некалькі большых і меншых вілак, якімі выцягваюць з печы гаршкі, чапяла, кацюба, ці качарга, ад якой кут і атрымаў сваё імя.

ужо не маленькая?” Маўчанне. Усе чакаюць прысуду. Нарэшце, адзываецца ціха, апусціўшы галаву і хаваючы твар: “Як сабе хочаце”. Тут ізноў бацька ці маці: “Не, мая родная, скажы выразна, любіш ты яго ці не: ты ў нас не лішняя, мы цябе з дому выганяць не хочам, не на тое ж мы цябе выгадавалі, каб ты нас потым праклінала. Дык скажы: як думаеш?” Дзяўчына адварочваецца ад сцяны: “Што ж рабіць, калі трэба спраўляць тое свята, то хай так і будзе”, — і ступае к сярэдзіне хаты. То адзін, то другі пачынаюць усміхацца, усім становіцца весела, і кожны хоча што-небудзь сказаць. Размова робіцца ўсё больш нязмушаная і вясёлая. А ў гэты час сват дастае з кішэні пляшку гарэлкі і, ставячы яе на стол, гаворыць дачцы гаспадара: “Пашукай толькі чарачкі”. Тая з сарамлівасцю пачынае перабіраць посуд на паліцы, а маці тым часам раздзьмухвае на прыпечку агонь, каб спячы яечню. Амаль у адзін момант гатова яечня і знаходзіцца чарка. Усё ставяць на стол. Затым сват, напоўніўшы чарку, п’е да нарачонай ужо дзяўчыны, тая — да бацькі, бацька — да жонкі, жонка — да сяброўкі дачкі, а потым п’юць па чарзе ўсе дамашнія работнікі, якія, аднак, да закускі не дакранаюцца: ёю частуюцца толькі сват, бацькі нарачонай, яна сама і яе сяброўка. Пасля яечні, калі пляшка спарожнена, гаспадыня дому бярэ локаць ці два даматканага палатна, абкручвае ім пляшку і аддае яе свату, які, развітаўшыся з усімі, ад’язджае да сябе. На гэтым канчаюцца заручыны, ці першыя запоіны, якія называюць малымі. Яны яшчэ не вымушаюць абавязкова стрымаць дадзенае слова. Зусім іншая справа вялікія запоіны, пасля якіх усё бывае скончана і адмовіцца ўжо ні ў якім разе нельга — як пасля вельмі ўрачыстай прысягі.

Калі ж пасля малых запоін нарачоная ці яе бацькі раздумалі і не захацелі да канца давесці жаніцьбу, яны павінны толькі заплаціць свату дваццаць грошаў за гарэлку[4]. Гэты крок ні да чаго не абавязвае, хіба што бывае часам прычынай вечнай варожасці паміж сем’ямі дзяўчыны і хлопца, і такая варожасць пры нагодзе можа прывесці да якой-небудзь бяды. Але калі не маюць намеру адмяняць прынятае рашэнне, увесь час — ад малых заручын аж да заканчэння вяселля —

---

[4] Гэты доўг лічыцца свяшчэнным і аніяк не можа быць затрыманым. Сват, як бы далёка ён ні жыў, абавязкова павінен прыехаць па яго: выплачваецца ён з уласнасці, прызначанай для дзяўчыны, якая рыхтуецца выйсці замуж.

суцэльная ўрачыстасць; адна і другая сям'я на працягу гэтага часу глядзяць на сябе з пачцівасцю, а нарачоную так шануюць, што яна проста вырастае ў сваіх вачах. Назаўтра пасля малых заручын яе бацькі запрашаюць да сябе дзвюх чужых (калі няма сваячак) дзяўчат, сяброўак дачкі, якія ад гэтага часу аж да шлюбу не адыходзяць ад яе. Гэтыя дзяўчаты называюцца "бальшанкі". Жывучы ў доме нарачонай, яны амаль увесь час спяваюць песні, адпаведныя гэтаму моманту. Змяшчаем тут некаторыя:

Наша Тацянка, наша,
Паймала сабе пташа
Ды ў зялёным жыце,
У чырвоным аксаміце.

Ой, цёмна, цёмна на дварэ,
Ой, цямней таго за дваром:
Баяры варота абляглі,
Пасыпалі золата па скам'і.

Да ходзюць, паходзюць па двару,
Да папросюць Тацянкі.
Тацяна татулькі прасіла:
— Даражы, татулька, даражы!
Да сто чырвонцаў запрасі,
Тагды мяне маладу аддасі.

Праз тыдзень пасля малых заручын спраўляюцца вялікія запоіны, або вялікая гарэлка. Піць яе прыязджае сват ужо з маладым, з якім дзяўчына, пасля таго як дала яму слова, мяняецца заручальнымі пярсцёнкамі. Гэты вечар нагадвае сабой банкет (сціплы, аднак), на які запрашаюцца родныя нявесты. Яны ўважліва прыглядаюцца да хлопца, шэпчуцца паміж сабой, выказваючы аб ім свае меркаванні; гэта называецца — судзіць яго. Пасля вячэры маці нарачонай, абгарнуўшы палатном (як і на малых заручынах) пляшку, аддае яе ў рукі маладога, які і прывёз вялікую гарэлку. Затым усе разыходзяцца адпачываць, а малады са сватам сядаюць на коней і ад'язджаюць.

У наступную пасля вялікіх заручын нядзелю бацька нарачонай выязджае на базар у бліжэйшае мястэчка, каб купіць там што-небудзь на вясельны ўбор маладой. Калі ён вернецца, бальшанкі (неадступныя, як мы ўжо сказалі, асістэнткі нарачонай) спяваюць песні пра каханне дзяўчыны, яе неспакой і жаданне бачыць любага. Гэтыя песні шматлікія і розныя. Адны гавораць пра стан сэрца каханкі, другія — пра вартасці любага, трэція — пра ўсё гэта разам. Якраз такую і падаём тут:

Міжы новых клетачак
Сцежачкі памяцёны,
Хто ж іх там памятаў?
Тацянка памятала,
Яна к сабе гасцей ждала,
Да ждала, не даждала, (2)
Да ў татулька пытала:
— Да татулька родненькі,
Ты ўчора на таргу быў,
Чы не відзеў Васілька?
— Да дзіцятка родная!
Хоць відзеў — не знаю.
— Як жа яго не пазнаці? (2)
Сам сём паязджае,
Пад ім конік броя, (2)
Капытом зямлю кроя,
Вушкамі вайну чуе,
Вочкамі звёзды ліча.
— Праўда, ўчора на таргу я бываў,
Я табе вяночак стаогаваў:
Да з руты, да з мяты,
Да з белай лялеі,
Да з чырвонай паперы,
Што ні дожджык яго не замоча,
Да ні сонца яго не ссуша,
Да ні ветрык яго не звее.
Ветрык павее — лялее,
Сонца прыграе — ён спее,
Дожджык пакропе — пазлоце.

Нарачоная ўвесь час занята вельмі далікатнай работай, якая вымагае майстэрства: тчэ абрусы, вышывае на рукавах кашулі ўзоры, шые бялізну і г. д. Калі ж якая-небудзь дзяўчына няздатная ўсё гэта рабіць, яе завуць "няўмеха", "няздзельніца", і яна звычайна няхутка знаходзіць сабе мужа. Здатную ж дзяўчыну (работніцу, здзельніцу), наадварот, так хутка знаходзяць жаніхі, што нават распачатай работы закончыць не можа: яны проста не даюць ёй гэтага, пра што і ў некаторых песнях пяецца:

Звінела камора, звінела,
Гдзе ж наша Тацянка сядзела:
Тонкія абрусы заткала,
Мыслямі ўзоры паклала.
Прыехаў Васілька сам дзесят,
Пусціў конікі ў вішнёвы сад,
Да не даў абрусаў даткаці,
Да прасіў з сабою сядаці.

## ЗМОВІНЫ

У разгар гэтых заняткаў і спеваў, на пяты дзень пасля вялікіх заручын, пачынаецца ў доме нарачонай вялікая бяседа, якая называецца "змовіны" ("абрады"). На іх павінны быць абавязкова запрошаны ўсе жыхары вёскі.

Запрашаць адпраўляецца разам са старшай бальшанкай сама нарачоная. Ходзячы ад хаты да хаты, кліча ўсіх гаспадароў і кожнаму кланяецца амаль да ног, не абмінаючы нават трохгадовых дзяцей і парабкаў. На змовіны павінна з'явіцца таксама ўся дальняя і блізкая радня, як бы далёка яна ні жыла: адмовіцца ніяк нельга. Аднак рэдка бывае, што сваякі жывуць далёка адзін ад аднаго, звычайна ў невялікім радыусе пачынаюць і канчаюць яны сваю "кар'еру", часцей за ўсё пад адным панам. Таму лёгка могуць сабрацца на гэту ўрачыстасць, якой дамашнія стараюцца надаць найбольшую святочнасць. Для гэтага ж падлеткі запальваюць каля хаты смольныя бярвенні — атрымліваецца прыгожая ўвечар ілюмінацыя, па якой і далёкія даведваюцца пра ўрачыстасць. Пачынаецца яна досыць рана: гадзін каля васьмі тут ужо нямала гасцей, асабліва дваюрадных братоў і сясцёр, якія, з'явіўшыся з усім, што ў іх ёсць, займаюць, праўда, не найлепшыя, але затое зручнейшыя месцы, г. зн. на палу[5], дзе, пасадзіўшы каля сцяны малых дзяцей, і самі рассаджваюцца ў рад, бавячыся размовамі, у якіх ніхто з чужых не ўдзельнічае. Тут строга прытрымліваюцца правіла, па якому чужая жанчына не павінна садзіцца на палу. Калі б, не ведаючы гэтага ці забыўшыся, яна ўсё-такі села б тут, то не была б рада: апрача таго, што яе жанчыны выкурацъ адсюль са словамі: "Пасунься, дзяцей негдзе дзець", апрача, паўтараю, гэтага, яна яшчэ стане аб'ектам насмешак, абгавораў

---

[5] Пол — вельмі шырокі і досыць высока над зямлёй падняты тапчан, які займае месца паміж бокам печы і супрацьлеглай сцяной; робіцца звычайна з дыляў, абчасаных толькі з аднаго боку, і так складзены, што яго нельга перанесці на іншае месца, цалкам не разабраўшы. Над полам вісіць гарызантальна шост (так называецца доўгая — ад печы да супрацьлеглай сцяны — жэрдка, на якой вешаюць сушыць сярмягі, бялізну, калі яе нельга высушыць на плоце, і г. д.). Пол прызначаны для хатняга адпачынку (у асеннюю і зімовую пару) саміх гаспадароў і малых дзяцей; старэйшыя ж і парабкі спяць на лавах, на стале ці на печы і г. д. У цяплейшую пару года пакідаюць тое месца адпачынку і спяць звычайна ў клеці (пра якую ніжэй раскажам) або ў гумнах.

суседак, якія доўга не забудуць гэту яе памылку і заўсёды прыпомняць яе, калі здарыцца падобны выпадак з іншай жанчынай: "Ну ж і расселася — як (імя) на палу!" Толькі тады перастаюць яе "цытаваць", калі жанчына зыйдзе куды-небудзь ...

Але, з другога боку, калі разабрацца, нам не трэба вельмі дзівіцца, чаму так строга прытрымліваюцца сваячкі гаспадара правілаў этыкету: яны ж павінны дбаць пра парадак у доме ў час бяседы, бо самі гаспадары, асабліва ў пачатку, не паказваюцца да пэўнага часу гасцям, застаючыся з дачкой і бальшанкамі ў істопцы. У абавязкі радні ўваходзіць не толькі прымаць і садзіць гасцей і дружыну маладога на адпаведныя месцы, але нават прывесці ў прызначаны час у хату нарачоную з самімі бацькамі. Звычайна ў дзесяць гадзін прыязджае малады з дзесяткам і болей асобаў, між якімі сват і бліжэйшыя сваякі лічацца першымі фігурамі. Гэта дружына ўваходзіць у хату з вялікай важнасцю і ў глыбокім маўчанні, якое гэтак жа сама падтрымліваюць госці, што сабраліся ў хаце. Прыезджыя ні з кім не вітаюцца, адзін толькі сват важна, лёгкім нахілам галавы вітае ўсіх, не здымаючы, аднак, шапкі. Малады і ўся яго дружына таксама не здымаюць шапак, якія так насунуты, што ледзь не засланяюць вачэй. Ідуць усе ў канец хаты і займаюць пакінутыя для іх месцы за сталом. Малады садзіцца на куце, сват пры ім, далей два ці тры маладыя хлопцы, якіх завуць дружкамі, — гэта звычайна радня жаніха, нарэшце — музыка[6], таксама з радні маладога. Іншая моладзь, што прыехала з гэтым вясельным поездам, не заўсёды абавязана садзіцца, асабліва калі не хапае месца. Яна становіцца ў рад збоку або на сярэдзіне хаты, тут доўгі час пануе найглыбейшае маўчанне: на ўсіх тварах пахмурная важнасць, вельмі падобная на гнеў, і ні ў кога з дружыны не ўбачыш на твары ні ўсмешкі, ні весялосці, усе, здаецца, пасварыліся адзін з адным. Адзін толькі сват (пра якога мы сказалі, што ён павінен быць

---

[6] Музыкай называцца не можа ніхто іншы, як толькі сваяк маладога, але вельмі часта здараецца, што ва ўсёй сям'і няма нікога, хто мог бы іграць на скрыпцы, дудцы, жалейцы або іншых інструментах, таму са скрыпкай, часцей за ўсё пазычанай, прыязджае музыка толькі па назве: калі пачынаюцца танцы, ён няўмела пацягне колькі разоў смыкам па струнах і аддае скрыпку таму, хто ўмее здабываць з яе гукі. Такім чынам, сам толькі носіць ганаровае званне музыкі, тады як іншы іграе ўвесь час, весяліць людзей — дарма, небарака, працуе. Колькі такіх музыкантаў на свеце!

чалавекам дасціпным і знаходлівым) загаворвае то да адных, то да другіх, найчасцей да жанчын, асабліва незамужніх, усяляк жартуе з імі (каб быць смялейшым, ён выпіў ужо да прыезду), але нічога не дапамагае: усе маўчаць, апусцўшы ўніз вочы. Засмучаны, незадаволены сваёй няўдачай, сват гаворыць: "Што ж гэта? Дзе ж шаноўныя гаспадары? Можа, не чакалі гасцей?" І ў гэты ж момант, ускочыўшы з месца, выходзіць у сенцы, дзе, вядома, знаходзіць гаспадара хаты і гаворыць да яго:

Хвала пану Богу,
Каго мы шукалі,
Таго мы спаткалі.
Просім жа,
Просім да хаты!

"Да не патрэбен я вам, абыйдзецца без мяне". — "Але ж просім, просім, пане сваце"[7] і г. д. Пакуль вось так адзін аднекваецца, а другі дарэмна настойвае, выходзіць з хаты малады з ўсёй сваёй дружынай, і ўсе, як толькі могуць, налягаюць на гаспадара, каб увайшоў усё ж у хату. Чым настойлівей яго просяць, тым з большай рашучасцю ён адмаўляецца. У той час, калі мужчыны спрачаюцца гэтак, жанчыны, выбавіўшы з істопкі нарачоную, падводзяць яе разам з бальшанкамі да гасцей. Нарачоная, увайшоўшы, павінна кожнаму пакланіцца да каленяў. У гэтым ёй дапамагаюць бальшанкі, падтрымліваючы з абодвух бакоў падпахі, калі яна нахіляецца. Пасля цырымоніі паклонаў нарачоная падыходзіць да адной з жанчын, што сядзяць на палу, і просіць па ўстаноўленай звычаем форме, каб яна згадзілася быць яе асістэнткай. Жанчына спачатку аднекваецца, але ўрэшце згаджаецца, устае з месца і далучаецца да бальшанак. Усе тры, як месячыкі вакол свае планеты, кружацца каля нарачонай аж да канца ўрачыстасці. Запрошаная жанчына павінна быць замужам не больш аднаго-двух год, называюць яе маладзіца[8].

---

[7] Сват, якога так усе называюць, гэтак жа ўзаемна заве і бацькоў нявесты, з кім цяпер ён лічыцца ўжо ў пэўнай ступені сваяком, так што калі б выпала жаніць маладых людзей з аднаго і з другога дому, дык не асмеліліся б гэта рабіць без дазволу парафіяльнага свяшчэнніка, а дазвол такі атрымаць звычайна цяжка і каштуе ён дорага.

[8] Маладзіца — гэта замужняя жанчына, але ў дадзеным выпадку азначае — асістэнтка (дружка) маладой.

Тым часам памякчэлы ад просьбаў гаспадар згаджаецца ўвайсці ў хату. Ён першы адчыняе дзверы, за ім ідзе малады са сваёй дружынай, займаючы сваё месца. Толькі яны рассаджваюцца за сталом (першае месца на лаве, там, дзе кут, займае малады, а апошняе — бацька нарачонай), як жанчыны хутка падымаюцца з полу, падыходзяць да зэдля, што стаіць пры стале насупраць лавы з мужчынамі, і садзяцца на ім. Нарачоная сядзіць насупраць маладога, старшая бальшанка — насупраць свата, малодшая — насупраць старшага дружка, маладзіца — насупраць музыкі або малодшага дружка і г. д. Калі рассаджваюцца такім парадкам, маці, якая дагэтуль яшчэ не паказвалася, прыходзіць з істопкі і садзіцца на самы край зэдля (другі край яго заняла дачка), г. зн. насупраць мужа. Тут прыносяць з істопкі гарэлку, чарку і закуску (сыр або варанае ці смажанае мяса), ставяць перад гаспадыняй, якая, напаўняючы чарку, п'е да свата і, яшчэ раз яе напоўніўшы, накрывае белай хусткай (выцягнутай з-за пазухі) і падае яму. Сват выпівае, зноў налівае і падносіць нарачонай, нарачоная падае старшаму дружку, гэтак жа, як і маці, накрыўшы каляровай хусткай, часцей за ўсё чырвонай. Дружка, прыняўшы чарку і схаваўшы ў кішэню хустку, п'е зноў да нарачонай, якая, прыняўшы поўную чарку і ледзь дакрануўшыся да яе губамі, яшчэ раз накрывае хусткай і падае малодшаму дружку, малодшы дружка п'е да маладзіцы, тая ж — да маладога, малады — да старшай бальшанкі, старшая бальшанка, п'ючы да музыкі, абвівае чарку поясам[9] работы маладой. Музыка, спаражніўшы прыняты келіх, налівае яго і зноў падае маладой, якая п'е да свата, сват — да яе бацькі, бацька — да маладога, і на ім абрадавая цырымонія заканчваецца. Пасля гэтага госці пачынаюць піць звычайным парадкам.

Калі ўсё гэта робіцца, маладзіца рассцілае на стале белую хустку, на якую нявеста і жаніх кладуць знятыя з пальцаў пярсцёнкі. Адразу пасля гэтага дзве бальшанкі з аднаго і два дружкі з другога боку бяруць хустку за ражкі, падымаюць вышэй галавы пакладзеныя на ёй пярсцёнкі, а сват гучным

[9] Гэты пояс больш за ўсё нагадвае шырокую, на два, на паўтара пальца тасьму, на аснову якой бяруць белыя льняныя ніткі, а на ўток — каляровую пражу з воўны. Сярод самых розных колераў пераважае чырвоны. Такіх паясоў маладая на працягу вяселля раздае больш ста, таму дзяўчаты ўжо з дзевяці-дванаццаці гадоў пачынаюць ткаць паясы.

Да ў адну лубачку збірала,
З адной лустачкі ядала.

Ужо позненька,
Ужо не раненька,
Сонечка на заходзе,
Ды ўжо Агатка маладзенька
У мамкі на выездзе.
Яе мамачка, яе родненька
Сільненька ўнімаець:
— Не едзь, дачушка, мая любая,
Ужо рожа зацвітаець,
Барвіночак зелянееець,
Зямлю ўкрываець.
— Мая мамачка, мая родная,
Мне ўжо рожы не даждаць,
З барвіночкі зялёнай
Вяночка не звіваць.
Гдзе буду жыці,
Хоць буду выці,
Да ўжо мне не насіці.

## III

З нядзелі на панядзелак
Васільку бяда стала.
Прапала скрыня малявана,
Дачушка кахана.
Я тваю скрыню маляваную
За дзень прызабуду,
Сваёй дачушкі каханай
Павек не забуду.

## IV

Да гуляй, гуляй, шчука-рыбачка, у сінім моры,
Як жа ты пойдзеш на лугі, рэкі — не будзеш гуляць:
Уловяць цябе маладыя рыбаловы
Да знімуць з цябе залатую лускавіцу,
Пакроюць рыбачку на стальніцы
У святліцы,
Згатуюць рыбачку маладыя кухары,
Да з'ядуць цябе панове сенатарове.
Да гуляй, гуляй, Агатка, у роднага таткі,
Пойдзеш к чужому,
Да не радному,
Не будзеш гуляць.
У свайго татачкі крутыя горы,
Да гуляла паволі,

А ў чужога ўсё поле роўна,
Да гуляць не вольна.
У свайго таткі штодзень
Галоўка ў вяночку,
А што нядзелю — у таночку;
А ў чужога татачкі
Будні дзень у рабоце,
А святы — у балоце.

## V

Чаму, Агатка, не вячэрала у свайго татачкі?
Пойдзеш к чужому,
Да не радному,
Не будзеш вячэраць.
Цябе маладу
Пашлюць па ваду,
Самі сядуць вячэраць:
Прынясі вады,
На сябе бяды,—
Каждаму піць даць:
Як старому,
Так маладому,
Яначку маладому.
Не сварыся, мамачка, са мною,
Сядзем жа мы павячэраем з табою.

## VI

Хоць ты мяне, татка,
Малую замуж аддавай,
Толькі мне ў сваю хатку
Чужога не прымай.
Прыняўшы зяця, толькі будзем сварыцца:
Не буду ведаць, за каго ўступіцца.
Уступіўшыся за татачку, буду біта,
Уступіўшыся за мілога, вонка быць.

## VII

Баліць мая галоўка ад вянца,
Не аддавай, мой татачка, за ўдаўца.
Аддай мяне, мой татачка, у сям'ю —
У сям'і ёсць парадачак усяму.
У істопку таўчы, малоць — залоўкі,
А ў крыніцу па вадзіцу — я маладая.

## VIII

Да мой татачка пакінаўся мною,
Як не любаю, як садавым яблычкам недаспеленькім.
Не бядуй жа ты, сястрыца мая,
Я ж буду недалёка ад цябе,
Будзем у чыстым полі жыта жаць.
І раннай, і вячорнай зарою
Зойдуцца нашыя галаскі з табою.

Бяруць века дзяжы, кладуць на яго суконную спадніцу; бацька прыносіць цэлую булачку хлеба, крыху солі і гаворыць: "Дару цябе, дзіцятка, хлебам-солей" — і кладзе на хлеб грошы:

На гэта не спадзявайце,
Да рана ўставайце,
Адно другога пабуджайце.

Дзяўчаты спяваюць:

Добрая, Агатка, твая доля,
Што цябе татка дарыць.
Шчаслівa будзець гадзіна,
Цябе дарыць уся радзіна.

Дружка з лучынкаю ў руцэ становіцца на ўслон, стукае палкай у столь і кліча ўсіх дарыць маладую, якая, паплакваючы, спявае да бацькі:

Да мой татачка,
Шчыра табе рабіла,
Верна служыла,
Выслужыла хлеба кусочак,
Солі драбочак.

Маладая сядзіць, закрытая новай наміткаю, і не бачыць, хто ёй што дорыць. Дружка абвяшчае: "Агатка, дарыць цябе брат". Дораць грашыма, цялушкаю, авечкаю, свінкаю, палатном, хто чым хоча. Дружка падрабляе голас жывёлы, якую дораць, і выплёсквае крыху гарэлкі ўгару — каб жывёла добра вялася, вось так высока падскоквала. Пры гэтым ён папярэджвае, што трэба абавязкова аддаць маладым абяцаную жывёлу; хто не аддасць, ён жадае, каб тую жывёлу ваўкі з'елі. Маладая, плачучы, дзякуе:

Да мой брахненька,
Дзякую табе за дары вялікія твае.
Калі жыва буду да спамагуся,
Табе адгаджуся;
А калі не табе,
То дзеткам тваім.

З такімі прыкладна словамі звяртаецца яна да ўсіх блізкіх сваякоў, а далёкім кланяецца. Бальшанкі дораць паясамі або палатном.

Пасля дарэння маладая схіляецца перад кутам і галосіць:

Таткаў куточак,
Божы дамочак,
Заставайся здароў,
Жыві багата.

Перад ад'ездам маладая кідаецца ў ногі матцы і развітваецца:

Мая мамачка,
Заставайся здарова,
Жыві багата,
Не забывайся на мяне маладую.
Калі буду жабраваці,
Варотца адчыняйце,
Нанач пушчайце,
Хоць па кусочку хлеба давайце.

Гэтак жа сама маладая развітваецца і з бацькам. Развітваючыся з астатнімі членамі сям'і, яна па чарзе абходзіць іх і абдымае за шыю.

Свахі спяваюць:

I

Хоць я ночкі не спала,
Я сваю свацьку ашукала,
Сабе нявехну даждала:
Да к сцюдзёнай зіме — плацце праць,
А к краснай вясне — кросны ткаць,
А к ціхаму лету — жыта жаць,
А к цёмнай ночы — на таку малаціць.

II

Прыбірайцеся, брахны,
Пара нам дамоў ехаць.
Доўгая дарожачка:
Чатыры мілі борам ехаць,

Пятую морам плысці.
Хоць бы мы морам плылі,
Абы мы дома былі.
Паедзем дамоўкі
Цераз валатоўкі,
Наша дарожка доўга,
Цераз дарожку рэчка,
Цераз рэчку кладка,
Будзе сварыцца матка,
Што нас доўга нет.
Паедзем к Вайцеху
На даўнюю ўцеху:
Гдзе мы пілі, елі,
Добрыя мыслі мелі.

### III

Ноч па ночы, цёмненькая ночка,
Зажурылася саколіка цырачка?
— Да зачым жа майго сакала доўга нет?
Негдзе ён цераз сады паляцеў,
Негдзе яго ўсе птушачкі злюбілі,
Негдзе яго на быліначцы садзілі,
Негдзе яго ягадкамі кармілі,
Негдзе яго з лісціначкі паілі,
Негдзе яго шэрай зязюлькай дарылі,
Ноч па ночы, цёмненькая ночка!
Зажурылася Яначкі мамачка:
— Зачым жа гэта майго сыночка доўга нет?
Да негдзе ён цераз моста ехаў,
Негдзе яго мяшчаначкі злюбілі,
Негдзе яго за столікам садзілі,
Негдзе яго піражкамі кармілі,
Негдзе яго зялёным вінам паілі,
Негдзе яго краснай дзеўкай дарылі.

### IV

От табе, мамка, шышкі у пяткі,
Што няма каму мясці хаткі.
Ой, цяжка табе будзе без дачкі,
Парастуць па-за лаўкай казлячкі.
Людзям трэба ў бор хадзіць,
А табе будуць па-за лаўкай радзіць.

Усе садзяцца за стол, а свахі спяваюць:

Да я гаварыла: сакалы лятуць!
Аж мае брахны на коні сядаюць;
Я гаварыла, што месяц усходзіць,
Аж мой татачка па дварэ ходзіць,
Мяне маладую праводзіць.

Наступае час ад'езду маладой пары да бацькоўскага дому. Сустрэча яе і частаванне ўсіх удзельнікаў вяселля з'яўляюцца астатнім актам урачыстасці і вясельных абрадаў. Усе папярэднія абрады і песні або адлюстроўвалі вясковае жыццё, працу, гаспадаранне, а таксама непазбежныя ў сямейным жыцці прыкрасці і няшчасці, або выражалі пажаданні долі на будучае і поспехаў. Дзе-нідзе, аднак, прабіваюцца ў песнях адвечныя звычаі, характэрныя толькі для часоў язычніцтва. Як і ва ўсіх іншых народаў, у нашым простанароддзі дзявочая цнатлівасць, акружаная якімсьці рэлігійным арэолам, з'яўляецца сімвалам дабрачыннасці і шчасця для таго дому, у які ідзе маладая, а таксама доказам пачцівасці яе бацькоў, што здолелі належным чынам выхаваць сваю дачку. Даўней нашы земляробы жадалі мець гэтыя доказы. Маладая, якая паддалася слабасці, траціць павагу, просіць, прыніжаная, прабачэння. Уся ўрачыстасць сапсавана, і не ўсе цяпер абрады выконваюцца. Цнатлівая нявеста, наадварот, яшчэ больш ганарыцца сабой, яна прыносіць у дом радасць, весялосць і надзею, становіцца прадметам усеагульнай пашаны.

На воз, на якім маладая пара павінна ад'язджаць дадому, кладуць падушку і белую кашулю, загорнутыя ў прасціну і завязаныя поясам. (Пояс гэты застаецца дзяўчыне, якая па прыездзе здымае пасцель з воза і адносіць яе ў лазню або ў асець.) Маладая садзіцца з мужам і, паплакваючы, спявае:

Таткава ніўка, да не ўлякайся:
Радзіла пры мне, радзі і без мяне.
Добрая доля, да ідзі за мной,
З печы пламянём,
З хаты камінам.

За возам едуць два закоснікі, а таксама свахі. Пад'ехаўшы да дому маладога, свахі спяваюць:

Звонка дзерава каліна,
За борам ішла — шумела,
А полем ішла — звінела,

А к двару ішла — гаварыла:
— Адчыні, мамачка, новы двор,
Вязём нявехну, як явор;
Адчыні, мамачка, аконца,
Вязём нявехну, як слонца;
Адчыні, мамачка, вяршочак,
Вязём нявехну з каршошак;
Адчыні, мамачка, хіжа,
Вязём нявехну грызе.

Калі маладыя едуць праз сяло, хлопцы запальваюць пасярод вуліцы куль саломы. Каб яны патушылі агонь і прапусцілі вяселле, ім даюць пояс. Пад'ехаўшы да самага дому, вяселле спыняецца перад дзвярамі і чакае, пакуль не выйдзе з векам ад дзяжы матка. Маладая нізка кланяецца ёй і, схіліўшыся, стаіць пакорна, пакуль матка, крануўшы векам галаву нявесткі, не скончыць наступнай прамовы: "Свякроў нявехну навучаець да ў лоб векам лучаець: не хадзі, нявехна, па сялу, не судзі аб маю сям'ю, ні ранняга абеду, ні познай вячэры". Пасля гэтага маладая кладзе на века пірог, загорнуты ў палатно. Малады, паклаўшы руку, праводзіць яе ў хату. Увайшоўшы, маладая кідае на печ пояс. Свахі пачынаюць спяваць:

— Мілыя мае сватове,
Чы добра было ў дарозе?
Чы белыя былі тарэлкі?
Чы давалі вам гарэлкі?
— Да добра было ў дарозе,
Да белыя былі тарэлкі,
Да давалі нам гарэлкі.

Прыезджых садзяць за стол і частуюць; усім, хто ёсць у доме, даюць гарэлкі. Маладым жа, калі маладая аказалася цнатлівай, падаюць па лусце хлеба з мёдам. Жанчына, якая падала гэты хлеб і прымусіла маладых есці яго, адбягаючы, спявае: "Пятух курку маніць, на курасаднік садзіць, даець мёду есці". Сястра маладога ў гэты час выносіць пасцель у лазню або ў асець, сцеле яе, на парозе пры выхадзе рассцілае кажух і чакае маладых. Першая пераходзіць кажух маладая, за ёю малады. Пасля гэтага сястра маладога дапамагае маладой распрануцца, складвае скінутае адзенне, падае ёй чыстую кашулю і выходзіць. Праз нейкі час малады пакідае маладую адну, сам выходзіць і пасылае да яе сястру. Маладая апранаецца, зноў надзявае вясельную кашулю, а тую што была на ёй,

аддае сястры маладога, якая бяжыць з той кашуляй у хату, скачучы, пляскаючы ў далоні і спяваючы:

Добрыя нашыя марозы,
Не змарозілі нам рожы,
Пакраса наша Агатка!
Да пакрасіла два двары:
Адзін дварок, гдзе расла,
А другі, гдзе прыйшла.
Гуляйце, прыданкі, у Агаткі каханай,
Да вялела нам маці
Харашэнька гуляці,
Слаўку учыніць
Да лаўку паламіць.
Да ў гародзе ячмень.
Ён золатам зацвіў,
Лепша таго злота
Агатчына цнота;
Калі наша Агатка швачка была,
Вышыла кашулю з падала... і г. д.

Прыбывае маладая, усім кланяецца. Затым бацькі праводзяць маладых у клець, частуюць іх салодкай гарэлкай і закускамі і падаюць яечню, якую маладыя ядуць адной лыжкай. Малады неўзабаве ідзе па прыданых і выязджае з імі да маткі сваёй жонкі з гэтай жа кашуляй, у якую павінна быць увязана жменя жыта і дзесяць або пятнаццаць грошаў. Зяця, што прыбыў з братам, прымаюць як найлепш: садзяць за стол, частуюць усім найлепшым. Маладому кладуць запазуху сыр, загорнуты ў куплёную хустку, а брату — у рукавы. Запрашаюць родных, прыданых і іншую моладзь. Радасць ахоплівае ўсіх.

## I

Учора з вячора
Перапёлка зляцела.
Мы сягодня светам
Перапёлчыным следам;
Гдзе мы яе ўслядуем,
Там мы заначуем:
Там жа нам добра будзець,
Конікам аброк будзець.
Конікам будзець аброк, сянцо,
А нам самім мядок, вінцо.

II

Да умная, разумная дзевачка,
Паставіла старожачку на браду,
Сама села пад вішанькай у саду:
— Буду сядзець, буду глядзець пад зару:
Адкуль жа ясен месячык узойдзець,
Адтуль жа мае сястрыцы уз'едуць.
Да узойдзе ясен месяц з-пад зары,
Уз'едуць мае сёстры з-за гары.
Яны ж мне на намётачку прывязуць,
Яны ж маю галовачку прыбяруць,
Яны ж мяне з цямніцы выведуць.

Усе з музыкай адпраўляюцца ў дом маладога і па дарозе спяваюць:

Да ў чыстым полю прыданыя блудзілі,
Негдзе яны дарожку згубілі,
Да спаткалі маленькага хлапчынку:
— Такі-сякі маленькі хлапчына,
Укажы нам дарожку у сяло,
Куды нашая сястра вязёна,
Тая ўся дарожка мураўкай утрасёна;
Будзець нашая галовачка вясёла.

На двор маладога ўязджаюць з музыкаю і песнямі:

I

Прыданыя на двор едуць,
Куркі пад клець бягуць:
Не бойцеся, куркі!
Нямнога ж вас нада:
Сем на вячэру,
А осьму на пячэнь,
Дзевятая на сняданне,
Дзесятая на ад'язджанне.

II

Вышла дзевачка на ганак
Да паслухала прыданак:
Чы не зязюлькі кукуюць?
Чы не салавейкі шчабечуць?
Аж не зязюлькі кукуюць,
Але мае радныя паюць,
Мне маладой весці даюць.

Маладая выходзіць з хаты сустракаць гасцей, усім кланяецца. У гэты час кубел з хатнім скарбам і бялізнаю ўносяць у клець. Таму, хто яго прывёз, малады дае столькі грошай, колькі на кубле абручоў. Уваходзяць у хату, садзяцца за стол і спяваюць:

Зціха, баяры, хадзіце,
Хорам не вярніце... і г. д.

П'юць гарэлку, закусваюць.

Далі нам есць і піць,
Дайце пагуляць,
Дайце нам волю,
Пусціце ў камору,
Хаця б мы пaглядзелі,
Гдзе нашу сястру дзелі,
Паглядзець на калінку,
Падняць пярынку,
Чы харашо развілася,
Па кашулі разлілася.

Прыданкі выводзяць маладую ў сенцы, каб завязаць ёй там на галаву хустку або намітку — у хаце гэтага рабіць нельга, бо ў ёй столь, на якой ляжыць пясок. Цяжарная жанчына ў гэтым абрадзе не павінна ўдзельнічаць — лічыцца, што праз гэта маладая цэлы год будзе драмаць. Маладым падаюць ваду — яны павінны разам памыцца ёю. Таму, хто прынёс ваду, маладая дорыць пояс, маладому ж дае белую чыстую кашулю. Затым яна садзіцца на лубцы, таварышкі завязваюць ёй хустку, накрываюць новай наміткай і спяваюць[11]:

I

Пасярод хаты стаіць печ,
Не умела Агатка печ перапеч.
Нечага на яе дзіваваць,
Бо нядаўна стала жанаваць:
Учора была дзявою,
А сягоння жаною.
Як мы захацелі,
Так мы нарадзілі:
З жыта палавіцу,
З дзеўкі маладзіцу.

---

[11] Кажух і сярмяга ў нашых сялян — адвечнае ўбранне. Да шлюбу маладая, калі не вельмі горача, апранае сярмягу і кажух.

## II

Пашоў Яначка ў каліновы луг,
Наламаў каліны, колькі змуг.
От табе, Агатка, каліна мая,
Няхай гуляець радзіна твая.
Гуляйце, прыданкі, гуляйце,
Жаднай трывогі не майце.

Маладая пара з прыданкамі ідзе з сянец у хату і садзіцца. Перад імі за сталом ставяць венік, за што маладая дае паясок. Абое робяць выгляд, што бяруць нешта рукамі і ядуць, пры гэтым кожны стараецца вымазаць другому твар. Прыданкі ж спяваюць:

Гдзе ж то свёкар дзеўся?
Знімі пакрывала,
Не сушы сем'яніна,
Свайго чалядзіна.

Бацька маладога, свёкар, узлазіць на лаву, бярэ з галавы маладой намітку, вешае каля абразоў на крук і выганяе маладых з-за стала розгаю з веніка. Маладая імкнецца выскачыць першаю. Калі яна цнатлівая, то пераскоквае праз стол і кланяецца бацькам, у адваротным жа выпадку абходзіць вакол стала, падае бацьку ў ногі, як быццам просячы прабачэння. Усім прысутным дзецям маладая дае па пояску. Потым прыданкі садзяцца есці, а маладую знаёмяць з гаспадаркаю. Усім, хто ёй сустрэнецца, яна павінна даваць паяскі або па тры грошы. Прыданкі спяваюць:

Прыехалі прыданкі з Гданя,
Папрасілі ў Агаткі снядання.
— Пажджыце, мае сястрыцы, пажджыце,
Пакуль я сваю свякроўку пазнаю,
Тагды і вам сняданне згадаю.
Адчыніце дзверы!
Да няхай вецер веіць:
Пад новыя лаўкі,
Гдзе селі прыданкі.
Здрыгнуліся лаўкі;
А чы так здрыгнуцца,
Як прыданкі пап'юцца!
Гдзе селі — запелі,
Гдзе сталі — заігралі;
Хто з кім прыткнецца,

То і піва нап'ецца,
Дзіва наглядзіцца.

Пачынаецца рух і сваволле. Госці, скачучы па лавах, стараюцца іх перавярнуць і паламаць: гаспадары, каб не дапусціць гэтага, чым-небудзь падпіраюць лавы. Калі гасцям удаецца іх задума, то яны хваляцца, што ім вельмі добра было — дазволілі нават паламаць лавы! Забавам няма канца: закоснікі ловяць курэй, рэжуць, гатуюць — усё дазваляецца, калі маладая вартая таго. У адваротным выпадку гасцям няма ні такога прыёму, ні свабоды ў забавах, усе сядзяць засмучаныя. Ні скакаць па лавах, ні чапаць курэй у такім выпадку ніяк нельга. Наадварот, закосніку часам надзяваюць на галаву хамут і выганяюць. Інакш кажучы, гулянка бывае сапсавана. Пасля сваволля закоснікі садзяцца за стол. Перад імі ўвесь час стаіць гарэлка і закуска. Скрыпач жа маладога, які сядзіць ля закоснікаў, іграе, часам падпяваючы:

I

Мілыя закоснікі!
Чаму ж вы не вясёлы?
Чы вашыя конікі не ў злоце?
Чы ваша сястра не ў цноце?
Гэта ж вашыя конікі ў злоце,
Гэта ж вашая сястра у цноце.

II

На дварэ сняжок прыпаў,
Ой, рана, рана!
У Агаткі Яначка прасіў:
— Агатачка, падай боцікі!
Агатка не паслухала,
Боцікаў не падала.
Вазьму ж я пужку-свістушку,
Да выганю бацькавы гневы,
Да перавярну на свой абычай.
— Закоснікі-панічы,
Чаго едзіце па начы?
— Да мы едзем трапой,
Да за русай касой,
Да за роднай сястрой.

Закоснічак-верабей,
Чаго рана прыляцеў?
Чы есці захацеў?
Дайце яму грэчкі снапок;
Няхай клюець, як петушок,
Няхай скачыць, як белка,
Няхай пяець, як дзеўка.

Музыка і танцы працягваюцца доўга. Перад ад'ездам прыданкам даюць есці. Яны, пасадзіўшы з сабой за стол маладую, спяваюць:

I

Агатка, сястрыца мая!
Стань жа ты ў канцы стала.
Хаця мы нагледзімся,
Пакуль мы раз'едземся.
Агатка, сястрыца мая,
Ужо ж мы дамоў едзем,
Мы цябе наўчаем:
— Уставай ранюсенька,
Мый лаўкі бялюсенька,
Мяці хату чысцюсенька,
Каб табе не ўпікалі,
Што мы ў цябе гулялі.

II

— Паедзеце, сястрыцы, дамоўкі,
Пакланіцеся мамцы ў ножкі,
Што яна мяне маленькую хавала,
Трыццаць ночак цямнюсенькіх не спала,
Пакуль мяне маленькую выхавала;
Сорак свечак яснюсенькіх спаліла,
Пакуль мяне маленькую урасціла,
Урасціўшы, у чужыя людзі пусціла.

III

У чужыя людзі, да чужому дзіцяці,
Свацечка, галубачка з павагай,
Каб не было нашай сястрыцы знявагі.

— Што нам за знявага?
Наша сястра гожа,
Як чырвоная рожа.

Прыданкі ад'язджаюць. Маладая, астаўшыся за сталом, плача. Хто-небудзь з сям'і маладога садзіцца каля яе і суцяшае, як можа.

### ПЕРАЗОЎ

На гэту апошнюю вясельную бяседу малады запрашае важнейшых і найбольш сталых асоб: хросных бацькоў, дзядзькоў, цётак і г. д. Яны прыносяць з сабой лубянкі, напоўненыя пірагамі, мочанымі макам з мёдам; аладкі ў смятане, смажаніну. Матка ўсё гэта дзеліць паміж сваімі. П'юць гарэлку і спяваюць:

У нас сягодня перазоў,
Сам Бог перайшоў,
З святой Тройцай, з Прачыстай,
З усімі святымі, з шчасцем і доляй.

Госці гуляюць даволі доўга. Гаспадары прымаюць іх лепей, чым прыданак. Танцуюць мала. Старэйшыя больш за ўсё гавораць пра будучае жыццё маладой пары. Песні паўтараюцца тыя самыя, што спявалі прыданкі.

## КОЛЯДЫ

Ко-Лядо, паводле разумення гісторыкаў, — назва боства старажытных славян. Урачыстасць прыпадала менавіта на нашае свята Божага Нараджэння. Адсюль і зліццё, сумяшчэнне і перапляценне хрысціянскіх звычаяў з паданнямі, якія бяруць свой пачатак у язычніцтве.

Гэтак як на куццю прыносілі ахвяры з новага ўраджаю з раслін, так на Каляды білі кабана. Да сённяшняга дня звычай гэты захоўваецца. Пра забіццё кабана ў народзе гаворыцца: “Забілі Каляду”, альбо яшчэ: “Забілі к Калядзе”. Сэнс гэтых выказванняў, здаецца, азначае, што кабан забіты на ахвяру Калядзе.

Рэлігійных песень у нас не чуў. На Белай Русі бытуе адна песня, якую дзеля выразнасці мовы цытую:

I

Стары Восіп барадаты,
Спалохаўся, выскачыў з хаты.
Што то, дзеткі, за пракуда?
Неба гарыць, вялікае цуда!
Анёлы хораша спяваюць,
На жалейках прыгожа іграюць,
Кажуць, Хрыстос нам з'явіўся,
У Бетлееме нарадзіўся!

II

Пабяжым мы ўсе да яго,
Прывітаем маленькаго!
Неба і зямлі князь багаты,
Няма ў яго жменькі сенца,
А ні рубца палаценца;
Толькі ж над ім сапець бычак,
З другой стораны — аслічак.

III

Хімка з Агапкай — дзве маладзіцы —
Прынеслі коўш галавіцы;
А Барыс стаіць пад акном,
Дзяржыць чаўхірку з талакном;
Кузьма і Дзям'ян — два ліцвіны —
Прынеслі гаршчок бацвіны.
Прачыстая паглядае,
На ліцвінаў наракае:
— Чаму вы глупы, ліцвіны!
Ня есь мой Хрыстос бацвіны,
Прынясіце кашкі з малачком,
Калі не з мядовым сачком —
За то Хрыстос ласкаў будзе,
Па век векаў не забудзе.

Песня гэта прымяркоўвалася да куцці. Стварылі яе, відаць, езуіты, як і яшчэ адну на беларускай мове — "О мой Божа, веру ў цябе!" Ёсць, акрамя таго, вершаванае набажэнства, даволі папулярнае.

На кожную пару народ наш мае адпаведныя песні, якія хоць і не адзначаюцца нічым асаблівым і, здаецца, аднолькава адносяцца да любога часу, але адрозніваюцца сваім зместам, гучаннем, весялосцю і смуткам, сціпласцю, пустымі нясціплымі словамі і г. д., што і дазваляе прымяркоўваць іх да пэўнага часу. Выпісваю тут адну, калядную, якая, на мой погляд, найлепшая, прыгажэйшая:

Сын у маткі начаваў,
Сын у маткі начаваў, дзіўны сон відзеў,
Дзіўны сон відзеў, дзіўнае дзіва:
З-пад правай рукі сакол вылятаў,
З-пад левай — сакаламаткі...
— Ой, маці, маці, пара ўстаці,
Пара ўстаці, мой сон разгадаці.
Маці ўстала, сон разгадала:
— Ой, сынку, мой сынку!
Ужо у тваім доме праява стала,
Ужо твая жана сына радзіла,
Сына радзіла, сама ня жыва.
— Ой, служкі мае найвярнейшыя,
Закладайце коніка найбардзейшага.
Еду, паеду, мой конь не бяжыць,
Прыеду к гаю — гай не шуміць,
Прыеду к саду — мой сад не зялёны,
Прыеду на двор — мой двор не мяцёны,
Прыеду к стаенцы — мой конік заржаў,
Мой конік заржаў, усю праўду сказаў:
Учора з вячора жонка сына радзіла,
А сягодні рана дзіця асірацела.
Пайду у святліцу, паненкі у чэрні,
Мамкі да нянькі дзіця калышуць.
— Чаго вочачкі зачыніліся?
Чаго з міленькім не відзеліся?
Чаго ручачкі сашчапіліся
Да ўжо з міленькім разлучыліся?

Песня гэта ўмясціла ў сябе шмат паэзіі. Звернем увагу на апісанне паездкі мужа дамоў. Конь найхутчэйшы, паводле слоў песні, не бяжыць, гай стаіць задумёны, не шуміць, сад страціў свой жывы колер, не зялёны, двор бязлюдны, падвор'е не мяцёнае. І калі ўсё ў дарозе толькі прадказвала няшчасце, найвярнейшы конік нарэшце заржаў на стаенцы і пацвердзіў

тое, што здарылася: учора дзіця нарадзілася, а сягоння — асірацела. Кароткае і выразнае паведамленне. Размова мужа з нябожчыцаю-жонкаю таксама дакладная і хвалюючая. Усё тут пры гэтым вызначана укладам, пачуццямі, паэтычнымі вобразамі, і здаецца, што апісаннем займаўся вялікі мастак. Песня гэта належыць да тых, што называюць старымі, даўнімі. Трэба паспяшаць са збіраннем гэтых песень. Народная паэзія таксама мае свае розныя шляхі, квітнее і марнее, змены гэтыя адбываюцца ў непрыкметку, паціху. Да Каляд прымяркоўваюцца таксама некаторыя забабоны і звычаі.

*Забабоны*

Путаюць стол, каб жывёла не таптала пасеваў. Ад захавання гэтага звычаю залежыць лёгкасць спынення і пасадкі пчаліных раёў. Забабоннасць не дазваляе перад Калядамі вязаць мётлы для вымятання печаў. Робяцца яны з сасновых ветак і маюць назву: памяло. За невыкананне гэтага звычаю пярун нібы карае спаленнем хаты. Клубкі, верацёны і праснiцы ў час Каляд старанна захоўваюць, каб у валоў не цягнулася слюна, г. зн. каб былі дужыя, добра працавалі.

*Звычай*

Як недзе ў іншых мясцовасцях на святога Сцяпана праяўляюць увагу да чэлядзі, пра што і прыказка ёсць: “На святы Сцяпан кожны сабе пан”, так у нас бывае на Коляды. Гаспадары і найміты ў гэтыя дні мяняюць свае ролі. Першыя стараюцца ўлагодзіць парабкаў і дзевак, частуюць іх, абяцаюць увагу і спагаду на ўвесь год службы, а тыя набіваюць сабе цану, выказваюць свае скаргі, ідуць дамоў, да бацькоў або сваякоў і прымушаюць сябе ўпрошваць.

**ВЯЛІКДЗЕНЬ**

Свята Wielkiej Nocy (Вялікай Ночы) называецца ў народзе Вялікдзень. Гэта каляндарная ўрачыстасць нашай рэлігіі, калі гаварыць пра абрады і звычаі, якія захаваліся ў простым народзе, моцна пераплятаецца і зблізжаецца з абрадамі і звычаямі ў вышэйшых колах грамадства, і можна сказаць нават, што яны аднолькавыя, з той толькі розніцаю, што пост у простых лю-

дзей выконваецца і захоўваецца значна лепш і па колькасці і па якасці харчавання і прымушае ўвесь народ з найвялікшым жаданнем чакаць лепшага часу — вялікага свята Уваскрэшання.

Пасля набажэнства свяшчэннік асвячае ўбогае свянцонае ў адкрытых кошыках, з якіх выглядаюць розныя ступені беднасці: нястача, як гаворыць народ. Усё асвечанае — святое, мае сваё значэнне, нясе божы дар. Вера замацоўвае ўсё гэта. Абрус, на якім асвячалася свянцонае, засцерагае ад граду, калі яго своечасова ў час навальніцы разаслаць на двары. Косці ад свянцонага з гэтаю ж мэтаю закопваюць на ніве, даюць сабакам, каб засцерагчы ад шаленства, і г. д. На святы Вялікдзень суседзям не даюць агню: з агнём нібы выносіцца з хаты і шчасце.

Валачобнікі. Пасля заканчэння першага дня Вялікадня вечарам валачобнікі пачынаюць свае паходы: абыходзяць свае ўласныя двары, дамы шляхты, багацейшых аднавяскоўцаў. Стаўшы пад акном, дружына ў складзе галоўнага спевака—пачынальніка, памочнікаў, скрыпача і механошы бойка, энергічна спявае наступную песню:

Хрыстос васкрос! (тры разы паўтараюць)
Ішлі, прышлі валачобнікі,
Іграючы, спяваючы,
Добрага пана шукаючы.
— Добры вечар, пане гаспадару!
Чы спіш, чы ляжыш, пане гаспадару?
Калі ж да спіш, Бог з табою,
Калі ж ня спіш, моў са мною.
Адчыні акно, пaглядзі на двор:
На тваім дварэ стаіць шацёр,
Навюсенькі, бялюсенькі,
А ў тым шатры залатое крэсла.
На том крэсле сам Бог сядзіць,
Перад Богам усе святкі
Шыкуюцца, рахуюцца,
Катораму святу наперад пайці?
Святыя Саракі наперад пашлі,
Святы Аляксей сохі чэшыць,
Святое Благавешчанне заворуець,
Святы Вербіч вярбу пасвячаець,
Чысты Чацвер ячмень засяваець,
Святое Вялічка з красным яечкам,
Першы дзень пірагі маюць,
А сярэдні дзень пагуляюць,
А паследні дзень выпраўляюць.
Радаўніца — статак запасываюць,
Святы Юрай — Божы пасол,

Божы пасол да Бога пайшоў,
А ўзяў ключы залатыя,
Адамкнуў зямлю сырусеньку,
Пусціў расу цяплюсеньку
На белы цвет і на ўвесь свет.
Святы Барыс бабы сееoriginally,
Святы Мікола па межах ходзіць,
Па межах ходзіць, жыта родзіць:
Урасіўся, умачыўся,
Пад залаты пояс падаткнуўся.
Святы Ушэстнік — жыта выплываець,
Святая Сёмуха навозы возіць,
Навозы возіць і Бога просіць.
Святы Дзявятнік жыта раўнуець,
Святая Дзесятуха жыта красуець,
Святы Іван пчолы садзіць
Перад пералазам па шасцёра разам.
Святы Пятро жыта спеліць,
Святы Кузьма сярпы робіць
Залатыя, новыя, сталёвыя.
Святы Паўлюк граблі робіць,
Святы Дзям'ян сена грабець,
Святы Ілля — слаўная жняя.
Святы Барыс снапы зносіць,
Святыя Ганны дамоў возяць,
Святы Спас жыта пасвянчаець,
Святая Прачыстая папары мяшаець,
Папары мяшаець і засяваець,
А другая ёй памагаець.
Святое Узвіжанне з поля збіраець,
Святы Міхайла з халодным ветрам,
Святы Пакроў зямлю пакрыў,
Зямлю лістом, а ваду лядом.
Святы Юрай грудай гвоздзіць,
Святы Мікола снегам мосціць.
Прыйшлі Калядкі — гаспадаром парадкі.
Святая Васілля дзяжу мясіла,
Пірагі пякла і рагатыя і букатыя.
Святое Вадохрышча ваду пасвячаець,
Ваду пасвячаець, людзей пакрапляець.
Святыя Грамніцы свечы пасвячаюць,
Прыйшлі Саракі да другіх Саракоў.
Дай жа, Божа, гаспадаром здароўе,
Дай жа, Божа, каб жыта радзіла
На ніве капамі, а ў гумне сціртамі,
На таку умалотам, а ў арудзе спорам,
У арудзе спорам, а ў прудзе намолам,
У дзяжы падходам, а ў печы ростам,
У печы ростам, на стале сыццем.

Гаспадарок, дары гасцей,
Дары гасцей, не баў, баржджэй!
Нашы дары невялічкі, у дзверы ня лезуць,
У дзверы ня лезуць, у акно шыюць.
Пачынальніку — капу яец,
А памагальнічкам — па дзясятачку,
Для механоша — тры грошы.
Музыцкая доля — што даюць, бярэць тоя.
А не дарыш — прасі ў хату!
Мы на тое прыступаем,
Кварту гарэлкі,
Сыр на тарэлкі,
Хрыстос васкрос!

Запісана гэта песня ад жывых выканаўцаў, валачобнікаў з ваколіц Бярэзіны, а міль праз дзесяць, над ракой Гайнай, яна спяваецца ўжо крыху інакш, і там, дзе гэта тычыцца земляробчага календара, і віншавання, нават адносна валачобнага, напрыклад: "Дары, гаспадару, слаўны мужу, гэтым дарам не выдасіся (не збяднееш), зажывеш ад Бога хвалы, а ад людзей славы". Калі нічога не далі, што можа здарыцца толькі там, у тых дварах, дзе падобнае віншаванне даўно ўжо не ўзнагароджваецца, тады адразу, не губляючы гумару, крыху адышоўшы, спяваюць:

Перайшлі сяльцо, знайшлі яйцо,
Перайшлі другое, згубілі і тое.

Уся песня з уступам, заканчэннем і вельмі сціплымі прыгаворкамі не вымагае падарункаў — гэта хутчэй поўны земляробчы каляндар з пералікам усіх гаспадарчых работ. Гэта своеасаблівая павучальная песня пра земляробства, у якой багатыя народныя ўяўленні дапамагаюць маладым слухачам авалодваць пэўнымі ведамі. Усе святыя тут нешта робяць, жывуць жыццём земляробаў — святы Мікалай па межах ходзіць, урасіўся, умачыўся, пад залаты пояс падкасаўся. Усе святыя маюць занятак, падзел працы, прапанаваны эканамістамі для яе ўдасканалення і плёну тут ужо на самым высокім узроўні. Калі б, далёка жывучы ад нашай краіны, давялося пачуць толькі адну гэту песню, хіба не было б дастаткова для ўяўлення аб нашым клімаце і здольнасцях народа, які ў такой сціслай форме, у песні выкладае ўсю сваю земляробчую навуку?

## КУПАЛЛЕ

Наш народ, ні ў чым не здраджваючы хрысціянству, з павагай ставіцца да традыцый і звычак сваіх старадаўніх вераванняў. Далёкае мінулае не губляе для яго сваёй прыцягальнай сілы, не перастае вабіць. У ім застаецца неўміручая свежасць. Шчаслівы гэта быў час, калі чалавек быў свабодны, не было ў яго вялікіх патрэб, не абліваўся гарачым потам, даваў сваім уладальнікам крыху мёду з борці, скур з дзікага звера і нейкую ахвяру з незлічонага статка жывёлы, якая пасвілася на неабсяжных прасторах.

Свята Купалы адзначалася, як вядома, перад святым Янам. Адзначалі яго не толькі славяне, але і многія еўрапейцы. Ушаноўвалі ўсёмагутнае боства Купалу, апякунку плоднасці. Назва гэтага боства, магчыма, паходзіць ад купы, г. зн. мноства, багацця, дастатку і агню, або ад выразу "купалле", бо і тая і іншая стыхія, як вада, так і агонь, служыць у гэты дзень сродкам для ачышчэння ад грахоў, пра гэта і ў песнях гаворыцца. Але не ва ўсіх славянскіх краінах гэтае свята адзначаецца аднолькава. Вучоны ксёндз Богуш Сестранцэвіч, даследчык славянскіх і сармацкіх помнікаў, пішучы пра Кіеў, паведамляе, што статуя гэтага боства знаходзілася ў Кіеве, і далей тлумачыць гэтак: "Свята Купалы бярэ пачатак у глыбокай старажытнасці, з часоў пакланення славян язычніцкім багам. Па сённяшні дзень гэтае свята адзначаецца з усімі абрадамі. Купала як святая творчая сіла з'яўляецца боствам плоднасці". Ахвяры яму прыносілі перад пачаткам жніва — 24 чэрвеня. На полі ў гэты дзень раскладвалі вялікія агні, а моладзь, упрыгожаная вянкамі з жывых кветак, танцавала вакол іх і прыпявала вясёлыя песні. Для засцярогі хатняй жывёлы, дамашняга статка ад усялякага ліха, якому сатыры быццам маглі ўчыніць нешта непрыемнае, жывёлу прымушалі скакаць праз агонь. Цяпер у ноч перад святым Янам гэты абрад выконваецца ў кожнай украінскай вёсцы. Раскладанне агнёў не ўсюды можна заўважыць, але дзе гэты звычай захаваўся, хлопцы і дзяўчаты працягваюць скакаць праз агонь — для засцярогі сябе і жывёлы ад уздзеяння чараўніцтва і вядзьмарства. Найчасцей гэтае язычніцкае свята адзначаюць дзе-небудзь, уваткнуўшы дрэўца, на лузе. Дзяўчаты збіраюцца ў кола, бяруцца за рукі, спяваюць песні і кружацца. Хацелася б даведацца, ці не захаваўся ў

гэтых песнях успамін пра старадаўняе боства Купалу, але акрамя слоў пра каханне ніякага напамінку пра ўшанаванне боства Купалы заўважыць не ўдалося. Дрэва, якое садзяць (умацоўваюць) у цэнтры гуляння, відаць, сімвалізуе постаць Купалы. Людзі не ведаюць, адкуль паходзіць гэтае традыцыйнае свята. У нас, у Барысаве, гэты дзень адзначаецца наступным чынам. З надыходжаннем вечара распальваюць у канцы вуліцы агонь, у тым ліку з зялёных галінак, ужываючы для падпалкі так званыя атопкі, або інакш рэшткі лапцяў, якія цэлы год праляжалі на страсе хаты. Збіраецца моладзь з усёй вёскі. Жанчыны прыносяць усялякія пачастункі. Падмацаваўшыся і абудзіўшы гарэлкаю да ўсяго вялікі спрыт і ахвоту, пачынаюць танцаваць і спяваць купальскія песні. Танцуюць і спяваюць пад музыку. Першая, уступная песня — з вымовою тым, хто не прысутнічае:

Сонца грэець,
Калода прэець;
Сонца пячэць,
Калода цячэць.

Песні і танцы працягваюцца даволі доўга, пачастункі і піццё не спыняюцца да позняй ночы, потым спяваецца наступная песня:

II

Сягоння ў нас Купалле. То! То! То! То!
Сам Бог агонь раскладаў,
Усіх святых к сабе сазваў.
Толькі нету Іллі з Пятром.
Пайшоў Ілля каля жыта.
Чыё жыта добрае, харошае?
Сцяпана найлепшае.
Сцяпан будзе піва варыць,
Сына жаніць, гарэлку гнаць,
Дачку замуж аддаваць.

Кожны радок песні заканчваецца прыпевам: "То! То! То! То!" альбо: "Божа наш!" Першапачатак песні захаваўся з найдаўнейшых часоў: "Сам Бог агонь раскладаў". У старадаўніх немцаў, як піша паважаны Юцэвіч, ужываўся святы агонь,

здабыты трэннем дрэва аб дрэва. Ці ж гэтая наша песня не расказвае пра тое ж самае?

Потым спявалі купальскую песню, у якой гаворыцца пра купанне:

III

Дзве сястрыцы купаліся. Божа наш!
Пакупаўшыся, на бераг выйшлі,
На бераг выйшаўшы, гаварылі:
Ня Бог нам даў двом сястрыцам,
Умесце раслі, на розна пашлі,
Нашы кароўкі паразвядзёны,
Нашы кубялкі паразвожаны.

Ёсць яшчэ адна песня пра ятровак (братавых), якая заканчваецца словамі: "Ой, Бог нам даў, двом ятровачкам // Не разам раслі, уместа сышлі" і г. д.

IV

Цераз горачку тры сцежачкі. Божа наш!
Ішлі туды тры дзевачкі.
Адна ішла у золаце,
Другая у аксаміце,
Трэцяя у розуме.
Што у золаце, то Васількова,
Што ў аксаміце, то Максімава,
Што у розуме, то Яначкава.
Я золата хоць прыпазычу,
А коніка хоць прыкуплю,
А розуму ані ўцяць, ні ўзяць.

Кожны радок заканчваецца прыпевам: "Божа наш!"

V

Ель мая зялёная,
Свякроўка шалёная:
Загадала мне тры дзела дзелаць.
Першае дзела — у нядзелю адзежу жлуктаць,
Другое — на моры бяліць,
Трэцяе дзела — верх лесу сушыць.
— Свякроўка, матачка!
Я не татарка, у нядзелю жлуктаць,
Я не вутачка, на моры бяліць,

Я не сонейка, верх лесу сушыць,
Я не зорачка, па небе качаць,
Я не шчурачка, у арэшку складаць.

Ва ўсіх песнях свякроўкі паказаны аднолькава, як бязлітасныя і лютыя ў адносінах да сваіх нявестак.

У іншых народаў, у ліцвінаў і ў жыхароў Карпацкага краю, у гэты час адзначаюць свята Лады (Ладо). Іх багіня Ладо — апякунка сям'і і шлюбу. У паўсядзённым ужытку слова "ладзіць" азначае згоду, узаемаразуменне. Свята гэтае адзначаецца адначасова і нашым Купаллем. Таму, магчыма, і змест купальскіх песень не выпадкова прысвячаецца каханню. Але ці апякала Купала сямейную згоду, ці не было свята Лады і нашым святам — пра гэта трэба яшчэ даведацца, трэба высвятляць.

У дзень святкавання Купалля адбываюцца незвычайныя з'явы ў прыродзе: сонца іграе, дрэвы, жывёлы і ўсе жывыя істоты гавораць паміж сабою, чэрці гарцуюць на конях, смела разгульваюць русалкі і г. д.

Усе людзі так або інакш удзельнічаюць у святкаванні Купалля. Кожны, як хто можа, шукае шчасця: хто весяліцца каля агню, спявае, танцуе, іграе, хто есць, п'е, гуляе. Хлопцы, ведаючы патаемныя думкі сваіх дзяўчат, хочуць абавязкова знайсці ў гэты вечар скарб, каб стаць багатымі. Менавіта ў гэты час, на Купалле, наступае пара шукання скарбаў, якія выходзяць з-пад зямлі, перасушваюцца ў выглядзе полымя, перакідваюцца ў катоў, жывёл. Але не так лёгка іх узяць — трэба мець адвагу і шчасце, быць уладальнікам кветкі папараці. Не кожнаму ўдаецца ўзяць гэты скарб. Дык ці не лепей адкласці задуму да пярэдадня святой Тройцы, калі нячысцікі, уладальнікі гэтых скарбаў, збіраюцца ў пекла на нараду і робяць там справаздачу аб сваёй рабоце. Хто моцна хоча адшукаць патаемны скарб, адпраўляецца начаваць у вялікі папаратнік. На гэта патрэбна адвага, бо сапраўдныя русалкі і нячыстыя духі, пакрытыя ад галавы да пят валасамі, не аднойчы палохалі адным сваім выглядам, падсцерагалі і не такіх смельчакоў, — калі парушалі мяжу дазволенага, каб стаць багатымі, хапалі і казыталі, пакуль дух выйдзе. Жывымі заставаліся толькі знахары. Так і ў сапраўдным свеце: часта ёсць і рашучасць, але няўменне губіць усю справу. Папараць

бывае двух відаў: глухая найлепшая. Кветку на ёй хутчэй знайсці. На Белай Русі, як сведчыць пан Юцэвіч, захавалася паданне пра хлопца, якому ў ноч перад святым Янам уваткнулася ў лапаць кветка папараці — гэта адкрыла яму дар бачання схаваных скарбаў. І толькі калі страціў лапаць з кветкаю, страціў і дар адчування і бачання навакольнай прыроды.

Не спяць у гэтую ноч і ведзьмы, робяць усялякае зло непрыязным суседзям, адбіраюць у кароў малако. Робяць жа яны гэтак: збіраюць у суседзяў на агародах расу і даюць сваім каровам выпіць. Наколькі прыбавіцца малака ў сваёй каровы, настолькі менш будзе ў суседзяў. Але ёсць управа і на ведзьмаў. Трэба толькі давесці да кіпення на лазовых дровах цадзілку з-пад малака — гэта прымусіць ведзьму цярпець вялікую муку, прыйдзе прасіцца, але ў гэтым выпадку асцерагайцеся, каб, адпраўляючы ведзьму, не дазволіць ёй ухапіць з двара ні трэскі, ні жменькі зямлі. Засцерагаючы сябе ў гэты час ад чараўнікоў, якія насылаюць жаб на кароў, каб смакталі малако, людзі вешаюць на варотах хлявоў замкі, грамніцы і крапіву-жыгучку. Жывёла ў гэты дзень вяртаецца з поля, упрыгожаная вянкамі палявых кветак на рагах. Вянкі застаюцца на ўсю ноч, назаўтра іх свецяць у царкве. Патрэбна ўсё гэта будзе для абкурвання жывёлы, калі здарыцца хвароба. На гэтых кветках дзяўчаты варожаць, збіраюць васількі, браткі — пакуль навыбіраюць 12 гатункаў; ідуць затым на растанцы дарог, там моляцца анёлам, пасля ідуць дамоў, моўчкі, нікому не гаворачы ні слова, кладуцца спаць, і пэўне павінен прысніцца суджаны. Коней у гэту ноч не водзяць на начлег, баючыся, што нячысцік выкарыстае іх у сваіх мэтах. Гэта добра ўсе ведаюць, упэўнены. Усе заняты ў гэты час рознымі перасцярогамі, а земляробы больш за ўсё клапоцяцца за свае палеткі, надзелы або шнуры, як іх у нас называюць, і на кожным рагу ўбіваюць асінавы кол, на вярху ўмацоўваюць каменні, якія нібы засцерагаюць ад граду. Вядома, што купанне і агонь служылі для ачышчэння ад грахоў, аб чым гаворыцца і ў саміх песнях. Паважаны Юцэвіч таксама ў сваёй працы пра Літву ў святле старажытных паданняў гаворыць, што горы і ўзбярэжжы рэк з'яўляюцца святыняй у час святкавання Купалля, на гарах раскладваюць агонь, праз які пераскокваюць, у

рэках купаюцца, каб пазбавіцца ад грахоў і хвароб на цэлы год. У нас не паўсюдна захаваліся купальскія абрады без змяненняў, часта спыняюцца на спальванні атопкаў, паляць іх на сваім толькі двары, без вялікіх гулянняў, ёсць і такія, што цалкам слухаюцца ксяндзоў, не заўважаюць Купалля. Але ж усюды нам даводзілася пры гэтым назіраць, што дзе народ свабоднейшы, жыве ў лепшых умовах, там і больш клапоціцца аб сваіх духоўных багаццях, а дзе жыве нястача, там усе гэтыя старадаўнія паданні яго не цікавяць. Бяда, як гаворыць прыказка, вучыць розуму, але ж, відаць, і плату за гэта добрую бярэ, бо прытупляе ўсе пачуцці, якія ідуць з глыбіні душы, ад несапсаванага шчырага сэрца.

### ДАЖЫНКІ

Пасля заканчэння жніва на ўсіх палетках панскага поля бяседа, якую спраўляюць паны для сялян, называецца дажынкамі. Імі адзначаецца паспяховы збор ураджаю і ўдзячнасць паноў сялянам за іх працу. У добрых і багатых паноў дажынкі бываюць двойчы: жытныя — малыя і агульныя — вялікія, калі ўсё з поля сабралі. Ёсць мясцовасці, дзе паны дажынак не спраўляюць, а замест іх на свята Божага Нараджэння і ў Каляды раздаюць пэўную меру гарэлкі. Прапанаваць усёй грамадзе вясёлую бяседу з удзелам самога гаспадара або, як робяць многія шаноўныя памешчыкі, калі танцам (паланезам) вабяць і запрашаюць да сябе сваіх добрасумленных сялян, — гэта зусім не тое, што раздаць крыху гарэлкі па хатах і абмежаваць гулянне ў ціхім сямейным коле. Сапраўдная весялосць патрабуе гурту. Трэба лічыцца з інтарэсамі грамады, ведаць, як ім гэта новая мода не да смаку.

Увесь цяжар працы ў час жніва бяруць на сябе жанчыны. Мужчыны ў нас толькі калі-нікалі памагаюць вязаць і насіць снапы. Песні ў час жніва спяваюць розныя: асобныя, калі плятуць вянок, іншыя, ідучы ўвечары з поля, яшчэ іншыя, падыходзячы к панскаму дому. Уручэннем вянка і віншаваннем заканчваецца абрад і спяванне. Красамоўная прыгажуня, дзяўчына або замужняя жанчына, маладзіца, аддае пану вянок. Павіншаваўшы, яна робіць крок наперад і схіляе галаву, упрыгожаную вянком з каласоў. Пан здымае вянок, дзякуе жнейкам за поспехі ў працы і заканчэнне жніва, жадае гэтак і надалей разам з імі сеяць і ўбіраць ураджай і, нарэшце, узнагароджвае яе і спявачак: пачынальніцу і памагальніцу. Тут жа перад домам пачынаецца частаванне гарэлкай і хлебам, з якім паны маюць звычай сустракаць. Потым

усёй грамадой завальваюцца ў панскія пакоі на гулянку, якая працягваецца да дня, а назаўтра абед і зноў гулянка.

## ПЕСНІ, ЯКІЯ СПЯВАЛІСЯ НА ДАЖЫНКАХ

У час жніва спяваюць:

I

Золата маё, золата,
На таку малочана,
На стале пасыпана.
Хто золата палічыць,
Той на вайну не паедзець.
Наш пан маладзенькі
Золата палічыць,
На вайну не паедзець,
Пашлець служку маладога
І каня варанога.
Конік будзе гарцаваці,
Служка ваяваці,
А наш пан панаваці.

Гэта песня яшчэ з тых часоў, калі паны і шляхта павінны былі ўдзельнічаць у ваенных паходах.

II

Да зялёны бор, зялёны
Над усімі барамі,
Да славёны наш пан
Над усімі панамі.
У нашага пана
Куна на дварэ іграе,
Сабаля вызывае:
— Собалю, собалю,
Пагуляем з табою,
Развесялім свайго пана
І паню маладую,
І чалядку вясёлую.

Песня, якую спяваюць, ідучы з поля, са жніва, наступная:

У нас сягоння вайна была,
Усё поле зваявалі:
Змялі поле мяцёлкамі,

Ідзём дамоў вясёлкамі.
Ніўка мая, ніўка,
Аддай маю сілку!

Падыходзячы бліжэй да панскага двара, спяваюць:

I

Да гудзець поле, гудзець,
Талака з поля ідзець.
Наш панок, не ўлякайся,
У пакоі не хавайся,
Выкаці бочку піва,
А другую гарэлкі,
Мы, жнейкі, нежаўнеркі,
Не пап'ём усёй гарэлкі.
Наша пані міла,
Дасць нам белага сыра.

II

Дубочак зеляненькі,
Наш пан маладзенькі.
Ляшчына зелянейша,
Наша пані маладзейша!
Шчасце, долю маюць:
Рана з поля збіраюць.

III

Галубок
Бабок
Шчыплець,
А галубка —
Сачавіцу.
Наш панок
Мядок
Сыціць,
А пані —
Гарэліцу.

Перад самым вечарам, збіраючыся плесці вянок, спяваюць:

Канец ніўцы, канец!
Упляцём пану вянец.
Да ўжо жніво ля канца,
Нуце, дзевачкі, да вянца!
Нуце, да вянца!..

Падносячы пану вянок, усяляк прыказваюць. Змяшчаю тут рацэю, з якой відаць, што яна была складзена не для сучасных паноў, якія ўжо не звяртаюць увагі на конную язду, а для паноў-рыцараў, для якіх добры конь, прыгожае яго ўбранне былі прадметам неабходнасці: "Нех бендзе пахвалёны Езус Хрыстус! Прынясі пану вянок з шырокага поля, з ядранога жыта. Наш пан малады, конь вараны, сядло золатам вышыта, брыльянтамі выбіта. Наш пан на коніку войска куець, сваё рыцарства даказуець; да служкі гавора: "Улажыў бы я саболі, але конь сваволі, не ідзе лукаве, мне собаляў бракуе". Пан свайго рыцарства не страціць, нам за вянок заплаціць, хоць чырвоны злоты для нашай ахоты, жыту на ўраджай, а пану на доўгі век. Пану вянок, а нам гарэлкі збанок". З песні і абрадавай размовы відаць, што ў іх гучыць і вялікі давер, і дастатковая сціпласць, шанаванне гаспадара, услаўленне багаццяў, узвелічэнне высакароднасці і чалавечнасці. Паважаны Юцэвіч памыляецца ў сваім тлумачэнні адной з песень з ваколіц Дзвіны. Змест гэтай песні зводзіўся нібы толькі да вымагання платы. Але разумець песню ў літаральным значэнні нельга. Для пацверджання нашай думкі прывядзём тут прыклад з працы Л. Галамбёўскага, як, напрыклад, можна зразумець і растлумачыць словы "шчодры вечар" перад святам Трох каралёў. У гэты дзень раздавалі дзецям падарункі, выпякалі пшанічны хлеб, булачкі, называлі іх шчадроткамі. Дык пра гэтыя шчадроткі дзеці бедных сялян выпытвалі: "Чы пяклі шчадроткі, булачкі? Дайце ж і нам! Узнагародзіць вас пан Езус і святы Ян!" Падзяка іх была добразычлівая, не без гумару: "Няхай у вас расце пшаніца, як рукавіца, а ячмень, як конь!" Там, дзе нічога не давалі, у сваю няўдачу ўкладвалі такія словы: "Калі не мясіла, бадай жа павесілася!" Дзеля жарту гаварылася гэта ўсё, вядома. Бо інакш, які б тады быў помслівы і зацяты наш народ ад самага свайго пачатку. Так

вось паважаны Галамбёўскі выразна і дакладна расшыфроўвае гэтую непаслухмяную прымаўку.

А вось песня, у якой выказваецца скарга на познюю працу на жніўным полі:

Да іграла солначка,
Ня многа іграла,
У хмурку схавалася,
Дажджу баялася.

Камарочкі мае,
Не кусайце вы мяне,
А кусайце вы паноў,
Што не пускаюць дамоў.

## ПРЫКАЗКІ ЖЫХАРОЎ З ВАКОЛІЦ БЯРЭЗІНЫ — ПАКАЗЧЫК ВЫСОКАГА ІНТЭЛЕКТУАЛЬНАГА РАЗВІЦЦЯ НАРОДА

Прыказкі як скарбы думак, якія бытуюць у паўсядзённым ужытку, робяць свой пэўны ўплыў на выхаванне і станаўленне падрастаючага пакалення. На гэтым жа грунце будзе ў далейшым развівацца і складвацца народны характар. Народная паэзія знаёміць нас з пачуццямі простых людзей, прыказкі — з іх думкамі. Такое, у двух гэтых заходах, азнаямленне з народнымі творамі можа быць зусім дастатковым, каб зрабіць вывад аб высакародным духоўным абліччы нашага народа. Угледзімся ж у гэтыя рысы народнага характару. Напамінак аб крэўным сваяцтве абуджае ў нас агульную ўзаемную прыхільнасць, гэтак карысную і патрэбную ў розных выпадках жыцця. Нарэшце, відаць, правільным будзе сказаць, што прыказкі, якія я тут сабраў, у значнай частцы сваёй з’яўляюцца прыказкамі нашых сталых жыхароў. І ўжо сама гэта акалічнасць можа служыць для іх толькі пахвалою.

### *Прыказкі гістарычныя*

Простыя людзі, не прымаючы ніякага ўдзелу ў палітычным жыцці народа, гэтак жа мала захавалі і сваіх паданняў з мінулага. Неўміручымі аказаліся толькі некалькі прыказак з лепшых часоў.

Узяла погань моц. — Прыказка гэта павінна была ўзнікнуць тады, калі ліцвіны панавалі над русінамі, якія ўжо прызнавалі Хрыста. Ужываецца для пацверджання той ісціны, што вераломныя людзі перамагаюць няхітрых, пра якіх у народзе гавораць: “Не былі там, гдзе Хрыста прадавалі”.

Як быў Сас, было хлеба з нас.

За Саса было хлеба і мяса.

Настаў Панятоўскі, стаў хлеб не такоўскі.

Нашы дзяды не зналі бяды, але ж унукі набраліся мукі.

Не чыні смерду дабра, не любі яго жонкі. — Смерд, які вышэй ставіў добрую славу сваёй жонкі і свайго дому, чым ласку князя, і павінен быў даць пачатак гэтай прыказцы. Тут датычыць людзей, якія адхіляюць чужую ласку.

### *Набожныя*

Рэлігійнае выхаванне народа не магло быць занядбалым, калі ёсць прыказкі, у якіх захаваўся такі давер, надзея, уцеха і адзіны шлях да Бога. Адсюль і такая набожнасць у народзе, а часцей яшчэ і вера.

Перад Богам усе мы роўныя.

Над сіратою Бог з калітою.

Бог болей мае, як раздаў.

Уся надзея на Бога.

Чалавек так, а Бог інак.

Калі Бог дасць дзеткі, дасць і надзеткі.

Ад напасці не прапасці.

Бог ад нас адступіў.

Без Бога нічога.

Як мы да Бога, так Бог да нас.

Калі трывога, уцякай да Бога.

Благаслаўлю цябе, дзіцятка, на ўсё добрае, а на благое і сам дагадаешся. — Схільнасць да зла ідзе ад прыроды.

*Забабонныя*

Забабоннасць жыве, бытуе часткова ў выніку ўласцівага людзям пачуццёвага погляду на прыроду і часткова таму, што моцна трымаецца на карэннях язычніцтва.

Дай, Божа, у добры час гаварыць, у благі памаўчаць. — Так званае веданне злой і добрай пары часу, што з'яўляецца таямніцай чараўніц.

Гэта ўжо наслінена. — Калі воўк параніць хатнюю жывёліну, хоць яе і вылечаць, гавораць, што ўжо ўсё роўна з'есць воўк. Адсюль, калі што-небудзь ужо распачата, гавораць, што ўжо наслінена, г. зн. павінна быць закончана.

Чорт яго ў жлукце выседзеў. — Гэтак гавораць пра нядобрага чалавека. Жлукта — пасудзіна, у якой жлукцяць, заліваюць шчолакам грубую бялізну.

І Бога хвалі, і чорта не гняві. — Таварыская палітыка.

Воўк яму дарогу перабег.

Падмануў мяне, як чорт добрую душу.

Схавай тры грошы на зязюльку. — Хто першы раз вясною пачуе зязюльку і мае пры сабе грошы, спадзяецца, загадвае, варожыць, што грошы ў яго будуць не выбываць цэлы год.

Калі заб'еш бабра, не будзеш мець дабра. — Не ўберагло гэта, аднак, баброў ад амаль поўнага знішчэння.

Меў чорт урадзіцца, да пятух запеў. — Так гавораць пра нягоднікаў.

Чорт без балота не будзець, а балота без чорта. — Пра змену паноў, начальнікаў, радцаў.

Благія вочы, благая рука.

### *Адносіны падданых з панамі*

Бог высока, пан далёка.

Свой пан і пакараець і пажалееець.

Пан наш, а мы панскія. — Прыказка гэта часта ўжываецца з двайным сэнсам (падтэкстам). Нядаўна паны лічылі мужыка, яго працу — крыніцу багацця і ўсю ўласнасць сваёю; мужык у сваю чаргу панскую маёмасць ацэньваў як агульную ўласнасць. Украўшы авёс з панскага поля, мужык апраўдваўся тым, што скарміў яго панскім коням: "Я ж нігдзе падзеў, панскае дабро, панская ж і скацінка". Просячы дапамогі, гавораць: "Да каго ж мы пойдзем? Пан наш, а мы панскія". Украсці ў пана, паводле іх разумення, не грэх: "гэта ж наша праца".

Пан панам будзеш. — Схіляючы да шчодрасці.

Гэта а́тлас. — На знешнія адзнакі панскага багацця мужыкі заўважаюць: "не атлас, а ад нас". Пачатак прыказкі досыць забаўны. Пан, паказваючы мужыку атлас, сказаў: "гэта атлас", а той яму на гэта, нібы нічога не разумеючы і ўсё ведаючы, адказаў: "ага, ад нас".

Ласка панская толькі да парога.

Не так дакучна ад паноў, як ад панянят. — Паняняты — гэта радцы, намеснікі.

Граза ў лес не ідзець.

У вала язык доўгі, да гаварыць не можа. — Страх перад панам. Боязь пана.

Трудна проці ветру дыхаць.

Прасіў пан на талаку, не прыйдзеш — залаб павалаку. — Просьба мацнейшага азначае загад.

У няўмекі рукі не баляць. — Здольнейшых часцей выкарыстоўваюць паны.

Скажы, уража, як пан кажа.

Паны дзяруцца — мужыкам чупрыны трасуцца.

Будзе чым дзела запхнуць. — Прымаючы на службу парабка або наймітку, не здатных да працы або лянівых, кажуць, што згодзяцца для адбыцця паншчыны. Гэтым тлумачыцца, чаму існуе думка, што паншчына перашкаджае развіццю эканомікі краю і росту багаццяў.

Каб на панскі розум да не нашая хітрасць, прапалі б.

Не даясі, і карэту прадасі. — Вясною, калі сялян данімае голад, адзенне і земляробчыя прылады часта ідуць у залог, паны наказваюць іх, а мужыкі, вяртаючыся з двара дамоў, гавораць пра сваіх недалёкіх паноў: “Як не даясі, то і карэту прадасі”.

Калі не вераць, не бажыся, калі б’юць, не прасіся.

*Жыццёвы вопыт і сумленне*

Розум і сумленне народа ў прыказках, паводле законаў жыцця, накіраваных на паляпшэнне свайго быту без страт для суседзяў, залежаць не толькі ад Бога, але і ад сваёй зацікаўленасці, бо народнае сумленне ідзе не толькі ад сэрца і рэлігійных перакананняў, але і ад розуму.

Круцячы, свет пяройдзеш, да назад не вернешся.

Век зжыць — не мех сшыць. — Часта гавораць тым, хто збіраецца жаніцца або выйсці замуж.

Людзей слухай і свой розум мей.

Пытайся не ў старога, а ў бывалага.

Без працы не есць калачы.

Не так скора станець добра, як блага.

Не кайся рана ўстаўшы, з моладу ажаніўшыся.

Ранняя птушка зубкі цярэбіць, позняя — вочкі.

Калі не кракала варона у гару летучы, то уніз і подаўна. — Хто чаго ў моладасці не дасягне, то пад старасць яму тым больш цяжка зрабіць.

Калі гаспадар скачэць, пэўне, статак плачэць.

Дай, Божа, усё ўмець, да не ўсё рабіць.

Гэта на руках не ляжыць.

Чужымі рукамі добра толькі жар заграбаць.

Свая ручка не ліхадзейка.

Адклад не ідзець у лад.

Памалу, далей станеш. — Справу вырашае цвёрдая вытрымка, не часовы поспех.

Не зведаўшы броду, не лезь у воду.

Узяўшыся за гуж, не кажы, што не дуж.

За дурной галавой нагам бяда, непакой.

Адзін дасуж, да не дуж.

Адзін і ў кашы не спорны.

Ваду гатуючы, усё вада будзець; З пустой пасудзіны і Саламон не нальє. — Прыказка гэта датычыць пустой гаворкі, асабліва калі трэба спыніць яе.

Пры гатовай калодзе лягчэй агонь раскладаць.

Хто скуп — не глуп.

Бі сароку і варону — даб'ешся белага лебедзя.

Трэба жыць, як з твайго калодзезя набяжыць.

Не слаўна хата вугламі, да пірагамі.

Не ўрадзіўся мак. Перабудзем і так.

Хацела б душа да раю, да грахі не пускаюць. — Непрадбачлівыя страты ў маладосці або іншыя памылкі не дазваляюць дасягнуць пэўнай ідэі, нешта здзейсніць.

Гараваўшы, гараваўшы, умірай не скаштаваўшы. — Гавораць пра тых, што многа напрацаваліся і мала спажывалі. Датычыць гэта таксама ашчадных людзей, якія не ведаюць меры ашчаднасці.

Са шчасцем добра і ў грыбы пайсці. — Праца, ашчаднасць — усё гэта выдатныя рэчы, але толькі тады, калі побач шчасце (благаславенне неба).

Сцеражонага Бог сцеражэ.

Не ўвесь свет у акне. — Раяць шукаць лёсу.

Усюды добра, дзе нас нет.

Шануй адзежку дома — пашануець яна ў людзей.

Хлеб з лапаты сапхнуў. — Калі хто не ўмеў цаніць сваё выгоднае становішча, страціў месца або ласку.

Лепей з добрым згубіць, як з благім знайсці. — Лепей не мець ніякіх спраў з дрэннымі людзьмі.

Ласка — не каляска, сядзеш — не паедзеш.

Бягучага ваўка добра хоць за хвост хапіць. — Ад ненадзейнага даўжніка хоць што-небудзь узяць.

Чужымі слязамі не разжывешся.

Бог не цяля — пазнаець круцяля. — Шанаванне найвышэйшай божай ацэнкі.

Добрае чуваць далёка, а благое яшчэ далей. — Упэўненасць у справядлівасці грамадскай думкі.

Круці, не круці — трэба ўмярці.

Хто часнаку не еў, таго душа не ваняець. — Пра бездакорнае жыццё, добрыя паводзіны і чыстае сумленне.

Хто парася ўкраў, таму ў вушах пішчыць. — У каго нячыстае сумленне, таму цяжка, трывожна на душы.

Хоць у латаным, абы не ў хватаным.

З чужога каня і ў балоце ссядаюць.

Раз украў — на цэлы век сабе дарогу замараў.

Хлеб еш, а праўду рэж. — Падобны запавет даў перад смерцю бацька нашаму Карпінскаму: "З праўдаю прыгожа..."

*Адносіны бытавыя, сямейныя і грамадскія*

Галоўныя рысы жыцця сялян вызначаюцца ў аглядзе і тлумачэнні прыказак менавіта гэтага раздзела. Гэта будзе своеасаблівы заключны вывад з дакументаў, якія не падлягаюць сумненню.

Свая хатка, як родная матка. — Любасць не толькі да свайго дому, у якім найбольшая свабода, але і да сямейнага прытулку.

Сто коп жыта — на год хлеба; капа жыта — усё адно на год хлеба. — Сколькі ёсць, столькі і спажываюць.

Гэтага веташка кожны з свайго гаршка. — На паншчыне, калі ва ўсіх страва аднолькавая, ядуць разам, але вясною — кожны са свайго гаршка.

Гдзе многа на куце сядзіць, там мыш мусіць галодна быць. — Лад вядзе ў хаце не старэйшы, а разбітнейшы; бывае нават так, што малодшы брат, напрыклад, з'яўляецца гаспадаром, а жонка старэйшага — гаспадыняю. Сама здольнасць надае павагу ўсім распараджэнням і загадам. Рэдка вялікая сям'я жыве ў згодзе. Пасля жаніцьбы братоў нязгода звычайна пачынаецца з жонак, праз жонак. Паўсядзённае пытанне-праблема, хто будзе ў печы паліць, бо гэта азначае, што яна і гаспадыня, будзе толькі пільнаваць хату, працаваць дома, хадзіць каля ежы, гатункаў.

Квас дзеці паеў. — Дамашняя нязгода.

Чужымі дзеткамі не загадваць.

Са шваграм і на зайца не ідзі.

Не карміўшы буракамі, не пасылаюць за быкамі. — Пастуха дамаўляюць на св. Юр'я, а пастушкоў яшчэ на Каляды.

Я молад, люблю холад. — Так папракаюць бацькі дзяцей, якія неахвотна выручаюць іх ад працы і адразу потым дадаюць яшчэ наступную прыказку: "Ты, бацька, ідзі араць, цябе валы знаюць, а я пайду ў карчму, бо мяне людзі знаюць".

Калі не слухаеш бацькоў, будзеш слухаць сабачай скуры. — Хадзіць пад гукі вайсковага бубна, папярэджанне, што неслуха могуць аддаць у салдаты.

Да Змітра дзеўка хітра. — Восень — час сватаўства, і хітрасць ёй тады ўжо не дапаможа.

Хоць за вала, абы дома не была. — Каб быць гаспадыняю, вызваліцца ад бацькоўскай апекі, спяшаюцца выйсці замуж.

Асінка чырванееце — дзяцюк шалееце. — Адчуванне запланаванай на восень жаніцьбы.

Калі любіш, то жаніся, а не любіш — адчапіся. — Надакучлівыя залёты.

Доля прымацкая — сабацкая.

Суджонаму жонка.

Калі Бог судзіць, то і чорт не разгудзіць.

Калі не плачаш за сталом, будзеш плакаць за хлявом. — Маладой, якая не плача, ідучы замуж.

Даганяючы не нацалавацца.

Прыбяры пень — і пень харошы. — Перакананне ў неабходнасці прыбірацца.

Пазнаюць нашу дачку і ў андарачку. — Прыказка бацькоў, гордых прыгажосцю сваіх дзяцей.

Як мая тая дарожка міла, дзе маю Крыстыну павёз Даніла. — Матчына любоў да замужняй дачкі.

Залатыя ручкі. — Пахвала здатнасці да кросен і іншых работ.

Жонку бяры далёка, кароўку купляй блізка.

Любі жонку, як душу, а трасі, як грушу. — Правіла гэтае часта выконваецца, але і сярод простых людзей жонкі часта водзяць за нос сваіх мужоў. Калі чый нос такі ад прыроды, то найзручней гэтым карыстаюцца жонкі. Пра слабасць мужоў расказвае і адна песенька, пачатак якой мы тут і змяшчаем:

Біла жонка мужыка, рукі закасаўшы,
А ён ёй пакланіўся, і шапачку зняўшы.

Бабіных груш не руш: свае трасі, бабе нясі. — Падхалімаж і любасць да жаночага полу.

Чые бычкі, абы маё цялятка было.

Не вер жонцы ў доме, кабыле — у дарозе. — Змясціў тут побач два спрэчныя выслоўі.

Дзе баліць, там ручкі, дзе міла, там вочкі.

Узяў дзіця за ручку, матку за сэрца. — Праз ласку да дзяцей здабываюць прыхільнасць бацькоў.

Памаўчанка не пушыць, усё ліха патушыць. — Стрыманасць у адказ на выказаны гнеў.

Чым болей у лес, тым болей дроў. — Не даваць поваду для гневу, ісці на згоду.

Хто б аб дзятле ведаў, каб не яго доўгі нос. — Дзяцел, пастукваючы па дрэву, часта выклікае на сваю згубу паляўнічага. Або: Бес бы дзятла ў рукі ўнёс, каб не яго доўгі нос.

Будзька набудзецца, а хвалька нахваліцца.

Не хваліся, а Богу маліся. — Сяляне нашы не хваляцца сваім дабрабытам, каб не прыцягваць увагу зайздроснікаў, рабаўнікоў і іншых аматараў да чужых багаццяў.

Чужая болька — людзям смех. — Спасылаючыся на веданне чалавечай натуры, не хочуць яны ані выстаўляць напаказ сваёй нядолі, ні хваліцца поспехамі. Жыццё інтымнае, прыхаванае — галоўная рыса.

Сыты галоднаму не спагадаець. — Найвышэйшая праўда.

Не плюй вясне ў рот, другая прыйдзе праз год; Не памятае карова зімы, калі дачакаецца лета. — Вясною бяднейшыя пазычаюць у багатых; восенню, разлічыўшыся з даўгамі, забываюць аб зробленай для іх дабраце. Тады багаты напамінае беднаму гэту прыказку.

Госць рэдка бываець, да многа відзіць.

Дзе любяць — бывай рэдка, а гдзе не любяць — ніколі.

Дзе любяць — не ўчашчай, дзе не любяць — не бывай.

Яго там і печкі і лаўкі. — Заўсёды там, сябра сям'і і дому.

Калі худ, то ў кут. — І ў сялян ёсць арыстакраты: багатыры; сярэдні стан — гаспадары, а найніжэйшы — худакі. Падзел

гэты не ў самой назве, а на справе, бачым яго і ў гэтай прыказцы: бедняка адпіхаюць у кут. Маёмасць, асвета, здольнасці ад нараджэння і набытыя — усё гэта адрознівае людзей. Паміж станамі можа быць раўнавага, але не роўнасць.

Кінь перад сабой — знойдзеш за сабой. — Трэба мець сяброў.

На благога чалавека хлебам не кідай. — Не адплочваць, а спыняць злосць добрымі ўчынкамі, евангелічнае правіла.

Не мей сто коп, мей сто другоў.

Не плюй у ваду, бо прыйдзецца напіцца.

Лыкам чалавека не мер. — Нікім не пагарджаць. Магчыма, прыказка мае і такі сэнс, што лыкавыя лапці, дрэнны абутак могуць увесці ў зман наконт ацэнкі чалавека.

Што надта, то і свінні не ядуць. — Пажаданне стрымлівацца, не перабіраць меру даверлівасці ў жартах.

Дудар дудару дарма іграець. — Сяброўства паміж людзьмі аднолькавай працы з'яўляецца абавязкам.

Рыбак рыбака відзіць здалёку. — Людзі з аднолькавымі характарамі і схільнасцямі хутка знаходзяць адзін аднаго.

У чужым касцёле свечак не папраўляй.

Бліжэй кашуля, як кабат. — Дапамога і падтрымка павінны ісці ў першую чаргу ад бацькоў, потым ад сяброў і знаёмых. Шчаслівы, хто можа рабіць свае добрыя справы для ўсяго народа, чалавецтва. Паслугі можна параўнаць з кругамі на вадзе ад кінутага каменьчыка: найвыразней яны адзначаюцца ў цэнтры, бліжэй да каменьчыка, і чым далей, тым больш згладжваюцца.

Благая пуга лычаная, а без яе — горай.

За сябе толькі, а за сваю кішэнь не ручайся.

Прапаў мех, і на роднага бацьку грэх.

Пакуль за праўду, а пярвей за грэх. — Грэх тут азначае падазрэнне.

На воўка памоўка. — І на сапраўднага злодзея часта залішне нагаворваюць.

Бог сцярог, што з сястрой не лёг. — Нават самы невіноўны, калі вызваліўся ад падазрэння.

Не ўзяў за руку, не кажы злодзей. — Будзь асцярожным, асуджаючы людзей.

Няхай нашае пярэйдзець. — Схіляюцца да згоды; Па нас не будзець нас. — Заклік да разгульнага жыцця.

З аднаго вала двух скур не дзяруць. — Змякчэнне ў пакаранні за шкоду.

Каля вады ходзячы, умочышся. — Адны ўжываюць гэтую прыказку пра людзей, якія, ходзячы каля даверанага ім багацця, здолелі пажывіцца, другія карыстаюцца прыказкаю як выдатнаю ісцінаю, якая падказвае найлепшы спосаб для паляпшэння свайго быту. Гэта прыкладна так, як адны туманны дзень лічаць небяспечным для авечак, а для злодзея гэты дзень спрыяльны для крадзяжу.

На ціхага Бог нашлець, жвавы сам набяжыць.

Мядзведзю дай толькі лапку палажыць.

Чым галей, тым смялей.

Голы разбою не баіцца.

Жджэць, як вол доўбні. — Калі хто, збіты з жыццёвага шляху нешчаслівым лёсам, здранцвее, не кратаецца і апускае рукі.

Каза воўку дарма не скачэць. — Узаемная паслуга.

Маладое піва выхадзіцца. — Хто абяцае быць сур'ёзным, паважным, каго маладосць прыпыняе і затрымлівае.

У ціхім балоце чэрці растуць; Ціхая вада берагі падмывае. — Перасцярога (форма не адпавядае зместу, знешняя бачнасць можа быць памылковай).

### *Жарты, прымаўкі. Сварка*

У жартах і прымаўках мы бачым досціп, вастрыню думкі, вясёлы настрой, у заўзятых сварках — нікчэмны чалавечы характар і інш. Адзначаныя ў іх чалавечыя недахопы паказваюць, такім чынам, што ёсць дабро і зло і да чаго людзі павінны імкнуцца, дапамагаюць уявіць усё гэта на канкрэтных прыкладах.

Козы не статак, дзеўкі не людзі. — Ранняю вясною, калі мужчыны пачынаюць араць, жартуючы, гавораць да жанчын: мы ўжо людзі, сапраўдныя мужчыны, а вы яшчэ не хутка дачакаецеся свайго часу (пары), аж у жніво. Крыніца такога жарту ў спосабе выказвання сваіх думак, бо на звычайнай мове гэта азначае: людзі аруць, людзі жнуць, або іншымі словамі: у мужчын свая работа ў полі — аранне, яны ведаюць плуг, а ў жанчын свая — праца з сярпом.

Козамі сена травіць. — Не па-гаспадарску, занадта дарагое частаванне.

Бусенькі, бусенькі, абое галюсенькі.

Воўчая доля расцець скора. — Пра дзяўчат, якія хутка вырастаюць.

Гэта гнілы тавар. — Пра дзяўчат.

Прыйшоў месяц лізун. — Пра дзяўчат, якія доўга і старанна апранаюцца, каб звярнуць на сябе ўвагу моладзі.

Не да солі, калі іграюць басолі. — Маці выправіла хлопца ў местачковы магазін купіць солі. Прадаў ён яечкі і купіў поўныя кішэні солі. Ідучы потым дамоў, зайшоў ён у шынок, дзе сабралася моладзь, і пачаў танцаваць. Дзяўчына, з якою ён танцаваў, сказала яму, што ў яго з кішэні сыплецца соль. "Не

да солі, калі іграюць басолі”, — адказаў хлопец. Адсюль і пайшла прыказка.

Зачакалася, як Ніна каснікоў. — Каснікі — стужкі, што ўплятаюцца ў касу.

Захацелася, як кабыле воцату.

Чаму не шалець, калі прыступаець.

Еду па жонку пятую, судзі, Божа, дзесятую. — Так гавораць жанчыны пра мужчын, якія мала клапоцяцца пра здароўе сваіх жонак.

Сівізна ў бараду, а чорт у ногі.

У старой печы д’ябал распальвае.

Ад Бога грэх, а ад людзей смех.

Гэта віламі пісана.

Ад зямлі адарваўся і да неба не дастаўся.

Курну вядзець. — Курнаю называюць мурканне ката. Калі хто расказвае нешта нуднае, гавораць: “Ат, курну вядзець”.

Не ўдалося бабе забіць лося.

Сядзіць, як ціць, а з носа капціць. — Спачатку мне здавалася, што гэта скарочаная назва цецерука, але потым простыя людзі падказалі, што ціць — гэта сава такая ёсць.

Як п’ян — капітан, як праспіцца — свінні баіцца.

Моц Божая! Я ад плоту, а яна да плоту. — Прымаўка пра п’яных: п’яны хоча сам ісці, але, нібы насуперак яго волі, выпітая ім гарэлка цягне яго да плоту. Сваё ап’яненне, няўстойлівасць на нагах п’яны прыпісвае Божай сіле. Адсюль і прымаўка.

У тры секачы сякуць, аднаго рака пякуць. — Калі пра адну рэч адначасова гавораць некалькі чалавек.

Гэта кулік вялікага балота.

Каўнер шырокі, а голыя пяты. — Бедная засцянковая аколічная шляхта насіла плашчы з доўгімі каўнярамі, але ўбор гэты быў некамплектны: на плячах плашч, а на нагах лапці, ды яшчэ стаптаныя. Мужыкі з такой шляхты смяяліся.

Як баба да дзеда, так дзед да бабы.

Прыпомніла баба свой дзявочы вечар і пачала плакаць.

Баба з калёс — калёсам лягчэй.

Ні села, ні пала, дай бабе сала.

Чорт чорту спавядаўся: адзін мігнуў, другі дагадаўся.

Трапіў чорт на паганага.

Свой свайго пазнаў і на піва пазваў.

Адзін чорт, да ўмазаўшыся.

Пад чорным лесам спаткаўся чорт з бесам.

Чорт сем лапцей стаптаў, пакуль такую пару дабраў.

Добры чалавек, што ўкусіць, то з'есць.

Як дуды надзьмеш, так дуды іграюць.

Ні сюды, ні туды, мае мільія дуды. — Дуду вельмі нязручна трымаць, цяжка прызвычаіцца да трымання на руках.

Тлусты палец шмаруець. — Калі хто зробіць каму непатрэбную паслугу.

Быў конь, ды з'ездзіўся. — Пра людзей, якія страцілі сваю здольнасць да выканання цяжкай працы.

Насіў воўк, паняслі і воўка.

Быў, гдзе насы дзялілі.

Пірог з'ясі, пакуль абойдзеш. — Пра тоўстых людзей. Сялян тоўстых амаль не бывае.

Здарылася чарвяку на вяку.

Нашаму шчаняці ўдалося воўка спаймаці. Або: Нашаму цяляці ўдалося воўка спаймаці. — Пра чалавечыя здольнасці.

Ні ў кола, ні ў мёла. — Ні да танцаў, ні да церніцы (апрацоўкі льну).

Цябе па смерць толькі пасылаць.

Што ўбіў, то ўехаў. — Гультайства.

Па Саўку шапка. — Які чалавек, такі ўбор; які аўтар, такія творы.

Ні чытаць, ні пісаць, а толькі з гаршкоў хапаць.

Хто не ведае — камедыя, а хто ведае — нічагусенькі.

Не кажы гоп, не пераскочыўшы.

Прыйдзець каза да ваза. — Калі хто не хоча дапамагчы, забывае, што і яму калі-небудзь спатрэбіцца дапамога.

За дурнямі Бог.

У яго з адной губы і горача і холадна.

Жыдоўскае пачакай.

У страха вочы вялікія.

Бітаму сабаку кія не паказывай.

Гдзе чорт не можа, там бабу пасылае.

Прышыў кабыле хвост, а ў кабылы свой ёсць.

Таўкач аблізаў. — Гарохавы вянок.

Ні ў пяць, ні ў дзевяць сказаў.

Не адзін Гаўрыла ў Полацку.

Хто пра Паўла, хто пра Гаўла.

Чы з Пракопам, чы без Пракопа — усё адно.

Глядзіць, як варона, а хітры, як чорт. — Выраз твару і знешні воблік часта бываюць памылковымі.

Гол, асцёр і Богу працівен.

Бабскі лад.

Бабін дурань. — Пястун.

Што міру, то і бабінаму сыну.

Усе чэрці адной шэрсці.

Усе бабры дабры, адна выдра ліхая.

Родам куры хахлатыя.

Гэта не з тваім носам.

Не пры табе пісана.

Сказаў, як звязаў.

Лысае жарабя ўрадзілася, лысае і здохне.

Далёка кеп да вока.

Старой бабе і на печы ўхабы. — Пра нязграбнасць. Ухабы — месцы на дарозе, дзе сані ссоўваюцца на бок.

Няўмелай дзяўчыне і хвартух не дае танцаваць.

Навярнуўся на мяне, як на ліхую шапку.

Чорт піва варыў і саладзін адрокся.

Крукам носа не дастаць. — Нос — найлепшы паказчык самазадаволенасці.

Калі шанцуе, то і Халімон танцуе.

На кіл узяў. — Спосаб браць праз сілу.

Хоць кол на галаве чашы. — Упор у спрэчцы, адстойванне свайго пункту гледжання.

Стрыжана, голена. — Тое ж.

Што будзе, то будзе, а Грышка на куце не будзе.

Уйшоўшы у драку, хахла не жалей.

Не, гэты гнеў — не рабёны хлеў, няма дзе заганяць. — Азначае, што гэты гнеў не турбуе, што не сапраўдны, не асэнсаваны, безпадстаўны.

Гэта цуд! Карова чорная, а малако белае. — Звяртаюцца да людзей, якія дзівуюцца з простай рэчы.

Сярдзіт, да нядуж. — Пра злаславага чалавека, які па нейкай прычыне не можа прынесці шкоды.

Там табе вароты пірагамі замкнуты. — Пра тых, хто пакідае дамоўку і шукае сабе лепшага месца.

Толькі ў цябе праўды, колькі ў рэшаце вады.

Як ты мань (падманшчык), каб такі другі падлыгаўся, то бы цэлы свет прайшлі.

Адной маткі не адны дзеткі.

Няма раду без вырад у.

Ні сшыць з ім, ні спароць, знайшоўшы не падзяліць.

Дапаў чорт згрэбла. — Згрэбла — інструмент, якім чысцяць коней. Няўмелае карыстанне ім балюча ўздзейнічае на жывую скуру.

Не сын спраўляў, не бацька едзець.

Смяецца, як з гары едучы. — Будзеце после у кулак трубіць, плакаць, лемантаваць за свае непрадуманыя крокі.

Проста з моста. — Калі хто не ўмее гаварыць з людзьмі, паведамляе пра няшчасце, не звязваючы канцы з канцамі. Ёсць анекдот, у якім даецца прыклад, як, не спяшаючыся, паступова можна паведаміць пра няшчасце.

Пасыльнага спыталі: "Што чуваць у дварэ?" — "Усё добра, — сказаў пасыльны, — толькі сцізорык зламаўся". — "Ад чаго зламаўся?" — "Здымалі скуру са стаеннага каня". — "Чаму загінуў конь?" — "Падарваўся, ваду возячы". — "Для чаго вада?" — "Пажар быў". — "З чаго пажар?" — "У час пахавання пані ад лампаў пачаўся". — "Ад чаго памерла пані?" — "Ад гора і жалобы па мёртвых дзетках". У народзе гэты анекдот добра вядомы але, можа, не ўсе яго чулі, таму і змяшчаем яго тут як прыклад умення простага чалавека пагаварыць.

Масты ў нас [благія] на занядбалых дарогах, і ўсе няшчасці найчасцей адбываюцца на гэтых мастах. Адсюль і прыказка.

Яго другое толькі пад зямлёй — хітрасць.

Ластачкамі душу выймаець. — Добрае лагоднае абыходжанне са злымі намерамі.

Багатаму чорт дзеці калыша.

Багатаму красці, а старому лгаць.

Багатаму красці, бываламу лгаць.

У скупога чорт шаферам.

Купіў бы сяло, да грошы гало.

Калі не поп, не ўбірайся ў рызы.

Панства іх з канапелькамі перабудзем. — Мак у багацейшых, а канапелькі ў бяднейшых служаць заправай патраў.

Мае лапці лазовыя пераносяць твае боты казловыя.

Прыйшла свіння да каня: алі шэрсць не такая?

Грозен рак, дзе ў яго вочы?

А! Бог памілуе, што свіння не з'есць.

Ведаў Бог, што не даў свінні рог.

Воўк сабакі не баіцца, да звягі яго не любіць. — Пра людзей, якія пазбягаюць нязгоды.

Здаўся на прыказкі, як сабачая скурка на прывязкі.

*Прыказкі гаротнікаў*

Уздыханні і скаргі прыносяць бедным людзям нейкую палёгку. Таму нямала ёсць у гаротных людзей і сваіх прыказак. Змест іх даволі сумны, але без гэтай хмурнасці жыццё ў прыказках не адлюстроўвалася б гэтак праўдзіва.

Свет вялікі, да дзецца няма дзе.

Ніхто не ведае, як хто абедае. — Знешняя бачнаць шчасця памылковая.

Пакуль сонца ўзойдзець, раса вочы выесць.

Не за то згалелі, што соладка елі, а так Бог даў.

Душа ў чалавека рагатая, без пары не выйдзе. — Гавораць пра чалавека, які не згінаецца пад цяжарам лёсу, церпіць і вытрымлівае ўсе цяжкасці жыцця.

Калі нам жаніцца, то і ночка кароткая.

Чы саву аб пень, чы пень аб саву — усё саве бяда.

Каб чалавек ведаў сваё няшчасце, дзе паваліўся, спыніўся б.

Чаго б сляпы плакаў, каб сцежку бачыў.

Хацела б душа да раю, да грахі не пускаюць.

Куды ні кінь — усюды клін. — Бяда і турботы, падобныя на клопаты краўца, у якога не хапае матэрыялу.

Не да парасят, калі свінню смаляць.

Адсюль горача, адтуль боляча.

— Па што, воўча, ідзеш? — Па апошняе.

Не да пугаўя, а з пугаўя. — Не прыбывае, а ўбывае.

На кім скрупіцца, а на мне змелецца.

Каму па каму, а мне два камы. — Ком, камы — жамерыны з канаплянага семя.

Пакуль цэп, патуль хлеб.

Мая кабыла ўгразла. — Гавораць і папраўдзе і жартам, калі спрачаюцца, хто каго павінен частаваць.

Не я плачу, бяда плача.

Адна бяда не бяда.

Бяда, як дуда; зачне дуць, аж слёзы набягуць. — У музыкі-дудара слёзы калі ідуць, дык ад цяжкага надзімання, у няшчаснага чалавека — ад бяды і гора, якія наваліліся на яго.

Бяда па бядзе, як па нітцы ідзе.

Чорт адну бяду перабудзе, адна міне, дзесяць будзе.

День мой — век, гадзіна — век с хвосцікам.

Маёй пугай па маёй кабыле.

## *Дабрата і гасціннасць*

Прысядзьце ж у нас, суседзі, каб пчолкі садзіліся. — Гавораць людзям, якія раптам завіталі на хвілінку. Пчалярства давала калісьці вялікі даход жыхарам нашага краю. У гэтых словах і захаваліся народныя звычкі і вераванні ў тое, што за добры прыём госця Бог узнагароджвае поспехамі ў развядзенні пчол.

Рады ў гады. — Да рэдкага госця.

Пры госцю і гаспадар пажывіцца.

Чым хата багата, тым і рада.

Усяго было, да прынукі не было.

Душа мая не крывая, яна ўсё прымае. — Заўвага госця ў час частавання.

У хворага пытаюцца, а здароваму даюць. — Заўвага свайго блізкага госця.

## *Пачуццё задаволенасці*

Калі ем, то глух і нем.

Як не еў — не мог, як пад'еў — ні рук, ні ног.

Чаму казак гладак, бо пад'еўшы — на бак.

Дома хоць не ўежна, да ўлежна.

Для п'яніцы і капля дарага.

Смаку, як у пячоным раку.

Каб панам быў, у масле б плаваў, сырам папіраўся.

Пасаліўшы, ясі.

Пар касцей не ломіць. — Вельмі ж любяць цёплыя памяшканні, спяць у моцна натопленых восецях, дзе аж дух зацінае.

*Зло ў душы*

Не ўзяўшы на душу, не хадзіць у кантушу. — У добрых людзей гэта прыказка — заўвага назіральнікаў, у нядобрых — закон жыцця (правіла).

Воўк блізка шкоды не робіць. — Звычка, якая датычыць і злодзея.

Па маёй смерці воўк траву еш. — Звычка і правіла самалюбаў.

*Прыказкі розныя*

Што было, на мора паплыло.

Як хто хочаць, па сваім бацьку плачаць.

Мысль за гарамі, смерць за плячамі.

Будзець калі кірмаш і на нашай вуліцы.

У кабылы вялікая галава — няхай яна сабе думаець. — Бесклапотнасць.

Без паджогі дровам не гарэць.

Галоднай куме хлеб на ўме.

Усё можна, толькі асцярожна.

Даць аблупленае яечка.

Гэта толькі цвет — ягады яшчэ будуць. — Прадбачанне большай бяды.

У голад намруцца, у вайну налгуцца.

Багатыр дзівіцца, чым худак жывіцца.

Нач, хоць з чужой жонкай прач.

Аддай другому жонку, а сам у саломку. — Калі хто аб чым просіць і чаго дзяліць нельга.

Дзіва, што ў караля жонка хараша. — Зайздросная пахвала якой-небудзь рэчы.

Пайшоў сабакам сена касіць. — Ляпнуць нешта такое... не зусім прыемнае.

Хочаш з лаўкі зваліцца і не разбіцца.

Што летам ножкай топ, то зімой ручкай хоп.

На табе, нябожа, што мне нягожа.

Вялікая кабыла, да худая. — Пра вялікае багацце, але ўжо спажытае або не дагледжанае.

Дуб вялікі, да дуплаваты. — Унутраныя недахопы і слабасць, прыхаваныя за знешняю сілаю і паказнымі дадзенымі.

Не купіў бацька шапкі, няхай вушы мерзнуць. — Для тых, хто шукае дапамогі і падтрымкі ў чужых, абмінаючы сваіх, родных.

Дзесятая вада на кісялю. — Далёкая радня.

Каб не дзірка ў роце, хадзіў бы ў злоце.

Горка з'есці і жаль пакінуць.

Узяў чорт кароўку, няхай бярэць і вяроўку.

Чым чорт не араў, тым і сеяць не будзе. — Не вялікае жаданне прыдбаць нешта новае.

Шавеліцца, як верабей у веніку. Або: Верціцца, як верабей у мятле.

Гэта не абаранак. — Калі адмаўляюцца выканаць нейкае дадзенае раней даручэнне.

Хоць ты мяне капут, дык я табе ні галом. — З 1812 г., адказ мужыка французу, які просіць паказаць дарогу.

Гэта яму, як лапці плясці.

Гэта не пальцам паківаць.

Цераз сілу і конь не скачаць.

Ад прыбытку галава не баліць.

Старцу сяло не накладам. — Калісьці старцы, няздольныя да працы, хадзілі ад сяла да сяла з малітвамі, разносілі розныя звесткі, навіны і заходзілі вельмі далёка. Гэта былі зусім не жабракі. Яны не жабравалі. Іх сустракалі са словамі: "Чым хата багата, тым і рада". Гэтым жа тлумачыцца і тое, як, якім чынам песні далёкіх ускраін прыходзілі да нас і чаму ў іх шмат агульнага з нашымі песнямі.

З песні слова не выкінуць. — Калі гаворыцца пра нешта занадта смелае або недазволенае. Можа, тут і мне спатрэбіцца яшчэ апраўдваць свае думкі гэтаю прыказкаю.

Язык да Кіева дапытаецца. — Пытаючыся ў людзей, шмат аб чым даведаешся.

Пераначуем — болей пачуем. — Счакаўшы, праз нейкі час можна і больш даведацца аб чым-небудзь.

*Прыказкі пра гандаль*

Гандаль — з'ява добра знаёмая ў народзе. Важнейшыя правілы гандлю перайшлі ў прыказкі.

За морам вол па грошу. — Адказваюць тым, хто гаворыць, што тавар дарагі і ў іншых месцах нібы можна купіць танней.

Час плоціць, час траціць.

Да абеду лыжка дарага. — Калі попыт меншы, зніжаецца цана.

Ката ў мяху не купляюць.

Не там траціш, дзе прадаеш, а там, дзе купляеш. — Хто дарага купляе, той мусіць са стратаю для сябе прадаваць.

У пужлівага купца ні грошай, ні тавару.

Не сто коп заробіш, не сто страціш.

Няўжо ж, баючыся воўка, у лес не ісці.

Дзе капачы капалі, там і грошы прапалі.

Зарабіў, як Заблоцкі на мыле.

Першага торгу не мінай. — Гэта датычыць і дзяўчат, каб не надта перабіралі, не адпраўлялі сватоў ні з чым.

Што то за торг, калі не ў шапцы. — Свая воля, як хачу, так і прадаю.

Плоціць не багаты, а вінаваты.

Таннае мяса сабакі не ядуць.

Кароўка па ўдою не лічыцца. — Гавораць з мэтай збіць цану.

За свае грошы ўсюды харошы. — Даюць зразумець, што за такія грошы (цану) і ў іншым месцы можна купіць гэты тавар.

Ведаць купцу і прадаўцу. — Абыдземся без пасрэднікаў.

Як той казаў: павязу сваю матку прадаваць.

Чы ты ашалеў? Як задаражыш, то і сам чорт не купіць. — Рэпліка на незвычайна высокую цану.

За грошы толькі бацькі і маткі не купіш.

Грош круглы.

У анучцы грошы вядуцца.

Хатку крытую, а адзежку шытую добра купляць.

### *Земляробчыя прыказкі*

Некаторыя земляробчыя прыказкі маюць дваякае значэнне: адно літаральнае, другое пераноснае, напрыклад: "Дзе урода, там умалот" — адносіцца і да людзей з пэўнымі фізічнымі задаткамі, па якіх можна меркаваць аб сіле і г. д. Глыбокія думкі, закладзеныя ў гэтых прыказках, хацелася б зверыць з жыццём. Яны для нас сёння гэта і прадпісанне, як весці гаспадарку, і назіранні над прыродаю, кліматам, выбар часу для сяўбы, уплыў на ўраджай месячыка і інш. Спачатку трэба было б уважліва прааналізаваць гэтыя прыказкі, потым, калі што не так, не пацвердзіцца, можна будзе і надрываць жываты, і пасмяяцца.

З лубкі жывём. — Край наш земляробчы.

Пакінь стрэльбу і вуду, то і я ў цябе буду. — Так нібы сказаў аднойчы хлеб гаспадару, які нядбала адносіўся да сваёй асноўнай земляробчай працы.

Дай зямлі, яна табе дасць. — Угнаенне.

Не ўважай на ўраджай, а жыта сей. — Гаворыцца ў такім выпадку, калі хто каго заахвочвае на нейкую справу, ад якой могуць быць і прыбытак і страты.

Пакланіся кусту, а ён дасць хлеба лусту. — Раскарчоўка лесу для ворнага поля.

Дзе араты плачыць, там жняя скачаць. — Араць на раскарчоўках вельмі цяжка.

Калі будзеш мець сілу, знойдзеш і за мяжой ніву. — Знойдзеш і за надзелам зямлю. Ужываецца ў пераносным сэнсе.

Калі не нажнём, то назбіраем. — Калі шмат пасеяна.

Сеяць у свіны голас. — У веснавыя халады дамашняя жывёла крычыць у хляве. З 12 жніўня пачынаецца так званая красная сяўба, ранейшая называецца “хвашчавая”.

Хто з календара сеець, той мала веець.

Хто глядзіць на месяц, той у дзяжы не месіць. — Адны прытрымліваюцца ў гаспадарцы пэўных назіранняў, іншыя не звяртаюць на гэта ўвагі.

Званец, хлеба канец. — Званец — зеллейка сярод жыта.

Мятліца — хлеба палавіца.

З касой пагоды не ждаць.

Калі вясной запяець удод, тады сей боб.

Будзець пара, будзець і трава. — Ужываецца ў пераносным значэнні, калі хто скардзіцца на затрымку чаго-небудзь.

Хто коні мяняе, у таго хамут гуляе.

Калі не выліняў конь да святога Яна, няхай ідзець да другога пана.

Калі выйдзець рой перад святым Янам, будзець зямец панам.

Хто маець статак, той маець і ўпадáк. — Сусед суцяшае суседа, калі даведаецца пра яго страту.

Працуець, як вол чорны.

Саламяным валом не араць, сéнным канём не ваяваць.

Сава не ўродзіць сакала. — Якасць патомства шмат у чым залежыць ад самкі. Тут пра коней. Арабскіх коней, напрыклад, высока цэняць.

Першыя шчаняты за плот. — Больш паддаюцца шаленству.

Кармі парсюка мукой, калі хочаш, каб пайшоў рукой. — Прыказка сялян, якія не хочуць звяртаць увагі на забабоны.

Што ў лесе родзіцца, у хаце знадобіцца.

Лес лесам, а бес бесам. — Паводле гэтых правіл, без меры знішчаюцца лясы.

Іван зрабіў, Іван з'еў. — Непрыбытковая гаспадарка.

Калі дало рабіць, то дасць і з'есць. — Калі сенакос, пачынаючы з апошніх дзён чэрвеня, без дажджу, мяркуюць (варожаць), што зіма будзе доўгая і халодная.

Які сакавік, такі і красавік. — Калі сок бярозавы спачатку добра ідзе, а потым ад халадоў спыняецца, мяркуюць, што гэта нядобра для красавання позняга жыта і наадварот.

Калі на святога Пятра пойдзець дождж, будзець жыта, як хвошч. — Будзе ненамалотнае жыта.

Марцінава гусь па вадзе, Божае Нараджэнне на лёдзе. — Мясцовая.

Грамніца — зімы палавіца.

Святая Варвара ночы ўварвала.

На святога Мацея зіма пацее.

Ад Каляд тры разы па пяць — пастушкі ў полі ліпяць. — Ад Божага Нараджэння адлічваюць 15 тыдняў; тады жывёла можа ўжо пайсці ў поле.

Асьмак для сабак, сямачок на абрачок. — Пра сяўбу аўса.

Юр'я сказаў: жыта ўраджу, Мікалай адказаў: пачакай, пагляджу.

Да Юр'я корму і ў дурня.

Май — каню сена дай, а сам на печ уцякай.

Мей сена да Міколы і не бойся зімы ніколі.

На Міколу нету ні зімы, ні лета.

Мікола — правая зіма і правае лета.

Прыйшоў Пятрок — адпаў лісток; прыйшла Ілля — адпала два.

Да Іллі хоць адным зубам падзяры. — Забарануй параніну.

На Іллю перапечку налью. — Перапечку — малую булачку хлеба.

Ілля наробіць гнілля.

Да Іллі ксёндз просіць дажджу, а пасля Іллі і баба хвартухом нагоніць.

Спас — усяму час.

Брушніца белабока, і парабак прыспаў сабе вока. — Даўжэйшыя сталі ночы.

*К. Тышкевіч*

## ПРЫПЕЎКІ

1

І капуста мая,
І расада мая:
Харошая дзяўчыначка,
Перасада мая.

І капуста мая,
І лісточкі мае:
Харошая дзяўчыначка,
Жываточкі мае.

І капуста мая,
І качанне маё:
Харошая дзяўчыначка,
Та й каханне маё.

2

Я на моры радзілася,
На Дунаі расла,
За шляхціча манілася,
За мужыка пайшла.

О Божа мой мілюсенькі,
Горка мая доля!
За старога не пайду,
Барадою коле.

3

Кукарэку, петушок,
А на гарэ хатка;
Харошая дзяўчыначка,
Дык ліхая матка.

Рад бы я яе любіць,
Дык маць не вяліць;
Як убачу, то й заплачу,
Аж жывот забаліць.

4

Ой, купіла я бяду
Ды й за свае грошы!
Людзі кажуць любіці,
А ён не харошы.

І стары, і брыдкі,
І малога росту,
З карчмы ідзе —
Вошы б'е,
І дзярэ каросту.

5

Крыванос, ламанос,
Чаго ты скрывіўся?
Усю ночку не спаў,
З дзеўкамі сварыўся,
З шалудзівай і паршывай
Толькі не пабіўся.

6

Улане малады,
Вядзі коні да вады.
Шаўковыя павады,
Дубовыя карыта,
Поўна вады ўліта;
Дзеўкі ногі памылі,
Хлопцы ваду выпілі.

7

Я казак, небарак,
Дзевачак не знаю;
Водку п'ю, жыдоў б'ю,
Цэлы дзень гуляю.

8

Чые коні ў сенажаці,
Мае у садочку.
А хто любіць багатую,
А я худобачку.
А я тую багатую
Людзям падарую,
А я тую худобачку
Сам і пацалую.

9

Антон маладзенькі
Піў мёд саладзенькі,
Прыхіліўся к бочачцы,
Яшчэ мёду хочацца.

10

Рандарова карова,
А паповы рабы бык,
Як сышліся, пабіліся
І зрабілі крык.

11

Гаца-цюк, гаца-цюк,
Лепша дзеўка, як дзяцюк:
Дзяцюк дроў насячэ,
Дзеўка бліноў напячэ.

12

— Дзяўчыначка, чыя ты,
Ці не пойдзеш гуляці?
— Не пытайся, чыя я,
Пойдуць людзі, пайду я,
Пойдзем разам абоя.

13

— О чыя ты, дзевачка? — Папова,
Ў агародзе моркаўку палола,
Палола я моркаўку, пастарнак,
Закалола ножачкі на бурак.
Схадзіце, прывядзіце дварака,
Чы не выйме з ножачкі бурака.

14

О не рушце мяне, не чапайце мяне,
На старожы была, коміны цёрла,
А прышоўшы дамоў,
Толькі што не ўмёрла.

15

— Чаму мяне не бярэш?
Ў мяне грошай многа.
— Дзесяць грошай не стояць
Да паўзалатога.

16

Праду, праду тонка,
Пайду за Антонка.
Праду, праду пласкані,
Возьмуць яго ў маскалі.
Праду, праду тальку,
Пайду за Міхалку.
Праду, праду груба,
Пайду за Якуба.

17

Ішоў Тодар з Тадораю,
Знайшоў лапаць з абораю;
Ах ты Тодар, я Тадора,
Табе лапаць, мне абора.

Ішоў пастух з пастушкаю,
Знайшоў лапаць з істужкаю;
А ты пастух, я пастушка,
Табе лапаць, мне істужка.

18

Я калінку ламала,
Перавесілася;
Каго верна любіла,
Не нацешылася.

19

Маруся па саду хадзіла,
Маруся расаду садзіла;
Маруся-сэрца,
Адчыні акенца.

20

Сякі-такі пацяпень
Хоча мяне ўзяці;
Матулечка за кіёк —
Мяне не даваці.

21

У паповай сенажаці,
А у дзякавай луцэ.
Уся радасць і пацеха,
Што пярсцёнак на руцэ.

22

Дзякуй табе, мая матачка,
Што ты мяне шчаслівую радзіла,
Тонкую, як былінaчку,
Чырвоную, як калінaчку.

23

Чы я не хароша,
Чы я не ўрадзіва?
Толькі тая нядоля,
Што не чорнабрыва.

24

Пайду я на места,
Куплю купарвасу,
Памалюю сабе бровы,
Да якога часу.

25

Ў агародзе рэпка,
За плотам нацюха,
Ніхто мяне не бярэць,
Што я сірацюха.

26

Апанас валы пас,
Кацярына бычкі;
Пачакай, не ўцякай,
Куплю чаравічкі.

27

У гародзе мята,
За гародам мята:
Нашто браў,
Ці не знаў,
Што я не багата.

У гародзе тычка,
За гародам тычка,
Нашто браў,
Ці не знаў,
Што я невялічка.

28

У нашага суседа
Была ўчора бяседа:
Свіння ў дудкі іграла,
А курачка скакала,
А петушок прыпяваў
І ножачкай прыбіваў.

29

А чорт цябе забяры,
Што ты дзяк!
Узяў мяне за ручачку,
Ды не так.

30

Я на ганку стаяла
І на Янку міргала;
О чы Янка, чы не,
Спадабаўся ты мне.

31

Харошанькі маладзец,
Хораша прыбраўся:
Вочы рабы, як у жабы,
Сам у чорта ўдаўся.

32

Мне ад піва жывот баліць,
А ад мёду галава;
А дайце мне гарэлачкі,
Дык я буду здарова.

# ПЕСНІ

## ЧУМАЦКІЯ

1. Ах я, чумак незласлівы,
Хаджу з тугі ледва жывы;
Сам не знаю, што рабіці
І за што се ўчапіці.
Валы мае паздыхалі,
Вазы ёрма паламалі;
Я з батагам се вяртаю,
З бяды троха пагуляю.
Я музыцы пакланюся,
Бо ўжо далей не папнуся;
З міласэрдзя няхай граець,
Няхай чумак пагуляець.
Гуляй жа, бедны чумача,
Хаця жонка з дзецьмі плача;
А без бяды перабудзе,
Адна згінець, сотня будзе.
А пайду я ўтаплюся,
Чы ў чужы воз наймуся;
Буду чужы волы гнаці,
Бо хочу чумакаваці.
Ой, Адэса мая міла,
Чэм ты мене парадзіла;
Хазяінам-пяякаю,
П'яніцаю гулякаю.
Пайду ў мора ўтаплюся
Ці аб камень разаб'юся,
Няхай людзі тое знают,
Як чумакі пагібают.

2. Паехаў чумак у дарогу,
Я без яго жыці не могу.
Сэрца, чумача, нябожа,
Як табе Бог дапаможа.

Людзі канапелькі сеюць,
Нашы з табой у мяшэчку прэюць,
Сэрца, чумача, нябожа,
Як табе Бог дапаможа.

Да ўжо ж людзі жыта пажалі,
А мы з табой, сэрца, ляжалі.
Сэрца, чумача, нябожа,
Як табе Бог дапаможа.

Людзі канапелькі малоцяць,
Нашы з табой свінні калоцяць.
Сэрца, чумача, нябожа,
Як табе Бог дапаможа.

А прадала чумачыха свінку,
А купіла для чумака світку;
Світку за свінку купіла,
Бо чумака верна любіла.
Сэрца, чумача, нябожа,
Як табе Бог дапаможа.

А прадала чумачыха гуску,
А купіла для чумака хустку;
Хустку за гуску купіла,
Бо чумака верна любіла.
Сэрца, чумача, нябожа,
Як табе Бог дапаможа.

А прадала чумачыха курку,
А купіла для чумака люльку;
Люльку за курку купіла,
Бо чумака верна любіла.
Сэрца, чумача, нябожа,
Як табе Бог дапаможа.

А прадала чумачыха індычку,
А купіла для чумака пратычку;
Пратычку за індычку купіла,
Бо чумака верна любіла.
Сэрца, чумача, нябожа,
Як табе Бог дапаможа.

Да ўсё ж чумак расчумакаваўся,
Штаны згубіў, учкур развязаўся;
Сэрца, чумача, нябожа,
Як табе Бог дапаможа.

### ЗАПУСНЫЯ

3. Юр'ева маць па жыце хадзіла,
Ключыкі насіла, сыночка будзіла:
— Да ўстань, сыночак, атамкні зямлю!
Да выпусці расу на зямлю красну.
Радзі, Божа, жыта і пшаніцу і ўсякаю пашніцу.
Да ў полі капамі, а ў гумне сціртамі,
На восеці суш, на таку ўмалотам,
А ў млыне мліва, а ў засецы спорна,
А ў дзяжы падыход, а ў печы рост,
А на стале сыццю, да к добраму жыццю.

4. Чык, чык, салавейка, вы, пташкі, маўчыце,
Не шчабячыце, наш пан з вайны прыехаў,
З вялікай дарогі, з панскай паслугі.
Пусціце коніка да ў пастаўнічок.
Сам молад пайшоў у вішнёвы садок,
Вышчыкнуў яблычак і той садовы,
Вышчыкнуў грушы для сваей думкі,
Вышчыкнуў дзве сліўкі для паненкі.
Паеду, паеду к цесцю на абед,
К цесцю на абед, к дзеўцы на атвет.
Я ў цясцяткі быў, абед еў,
Абед абедаў, пры баку шабелка,
Пры баку шабелка — абарона мая,
У каморы дзевачка — размова мая.

5. Да ўзвіўся гарошак да ў тры радочкі.
Дай яму, Божа, хоць і ў чатыры!
Нашаму (імя) коні вараныя,

Коні вараныя, валы палавыя,
Валамі араць, коньмі паязджаць,
А сам молад буду панаваць.

6. Трава-мурава весь луг палягла,
А на тэй жа траве пава хадзіла,
Пава хадзіла, пер'я раняла;
Ані жаль нам павы, ні пер'я яе,
Жаль будзе нам дзевачкі на чужой старане,
Чужая старана без ветру веець,
Чужая матулька без віны журыць.
Без віны журыць, без дубца караець,
Без дубца караець, без хлопца наўчаець.

7. Крыкнуў лебедзь на моры,
Бразнулі ключы ў пакоі.
Маладая пані не чула,
У цясовай ложы заснула.
Вы, дзевачкі, блудзіце,
Нашто пана будзіце,
А наймiце пісара,
Няхай піша да пана.
Няхай не спіць, устане,
Цясовыя сталы засцеліць,
Сытныя булкі пакладзець,
Вінныя кубкі нальець,
К сабе дзевачак зазавець.

## ВЕЛІКОДНЫЯ

8. А ў гародчыку на трасоччыку
Стаіць кусток, ружовы лісток.
Там вышла красна паненка,
Чырвоную ружу зашчыпала,
К свайму ліцу раўнавала:
— Каб маё ліцо такое было,

Як ружова лісціначка,
Не пайшла б я замуж ні за кога,
Пайшла б я за такога пана крулевіча,
Што з каня не ссядае,
З страмён ножак не вымае,
Сярод мора лісты рассылае.

9. А на сенажаці, да на паплаве
Там сабе хадзіла курапат стада.
Між тых курапат сівая зязюлька,
Ясны саколік як наляцеў,
Ён тых курапатак да й паразганяў,
Сівую зязюльку к сабе ўзяў.
А яна ў яго прасілася:
— Пусці ж мяне да пташачак.
— А тады ж пушчу, як пазначу.
А здыму ж цябе савіну пярыну,
А ўлажу на цябе цяцер'е пер'е.
А ў суседа на падвор'і
Там гуляла да дзевак танок.
Між тых дзевак красна паненка.
Дзе ўзяўся, браўся молад сужанька
Да ту красну паненку да к сабе ўзяў.
А яна ў яго да прасілася:
— Пусці ж мяне да к дзевачкам.
— А тады ж пушчу, як пазначу,
А здыму з цябе пярловы венчык,
А злажу на цябе шаўковы чэпчык.

10. А на віру, на вірочку
Там дзевачка бел бяліла,
Бел бяліла, залаты сугнет ураніла.
А тут ішлі да тры рыбаловы,
А яна ж іх да прасіла:
— А мілыя мае да тры рыбаловы,
А закіньце ж вы шаўковыя сеці,
А ўлавіце ж вы залаты сугнет!
Я ж вам буду да знадобненька:

Аднаму буду да суседачка,
Другому буду да нявехначка,
Трэцяму буду да міла жана.
Да суседа, ах, не паеду,
А свякратку разуваць буду,
А міламу ложка слаць буду,
Ложка слаць і з ім спаць.
— Мілая ж ты наша паненачка,
Загадаем табе сем загадак,
Калі адгадаеш — наша будзеш,
А ні адгадаеш — айцова будзеш.
А што расцець без кораня,
А што гарыць без полымя,
А што бяжыць без повада,
А што чорна, не чарнючы,
А што сіва, не сівучы,
А што міла, не гадаючы?
— Што бы я была за дзіця ў бацькі,
Як гэтых загадак да не адгадала!
Камень расцець без кораня,
А зара гарыць без полымя,
А вада бяжыць без повада,
А чоран воран, да не чарнючы,
А сівая зязюлька, да не сівучы,
А жана мілая, не гадаючы.

11. Ішлі, пайшлі валачобнічкі,
Іграючы, успяваючы,
Слаўнага пана пытаючы,
Слаўнага пана гаспадара.
— А ці дома ж, пане гаспадару,
Ці спіш, ці ляжыш, ці не ўкажэшся,
На канапе ўбіраешся.
Яго жана адказуе:
— Ні спіць, ні ляжыць, ні аказуецца,
На канапе ўбіраецца,
Надзявае порткі замшовыя,
Надзявае сукні саятовыя,
Надзявае боты казловыя,

Завязуе хусткі шаўковыя,
Надзявае шапку сабалёвую —
Яго служкі каня выводзяць,
Выводзяць каня варанога,
Кладуць сядло залатое.

12. Паехаў пан жыта глядзець,
А спаткаўся з святым Юр'ем.
Павярніся ж, пане гаспадару,
Я тваё жыта сам агледзеў:
Харошае жыта, каласістае,
Каласістае, ядраністае!
К адной мяжы прыклянула,
К другой мяжы пахілілася,
Пану гаспадару пакланілася,
Хочэць яно спачыніціся.
Прысылай, пане, семдзесят сярпоў,
Семдзесят сярпоў жыта жаць,
Дваццаць малайцоў снапы складаць,
А сто падвод снапы вазіць.
Патом таго на здаровенька.
Жыві здароў, будзь і багат,
Не трымай гасцей
Да дары бардзей.
Нашы дары невялікія:
Пачынальніку — чырвон злоты,
Яго дружыне — па грошыку,
Механошу — карэц яец,
А музыку — чы ня добра доля.
Добрая доля — кварта гарэлкі,
Кварта гарэлкі — то для голасу,
А пірог пшонны — то для коласу.
Валачобнічкі не дакучнічкі,
У год ходзіце, мала просіце.
Яны пяюць, як салавейкі,
Як салавейкі ў лузе на каліне.
Стой, калінка, стой, не хіліся,
Слаўная пані, развесяліся.

13. А ў нашага пана на падвор'і
Стаяць тынкі дубовыя,
Вярэячкі тачоныя.
Па тых улах пшчолкі гудуць,
Пшчолкі гудуць, у палёт ідуць.
У палёт ідуць па салодкі мёд.
Салодкі мёд — то для пана,
А жоўты воск — боская афяра.
Не трымай гасцей, да дары бардзей.
Нашы дары невялікія:
Пачынальніку — чырвон злоты,
Яго дружыне — па грошыку,
Механошы — карэц яец,
А музыке — добра воля.
Добрая воля — кварта гарэлкі.
Кварта гарэлкі — то для голасу,
А пірог пшонны — то для калясу.
Валачобнічкі не дакучнічкі,
У год ходзіце, Бога просіце,
Яны пяюць, як салавейкі,
Як салавейкі ў лузе на каліне.
Стой, калінка, не хіліся,
Слаўная пані, развесяліся.

14. У нашага пана да на падвор'і
А стаіць явар зелянюсенькі,
А на ім сокал яснюсенькі,
Малод паніч і цікаецца,
Цікаецца і туляецца.
Стаў ён у яго прасіцца:
— А не без мяне,
Не страляй мяне,
Я ж табе буду да знадобненек:
Будзеш малод да жаніціся,
Будзеш браць паненку за рэкамі,
За рэкамі за Дунаямі.
Не будзе ў цябе перавознічка,
Я ў сябе буду перавознічкам,
Цябе, маладога, на крылачкі

Тваю паненку ў чаўночкі.
Тваe конікі да ўплаў пушчу,
Тваe харты перасвішчу.
Збіраліся слаўныя панове,
Збіраліся, рахаваліся,
Чым таго паніча да дарыць будзем?
Будзем дарыць жытам, бытам,
Жытам, бытам да ўсім дабром,
Усім дабром, жытнім дабром,
Не трымай гасцей, да дары бардзей.
Нашы дары невялікія:
Пачынальніку — чырвон злоты,
Яго дружыне — па грошыку,
Механошу — карэц яец,
А музыке — чы ня добра доля.
Добрая доля — кварта гарэлкі,
Кварта гарэлкі — то для голасу,
А пірог пшонны — то для коласу.
Валачобнічкі не дакучнічкі,
У год хадзілі, Бога прасілі.
Яны пяюць, як салавейкі,
Як салавейкі ў лузе на каліне.
Стой, калінка, стой, не хіліся,
Слаўная пані, развесяліся.

**ПЯТРОЎСКІЯ**

15. Пятрова ночка невялічка,
Наша (імя) не выспалася,
Шыла кашулькі рубкавыя,
Ой, шыла, шыла, вышывала,
Свайму сужаньку дарам давала.
Таму, таму на засцежкі,
Свайму міламу на падвязкі.

16. — Чаму, салавейка, ў садзе не лятаеш,
Ў садзе не лятаеш, песні не пяеш,

Ці ты, салавейка, голасу не маеш?
— А страціў я голас у зялёным садочку,
У зялёным садочку, у вішнёвым кусточку.
— Чаму ты, малойчык, не пяеш, не гуляеш,
А чы, малойчык, долечкі не маеш?
— А страціў я долю праз сваю сваволю,
Праз сваю сваволю з дзеўкай маладою.
А ў полі пры даліне, там дзяўчына сына калыхала,
Сына калыхала, сільна плакала, цяжка ўздыхала.
Дае дзяўчыне сто рублей грашыма,
Сто рублей грашыма і каня варанога.
— Не кажы на мяне, кажы на другога.
— Не буду, малойчык, каня твайго брацъ,
Не буду каня браць і на другога казаць,
Не буду на другога няславы ўкладаць.
Было табе мяне не абманіць,
Было табе маіх гарачых слёз не разліць.

17. — Ой, з'езджу я, з'езджу каня варанога,
Да твайго, дзеўчына, ліка румянога;
Скажы мне праўду, алі не,
Не крушы сердэнька ува мне.
— Я ж табе казала, усяму твайму роду,
Што ў нас з табой не будзе заводу:
У мяне пасага не будзе,
Возьмуць мяне добрыя людзі.
— Мне твайго пасага саўсім не патрэба,
О дасць жа нам Гасподзь з высокага неба;
Ты ж мне пасага, ты сама,
Як на небе ясная зара.
— Цяпер жа ты кажэш, што ясная зара,
А после ты скажаш: няшчасная доля;
Хоць ты не скажэш, так маці,
Нашто было бедную браці.
Цяпер жа ты відзіш мяне маладою,
Цяпер жа ты відзіш мяне харошаю;
Давядзець жа Гасподзь да тугі,
Штоб не заглядаўся на другіх.
— Скарай жа мяне, Гасподзь, на гладкай дарозе,
Еслі я памыслю а другой нябозе;
А памыслю, памыслю, не скажу,
Я ў сябе сэрданька укрушу.

***СЯЛЯНСКІЯ НАРОДНЫЯ ПЕСНІ, ЗАПІСАНЫЯ Ў В. ШВЕДЫ ВІЛЕЙСКАГА П.***

**ВЯСЕЛЬНЫЯ**

18. На дубу зязюлька, на дубу,
Ехала Агатка да шлюбу,
Што табе, зязюлька, да таго,
Маю я татачку сваяго.
Благаславіць мацечка — я сяду,
Пераедзіць дарожку — паеду.
Адчыняць цэркаўку — я ўвайду,
Пасцелюць ручнічок — я стану.
Што стануць пытацца — я скажу,
Шлюбуець Агатка — шлюбуй,
Цалуець мілага — цалуй.

19. Ехала Агатка із вянца,
Сказала татуську тры слаўца:
— Ужо я, татуська, не твая,
Ужо я панначка Ячмана.
Ужо на ручнічку я стаяла,
Залаты персцень мяняла,
Шчырую праўду казала,
Накрыж ручэнькі дзяржала,
З сваім міленькім прысягала.

20. Да сваціохна-галубіца, прашу ця,
Застаецца мая душа тут уся.
Хоч вы яе таўчы, малоць застаўця,
Хоч вы яе часта ў госці пушчайце,
Яна ж у вас усі работкі ўмее,
Толька ў госці прасіцца не смее.
Яна ж добра работніца між нас.
Каб не стаяла цёмнай ночкай пад акном,
Не ўвівала дробных ножачак падалком,
Не ўцірала дробных слёзак рукаўком,

Не біце яе лазовымі дубцамі,
Учыце яе разумнымі слаўцамі.
Ад лазовых дубцоў яна дурнее,
Ад разумных славечкаў разумнее.
Каб не была паветачка за хатку,
Каб не была суседачка за матку.

21. Узялі ў маткі дачку людзі,
Некаму ў яе рабіць будзе,
Жаль матцэ — жаль!

Закалолі матцэ шышкі ў пяткі,
Некаму будзе мясці хаткі.
Жаль матцэ — жаль!

Узялі ў маткі дачку чэрці,
Некаму будзе канапель церці.
Жаль матцэ — жаль!

22. Сядай, дзяўчына, сядай, кахана,
Ніц не паможа тваё ўздыханне.
Я мам коніка, возік з дышэлкам,
Ніц не паможаш ты жалем велькім.
Як жа я буду з табою сядала,
Калі я ойцу не дзякавала.
Дзякую табе, ойчэ каханы,
Што для мяне сэрцам быў ты адданы,
Што я хадзіла ў цябе ў злоце,
А тэраз бенду — ў серай капоце.
Сядай, дзяўчына, сядай, кахана,
Ніц не паможа тваё ўздыханне.
Я мам коніка, возік з дышэлкам,
Ніц не паможаш ты жалем велькім.
Як жа я буду з табою сядала,
Калі я матцы не дзякавала.
Дзякую табе, кахана матка,
Што я хадзіла ў цябе гладка.
Тэраз не буду.

Сядай, дзяўчына, сядай, кахана,
Ніц не паможа тваё ўздыханне.
Як жа я буду з табою сядала,
Калі я брату не дзякавала.
Дзякую табе, каханы браце,
Што з табою жылі мы ў еднай хаце.
Тэраз не буду.
Сядай, дзяўчына, сядай, кахана,
Ніц не паможа тваё ўздыханне.
Як жа я буду з табою сядала,
Калі я сёстры не дзякавала.
Дзякую табе, кахана сёстра,
Што мы жылі з табою остра.
Тэраз не буду.
Сядай, дзяўчына, сядай, кахана,
Ніц не паможа тваё ўздыханне.
Я мам коніка, возік з дышэлкам,
Ніц не паможаш ты жалем велькім.
Як жа я буду з табою сядала,
Калі я прогам не ўдзянкавала.
Ой, дзянькую вам, высокія прогі,
Што па вас мае хадзіліногі.
Тэраз не буду.

## КУПАЛЬСКІЯ

23. Ой, бела, бела бяроза,
Чаго на моры палягла,
Дзеўкам дарожку залягла?
Туды ішла Юзапата,
Нясла золата ў прыпале,
Шчырае срэбра ў рукаве,
Дай рассыпала па моры.
Клічуць матачку з каморы,
Памажы золата сабраці,
На залату нітачку наткаці,
На срэбную нітачку вязаці.
Юзапатка малада
Пабярэць золата сама.

24. — Да ільміна зялёная,
Да чаму ж ты не зелена?
— Да як жа мне зялёнай быці?
Да праз мяне войска ідзець,
Штоноч начуець,
Агні кладзець.
Маё карэнья падгарэла,
Маё веццейка падсмалена.
— Чаму, Язапатка, не весела?
— Ой, як жа мне вясёлай быць?
У маёй маткі штодзень госцікі,
Штонядзеленьку п'юць гарэлачку,
Маю матачку падпаілі,
А мяне, маладую, падманулі.

25. Да месяцу, месяцу,
Узыдзі раненька,
Развядзі купалейка,
Музыкам ігранейка,
Дзеўкам гулянейка.
Дзевачкі пяяць будуць,
Музыкі іграць будуць,
Дзецюкі гуляць будуць.

26. У караля сярод двара
Стаіць явар зеляненькі,
Пад тым яварам Дунай ціхі.
Хто зялён явар пераскочыць,
Хто Дунай пераплывець,
Возьмець дачку караля.
Абабраўся паніч малады Тадорка,
Да зялён явар пераскоча,
Ціхі Дунай пераплыве.
Як скочыў — пераскочыў,
Як плыў — пераплыў,
Не ўзяў дачку-каралеўначку.
Абабраўся шэры ваўчок,
Як скочыў — пераскочыў,

Да як паплыў — пераплыў,
Узяў дачку-каралеўначку.
Да як была я ў караля,
Тады ела з сырам масла,
А як я за ваўчком — сырое мяса.
Як была я ў караля,
Спала пад пярынай,
А як з ваўчком —
Тады пад ламачком.

27. Я малады зажурыўся,
Я малады ажаніўся.
Дай Божа вясну даждаць,
Я малады разжанюся,
Па беражку раскачуся,
Дунайчыкам абярнуся.
А мой жа ты, Дунай ціхі,
Як было з лукі ў луку ідучы,
Да ніцую лазу гнучы,
Жоўтыя пяскі рыючы,
Бела каменне мыючы.
Маладая ўдоўка, пагадай жа сама на сябе,
Якаво ж было табе за часты мужы ідучы,
Штонядзельку шлюб беручы,
За парогам стоячы,
Белы ручкі ломячы,
Дробны слёзкі ронячы,
Двое дзетак злучаючы.

28. Пятрова ночка невялічка,
Наша Агатка не выспалася.
Усю ноч не спала,
Шнуры сукала.
Шнуры сукала шаўковыя,
Шыла кашулі рыпсовыя.
Сяму-таму прадавала,
А міламу дарма давала.
Яна даець — не жалеець,
А ён бярэць — не дзякуець.

29. Гэта плытоўнічкі з вадою,
За вамі Бог з свячою;
Дай Божа сагнаці,
Срэбра, злота пабраці,
Нам гасцінца прыслаці.

## *СЯЛЯНСКІЯ НАРОДНЫЯ ПЕСНІ, ЗАПІСАНЫЯ Ў В. ДАНЮШАВА СВЯНЦЯНСКАГА П.*

### ВЯСЕЛЬНЫЯ

30. — Едзь, едзь, Янучок, не пазніся,
Каб твая патраўка порахам не прыпала,
Каб твая паненка другога не ўзяла.
— Мая патраўка чынам пакрыта,
Мая паненка за мяне запіта.
Не так запіта, як заручона,
Будзець за мною разам злучона.

31. Ты рыбачку, краснапёрачку,
Будзь была б у морачку:
А як паедзеш у сіня мора,
Паймаюць цябе рыбаловы.
Ты Вінцэська, ты маладзенька,
Будзь была б у брацеткі:
А як ты паедзеш ў чужыя людзі,
Не тое табе будзе:
Самі сядуць — вячэру з'ядуць,
А цябе па воду пашлюць.
Прынясеш вады, на сябе бяды,
Трэба ўсім піці даці:
Як старому, так і малому,
Так свайму дзевяратку ліхому;
Падаўшы ж піць — памыці ложкі,
Мыючы ложкі, льюцца слёзкі,
Некалі іх уцерці.

32. Салавей крылкамі кругом саду б'ецца,
Пытае ў зязюлькі, куды ў сад ляцець.
Ой, знаць, у нас зязюлька не лятала,
Што дарожкі ўказаць не згадала,
Прахіні ветачку, ў сад ляці.
Ой, знаць, Карольку, не язджалы,
Расхіні к суседцы, у двор ідзі,
Паразганяй дзевачак, ля яе сядзі.

33. Пайшла за вароціцы Ганулька,
Коскі расплятаючы,
А за ёю родна матулька,
Слёзкі разліваючы.
Пайшла за вароціцы Ганулька,
Коскі расплятаючы,
За ёю родны татка,
Слёзкі разліваючы.
— Пастой, Ганулька, пастой, дзіцятка,
Мы з табой пагаворым.
— Не буду стаяці, не буду гаварыці,
Бо мне з табою
Не многа ўжо быці.
Пайшла Ганулька за вароцейка,
Коскі расплятаючы,
А за ёю родны брацейка,
Слёзкі разліваючы.
— Пастой, сястрыца, пастой, Ганулька,
Мы з табой пагаворым.
— Не буду стаяці, не буду гаварыці,
Бо мне з табою не многа жыці.
Пайшла Ганулька за вароціцы,
Коскі расплятаючы,
А за ёю яе міленькі,
Прыпяваючы:
— Пастой, Ганулька, пастой, міленька,
Мы з табой пагаворым.
— Будзем мы стаяць,
Будзем гаварыць,
Будзем жыцейка жыць.

34. Да дубу, зязюлька, да дубу,
Час табе, Марыська, да шлюбу.
Што ж табе, зязюлька, да таго,
Маю я татульку сваяго,
Ён мяне да шлюбу выправіць,
Ён мяне на пасад пасадзіць.
На пасад пасадзіць — параіць,
Багаславіць месцечка — я сяду,
Выправіць да шлюбу — паеду.

35. Да хвала ж табе, Божа, (2)
Што мы ксяндза ашукалі,
Нядорага за шлюб далі.
За Марыську маладую — (2)
Капеечку залатую.
За Каралька маладога — (2)
Паўрубелька залатога.

36. Ляцела зязюлька з-пад ялаўца,
Едзець Марыська з-пад вянца,
Сыплець золата з рукаўца.
Выйдзі, татулька, пераймі,
Тое ты золата палічы.

37. — Ой ты, дружачка, ой ты, манюка-прайдзісвет,
Нашто ж ты маніў, што ў Марыські таткі нет?
Ходзіць татулька па нізе.
— Пастой, Марыська, пастой, дзіцятка,
Я тваю галоўку нагрызу.
— Ой ты, дружка, ты, манюка-прайдзісвет,
Нашто ж ты казаў, нашто ж маніў,
Што дзевяць канёў маеш і з дабром?
А як прыйшла, нашла адно без углоў.
Ой, ты казаў, што дзевяць валоў, як зуброў,
А як прыйшла — аднаго нашла,
І то без рагоў.

## ХРЭСЬБІННАЯ

38. Да ўсе мужы араць пайшлі,
Адзін Марцін араць не ішоў,
Па бабульку пайшоў:
Яго бабулька і сама ідзецъ,
І такую Богу малітву вядзецъ:
— Разлучы, Божа, да дзве душачкі,
Адну маю анучэцьку — то адну душачку,
А другую маю ўнучачку.

## КУПАЛЬСКАЯ

39. На мой лён раса пала,
На мой лён сцюдзёная.
Я, малада, ў даму не была,
Я, малада, на таргу была,
Два таргі таргавала,
Свякроўку прадавала,
Матульку выкупала.
За свякроўку шэляг узяла,
За матульку тысячу дала.

## РОЗНЫЯ

40. Цякла рэчка праз мястэчка,
А другая край Дунаю,
Там казакі ў карты іграюць,
Дзяўчыначку падмаўляюць:
— Дзяўчыначка маладая,
Едзь ты з намі, казакамі.
Да ў нас паля грашавыя,
Да ў нас сціртьі пшанічныя,
Да ў нас рэчкі мядовыя,
Да ў нас розы цукровыя.

41. Пара дамоў, пара,
Ужо на дварэ не рана,
Цёмна ночка настала,
Нам пара дамоў стала,
А мне, маладзе, пары нет.
Да ў мяне чужа матка
У вароцячках пераймаець,
З цясовымі вядзёркамі,
З залатымі насілкамі
Шлець мяне па вадзіцу,
У шчыры бор па брушніцу,
Да матулька чужая.
Не вадзіцы жадае,
Мяне з свету згубляе.
— Нет на цябе, чужо дзіця,
Ні ваўка, ні мядзведзя,
Ні ліхога чалавека.
— Матулька мая чужая,
Ваўка не баюся,
З мядзведзем размінуся,
З чалавекам размоўлюся.

42. Мала яблынька, мала,
Яблычкі вялікія.
Мала Марыська, мала,
Доля яе вялікая.
Яе ж пан войцец к пану вядзець,
Вялікі ёй пасаг даець:
Дзве кароўкі рабыя,
Два валы палавыя
І дзве скрыні залатыя,
Дзве падушкі пухавыя.
Да ў нас масты залатыя,
Едзем поле і другое,
На трэцяе ўз’язджаем.
Стала дзеўчына, пытае:
— Гдзе ў вас паля грашавыя,
Гдзе ў вас сцірты пшанічныя,
Гдзе ў вас рэчкі мядовыя,

Гдзе ў вас розы цукровыя,
Гдзе ў вас масты залатыя?
— Ты, дзяўчына, дурна была,
Чы ж ты таго не спазнала,
Што ў нас паля камяныя,
Сціпты крамяныя,
Што ў нас рэчкі крамяныя,
Розы крывавыя,
Што ў нас масты труновыя.

43. Цякла рэчка праз мястэчка
З вішнёвага саду,
Клічэць казак дзяўчыначку
К сабе на параду.
— Дарадзь, дарадзь, дзяўчыначка,
Як родная маці,
Ці жаніцца, ці так быці,
Ці цябе чакаці?
Прападай ты, дзяўчыначка,
З сваёю парадай,
Я да цябе з шчырым сэрцам,
Ты ка мне са здрадай.
Белая бярозка ваду замуціла,
Ліхая суседка з мілым разлучыла.
Няхай цябе Бог разлучыць
На душу і на цела,
Як ты са мной разлучыла
Міла прыяцеля.
Значны, значны сіз галубчык
Міжы галубочкаў.
Значны, значны мой міленькі
Міжы малойчыкаў,
Сам бялявы, ус чарнявы
На іскрыпачкі іграець,
Няхай маю мілаю жану
Ніхто не чапаець.
Да няхай жэ ж маей жаны
Ніхто не цалуець,
Няхай маей мілай жаны
Лічайка не псуець.

44. Ой, пайду я каля броду,
Гляну я ў воду,
Сама знаю, розум маю
З вялікага роду.
Ой, пайду я каля сяней,
Гляну я ў сені,
Сядзіць мілы з чужой жонай
На белай пасцелі.
Пасцель бела, сцяна нема,
Не з кім пагаварыці,
Сядзіць мілы з чужой жонай,
Нияк зачапіці.

45. Ішлі, пайшлі дзве сцежачкі траўліванькі,
Ішлі, пайшлі дзве сястрыцы шчасліванькі,
Дзе ж наша трэцяя сястра бяздомная,
Ці гаруець, ці пануець,
Ці мёд-віно п'ець.
Сядзіць сабе пад аконкам,
Як розавы цвет.
Заплаканы ясны вочкі,
Не мілы ёй свет.
Ой, выйду я на ўлачку,
Трава, мурава,
Ніхто мяне не жалеець,
Ні сваё племя,
Толька мяне пажалеець
Сырая зямля.

46. Адсюль вада, адтуль вада
Да беражкі займаець.
Па тэй вадзе, па тэй быстрай
Два лебедзі плаваюць.
Два лебедзі, не два лебедзі,
Да два мае брацеткі.
Яны ідучы гаварылі
Аб роднай сястрыцы,
Ні сястрыца хараша сварліва,

Такая яе доленька нешчасліва,
— Пажыву гадок, пажыву другі,
На трэці падзіўлюся,
Калі мне тут не палепшыцца,
Пайду ўтаплюся.
— Не тапіся, наша сястрыца,
Сваю душу губіш,
Было казаць з перша раза,
Што мяне не любіш.
У гародзе на паходзе
Стаяла канапелька да й зеляненька,
Час цябе, канапелька, выбіраці,
Аддала мяне мая родна маці
На свет гараваці.

47. Заржы, заржы, сівы коніку,
Роўна поля ідучы,
Ці не пачуець мая матулька,
Вячэру гатуючы.
Як учула, цяжка ўздыхнула,
Жаласна заплакала.
Заржы, заржы, сівы коніку,
Роўна поля ідучы,
Як пачуў, цяжка ўздыхнуў,
Жаласна заплакаў.
Заржы, заржы, сівы коніку,
Роўна поля ідучы,
Ці не пачуець мая сястрыца,
Па вадзіцу ідучы.
Як учула — уздыхнула,
Жаласна заплакала.

48. Не знала ў свеце няшчасця,
Гора ды бяду,
З усяго света напасці
Успалі ўжо тады.
Ідзі, браце, да ў канюшню,
У новую сваю,

Сядлай, браце, варанога,
Каня добрага.
Я паеду, маладая,
Да сваго двара,
Стану-гляну проці нова
Светлага акна.
Выйдзі, выйдзі, гасударушка,
Паслуга адна.

49. Запяялі пташачкі,
У гару летучы,
Заплакалі салдацікі,
У паход ідучы.
— Ах вы, радны салдацікі,
Брацеткі мае,
Ці не відзелі брацетку?
— У роўнам полі пры камені
Дзяржыць узду на рамені.

50. А выйду я на улачку,
Гляну я на зарэчайка,
Ужо салдацікі ў шубе стаяць,
Да ўжэ ж яны весялюсенькі.
— Не плачце, рэкруты, браткі мае,
Бо мой братка смутнюсенькі.
Няхай плачэць наш пан,
Ні адну жану з мужам разлучыў,
Ні адных дзетак пасіраціў.

51. Не шум, не шум, дубровачка, у лужку,
Плачэць, тужыць удовачка па дружку.
У Варшаве скрыпкі, музыкі іграюць,
А мне, маладой, слёзкі заліваюць,
Нашы жонкі, нашы жонкі ўсё ўдовамі,
Нашы дзеткі маленькія ўжо сіротамі.
Нашым жонкам мужы будуць,
Нашым дзеткам бацькоў не будзець.
Будзець каго пасылаці,
Не будзе каму жалаваці.

52. У садзе, у садзе-вінаградзе
Стаіць сівы конік на парадзе,
Ніхто яму рады не дарадзіць,
Ніхто яму цаны не паложыць.
Прыехалі гусары з Украіны,
Яны яму цану палажылі:
Адзін гусар кажэць: сто таляраў,
А другі кажэць і чатыры,
Трэці сеўшы да й паехаў.
Ехаў, ехаў да й далінаю,
Прывязаў каня пад калінаю,
А сам пайшоў да дзяўчыны.
— Стукні, грукні, кося, капыточкамі,
Ці не глянець яна ка мне вочкамі,
Не глянула яна — вышла маці.
— Досыць, досыць, сынку, шурмаваці,
На вараных конях раз’язджаці.
Да ўжо твая жана закапана,
У вішнёвым садзе захавана,
Жоўтым пясочкам засыпана,
Зялёнай мураўкай закладзена.
— Сырая зямля, растварыся,
Маладая жана, адазвіся,
Ці мне, маладому, ажаніцца?
— Не журыся, казак, не журыся,
Вазьмі гарну дзеўку — ажаніся,
Спраў ёй шубу дарагую,
Спраў ёй полаць залатую.

53. Каля мура сцежачка,
Там хадзіла дзевачка,
Буру касу часала,
З яварам размаўляла:
— Ты, явар, зялён, харош,
Прыйдзе на цябе мароз,
Тваё лісцейка паглуміць,
Сучайка паломіць.
— Ты, дзіўная дзевачка,
Прыйдзе на цябе ліхі муж,

Сіні вочкі падаб'ець,
Буры коскі раздзярэць.
— Ёсць у мяне два браці,
Кажу явар зрубаці,
Ды й масточкі масціці,
І кладачкі рабіці
Да матулькі хадзіці.
Маці сынка радзіла,
Вялікага ўзрасціла,
На коніка пасадзіла,
Не благаславіла,
Каб ты яварам узрастаў,
Конік твой каменем каб стаў,
А сядзельца дарожкаю
Да матулькі ў падворайка.

54. — Кляновы лісточак, куды коцішся,
Ці ў лог, ці ў даліну,
Ці ў зялёную дуброву?
— Я і сам не ведаю —
Куды мяне ветры ўкоцяць,
Ці ў лог, ці ў даліну,
Ці ў зялёную дуброву.
— Маладзенькі Яначак,
Куды ўбіраешся?
Ці ў госці, ці ў дарогу,
Ці да Божага дому,
Ці на Русь, на Украіну
Па маладую дзяўчыну?

55. А хто там ходзіць
Па новых сенках?
Свякронка ходзіць —
Нявестку будзіць:
— Устань, устань, нявестка,
Маё дзіцятка.
Нявестка ўстала
Да й заплакала.

Куры пачула мелючы,
Па вадзіцу ідучы,
Жоначку ўвідзела,
Сенкі метучы.
Сонейка ўзышло,
Як я была ў сваёй матульці,
Нужды не знала,
А як у свякронкі,
Усёй бяды зазнала.

56. Ой, гаю, гаю ў зялёным садзе,
Рэкруты ідуць — песенькі пяюць,
Старшы салдат ужо разважаець:
— Не плачце, рэкруты, мілыя браты,
Пайдзём мы з вамі ў чужу старану,
У чужой старане там пажэнімся,
Пабяром дзевачак палучшэ сябе.
Салдаты ў паход — а дзеўкі ўпярод,
Салдаты ў луку — а дзеўкі ў раку,
Салдаты ў луцы не скланіліся,
А дзеўкі ў раке патапіліся.

57. Узыйдзі, узыйдзі ты, ясен месяц,
Як млыновае кола.
— Выйдзі, дзяўчына, сэрца ядына,
Прамоў ка мне слова.
— Не магу выйці пагаварыці,
Аб нас людзі судзяць.
— Няхай судзяць, няхай гавораць,
Хоць на цэлым свеце.
А мы як жылі — так жыці будзем,
Як у ружовым цвеце.

58. Ішлі тучы з адной кучы,
А зорачкі розна,
Не сварыся, мая маці,
Што я хаджу позна.
Чы сварыся, не сварыся,

Да ўжо не научыш, —
Каго люблю да й кахаю,
Ты нас не разлучыш.

59. Купалася Кася ў моры,
Пасла конікі ў збожжы.
Ехаў Ясенька з Вальбора,
Забраў конікі да двора.
Дала Кася Ясю два таляры,
Едэн таляр новы — другі стары.
— Схавай ты таляры, Кася, к сабе,
Я прыеду ў госці, Касенька, к табе.
— Прыедзь, Ясенька, з вячора,
Адамкнёна будзе камора,
Бела пасцель расцялёна
І коўдрачка зялёна.
Памаленьку, Ясю, ты ступай,
Каб мамуня не ўслышала
І старому не сказала.
Як мамуня ўслышала
Да старому паведала:
— Устань, душка, устань, душка,
Ест у Касі нехто ў ложку.

60. Чырвоная каліначка,
Чаго ў лузе схілілася.
Я молада зажурылася,
Што ад роду да адбілася,
Ад роду, ад радочку,
Цяжка майму галасочку.
Цяжка жыці, цяжка быці
З чужаземцам гаварыці.
Пайду ў поле, гуляючы,
Сваёй долі шукаючы.
Ажно — плывець мая доля
Па край Дунаю ў сіня мора.
Да прыплыві к беражочку,
Да к ліпаваму кусточку.

Вышчыпні мне па лісточку,
Напішам мы па пісьмочку,
Каб радзіна не тужыла,
Сэрца сваго не нудзіла.
Няхай тужыць ацец-маці
Да ў новай караваці,
Да на белай пасцеляццэ,
На пуховых падушачках,
На шаўковых пасцелячках.

***СЯЛЯНСКІЯ НАРОДНЫЯ ПЕСНІ,***
***ЗАПІСАНЫЯ Ў В. БЫСТРЫЦЫ***
***ВІЛЕНСКАГА П.***

**ВЯСЕЛЬНЫЯ**

61. Зборная суботка настала,
Марыся дзевачкі збірала.
Сабраўшы дзевачкі сажала,
Гэнак з жаласці казала:
— Сядзьце ж вы, дзевачкі, усе ў рад,
Я ж, маладзенькая, на пасад.
Схілю ж я галоўку ў важны час,
Выпушчу слёзачак больш ад вас.
Ой, станьце вы, баяры, ўсе ў рад,
Вось ідзе Марыська на пасад,
Сцелючы сцежачку слязкамі,
Ішчучы матачкі ручкамі.
Яна ўсё баяры перайшла,
Родненькай матачкі не нашла.
Галоўка ж мая ўбрана,
Нямашка матулькі, схавана.
Галоўка ж мая ў квеце,
Нямашка матулькі ў свеце.

62. Кукавала зязюлька на дубе,
Плакала Явулька пры шлюбе.

Што ж табе, зязюлька, да таго?
Маю я татачку сваяго,
Ён мяне да шлюбу праводзіць.
Кукавала зязюлька ў бярозе,
Плакала Явулька ў дарозе,
Кукавала зязюлька ў яворы,
Плакала Явулька ў каморы.

63. Прыбірайся, Явулька, прыбірайся,
Прыбірайся, Явулька, не сцігайся,
Там цябе ксяндзы ждалі,
Да й касцёл адмыкалі.
І алтары накрывалі.
Усе ксяндзы гатавюсенькі
На твае ручкі бялюсенькі,
На твае слоўцы вярнюсенькі,
На залатыя пярсцёнкі.

64. Брат сястру вядзець,
Шоўкам сцежку мяцець,
Віном паліваець,
Золатам пасыпаець.
— Ох, матуля радная,
Перайдзі ж мне сцежаньку,
Багаславі ж дарожаньку.
— Ах! Маё ты дзіцятанька,
Няхай цябе Бог багаславіць
Шчасцем і доляю,
Вялікаю дружынаю.

65. Зялёненька рута пры плату стаяла,
Да на тую руту угрунь раса ўспала.
Маладая Явуля стала,
Да й з руты расу збірала,
Расой умывалася,
К шлюбу прыбіралася.

66. Ой, хвала ж табе, Божа,
Што мы добра зрабілі,
На каберцы шлюб бралі,
Ксяндза ашукалі.
Ой, хвала ж табе, Божа,
Што мы добра зрабілі,
З піва галавіцу,
З дзеўкі маладзіцу.

67. Сцялю кунтуш і жупан,
Кладзіся спаць, як бы пан.
Мы, маладыя людзі,
Хто ж нас будзіці будзе.
А скаўронак добры птак,
Ён нас збудзіць ото так:
Да ў нядзелю з парання,
Уставай, Ясю, каханне.
Як Ясь з ложа ўскочыў,
Касі паклонам суліў:
— Бывай, Кася, здарова,
Я — кавалер, ты — удова.
Я ж на вайну выязджаю,
Касю ўдому пакідаю.
Касенька ноч не спала,
Бел ліст пісала —
Да Ясенькі паслала.
Ясь каня не жалаваў,
Сто міль на ноч уязджаў.
Як прыехаў да двара,
Стуку-груку да акна:
— А чы жыва, Касенька?
— Жыва, здрова ў касцяле
Пры алтары, пры сцяне.
Шоўкам труна накрыта,
Аксамітам прыбіта.
Далі рубля на званы,
А злоты на арганы.
Зайграйце ж вы, арганы,
Па Касеньцы каханай.

Ай ударыў велькі звон
Па Касеньцы вечны згон.
Як заігралі ў арганы
Па Касеньцы каханай,
Самлеў Ясек сплаканы,
Як у звоны ўдарылі,
Ужо Ясек у магіле.

## ЖНІЎНЫЯ

68. Ой, у Вільні, Вільні
Усе дзваны задзванілі,
Малыя і вялікія.
Там кароль абедае,
Там кароль абедае,
Якубка прыслугуе,
Кубачкі налівае,
У караля пытае:
— Ой, каролю, мой пане,
Што я ў цябе выслужу,
Што я ў цябе выслужу,
Што я ў цябе выбуду.
— Ой, выслужыш, Якубка,
Коніка пад сядзелкам,
Паненку пад вянечкам.
— Ой, паеду, паеду
Да брацяткі ўзволіцца.
— Ой, брацятку радненькі,
Ці пазволіш жаніцца?
— Ой, Якубка брацятку,
Малады, не жаніся,
Розуму набярыся,
Розуму кавалерскага,
Стану малжэнскага.

69. Ой, ці выйшла цёмна туча
З вялікага лесу?

Да не выйшла цёмна туча,
Да выслала буйныя ветры,
Буйныя ветры, дробныя дажджы.
Ой, ці выйшла наша пані
З вялікага двору,
Да не вышла наша пані
З вялікага двору,
Да выслала жнейкі, саколкі,
Дочкі-перапёлкі.
Пажынайце, маладыя жнейкі,
Сярпы залаценькі,
Пастаўляйце па тры капы
І чатыры снапы.
Не давайце мяне, маладзенькую,
Да за старога.
Калі аддасцё мяне, маладу,
Не бывайце ў мяне, маладзенькай,
Часта ў госціках.
Калі будзеце ў мяне, маладзенькай,
Часта ў госціках,
Пасаджу да стала плячыма,
Да сцяны вачыма,
Буду трактаваць арэхавым півам,
Дубовым кіем.
Калі аддасцё мяне, маладзеньку,
Да за маладога,
То прыбывайце да мяне
Часта ў госцікі.
Пасаджу я вас да стала вачыма,
Да сцяны плячыма,
Буду частаваць да мядовым слодам,
Да зялёным віном.

**КУПАЛЬСКІЯ**

70. У нас Купалле!
На вазярочку, на сіненькім,

Купаліся тры ўценькі,
Тры ўценькі да рабенькія.
Да гдзе ж браўся сіў селязень,
Выбраў сабе найхарашэйшую.
Яна яго прасілася:
— Сякі-такі, сіў селязенец,
Пусці ж мяне на возера
З утанькамі паплаваці.
— Тагды я цябе папушчу,
Як тваё пер'ейка абскубу.
— А я тады сама пайду,
Мяне тады уткі не прымуць,
Яны мяне з палку выганюць.
На улачцэ, на шырокай
Там гулялі тры паннушкі.
Да гдзе ўзяўся малады Якобка,
Узяў сабе найхарашэйшую.
Яна яго прасілася:
— Сякі-такі, малады Якобка,
Пусці ж мяне на ўлачку.
— Тагды я цябе папушчу,
Як тваю касу распляту.
— Ой, тады я сама не пайду,
Мяне паненкі не прымуць,
Яны мяне з танцаў выганюць.

71. Плыне чаўночак па быстрай вадзе,
Да ў тым чаўночку харош моладзец,
Залатым грабушком чэша галоўку,
Пускае волас на быстру ваду.
— Плывіце, валаскі, далей далёка,
Гдзе мая мілая вадзіцу бярэць,
Папытайцеся яе — ці тужыць па мне.
Няхай тужыць па ёй агонь да вада,
— Я не буду тужыць — бо я малада.
Ой, рубаў ён дроўцы
З маіх плячанкаў.
— Ой, не праўда твая,
Мілая мая,

Бо рубаў я дроўцы
З белай бярозы.
— Ой, віў ён повады
З маіх валасоў.
— Ой, не праўда твая,
Мілая мая.
Рубаў я дроўцы
І віў повады
З чорнага шоўку.
— Ой, пушчу ручайкі
З маіх слёзанек.
— Ой, не праўда твая,
Мілая мая.
Ой, пушчу я ручайкі
З зімнай крыніцы.

## *СЯЛЯНСКІЯ НАРОДНЫЯ ПЕСНІ, ЗАПІСАНЫЯ Ў НЯМЯНЧЫНСКАЙ ПАРАФП ВІЛЕНСКАГА П.*

### ВЯСЕЛЬНЫЯ

72. Ой, у садзе, у садзе на ніве
Млода Рахеля вянок віе.
Досыць табе, Рахеля, вянок віць,
Бо не бендзеш, мяла, часу панасіць.
Прыхадзі, татуля, звячора,
Прынасі вяночак руцвяны,
На Рахелі глоўку гатовы.
Ой, у садзе, у садзе на ніве
Млода Рахеля вянок віе.
Досыць табе, Рахеля, вянок віць,
Бо не бендзеш, мяла, часу панасіць.
Прыхадзі, мамуня, звячора,
Прынасі вяночак руцвяны,
На Рахелі глоўку як уляны.
Ой, у садзе, у садзе на ніве
Млода Рахеля вянок віе.

Досыць табе, Рахеля, вянок віць,
Бо не бендзеш, мяла, часу панасіць.
Прыхадзі, брацішэк, звячора,
Прынасі вяночак руцвяны,
На Рахелі глоўку сплятаны.
Ой, у садзе, у садзе на ніве
Млода Рахеля вянок віе.
Досыць табе, Рахеля, вянок віць,
Бо не бендзеш, мяла, часу панасіць.
Прыхадзі, Антосек, звячора,
Прынасі вяночак гатовы,
На Рахелі глову злацісту.

73. Кукавала зязюлька за окнем,
Заплакала дзяўчына за столэм.
Кукавала зязюлька ў бжозе,
Заплакала дзяўчына ў дрозе.
Кукавала зязюлька на дубе,
Плакала дзяўчына пры шлюбе.

74. Да і вялікі двор на такі прыбор,
Калі татулі няма.
Наймі, татуля, хоць салавейку,
Пасылай па татулю.
Салавей лятае, пекна спявае,
Татулю абуджае.
— Устань, татулька, устань, міленькі,
Парадзь мне парадку.
— Рад бы я сваму дзіцяці
Парадку даці,
Сасновы дошкі
Сціснулі бачкі,
Я не магу павярнуцца.
Сырая зямля на персі лягла,
Не магу прадыхнуцца.
Жоўты пясочак засыпаў очы,
Не магу аглянуцца.

75. Плыне чаўночак па быстрай вадзе,
Да ў тым чаўночку харош моладзец,
Злотым грабушком чэша галоўку,
Пускае волас на быстру ваду.
— Плывіце, валаскі, далей далёка,
Гдзе мая міла вадзіцу бярэць.
Пытайце яе, чы тужыць па мне!
— Няхай тужыць па ім агонь да вада,
Я не буду тужыць, бо я малада.
Ой, рубаў ён дроўцы
З маіх плечанкаў.
— Ой, няпраўда твая,
Мілая мая.
Рубаў я дроўцы
З белай бярозы.
— Ой, віў ён повады
З маіх валаскоў.
— Ой, няпраўда твая,
Мілая мая.
Я віў повады
З чорнага шоўку.
— Ой, пушчаў ручаўкі
З маіх слёзанькаў.
— Ой, няпраўда твая,
Мілая мая.
Пушчаў я руч'і
З чыстай крыніцы.

76. На уліцы да й мяцёлка мяцець,
Красна дзевушка бычэнька вядзець.
Бычок не йдзе, ўпіраецца,
Дзяцюк з дзеўкай намаўляецца.
Што на свеце да не слышнага,
Што на свеце да не віднага,
Штоб курачка да бычочка вяла,
Парасёнка да яечка знясла.

77. Упілася, ледво стое,
Не за чужа, а за свое,
Мая курка знясласся,
Я за яйкі упілася.

78. З-пад гаю, з-пад цёмнага,
З-пад Дунаю, з-пад зялёнага
Прылятае пташка морская,
Прынашае пісьмо царскае.
Пісьмо царскае — гасударскае,
Напісана, запячатавана,
Да татулі адасланае.
Да ў татулі тры сынулі,
Да ўсе тры — да й Васілі,
Катораму ім у службу ісці:
Ці старшаму, ці малодшаму,
Ці самаму наймалодшаму?
Сам малодшы не прыпадае,
Сярэдненькі не прыходзіць,
Самы старшы прыбіраецца,
З сваей раднёю распрашчаецца.
— Ацец, маці мая міла,
Распрашчайце ж мяне,
Бо мне там на войне,
Перша куля не міне,
Галованьку папалам разарве.

79. Ой, там на лонцэ,
Там на зялёнай
Ляжыць брыгадчык
Бардзо зранёны.
Ідзе да него
Мамуня его,
Плача, жалуе
Сыночка свэго.
— Не плач, мамуня,
Не плач, радзона,
Юж мое рэнца

Даўно зранёны.
Ой, там на лонцэ,
Там на зялёнай
Ляжыць брыгадчык
Бардзо зранёны.
Едзе до него
Татуля его,
Плача, жалуе
Сыночка свэго.
— Не плач, татуля,
Не плач, радзоны,
Юж мое рэнца
Даўно зранёны.
Ой, там на лонцэ,
Там на зялёнай
Ляжыць брыгадчык
Бардзо зранёны.
Ідзе до него
Брацішак его,
Плача, жалуе
Брацішка свэго.
— Не плач, брацішка,
Не плач, радзоны,
Юж мое сэрца
Даўно зранёна.
Ой, там на лонцэ,
Там на зялёнай
Ляжыць брыгадчык
Бардзо зранёны.
Ідзе да него
Сястрыца его.
Плача, жалуе
Брацішка свэго.
— Не плач, сястрыца,
Не плач, радзона,
Юж мое сэрца
Даўно зранёна.
Ой, там на лонцэ,
Там на зялёнай
Ляжыць брыгадчык

Бардзо зранёны.
Едзе да него
Жоначка его.
Плача, жалуе
Мэнжулька свэго.
— Не плач, жануля,
Не плач, радзона,
Юж мое сэрца
Даўно вясёла.

80. Піўшы водку, пойдзем спаць,
Альбо з Ясем ў карты грацъ.
Гралі мы ў карты — у казыры,
Ляжы Ясенька — нежывы.
— Устань жа, Ясенька, не ляжы,
Сядай на коніка да й бяжы.
Зялёна рута — жоўты цвет.
— Вендруй, дзяўчына, за мной у свет.
— Як жа мы будзем вендраваць,
Бенда з нас людзі дзіваваць.
Дзівую людзі, дзівую,
Жэ пара млодых вендруе.
Вывендравалі тры мілі
Аж да чырвонай каліны.
Пад калінай стаяла,
Чужую коску часала.
Ядловец, панна, ядловец,
Лепшы кавалер ніж удовец,
Бо удовец будзе бендзе вымавял,
Першу жоначку выхваляў.
У ва ўдоўца дзеці плакалі,
Покі мацохі не зналі —
А як мацохі пазналі,
Вшыстке за печэм сядалі.

81. На лонцэ жоўты квеце,
Калыхала дзеўка дзеці,
Калыхала і плакала,

Чаго ж бедна дачакала.
Лепей было маткі слухаць,
Ніжлі тэраз цёнглі рухаць.

82. Я выпіла, перакуліла,
Сама сябе пахваліла,
Бо я добрага роду,
П'ю водачку, як воду.

83. Я ў нядзелю п'яна была,
У панядзелак спала,
А ва ўторак снапоў сорак
Пшаніцы нажала.
У сераду вазіла,
Чацверг малаціла,
У пятніцу веяла,
А ў суботу мерала,
А ў нядзелю прадала,
Усе грошы прапіла.
Пайшла я да дому,
Стала мужа біці.
Яшчэ стала, запытала,
Чы есць дровы ў хаце.
Узяў мужычышча
У рукі тапарышча:
— Гуляй, гуляй, міла мая,
Бо то тапарышча.
Ці відзелі людзі,
Майго мужа дурака,
Як я свайго мужыка
Наўчыла драпака.

84. Я цяцёрку пасу, ох я!*
На зялёным верасу,
А цяцёрка за куст —
Да і вырваў перачку,

* Прыпеў "Ох, я!" паўтараецца пасля кожнага радка.

Зрабіў сабе дудачку.
Тая дудка звалілася,
Яна на пень прабілася.
Ці не дудка была
Весялютка была,
Весяліла ты мяне
На чужой старане.
Былі ў бацькі тры сыны
Да ўсе яны Васілі.
Адзін быдла пасе,
Другі лапці пляце,
Трэці сядзіць на камені
Дзяржыць дуду на рамені.
Сюды мах — туды мах,
Выцяў казу па зубах.
Пайшла каза храмаючы,
На сем сажан ступаючы
Ад карчмы да карчмы.
Відзіш, пане, як гарую
З адной карчмы ў другую.

## *СЯЛЯНСКІЯ НАРОДНЫЯ ПЕСНІ, ЗАПІСАНЫЯ Ў ТРОЦКІМ П.*

### ВЯСЕЛЬНЫЯ

85. Зялён малён, зялён малён
Да па падвор'ю паслаўся.
Малады Кароль
У дарожаньку прыбраўся.
Ой, сеў жа ён,
Зялёнага віна напіўся,
Затым жа ён
У дарожаньку спазніўся.
Ой, станьце, станьце,
Вараныя коні, пад намі,
Мы паедзем у дарожаньку
Чатыры мілі барамі,

Пятую зялёнымі мастамі,
Шостую краснымі дварамі.
Ой, станьце, станьце,
Вараныя коні, пад тынком,
Да выбіце камянную
Сценку капытком,
Каб вывесці маладую Анцюню
З-пад вянка.
— Ой, жаль жа, жаль
Мне, матуля, цябе.
Застаецца мне рута, лілея ў цябе.
— Ой, не жалуй жа, мая цурка, ты мяне,
Застаецца ў мяне лепшае ад цябе.
Ой, прышлю, прышлю
Свайго мілога з касою,
Няхай скосіць руту, лілею з расою.
Ой, прышлю, прышлю
Сваго мілога з граблямі,
Няхай зграбе руту, лілею пластамі.
Ой, прышлю, прышлю
Сваго мілога з канямі,
Няхай звязе руту, лілею вазамі.

86. Ой, хадзіла малада Грасыля па полю,
Сеяла рутаньку з прыполу.
Ой, прышла да яе маманька,
Прышла да яе родненька.
— Пакінь, пакінь, Грасыля, руту сеяць,
Бо табе час да шлюбу ехаць.
— Ой, не час жа і не пара,
Бо я з руты вяночка не звіла.
Хадзіла маладая Грасыля па полю,
Сеяла руту з прыполу.
Ой, прышоў да яе татанька,
Ой, прышоў да яе родненькі.
— Пакінь, пакінь, Грасыля, руту сеяць,
Час табе да шлюбу ехаць.
— Ой, не час жа і не пара,
Бо я з руты вяночка не звіла.
Хадзіла малада Грасыля па полю,

Збірала рутаньку да прыполу.
Ой, прышла да яе сёстрэнька,
Ой, прышла да яе родненька.
— Пакінь, пакінь руту збіраць,
Час табе, Грасыля, к шлюбу ехаць.
— Ой, не час жа і не пара,
Бо я з руты вяночка не звіла.
Хадзіла малада Грасыля па полю,
Сеяла руту з прыполу.
Ой, прышоў да яе брацішак,
Ой, прышоў да яе родненькі.
— Пакінь, пакінь, Грасыля, сеяці,
Час табе, Грасыля, да шлюбу ехаці.
— Ой, не час і не пара,
Бо я з руты вяночка не звіла.
Хадзіла маладая Грасыля па полю,
Збірала рутаньку к прыполу.
Ой, прышоў да яе міленькі.
— Пакінь, пакінь, Грасыля, збіраці,
Час табе, Грасыля, да шлюбу ехаці.
— Ой, цяпер час і пара,
Бо я з руты вяночка звіла.

### *НАРОДНАЯ ПЕСНЯ З ВАКОЛІЦ ДУКШТАЎ*

87. Пахіліўся зялёны дубочак
У зялёнай дуброве, пахіліўся.
Пахваліўся малады малойчык
Да сваёй паненцы, пахваліўся:
— Ой, я заездзіў каня варанога,
Сядло залатое з’ездзіў я.
Ой, я шукаў багатага цесця,
Ласкавай паненкі шукаў я;
Ой, я падраў сабалёву шапку,
Паклоны даючы, ой, падраў я.
Ой, патаптаў я казловыя боты,
Ходзячы ў залёты, дый падраў я.
Ой, я не нашоў багатага цесця,
Ласкавай паненкі, ой, не знайшоў.

# СПІС АСНОЎНЫХ КРЫНІЦ І ПРЫНЯТЫЯ СКАРАЧЭННІ

ЦНБ НАНБ — Цэнтральная навуковая бібліятэка імя Якуба Коласа Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі

Czeczot Jan. Piosnki wieśniacze z nad Niemna. Wilno, 1837; Piosnki wieśniacze z nad Niemna i Dźwiny. Wilno, 1839; Piosnki wieśniacze z nad Dźwiny. Wilno, 1840; Piosnki wieśniacze z nad Niemna i Dźwiny z dołączeniem pierwotwornych w nowie słowiano-krewickiej. Wilno, 1844; Piosnki wieśniacze z nad Niemna, Dniepra i Dnestra. Wilno, 1845; Piosnki wieśniacze z nad Niemna i Dźwiny, niektóre przysłowia, idiomatizmy w nowie słowiano-krewickiej... Wilno, 1846; Piosnki wieśniacze z nad Dźwiny, z okolic Leplia i samego Leplia (między rokiem 1836—1839 zebranc). Рукапіс, ч. 2, захоўваецца ў аддзеле рэдкай кнігі ЦНБ НАНБ.

Tyszkiewicz Eustachy. Opisanie powiatu Borysowskiego. Wilno, 1847.

Tyszkiewicz Konstanty. Wilija i jej brzegi. Drezno, 1871.

Рук. — Рукапіс Яна Чачота (Czeczot Jan. Piosnki wieśniacze z nad Dźwiny (między rokiem 1836—1839 zebrane)).

1846 — Piosnki wieśniacze z nad Niemna i Dźwiny. Wilno, 1846.

Кн. 1. — кн. — кніжка (зборнік Яна Чачота 1837 г.)

Кн. 2. — зб. 1839 г.

Кн. 3. — зб. 1840 г.

Кн. 4. — зб. 1844 г.

Кн. 5. — зб. 1845 г.

Кн. 6. — зб. 1846 г.

в. — вёска

п. — песня

вар. — варыянт

л. — ліст

с. — старонка

ч. — частка

## ФАЛЬКЛОРНЫЯ ЗАПІСЫ ЯНА ЧАЧОТА

# Песні

### Калядныя

**1. Тыдзень, тыдзень да Каляд.** З-над Нёмана. 1846, п. 10, с. 8 (кн. 4, п. 3).

**2. Да казаў хмялёк, да тычкі ідучы.** З-над Нёмана. 1846, п. 7, с. 6 (кн. 1, п. 8).

**3. Да ехаў я, ехаў, Каляда.** З-над Нёмана. 1846, п. 9, с. 7—8 (кн. 4, п. 2).

**4. У Лявона куццю таўкуць.** З-над Нёмана. 1846, п. 11, с. 8—9 (кн. 4, п. 4).

**5. Прыехала Каляда на сівым коніку.** З-над Нёмана. 1846, п. 12, с. 9 (кн. 4, п. 5).

**6. Пайшла Каляда калядуючы.** З-над Нёмана. 1846, п. 13, с. 9 (кн. 4, п. 6).

**7. Калі б я была шэрай зязюляй.** Рук., ч. 2, п. 51 (1—66)* .

**8. Вечар, вечар, вечарыначка.** З-над Нёмана. 1846, п. 14, с. 9 (кн. 4, п. 7). Ёсць у гэтым зборніку яшчэ адна калядная песня: “Ой, стук, матка, стук... чы хто страху разрывае, чы хатаньку верне?” Маці адказвае сыну: “Ціха, сынку, мароз стужыць, каляданьку галосіць”. Далей тэкст пераходзіць у вершаванае апісанне зімовай сцюжы ў калядны вечар.

### Валачобная

**9. Дзень, добры дзень, пане гаспадару.** З-над Нёмана. 1846, п. 1 (кн. 4, п. 1).

### Веснавыя

**10. Ой, выйду я на вулачку — бычкі бушуюць.** З-над Нёмана. 1846, п. 2, с. 2—3 (кн. 1, п. 1).

---

* У дужках указваецца колькасць песень у калекцыі.

**11. Разыграўся Юр'я конік.** З-над Нёмана. 1846, п. 3, с. 3 (кн. 1, п. 38).

## Купальскія

**12. Сонейка, чаму Янава ночка невялічка.** З-над Нёмана. 1846, п. 4, с. 4 (кн. 4, п. 8).

**13. Сонейка, сонейка, Ян з Пятром ходзяць.** З-над Нёмана. 1846, п. 5, с. 3 (кн. 4, п. 9).

**14. Прасілася Гарыслаўка у ойчанькі.** З-над Нёмана. 1844, п. 49 (кн. 2, п. 2).

**15. Ішла паненка цераз бор.** З-над Нёмана. 1846, п. 6, с. 4—5 (кн. 4, п. 16).

**16. Ай, нету, нету Купаліша.** З-над Дзвіны. 1846, п. 51, с. 32 (кн. 2, п. 64).

**17. Звала Купалка Іллю на ігрышча.** З-над Дзвіны. 1846, п. 52, с. 33 (кн. 2, п. 65).

**18. Купалачка, гдзе твая дачка.** З-над Дзвіны. 1846, п. 53, с. 33—34 (кн. 3, п. 1).

**19. Цёмная ночка Купалачка.** З-над Дзвіны. 1846, п. 54, с. 34 (кн. 3, п. 2).

**20. А у трыснічку, капуснічку.** Рук., ч. 2, п. 22 (1—66).

**21. Мак зялёны, мак чырвоны.** З Лепельшчыны. 1846, п. 87, с. 51.

**22. Лятала пава па чыстаму полю.** Рук., ч. 2, п. 19 (1—66).

**23. А пры крайчыку, пры Дунайчыку.** З-над Дзвіны. 1846, п. 81, с. 47.

**24. А ўпала ластаўка, ўпала.** Рук., ч. 2, п. 19 (1—66).

**25. Выйду, выйду на вулачку.** Рук., ч. 2., п. 7, л. 87—88.

## Жніўныя

**26. Размавяла жыта ядраное.** Рук., ч. 2, п. 12 (1—66).

**27. А ўбіраці, ўбіраці.** Рук., ч. 2, п. 28 (1—66).

**28. Да ўжо вечар вечарэе, наш пан весялее.** З-над Нёмана. 1846, п. 15, с. 10.

**29. Да ўжо вечар вечарэе, наша пані весялее.** З-над Нёмана. 1846, п. 16, с. 10.

**30. А жоначкі, лябёдачкі.** Рук., ч. 2, п. 6 (1—66).

**31. Да ў нашага пана да нядобрая слава.** З-над Нёмана. 1846, п. 17, с. 10—11 (кн. 1, п. 24).

**32. У нашага пана харашэнька на дварэ.** З-над Нёмана. 1846, п. 18, с. 11 (кн. 1, п. 25).

**33. Да што ў полі гудзець.** З-над Нёмана. 1846, п. 19, с. 11 (кн. 1, п. 26).

**34. Пара, жонкі, дамоў іці, пацярала зара ключы.** З-над Дзвіны. Рук., ч. 2, п. 9 (1—66); 1846, п. 79, с. 46. Спачатку даецца рукапісны тэкст, потым пад № 34 а — апублікаваны.

**35. Сцюдзёная раса пала.** З-над Дзвіны. 1846, п. 57, с. 35—36 (кн. 3, п. 3); Рук., ч. 2, п. 1 (1—66). Ад Тэклі Стэфаноўскай, жыве каля Казімірава, прыехала з Быхава.

**36. Ах ты, сонца, сонейка.** Рук., ч. 2, п. 11 (1—66). Самы ранні запіс гэтай песні — *В. С.*

**37. Ці выйшла цёмная туча.** З-над Дзвіны. 1846, п. 58, с. 36 (кн. 3, п. 6).

**38. Разгарыся, ясная зорка, перад месяцам.** Рук., ч. 2, п. 23 (1—66).

**39. Разгарыся, вячэрняя зорка, перад ранняй.** З-над Дзвіны. 1846, п. 59, с. 36—37 (кн. 3, п. 8).

**40. Віншую паноў вянком.** З-над Дзвіны. 1846, п. 60, с. 37 (кн. 3, п. 9).

**41. Паночак, паночак, рахуйся з намі.** З-над Дзвіны. 1846, п. 61, с. 37—38 (кн. 3, п. 10); у рук., ч. 2, п. 5 — толькі першыя чатыры радкі.

**42. А зялён наш бор, зялён.** З-над Дзвіны. 1846, п. 62, с. 38 (кн. 3, п. 11).

**43. А зялён наш бор, зялён.** Рук., ч. 2, п. 25 (1—66).

**44. Судзіў Бог пажаць.** З-над Дзвіны, Лепельскі павет, з Селяваў. Рук., ч. 2, п. 1 (1—8); 1846, п. 55, с. 34—35 (кн. 2, п. 66).

**45. У нашага пана вялікая слава.** Рук., ч. 2, п. 4 (1—8).

**46. А ты пан наш, паночак.** Рук., ч. 2, п. 15 (1—66).

**47. Ішоў Бог дарогаю.** Рук., ч. 2, п. 6 (1—8).

**48. Хадзіў раю па вуліцы.** Рук., ч. 2, п. 2 (1—66); 48а. Рук., ч. 2, п. 2 (1—8).

**49. Чыстае золата на таку малочана.** Рук., ч. 2, п. 14 (1—66).

**50. Паночак, паночак, прымі наш вяночак.** Рук., ч. 2, п. 2 (1—8); у зб. 1846 г., п. 46, с. 35 (кн. 2, п. 67) тэкст адэкватны.

**51. На гарэ Тацянка пшонку жнець.** Рук., ч. 2, п. 20 (1—22).

**52. Чый гэта двор.** Рук., ч. 2, п. 1 (1—3).

**53. Чый гэта двор мурам мураваны.** Рук., ч. 2, п. 16 (1—66).

## Хрэсьбінныя

**54. Цераз бор сасна пахілілася.** Рук., ч. 2, п. 9 (1—26).

**55. Хто ж у нас у полазе ляжыць.** З-над Дзвіны. 1846, п. 75, с. 45.

**56. А ў Полацку на рыначку.** Рук., ч. 2, п. 8 (1—26).

**57. Кум ходзіць па саду, кума па гароду.** З-над Дзвіны. 1846, п. 73, с. 44.

**58. Дуброўка мая зялёная.** З Забалацця (калісьці в. была ўласнасцю Сапегі, цяпер — казённая). Рук., ч. 2, п. 1 (1—3).

**59. А калі то з нашай Аўдолькі бывала.** Рук., ч. 2, п. 62 (1—66).

**60. Ніхто ж так не гуляець.** Рук., ч. 2, п. 8, л. 90.

**61. А з сіняга возера вятры веюць.** Рук., ч. 2, п. 53 (1—66).

**62. Заржалі вараныя коні ў полі.** Рук., ч. 2, п. 63 (1—66).

**63. А ў полі гай зелянеець.** Рук., ч. 2, п. 18 (1—66).

**64. Сакалы налятаюць.** Рук., ч. 2, п. 55 (1—66).

**65. Палятала два салавейкі.** Рук., ч. 2, п. 17 (1—66).

**66. Зялёная бярозанька, чаму бела, не зелена.** З-над Нёмана. 1846, п. 38, с. 23 (кн. 1, п. 80).

**67. Да гаворыць лён зялён.** Рук., ч. 2, п. 4 (1—66).

**68. А лятаў салавей па ламу.** Рук., ч. 2, п. 1 (1—22).

**69. Хоць ты, мая мамухна, за Дунай замуж аддай.** Рук., ч. 2, п. 57 (1—66).

**70. Кукавала зязюлька, седзячы ў садочку.** Рук., ч. 2, п. 32 (1—66).

**71. А ў барку, ў барку.** Рук., ч. 2, п. 35 (1—66).

**72. На гарэ стаіць шацёр навюсенькі.** Рук., ч. 2, п. 20 (1—66).

**73. На моры, на возеры.** З-над Дзвіны. 1846, п. 66, с. 41. Спяваюць, праводзячы маладую за стол.

**74. Што за панове, што за сватове на дварэ.** Рук., ч. 2, п. 64 (1—66); З-над Дзвіны. 1846, п. 63, с. 39—40.

**75. Што за панове, што за сватове на дварэ.** Рук., ч. 2, п. 64 (1—66).

**76. Не гніся, не ламіся, калінка.** З-над Дзвіны. Рук., ч. 2, п. 13 (1—22).

**77. На дварэ дожджык пераходжваець.** Рук., ч. 2, п. 60 (1—66).

**78. Не вяліка поле, не мала.** Рук., ч. 2, п. 40 (1—66).

**79. Каліна, не стой, распускайся.** З-над Дзвіны. 1846, п. 21, с. 12 (кн. 1, п. 51).

**80. Не лякайся, дзевунька.** З-над Нёмана. 1846, п. 23, с. 13—14 (кн. 1, п. 67).

**81. З гары, з гары, з даліны.** Рук., ч. 2, п. 7 (1—22). Ад Т. Стэфаноўскай.

**82. Наляцела сакалоў повен двор.** Рук., ч. 2, п. 56 (1—66).

**83. Ай, затужыўся старшы сват.** Рук., ч. 2, п. 34 (1—66).

**84. У нас сягодні да заручынкі.** Рук., ч. 2, п. 5 (1—31).

**85. Прыехалі запіваць.** Рук., ч. 2, п. 3 (1—22). Ад Т. Стэфаноўскай.

**86. Спазнаеш, Люсечка, па калючаньках.** Рук., ч. 2, п. 30 (1—66).

**87. Пераманачка чырачка.** Рук., ч. 2, п. 6 (1—22). Ад Т. Стэфаноўскай.

**88. А плавала шэрая вутка па рацэ.** Рук., ч. 2, п. 48 (1—66).

**89. Да прыстань, Божа, прыстань.** З-над Нёмана. 1846, п. 25, с. 14 (кн. 1, п. 69).

**90. Станьце, ўсе баяркі, ў рад.** Рук., ч. 2, п. 36 (1—66).

**91. Ляцелі птушачкі на тры стадачкі.** З-над Дзвіны, з Юзафатава. 1846, п. 64, с. 40. Пры ўваходзе маладой з дружкамі ў хату.

**92. Лятала стада курапат па полі.** Рук., ч. 2, п. 31 (1—66).

**93. Ні жарка гарыць калінка.** Рук., ч. 2, п. 4 (1—22).

**94. Зязюлька, зязюлька да не голасна.** З-над Нёмана. 1846, п. 26, с. 15 (кн. 4, п. 12).

**95. Да красная Зосечка.** З-над Нёмана. 1846, п. 24, с. 14 (кн. 1, п. 68).

**96. Кланяйся, Кацярынка, кланяйся.** З-над Нёмана. 1846, п. 27, с. 15.

**97. Знаць, табе, Настулька, замуж хочацца.** З Лепельшчыны. 1846, п. 68, с. 42. Калі маладая не плача; рук., ч. 2, п. 10 (1—13).

**98. Знаць, табе, Настулька, замуж хочацца.** Рук., ч. 2, п. 10 (1—13).

**99. Кукавала зязюлька ў садочку.** З-над Дзвіны, з Юзафатава. 1846, п. 65, с. 40—41. Для сіраты.

**100. Рэчанька быстрая, што ціха стаіш?** Рук., ч. 2, п. 16 (1—22). Ад Т. Стэфаноўскай.

**101. Ішла Эльжбетка з поля.** Рук., ч. 2, п. 42 (1—66).

**102. Нет Марыські, нет у дому.** З-над Нёмана. 1846, п. 22, с. 1 (кн. 1, п. 59).

**103. Брацетка мой родненькі.** З-над Нёмана. 1846, п. 28, с. 15—16.

**104. Чаго ты, Рыпінка, змарнела?** Рук., ч. 2, п. 66 (1—66).

**105. Чаго, селязень, так сташніўся?** Рук., ч. 2, п. 21 (1—66).

**106. Плакала Наташка на свой род.** Рук., ч. 2, п. 5 (1—22).

**107. Мар'ечка з двара з'язджала.** Рук., ч. 2, п. 7, л. 90.

**108. Ехала Настулька да вянца.** З-над Дзвіны. 1846, п. 69, с. 43. Як вязуць да шлюбу.

**109. Стаяла Настулька пад вянцом.** Рук., ч. 2, п. 11 (1—13). Як вязуць да шлюбу.

**110. Служыў Данілка каралю.** Рук., ч. 2, п. 6, л. 90.

**111. Дружко ў хату лезець.** З-над Дзвіны. 1846, п. 67, с. 41. Для дружкаў.

**112. Дружкі ў хату лезуць.** Рук., ч. 2, п. 7 (1—13).

**113. Палез дружко па лучыну.** З-над Дзвіны. 1846, п. 66, с. 42. Для дружкоў.

**114. Купі, дружку, мыла.** Рук., ч. 2, п. 9 (1—13).

**115. Не гніся, дружко, не гніся.** Рук., ч. 2, п. 10 (1—22).

**116. Красны Грышачка.** З-над Нёмана. 1846, п. 29, с. 16.

**117. Цётачкі-лябёдачкі, кладзіце намётачкі.** Рук., ч. 2, п. 6 (1—13); З-над Дзвіны. 1846, п. 70, с. 43.

**118. Да ляцелі гусанькі ў чужы край.** З-над Нёмана. 1846, п. 30, с. 16 (кн. 4, п. 14).

**119. Соўнінька на заходзе.** Рук., ч. 2, п. 52 (1—66).

**120. Выйду я на даліначку.** Рук., ч. 2, п. 18 (1—31).

**121. Як табе, зараначка, з зарою расстаціся.** Рук., ч. 2, п. 65 (1—66).

**122. Дзякавала бяроза зялёнай дуброве.** Рук., ч. 2, п. 58 (1—66).

**123. А жаль жа, мая мамухна, на цябе.** Рук., ч. 2, п. 54 (1—66).

**124. На бару зязюля кукуець.** Рук., ч. 2, п. 59 (1—66).

**125. Паглядзіся, матанька, да мяне аддаўшы.** З-над Нёмана. 1846, п. 20, с. 12 (кн. 1, п. 55).

**126. Да няхай бы таго не чуў, не відзеў.** Рук., ч. 2, п. 29 (1—66).

**127. Па двару сіз голуб ходзіць.** Рук., ч. 2, п. 45 (1—66).

**128. А ездзілі вячэрнічкі па полю.** Рук., ч. 2, п. 47 (1—66).

**129. Ой, свет світаець, зара займаець.** З-над Дзвіны. 1846, п. 71, с. 43.

**130. А вылецеў салавейка.** Рук., ч. 2, п. 5 (1—66).

**131. Удалы Барыска, удалы.** Рук., ч. 2, п. 38 (1—66).

**132. У дарозе Боранька, у дарозе.** Рук., ч. 2, п. 61 (1—66).

**133. У дарозе Тамашок, у дарозе.** Рук., ч. 2, п. 5 (1—8), л. 90.

**134. Пад кім, пад сім конь вараненькі гаворыць.** Рук., ч. 2, п. 37 (1—66).

**135. А разгуляўся вараны конік па полю.** Рук., ч. 2, п. 39 (1—66).

**136. Чаму ты, Аўрамка, не вясёл?** Рук., ч. 2, п. 46 (1—66).

**137. Змітрачок зорачку папрасіў.** Рук., ч. 2, п. 43 (1—66).

**138. Ходзіць зайка па ячыне, туліцца.** Рук., ч. 2, п. 21 (1—31).

**139. Калінка наша Віктуся.** Рук., ч. 2, п. 33 (1—66).

**140. У дарозе Сцёпачка, у дарозе.** Рук., ч. 2, п. 15 (1—22).

**141. Ехалі сваты борам.** Рук., ч. 2, п. 18 (1—22). Ад Т. Стэфаноўскай.

**142. Ехалі сваты сялом.** Рук., ч. 2, п. 18а (1—22). Ад Т. Стэфаноўскай.

**143. Да іх вулачкі цесны.** Рук., ч. 2, п. 49 (1—66).

**144. Цёмная ночка нявідна.** Рук., ч. 2, п. 44 (1—66).

**145. Ляцяць пташачкі на тры стадачкі.** З-над Дзвіны. 1846, п. 64, с. 40. Пры ўваходзе маладой з дружкамі ў хату.

**146. Заржалі конікі на браду.** Рук., ч. 2, п. 50 (3—66).

**147. Адчыні, мамухна, новы двор.** З-над Дзвіны. 1846, п. 72 (кн. 3, п. 27).

**148. Адчыні, мамачка, новы двор.** Рук., ч. 2, п. 1 (1—8).

**149. Да выйдзі, матулька, паглядзі.** Рук., ч. 2, п. 2 (1—8).

**150. Да свякровачка-вутка.** Рук., ч. 2, п. 3 (1—8).

**151. Свякровачка каля печы ходзіць.** Рук., ч. 2, п. 4 (1—8).

**152. Зялёная дубрpark.** Рук., ч. 2, п. 14 (1—22). Ад Т. Стэфаноўскай.

### Калыханкі

**153. Люлі, люлі, люлі, прыляцелі куры.** З-над Дзвіны, 1846, п. 76, с. 45 (кн. 3, п. 29). Над калыскаю.

**154. Люлі, люлі, люлі, прыляцелі куры.** Рук., ч. 2, п. 27 (1—31).

**155. Люлі, люлі, малое.** Рук., ч. 2, п. 25 (1—31).

**156. Пашоў каток у лясок.** З-над Дзвіны. 1846, п. 77 (кн. 3, п. 30). Над калыскаю.

**157. Люлі, люлі, дзіця, спаць.** Рук., ч. 2, п. 29 (1—31).

**158. На ката варката.** Рук., ч. 2, п. 26 (1—31).

**159. Ага! Ага! А люлі!** Рук., ч. 2, п. 31 (1—31).

**160. Ага, ага, люлькі!** З-над Дзвіны. 1846, п. 78, с. 46 (кн. 3, п. 32). Над калыскаю.

**161. Святы Антоній, гадуй.** Рук., ч. 2, п. 30 (1—31).

### Пазаабрадавыя

**162. Як паехаў паповіч у поле.** Рук., ч. 2, п. 1 (1—31). Зап. у Лепелі ад Казіміра С.

**163. Ляцеў воран па-над морам.** З-над Нёмана. 1846, п. 33, с. 18—19 (кн. 1, п. 6).

**164. А на моры, на моры, на цёмненькім азёры.** Рук., ч. 2, п. 2 (1—5).

**165. А на тым на тыночку.** Рук., ч. 2, п. 24 (1—66).

**166. Туман, туман, туман на даліне.** З-над Дзвіны. 1846, п. 92, с. 56. Рук. вар., п. 3, калекцыя: 1—4 адрозніваюцца некаторымі рытмамеладычнымі асаблівасцямі, больш выразнай інтанацыяй (гл. п. 166а).

**167. Дзяўчыначка ваду бярэ.** Рук., ч. 2, п. 6 (1—26).

**168. Дзяўчыначка, прапаў я з табою.** Рук., ч. 2, п. 15 (1—26).

**169. Стаяла бярозачка на заходзе сонца.** Рук., ч. 2, п. 7 (1—26).

**170. Па полю, полю шырокім.** Рук., ч. 2, п. 17 (1—31).

**171. Я не здумаю, не згадаю.** Рук., ч. 2, п. 20 (1—26).

**172. Баліць мая галованька і брыўца.** Рук., ч. 2, п. 9 (1—22).

**173. А дубе, мой дубе, чаго пахіліўся?** Рук., ч. 2, п. 20 (1—31).

**174. А ў гародзе да на пагодзе.** Рук., ч. 2, п. 12 (1—22).

**175. Пахіліўся зялёненькі дуб.** Рук., ч. 2, п. 27 (1—66).

**176. Пайду я гуляючы.** Рук., ч. 2, п. 22 (1—22).

**177. Учора ў піру была.** Рук., ч. 2, п. 11 (1—22).

**178. Ой, у полі да ў чысценьком.** З-над Нёмана. 1837 (кн. 1, п. 19).

**179. Баліць мая галовачка, а вой, не магу!** Рук., ч. 2, п. 9 (1—22).

**180. Як пайду я ціхонька, ціхонька.** Рук., ч. 2, п. 10 (1—66).

**181. У лузе салавей калінку клюець.** Рук., ч. 2, п. 24 (1—26).

**182. Каліна-маліна, не стой над ракою.** Рук., ч. 2, п. 13 (1—66).

**183. Каліна-маліна рана зацвіцела.** Рук., ч. 2, п. 19 (1—26).

**184. Пайду я к роду з нялюбым другам.** Рук., ч. 2, п. 25 (1—26).

**185. Сонца за лес апускаецца.** Рук., ч. 2, п. 14 (1—31).

**186. Ах ты, салавейка, ах ты, шчабятунчык.** Рук., ч. 2, п. 15 (1—31).

**187. Павей, павей, вецярок.** Рук., ч. 2, п. 11 (1—31).

**188. Старана мая, старонаачка.** Рук., ч. 2, п. 2 (1—31).

**189. А ў нядзелю рана на зору займала.** Рук., ч. 2, п. 12 (1—26).

**190. Ах ты, стары, ты старусенькі.** Рук., ч. 2, п. 14 (1—26).

**191. А Божа мой мілюсенькі, што я учыніла.** Рук., ч. 2, п. 11 (1—26).

**192. Ах, у лузе калінушка.** З-над Дзвіны. 1846, п. 99, с. 61—62 (кн. 2, п. 113).

**193. А ўжо вечар вечарэе.** Рук., ч. 2, п. 7 (1—66).

**194. Нікому так не тошненька, як мне, маладзе.** З-над Дзвіны. 1846, п. 95, с. 58.

**195. Аддаў мяне татка.** З-над Нёмана і Дзвіны. 1839, п. 89, кн. 2.

**196. У лузе салавей калінку клюець.** Рук., ч. 2, п. 24 (1—26).

**197. Чырвоная каліначка.** Рук., ч. 2, п. 8 (1—31).

**198. Ой, нашто ж мне свайго мілага гудзіць.** З-над Дзвіны. 1846, п. 34, с. 19 (кн. 1, п. 9).

**199. Дзе я радзілася, там не была.** Рук., ч. 2, п. 8 (1—22).

**200. Пахіліцеся, лозы, ад дуба да бярозы.** З-над Дзвіны. 1846, п. 50, с. 32.

**201. Каюся млода, а не памалу.** З-над Дзвіны. 1846, п. 94, с. 57—58 (кн. 2, п. 100).

**202. А жужнела пчолачка.** Рук., ч. 2, п. 8 (1—66).

**203. Ах вы, столікі мае цісовенькія.** З-над Дзвіны. 1846, п. 74, с. 44 (кн. 2, п. 76).

**204. Да пайду я каля гаю, выжану сакала з гаю.** З-над Нёмана. 1846, п. 99, с. 31—32.

**205. Не дарага піва п'янае.** З-над Дзвіны. 1846, п. 83, с. 48.

**206. Піў бы я мёд і віно.** Рук., ч. 2, п. 5 (1—26).

**207. Ах ты ж, мая гарэлачка.** Рук., ч. 2, п. 13 (1—26).

**208. А чы поўна арэхава чаша?** Рук., ч. 2, п. 13 (1—66).

**209. Госцікі мае любыя.** Рук., ч. 2, п. 41 (1—66).

**210. Шэры гусі ляцелі.** Рук., ч. 2, п. 6 (1—31).

**211. Сівы галубочку, сядзі на дубочку.** З-над Нёмана. 1846, п. 41, с. 24 (кн. 3, п. 6).

**212. Сіні салавейка, чом ты не спяваеш?** З-над Нёмана. 1846, п. 40, с. 24 (кн. 1, п. 94).

**213. Чуць, мамачка, чуць.** Рук., ч. 2, п. 1, л. 88.

**214. Наварылі два брацiткі пшанічнага піва.** Рук., ч. 2, п. 26 (1—66).

**215. Прыехалі два брацеткі к сястрыцы у госці.** Рук., ч. 2, п. 17 (1—22).

**216. Шчыглік невялікі грамаду збірае.** З-над Нёмана. 1846, п. 48, с. 30 (кн. 3, п. 3).

**217. Жана мужа біла, біла.** Рук., ч. 2, п. 20 (1—26).

**218. Біла жонка мужыка, рукі закасаўшы.** Рук., ч. 2, п. 21 (1—26).

**219. На ціхум Дунаю жаўнер коніка сядлае.** З-над Нёмана. 1844, п. 52 (кн. 1, п. 32).

**220. Служыў Ясь ваяводзе.** З-над Нёмана. 1844, п. 35, с. 20 (кн. 1, п. 15).

**221. Зажурыўся ясны сакалочак.** З-над Нёмана. 1846, п. 46, с. 29—30 (кн. 3, п. 8).

**222. Зашумела яліначка позна а паўночы.** З-над Дзвіны. 1846, п. 97, с. 60 (кн. 3, п. 38).

**223. Бедна мая галованька.** З-над Нёмана. 1846, п. 45, с. 28 (кн. 4, п. 41).

**224. Жана па новых сенях ходзіць.** З-над Дзвіны. 1846, п. 48, с. 60 (кн. 2, п. 8).

**225. Каму ночка вяліка.** З-над Нёмана і Дзвіны. 1839, кн. 2, п. 82.

**226. З-пад лесу, з-пад цёмнага.** З-над Нёмана. 1846, п. 37, с. 22 (кн. 1, п. 47).

**227. Ой, у полі пад вішанькаю.** З-над Нёмана. 1846, п. 42, с. 25 (кн. 4, п. 22).

**228. У чыстым полі пад белай бярозкаю.** З-над Дзвіны. 1846, п. 96, с. 59 (кн. 2, п. 75).

**229. Устану я, устану я раненька.** З-над Дзвіны. Рук., ч. 2, п. 1 (1—5).

**230. Развявайся, сыры дубе.** З-над Нёмана. 1846, п. 36, с. 21 (кн. 1, п. 23).

**231. Кукавала зязюля, з бору летучы.** Рук., ч. 2, п. 17 (1—26).

**232. У суботу на рынку.** Рук., ч. 2, п. 9 (1—31).

**233. А паехаў сын Даніла на вайну ваяваць.** З-над Дзвіны. 1846, п. 85, с. 49—50 (кн. 2, п. 74, падобная).

**234. Да што ў полі за дымы дымяць.** З-над Дзвіны. 1846, п. 89, с. 53 (кн. 2, п. 80).

**235. Да дымна ў полі, дымна.** З-над Дзвіны. 1846, п. 90, с. 54.

**236. Ой, чаму ж то пан Хаміцкі той час не жаніўся?** З-над Нёмана, 1846, п. 43, с. 25 (кн. 4, п. 25).

**237. Рыцар каня паіў.** Рук., ч. 2, п. 18 (1—26).

**238. А пры дарозе да й пры шырокай.** Рук., ч. 2, п. 1 (1—26).

**239. А пахадзіў бел малойчык.** Рук., ч. 2, п. 2 (1—3).

**240. Ды жана мужа да й пакарала.** Рук., ч. 2, п. 2 (1—26).

**241. Паехаў Ясенька на вайну.** З-над Нёмана. 1846, п. 44, с. 26 (кн. 4, п. 20).

**242. Ох ты, дзеўка, дзеўка красная.** Рук., ч. 2, п. 10 (1—26).

**243. Паехаў сынок аж на Украіну.** З-над Нёмана. 1846, п. 93, с. 57 (кн. 3, п. 64).

**244. Зацвіла ў гародзе макаўка.** З-над Дзвіны. 1846, п. 88, с. 52—53 (кн. 2, п. 118).

**245. А жыла-была жыдоўка, ўдоўка.** З-над Дзвіны. 1846, п. 86, с. 51.

**246. А ў нядзельку парана.** Рук., ч. 2, п. 12 (1—26).

**247. Блудзіў бел малойчык.** Рук., ч. 2, п. 16 (1—31).

**248. Ой, пад гаем зеляненькім.** З-над Нёмана. 1846, п. 31, с. 17—18 (кн. 1, п. 3).

**249. Ах ты, мурава зялёная.** Рук., ч. 2, п. 15 (1—31).

**250. У там (той вёсцы) вецер вее.** З-над Нёмана. 1846, п. 47, с. 30.

**251. Наляцелі журавы.** Рук., ч. 2, п. 9 (1—31).

**252. Ой за лесам, лесам, за белай бярозай.** З-над Дзвіны. 1846, п. 39, с. 23 (кн. 1, п. 92).

**253. У нядзельку парана.** Рук., ч. 2, п. 12 (1—26).

**254. Да паедзеш, панічыку, жаніцця.** З-над Нёмана. 1846, п. 32, с. 18 (кн. 1, п. 5).

**255. Не сячы, а мой татанька, ля дарожкі бярозкі.** З-над Дзвіны. 1844, п. 57 (кн. 2, п. 43).

**256. А я ў маткі да каханка была.** Рук., ч. 2, п. 59. Зап. каля Лепеля.

**257. Сею, сею рэдзьку.** Рук., ч. 2.

**258. Чые пчолы на дуброве.** Рук., ч. 2, п. 23 (1—31).

**259. Ой, не шуміце, лугі.** З-над Нёмана. 1837, кн. 1, п. 99.

### Крывіцкія прыказкі і прымаўкі

Ян Чачот. 1846, с. 106—116.

### Загадкі

Ян Чачот. 1836—1839 гг. Рук., ч. 2.

## З ФАЛЬКЛОРНА-ЭТНАГРАФІЧНЫХ ЗБОРАЎ БРАТОЎ ТЫШКЕВІЧАЎ

*Я. Тышкевіч*

### Вясельныя абрады вясковага люду ў Мінскай губерні, Барысаўскім павеце, Гаенскай парафіі, назіраныя ў 1800, 1801 і 1802 гадах, з некаторымі песнямі і нотамі

Упершыню надрукаваны ў 1819 г. у польскім часопісе “Tygodnik Wileński”, т. 7, № 130, с. 1—17; № 132, с. 81—84; потым у 1847 г. у

кнізе Я. Тышкевіча “Opisanie powiatu Borysowskiego”, с. 346—368, а ў 1890 г. у “Материалах...” П. В. Шэйна і ў 1978 г. у кнізе “Вяселле: Абрад” (БНТ). Я. Тышкевіч лічыў, што апісанне было зроблена Ігнатам Шыдлоўскім. Пазней высветлілася, што Ігнату Шыдлоўскаму ў 1819 г. было ўсяго 7—8 год. К. А. Цвірка ў каментарыях да тома БНТ “Вяселле: Абрад”, спасылаючыся на польскіх даследчыкаў, выказвае меркаванне, што аўтарам апісання быў З. Я. Даленга-Хадакоўскі.

*Сам сём* — аўтар апісання ў перакладзе песні на польскую мову перадае гэты выраз як “сёмы па ліку” (у дружыне).

*Брое* — гарцуе.

*Сам дзесят* — гэты выраз аўтар вызначае: “у вялікай грамадзе”.

## Абрады вясковага люду з-над Бярэзіны

Зап. Э. М. (карэспандэнт Я. Тышкевіча) у 1846 г. у вёсках Пабярэжжа і Скуплін Барысаўскага п. Надрукавана ў кнізе Я. Тышкевіча “Opisanie powiatu Borysowskiego”, с. 288—346. У перакладзе на рускую мову апублікаваў П. В. Шэйн (“Материалы...” СПб., 1890. Т. 1, ч. 2. С. 68—126). Змясціў таксама О. Кольберг (Dzieła Wszystkie, т. 52: Białoruś — Polesie. Wrocław — Poznań, 1968, с. 218—271).

Пераклад з польск. В. І. Скідана і К. А. Цвіркі.

*Угрунь* — бягом.

*Барылка* — пераносная бочачка для пітва.

*Статэчны* (польск.) — паважаны, сталы.

*Акавітачка, акавітка* — гарэлка, настоеная на карэннях траў.

*Фаска* — маленькая бочачка для масла.

*Аруд* — засек.

*Верапай* — як і Рай, язычаскае боства, значэнне якога да канца не высветлена.

*Ухналі* — спецыяльныя цвікі, якімі прыбіваюць коням падковы.

*Падаскі* — сталёвыя палоскі, якія прыбіваюць пад вось у калёсах.

*Шэлег* — даўняя дробная манета.

*Коркамі* — абцасамі.

*Верая* — шула ў гаспадарчых будынках.
*Цырачка* — тут: сяброўка сокала, самка.
*Каршочак* — кулачок.
*Палавіца* — палова, мякіна.

## Прыказкі жыхароў з ваколіц Бярэзіны...

Друкуюцца па кн. Я. Тышкевіча "Opisanie powiatu Borysowskiego", с. 411—438.

*К. Тышкевіч*

## Прыпеўкі

Друкуюцца па кн. К. Тышкевіча "Wilija i jej brzegi", с. 323—325, № 1—32 (Барысаўскі п.).

## Песні

Друкуюцца па кн. К. Тышкевіча "Wilija i jej brzegi", с. 326—357.

### Чумацкія

**1. Ах, я чумак незласлівы,** с. 326.
**2. Паехаў чумак у дарогу,** с. 326—327.

### Запусныя

**3. Юр'ева маць па жыце хадзіла,** с. 327.
**4. Чык, чык, салавейка, вы, пташкі, маўчыце.** Для маладых асоб абодвуга полу, с. 327.
**5. Да ўзвіўся гарошак да ў тры радочкі,** с. 327. Для хлопцаў.
**6. Трава-мурава весь луг палягла,** с. 327. Для дзяўчат.
**7. Крыкнуў лебедзь на моры,** с. 327—328. Для кабет.

### Велікодныя

**8. А ў гародчыку на трасоччыку,** с. 328.
**9. А на сенажаці, да на паплаве,** с. 328.
**10. А на віру, на вірочку,** с. 328.
**11. Ішлі, пайшлі валачобнічкі,** с. 328. Для гаспадара.
**12. Паехаў пан жыта глядзець,** с. 329.

**13. А ў нашага пана на падвор'і,** с. 329. Для гаспадыні.

**14. У нашага пана да на падвор'і,** с. 329. Для сыноў гаспадара.

**Пятроўскія**

**15. Пятрова ночка невялічка,** с. 330. Для дзяўчат.

**16. Чаму, салавейка, ў садзе не лятаеш,** с. 330. Для хлопцаў.

**17. Ой, з'езджу я, з'езджу каня варанога,** с. 330.

***Сялянскія народныя песні,***
***запісаныя ў в. Шведы Вілейскага п.***

**Вясельныя**

**18. На дубу зязюлька, на дубу,** с. 331. Адпраўляючыся да шлюбу.

**19. Ехала Агатка із вянца,** с. 331. Вяртаючыся ад шлюбу.

**20. Да свацюхна-галубіца, прашу ця,** с. 331. Вярнуўшыся ад шлюбу.

**21. Узялі ў маткі дачку людзі,** с. 331. Забіраючы маладую пасля шлюбу; ад'язджаючы.

**22. Сядай, дзяўчына, сядай, кахана,** с. 331. Песня засцянковай шляхты, пры тых жа абставінах.

**Купальскія**

**23. Ой, бела, бела бяроза,** с. 332.

**24. Да ільміна зялёная,** с. 332.

**25. Да месяцу, месяцу,** с. 332.

**26. У караля сярод двара,** с. 332—333.

**27. Я малады зажурыўся,** с. 333.

**28. Пятрова ночка невялічка,** с. 333.

**29. Гэта плытоўнічкі з вадою,** с. 333.

***Сялянскія народныя песні,***
***запісаныя ў в. Данюшава***
***Свянцянскага п.***

**Вясельныя**

**30. Едзь, едзь, Янучок, не пазніся,** с. 333.

**31. Ты рыбачку, краснапёрачку,** с. 333. Перад шлюбам.

### Хрэсьбінная



### Купальская



### Розныя

*Сялянскія народныя песні,*
*запісаныя ў в. Быстрыцы Віленскага п.*

**Вясельныя**

**61. Зборная суботка настала,** с. 339.
**62. Кукавала зязюлька на дубе,** с. 339. Дзявочы вечар.
**63. Прыбірайся, Явулька, прыбірайся,** с. 339.
**64. Брат сястру вядзець,** с. 339.
**65. Зялёненька рута пры плату стаяла,** с. 339.
**66. Ой, хвала ж табе, Божа,** с. 339—340. Едучы ад шлюбу.
**67. Сцялю кунтуш і жупан,** с. 340. Пасля шлюбу.

**Жніўныя**

**68. Ой, у Вільні, Вільні,** с. 340.
**69. Ой, ці выйшла цёмная туча?** с. 340.

**Купальскія**

**70. У нас Купалле,** с. 341.
**71. Плыне чаўночак па быстрай вадзе,** с. 341.

*Сялянскія народныя песні,*
*запісаныя ў Нямянчынскай парафіі Віленскага п.*

**Вясельныя**

**72. Ой, у садзе, у садзе на ніве,** с. 341.
**73. Кукавала зязюлька за окнем,** с. 342.
**74. Да і вялікі двор на такі прыбор,** с. 342.

**Розныя**

**75. Плыне чаўночак па быстрай вадзе,** с. 342.
**76. На уліцы да й мяцёлка мяцець,** с. 343.
**77. Упілася, ледво стое,** с. 343.
**78. З-пад гаю, з-пад цёмнага,** с. 343.
**79. Ой, там на лонцэ,** с. 343.
**80. Піўшы водку, пойдзем спаць,** с. 344.
**81. На лонцэ жоўты квеце,** с. 344.
**82. Я выпіла, перакуліла,** с. 344.

***Сялянскія народныя песні,***
***запісаныя ў Троцкім п.***

**Вясельныя**



***Народная песня***
***з ваколіц Дукштаў***

# ЗМЕСТ

